# ФРЫДРЫХ НІЦШЭ

# ТАК СКАЗАЎ ЗАРАТУСТРА

•

## КНІГА ЎСІМ І НІКОМУ

Мінск
«Мастацкая літаратура»
1994



# ЗАРАТУСТРАВА ПРАДМОВА

## 1

Калі Заратустру споўнілася трыццаць гадоў, пакінуў ён радзіму і роднае возера і падаўся ў горы. Там ён шчасціўся з духу свайго і адлюдненасці і не стамляўся ад гэтага цэлых дзесяць гадоў. Але нарэшце перамянілася ягонае сэрца, — і аднаго разу раніцай, прачнуўшыся на золку, ён устаў перад сонцам і так сказаў да яго:

«О вялікае свяціла! У чым было б тваё шчасце, калі б не было ў цябе тых, каму ты свеціш?

Дзесяць гадоў ты ўзыходзіла над маёй пячорай: ты стамілася б ад свайго святла і руху, каб не я, каб не мой арол і не мая змяя.

Але кожнае раніцы мы чакалі цябе, прымалі шчодрасць тваю і мілаславілі цябе за гэта.

Глянь! Я ўжо стомлены сваёю мудрасцю, як пчала занадта вялікім узяткам; і вось — мне патрэбныя рукі, каб разамкнуліся да мяне.

Я хачу дарыць і надзяляць, пакуль самыя разумныя людзі зноў не нацешацца са сваёй дурасці, а бедныя — з багацця.

Каб так сталася, я мушу сысці ўніз, як ты,

калі кожнага вечара апускаешся ў бездань марскую, несучы сваё святло свету ніжняму, ты, самае багатае свяціла!

Як ты, павінен і я *зайсці* — так гэта называюць людзі, да якіх я хачу спусціцца.

Дык жа ўмілаславі мяне, о спакойнае вока, якое непажадна ўмее глядзець на самае вялікае шчасце!

Умілаславі келіх, які хоча праліцца, каб каштоўная вільгаць струменілася з яго, разносячы паўсюль водбліск тваёй асалоды!

Глянь! Гэты келіх хоча зноў апаражніцца, а Заратустра хоча зноў учалавечыцца».

Так пачаўся Заратустраў заход.

## 2

Заратустра спусціўся з гары, не сустрэўшы нікога на дарозе. А калі ён заглыбіўся ў лес, перад ім нечакана паўстаў старац, які пакінуў свяшчэнны будан, каб пашукаць у лесе карэння. І сказаў старац да Заратустры такія словы:

«Не чужы мне гэты вандроўнік: некалькі гадоў таму назад ён праходзіў тут. Яго імя — Заратустра; але ён перамяніўся.

Тады ты нёс свой попел у горы: няўжо сёння ты хочаш несці агонь у даліны? Няўжо не баішся кары, якая бывае падпальшчыку?

Так, Заратустра, я пазнаю. Чыстыя вочы ў яго, і на вуснах ніякай агіды. Ці не таму ён ідзе, як танцуе?

Заратустра перамяніўся, Заратустра здзяцінеў, Заратустра — той, хто прачнуўся: чаго ж ты хочаш ад тых, якія спяць?

Як у моры, жыў ты ў самотнасці, і мора насіла цябе. Шкада! Табе зноў хочацца выйсці на бераг? Шкада, табе хочацца зноў самому цягаць сваё цела?»

Адказаў Заратустра:

«Я люблю людзей».

«А чаму, — сказаў святы, — пайшоў я ў лес і ў пустэльню? Ці не таму, што занадта любіў людзей?

Цяпер я люблю Бога: людзей я не люблю. Чалавек, я лічу, дужа недасканалая штука. Любоў да людзей забіла б мяне».

Заратустра адказаў: «Што я казаў пра любоў! Я нясу людзям дарунак!»

«Не давай ім нічога, — сказаў святы, — лепей вазьмі ў іх частку і нясі разам з імі — гэтым найлепш ім спасобіш, калі толькі дагодзіш сабе!

І калі хочаш даць ім, дай хіба што міласціну, ды яшчэ зрабі так, каб папрасілі яе!»

«Не, — адказаў Заратустра, — я не падаю. Не такі я бедны, каб даваць».

Святы пасмяяўся з Заратустры і сказаў: «Дык парупся, каб яны прынялі твае скарбы! Не давяраюць яны адлюднікам і не вераць, што мы прыходзім да іх дарыць.

Нашыя крокі гучаць ім на вуліцах надта самотна. І калі ўначы, лежачы ў ложках, задоўга да золку пачуюць яны, што ідзе чалавек, дык, мусіць, пытаюцца самыя ў сябе: «Куды гэтаму злодзею закарцела?»

Дык не ідзі да людзей, заставайся ў лесе! Лепш ідзі да звяроў! Чаму ты, як я, не хочаш быць мядзведзем сярод мядзведзяў, птушкай сярод птушак?»

«А што рабіць святому ў лесе?» — спытаўся Заратустра.

Святы адказаў: «Я складаю песні і спяваю іх; калі складаю — смяюся, плачу і спяваю: так я слаўлю Бога.

Спевамі, плачам і смехам я слаўлю Бога, майго Бога. А які ты нясеш дарунак?»

Пачуўшы гэтыя словы, Заратустра пакланіўся святому і сказаў: «Што я мог бы вам даць! Лепей дазвольце мне хутчэй сысці адгэтуль, каб я нічога не ўзяў у вас!» І так яны развіталіся, старац і мужчына, уподсмех, як дзеці малыя.

А калі Заратустра застаўся адзін, ён сказаў свайму сэрцу: «Ці магчыма такое? Гэты святы старац у лесе яшчэ не чуў, што *Бог памёр!*»

## 3

Калі Заратустра прыйшоў у бліжэйшы горад за лесам, ён убачыў натоўп, людовішча на рыначным пляцы, бо было абяцана — пабачыце танцора на вяроўцы. І Заратустра сказаў люду такія словы:

*«Я дам вам навуку пра Звышчалавека.* Чалавек — гэта нешта, што трэба адолець. Што зрабілі вы, каб адолець яго?

Да сённяга ўсе істоты стваралі нешта вышэйшае за саміх сябе; а вы хочаце зрабіцца адлівам гэтай вялікай хвалі і лепш вярнуцца да звяроў, чым адолець чалавека?

Што такое ў чалавеку малпа? Пасмешышча альбо пакутлівы сорам. І тое самае павінен быць чалавек у Звышчалавеку — пасмешышча альбо пакутлівы сорам.

Вы прайшлі шлях ад чарвяка да чалавека, але шмат чаго ў вас яшчэ — ад чарвяка. Калісьці вы былі малпы, і нават цяпер у чалавеку больш малпы, больш чым нават у каторай малпы.

Нават самы мудры спаміж вас — гэта нейкая

двухсэнсіца і двухполасць, нешта паміж раслінаю і прывідам. Але ж хіба я загадваю вам стаць прывідам альбо раслінаю?

Бачыце, я вучу вас пра Звышчалавека!

Звышчалавек — гэта сэнс зямлі. Няхай жа і воля вашая скажа: хай Звышчалавек *будзе* сэнсам зямлі!

Заклінаю вас, братове мае, *заставайцеся верныя зямлі* і не верце таму, хто скажа вам пра надзямныя надзеі! Яны — атрутнікі; няважна, ці ведаюць яны самі пра гэта.

Яны пагарджаюць жыццём; гэта тыя, што мруць і трацяць самыя сябе, ад якіх стамілася зямля: хай яны прападуць!

Раней самае вялікае блюзнерства было — зневажанне Бога, але Бог памёр, і блюзнерствы памерлі з ім разам. А сёння самае жудаснае злачынства — зневажаць зямлю і ўшаноўваць неспасцігальнае вышэй за сэнс зямлі!

Калісьці душа з пагардай глядзела на цела; і тады чымсьці найвышэйшым лічылася гэтая пагарда. Душа прагнула бачыць зблажэлае цела, агіднае і галоднае, — так спадзявалася яна выбавіцца ад яго і ад зямлі.

О, тая душа сама была худая, агідная і галодная: жорсткасць была ў самай высокай асалодзе гэтай душы.

Але скажыце мне, братове мае, што кажа ваша цела пра вашу душу? Ці не ёсць душа ваша ўбоства, і бруд, і жалю вартая задаволенасць?

Сапраўды, чалавек — гэта брудны паток. Трэба быць морам, каб увабраць брудны паток у сябе і не занячысціцца.

Бачыце — я вучу вас пра Звышчалавека: ён — гэта мора, дзе можа захлынуцца ўся ваша вялікая пагардзь.

2. Зак. 530.

Што ёсць самае высокае, якое вы можаце перажыць? Гэта — часіна вялікай пагарды: часіна, калі вашае шчасце робіцца вам такой самай гідотай, як ваш розум і цнота.

Часіна, калі вы кажаце: «Што ёсць маё шчасце? Яно — убоства, і бруд, і жалю вартая самазадаволенасць. А маё шчасце павінна быць такое, каб апраўдвала і самое жыццё!»

Часіна, калі вы кажаце: «Што ёсць мой розум? Ці дамагаецца ён ведаў, як леў сваёй ежы? Мой розум — убоства, і бруд, і жалю вартая самазадаволенасць!»

Часіна, калі вы кажаце: «Што ёсць мая цнота? Яна яшчэ не змусіла мяне шалець. Як я стаміўся ад свайго зла і дабра! Усё гэта — убоства, і бруд, і жалю вартая самазадаволенасць!»

Часіна, калі вы кажаце: «Што ёсць справядлівасць мая? Не бачу, каб быў я жар і вуголле. А справядлівы — жар і вуголле!»

Часіна, калі вы кажаце: «Што ёсць міласэрнасць мая? Хіба міласэрнасць не крыж, да якога прыбіваюць таго, хто любіць людзей? Але мая міласэрнасць — не ў крыжаванні!»

Ці ж не вы казалі так? Ці ж не вы крычалі так? О, калі б я чуў, як крычалі вы так!

Не вашы грахі — ваша задаволенасць енчыць да неба, ваша скнарнасць у грэху вашым енчыць да неба!

Дзе ж тая маланка, каб лізнула вас сваім языком? Дзе той шал, якім вы прышчэплены мусіце быць?

Бачыце, я вучу вас пра Звышчалавека: ён — тая маланка, ён — гэты шал!»

Калі Заратустра сказаў сваю казань, нехта крыкнуў з натоўпу: «Досыць мы ўжо наслухаліся пра танцора на вяроўцы; дай нам пабачыць яго!»

І вось людства смяялася з Заратустры. А скакун на вяроўцы, думаючы, што запрашаюць яго, пачаў свае штукі.

## 4

Заратустра глядзеў на людзей і дзіву даваўся. Пасля ён сказаў так:

«Чалавек — гэта вяроўка, напятая паміж жывёламі і Звышчалавекам, вяроўка над прорваю.

Небяспечна ісці, небяспечна станавіцца на пераходзе, небяспечна азірацца, небяспечна баяцца і спыняцца.

Велічнае ў чалавеку тое, што ён мост, а не мэта: што вартае ў чалавеку любові, дык гэта тое, што ён — *пераход і захад.*

Я люблю таго, хто не ўмее жыць інакш, як у імя свайго захаду, бо ён на пераходзе.

Я люблю таго, хто мае ў сабе вялікую пагарду, бо ён — вялікі шанавальнік і страла палымянасці, што тужыць па тым беразе.

Я люблю не таго, хто шукае за зоркамі прычыны загінуць і стаць ахвярай, а таго, хто ахвяруе сабою зямлі, каб калі-небудзь яна зноў зрабілася зямлёй Звышчалавека.

Я люблю таго, хто спазнае і спазнаваць хоча, каб калі-небудзь жыў Звышчалавек. Бо такога ён хоча захаду сабе.

Я люблю таго, хто працуе і вынаходзіць, каб пабудаваць жытло Звышчалавеку і падрыхтаваць яму зямлю, жывёл і расліны: бо такога ён хоча захаду сабе.

Я люблю таго, хто любіць цноту сваю: бо цнота — гэта воля да захаду і страла палымянасці.

Я люблю таго, хто не пакідае сабе аніводнай

кроплі духу, а прагне быць цалкам духам сваёй цноты: так, нібы дух, праходзіць ён па мосце.

Я люблю таго, хто з цноты сваёй робіць вабу і лёс: толькі дзеля сваёй цноты ён яшчэ хоча жыць і болей не жыць.

Я люблю таго, хто не хоча мець лішне шмат цнотаў. Адна цнота — больш за дзве, бо яна той вузел, на якім трымаецца лёс.

Я люблю таго, чыя душа раскідае сябе, хто не хоча падзякі і сам не дзякуе: бо ён заўсёды дорыць і не хоча ацаліць сябе.

Я люблю таго, хто саромеецца, калі шчасціць яму ў гульні, і хто пытаецца ў сябе: няўжо я няшчасны гулец? — бо ён прагне страціць усё.

Я люблю таго, хто кідае залатыя словы наперадзе ўчынкаў сваіх і заўсёды робіць больш, чым абяцае: бо ён хоча захаду сабе.

Я люблю таго, хто апраўдвае будучыя пакаленні, а мінулым дае збавенне, бо ён хоча пагібелі ад сённяшніх.

Я люблю таго, хто карае Бога свайго, бо ён свайго Бога любіць: бо ён мае загінуць ад гневу Бога свайго.

Я люблю таго, чыя душа глыбокая нават у сваіх пошасцях; хто можа загінуць ад малога выпрабавання: самохаць ідзе ён па мосце.

Я люблю таго, чыя душа перапоўнена так, што ён забывае сябе і ўбірае ў сябе ўсе рэчы: так усе рэчы нясуць яму захад.

Я люблю таго, хто свабодны духам і свабодны сэрцам; таго, чыя галава — толькі часцінка ягонага сэрца, — а сэрца вядзе яго да захаду.

Я люблю ўсіх, падобных да цяжкіх кропляў, што падаюць адна за адной з чорнай хмары, якая

навісла над чалавецтвам: яны запабягаюць блізкасць бліску маланкі і гінуць, як вешчуны.

Бачыце, я — вяшчун маланкі, я — цяжкая кропля з хмары; а завуць тую маланку — Звышчалавек...»

5

Сказаўшы гэтыя словы, Заратустра зноў паглядзеў на натоўп і змоўк. «Вось стаяць яны і смяюцца, — казаў ён свайму сэрцу, — не разумеюць мяне: не на іхнія вушы казань мая.

Няўжо спачатку трэба ім аглушыць вушы, каб яны навучыліся слухаць вачыма? Няўжо трэба грымець, як літаўры, і трашчаць, як прапаведнікі каяння? Ці, можа, яны вераць толькі заікам?

У іх ёсць нешта, чым яны ганарацца. Як жа яны называюць тое, чым ганарацца? Называюць «адукацыяй», яна нібыта адрознівае іх ад пастухоў.

Таму яны і не любяць прымаць на сябе слова «пагарда». Што ж, я звярнуся да іх гонару.

Я хачу сказаць ім пра самае пагарднае, а яно — гэта *апошні чалавек*».

І гаварыў Заратустра да людзей такімі словамі:

«Наспела чалавеку паставіць перад сабою мэту. Трэба пасадзіць расадзіну сваёй найвышэйшай надзеі.

Пакуль яшчэ шчодра родзіць ягоная глеба. Але прыйдзе час, і зубожыцца яна і знясіліцца, і выноснае дрэва больш не вырасце на ёй.

Гора! Блізіцца час, калі чалавек ужо не пусціць над людзьмі стралы сваёй палкасці, і цеціва ягонага лука адвыкне трымцець!

Я кажу вам: трэба мець у сабе хаос, каб змагчы нарадзіць зорку, якая б танцавала. Я кажу вам: у вас пакуль што ёсць хаос.

Гора! Блізіцца час, калі чалавек не здолее больш нарадзіць ніводнае зоркі. Гора! Блізіцца час самага пагарджанага чалавека, які не здолее пагарджаць самім сабою.

Дзівіцеся! Я пакажу вам *апошняга чалавека.*

«Што такое любоў? Што такое стварэнне? Што такое палкасць? Што такое зорка?» — так пытаецца апошні чалавек, маргаючы.

Зямля змалела, і на ёй корпаецца апошні чалавек, які нікчэмніць усё на сваё падабенства. Ягоны род нязводны, як земляныя блохі: апошні чалавек жыве даўжэй за ўсіх.

«Мы прыдумалі шчасце», — кажуць апошнія людзі, маргаючы.

Яны пакінулі мясціны, дзе было сцюдзёна, бо ім патрэбна цяпло. Яны яшчэ любяць блізкага і горнуцца да яго; бо ім патрэбна цяпло.

Хваробы і недаверства лічацца ў іх за грэх, бо яны ходзяць абачліва. Толькі дурань можа спатыкацца аб камяні і людзей!

Час ад часу — крыху яду: ён накалыхвае прыемныя сны. І паболей яду напаследак, каб прыемней было сканаць.

Яны яшчэ працуюць, бо праца ў іх — забава. Але клапоцяцца, каб тая забава не лішне стамляла.

Не будзе ўжо ні бедных, ні багатых: і тое, і другое надта дакучае. І хто захоча загадваць? Хто — упакорвацца? І тое, і другое надта дакучае.

Няма пастуха, ёсць толькі статак! Ва ўсіх аднолькавыя жаданні, усе роўныя; той, хто думае інакш, самохаць ідзе ў дом вар'ятаў.

«Раней увесь свет быў вар'яцкі, — кажуць самыя празорлівыя, маргаючы.

Усе яны разумныя, усе яны ведаюць, што было: так што іх кпінам супыну няма. Яны яшчэ сварацца, але хутка заміраюцца — каб не навярэдзіць жывата.

Есць у іх і свае маленькія радасці на кожны дзень і маленькая радасць на кожную ноч; але найбольшы клопат — здароўе.

«Мы прыдумалі шчасце», — кажуць апошнія людзі, маргаючы...

Тут скончылася першая Заратустрава казань, якую называюць таксама «Прадмоваю», бо на гэтым месцы яго перапынілі радасныя крыкі людскога збою: «Дай нам гэтага апошняга чалавека, о Заратустра, — крычаў люд, — зрабі нас апошнімі людзьмі! Наліха нам твой Звышчалавек!» І ўсе радаваліся, цмокалі языкамі. Але засмуціўся Заратустра і сказаў свайму сэрцу:

«Не разумеюць мяне: не на іхнія вушы казань мая.

Задоўжыўся жыць я ў гарах, зачаста ўслухоўваўся ў шум ручаёў і дрэў: і вось прамаўляю да іх, быццам да пастухоў.

Як раніцай горы, няўзрушная і светлая душа мая. А яны думаюць, што я халодны пакепнік і цешуся злоснымі жартамі.

І вось яны дзівяцца на мяне і смяюцца, а смеючыся, яшчэ і ненавідзяць мяне. Лёд у іх смеху».

6

Але тут сталася нешта такое, што знямовіла ўсе вусны і знерухоміла вочы, бо якраз гэтым часам узяўся за штукі скакун на вяроўцы; ён

з'явіўся з-за маленькіх дзвярэй і пайшоў па вяроўцы, нацягнутай паміж дзвюма вежамі над рыначным пляцам, поўным людзей. Ужо ён адолеў свае паўдарогі, калі маленькія дзверы адчыніліся зноў і нейкі стракаты малец, убраны за блазна, выхапіўся з іх і борздзенька пашыбаваў па вяроўцы следам. «Наперад, кульгач, — закрычаў ён страшным голасам, — наперад, гультаёвіны кавалак, махляр, храпа намазаная! А то каб не паказытаў я табе пяты! Што ты тут робіш паміж вежамі? Тваё месца ў вежы, туды цябе трэба запраторыць, каб не заступаў дарогі лепшаму за цябе!» — і штослова набліжаўся да танцора, а як падышоў за крок, сталася нешта жудаснае, што сцяло ўсім вусны і завалакло ўсім вочы: ён крыкнуў, як чорт, і пераскочыў цераз таго, які стаяў у яго на дарозе. А танцор, убачыўшы, што супернік перамагае, страціў раўнавагу, кінуў сваю жардзіну і паляцеў у бездань — віхура мігатлівых рук і ног. Натоўп на пляцы хваляваўся, як мора, калі налятае бура: усіх размяло каго куды; але найбольш аказалася там, куды падала цела.

А Заратустра застаўся, і скакун упаў проста перад ім, увесь знявечаны і разбіты, але яшчэ жывы. Праз нейкі час памяць вярнулася да яго, і ён убачыў Заратустру, які кленчыў побач. «Што ты тут робіш? — спытаўся няшчасны. — Я даўно ведаў, што мне сам чорт падставіць нагу. Цяпер ён пацягне мяне ў пекла: няўжо ты хочаш не даць яму?»

«Прысягаю гонарам, дружа, — адказаў Заратустра, — няма нічога такога, пра што ты кажаш: ні чорта няма, ні пекла. Твая душа памрэ раней за цела: не бойся нічога!»

Разбіты паглядзеў на яго з недаверам. «Калі ты кажаш праўду, дык, пакідаючы жыццё, я

нічога не трачу. Я не больш, чым жывёла, якую пугай і голадам навучылі скакаць».

«О, не — сказаў Заратустра, — з небяспекі ты зрабіў сабе рамяство, а за гэта нельга пагарджаць табою. І вось рамяство тваё навяло цябе на пагібель. За гэта я сам пахаваю цябе».

На гэтыя словы скакун ужо не сказаў нічога; ён толькі варухнуў рукою, як бы шукаючы рукі Заратустры, каб падзякаваць яму.

## 7

Тым часам звечарэла, і рыначны пляц агарнула цемра; ужо разышоўся натоўп, бо нават цікаўнасць і страх стамляюцца. А Заратустра ўсё сядзеў на зямлі каля мёртвага, занураны ў свае думкі, так што забыўся нават пра час. Нарэшце набегла ноч, і халодны вецер пачаў даймаць самотніка. Тады Заратустра ўстаў і сказаў свайму сэрцу:

«Праўда, добрыя ловы былі ў Заратустры сёння! Ніводнага чалавека не ўлавіў ён, вось толькі мёртвага.

Жудаснае жыццё ў чалавека, і, як заўсёды, — без сэнсу: на долю яму выпадае блазенства.

Я хачу вучыць людзей сэнсу жыцця: сэнс ёсць Звышчалавек, маланка з чорнай хмарычалавека.

Але яшчэ я далёкі ад іх, і думка мая іхняга глузду не дастае. У людзей я яшчэ нешта сярэдняе паміж дурнем і трупам.

Цёмная ноч, цёмныя дарогі ў Заратустры. Хадзем, астылы і нерухомы таварышу мой! Я занясу цябе туды, дзе сам і пахаваю».

8

Сказаўшы гэта сэрцу свайму, Заратустра ўзвалок труп на плечы і выправіўся ў дарогу. Але не паспеў ён прайсці і сотні крокаў, як да яго нехта падкраўся і зашаптаў на вуха — вай, гэта быў блазен з вежы. «Ідзі з гэтага горада, о Заратустра, — казаў ён, — надта многія тут зненавідзелі цябе. Ненавідзяць і добрыя, і праведныя ды называюць цябе сваім ворагам і ненавіснікам; ненавідзяць вернікі, кажучы, што небяспечны ты людству. Шчасце тваё, што з цябе пасмяяліся: і сапраўды, гаварыў ты, як блазен. Шчасце тваё, што звязаўся ты з гэтым падлам: прынізіўшыся так, ты ўратаваў сягоння сябе. Але ідзі ўпрочкі з гэтага горада, а то заўтра я пераскочу цераз цябе — жывы цераз мёртвага». І, сказаўшы гэта, знік блазен, а Заратустра пайшоў далей па цёмных вуліцах.

Каля гарадское брамы сустрэліся яму далакопы; яны асвятлілі яму паходняю твар і, пазнаўшы Заратустру, доўга збыткавалі з яго: «Заратустра нясе мёртвага сабаку; брава, ён цяпер далакоп! Бо нашыя рукі занадта чыстыя на такое мяса. Ужо ці не мерыцца Заратустра адабраць кавалак у самога чорта? Ану ж бо! Смачнога абеду! Калі толькі чорт не лепшы злодзей, чым Заратустра, — ён украдзе абодвух і зжарэ!» — І далакопы шапталіся між сабою і рагаталі.

Заратустра адказваў на гэта маўчаннем, ідучы далей. Дзве гадзіны ішоў ён лясамі і балотамі і дзве гадзіны чуў, як вылі галодныя ваўкі; нарэшце голадам змогся і ён. Ён спыніўся каля нейкай адзінокай хаціны, у акне якое гарэла святло.

«Голад спрамог мяне, як разбойнік, — сказаў

сам сабе Заратустра. — У лясах і на балотах нападае на мяне мой голад, сярод цёмнае ночы.

Дзіўны ў голаду нораў. Часта ён прыходзіць да мяне па абедзе, а сёння я цэлы дзень не ведаў яго: дзе ж ён забавіўся гэтак?»

Кажучы так, Заратустра пастукаўся ў дзверы. Адчыніў стары з ліхтаром і спытаўся: «Хто завітаў да мяне і парушыў мой кепскі сон?»

«Жывы і мёртвы, — сказаў Заратустра. — Дай мне паесці і напіцца; я ўдзень забыўся пра гэта. Той, хто корміць галоднага, спатольвае сваю душу: так кажа мудрасць».

Стары пайшоў, але адразу вярнуўся, несучы Заратустру хлеб і віно. «Благія тутэйшыя мясціны галодным, — сказаў ён, — таму і жыву тут. Чалавек і звер ідуць да мяне, да пустэльніка. Але ж гукні і спадарожніка свайго, ён згаладаўся не менш за цябе».

Заратустра сказаў: «Было б цяжка яго ўгаварыць падзяліць са мной ежу, бо мёртвы мой спадарожнік».

«Што мне да таго, — буркнуў стары, — хто стукаецца да мяне ў дом, хай бярэ, што яму падаюць. Ежце і бывайце».

Пасля Заратустра ішоў яшчэ дзве гадзіны, даверыўшыся дарозе і зорнаму небу, бо прывык ён хадзіць поначы і любіў глядзець у твар усім, хто спіць. Але як пайшло на заранак, Заратустра апынуўся ў цёмнай нетры, і не было відаць ніякай дарогі. Тады паклаў ён мёртвага ў дупло дрэва, — каб убараніць яго ад ваўкоў, — а сам лёг на мох пад дрэвам. І адразу заснуў, стомлены целам, але непахісны душою.

## 9

Доўга спаў Заратустра, і не толькі зара, але і полудзень прайшліся па твары ягоным. Але нарэшце расплюшчыліся яго вочы: з подзівам глянуў Заратустра на лес, ахінуты глыбокаю цішынёю, са здзіўленнем зірнуў усярэдзіну сабе самому. Потым хуценька ўстаў, як марак, калі раптам убачыць зямлю, і ўзрадаваўся; бо адкрыў ён новую ісціну. І так сказаў свайму сэрцу:

«Святло сышло на мяне: мне патрэбны паслядоўцы, і жывыя, не мёртвыя паслядоўцы, не трупы, якіх я нясу, куды захачу.

Паслядоўцы жывыя патрэбныя мне; таму і пойдуць яны за мною туды, куды я захачу.

Святло сышло на мяне: не да народу прамаўляе Заратустра, а да паслядоўцаў! Не павінен Заратустра быць пастухом і сабакам статку!

Звесці многіх са статка — вось дзеля чаго я прыйшоў. Гневацца будуць на мяне народ і статак: разбойнікам назавуць пастухі Заратустру.

Я сказаў «пастухі», яны ж завуць сябе добрымі і справядлівымі. Пастухамі назваў іх я, а яны завуць сябе вернікамі правільнай веры.

Зірніце на гэтых добрых і справядлівых! Каго яны болей за ўсё ненавідзяць? Таго, хто разбівае скрыжалі іх каштоўнасцяў, хто разбурае і пераступае, — але ж ён і ёсць стваральнік.

Зірніце на вернікаў! Каго яны болей за ўсё ненавідзяць? Таго, хто разбівае скрыжалі іх каштоўнасцяў, хто разбурае і пераступае, — але ж ён і ёсць стваральнік.

Паслядоўцаў шукае стваральнік, а не трупы, не статкі, не вернікаў. Тых, што будуць ствараць разам з ім, шукае стваральнік: тых,

што напішуць новыя каштоўнасці на новых скрыжалях.

Паслядоўцаў шукае стваральнік і тых, што сажнуць жніва разам з ім, бо ўсё ў іх паспела да жніва. Не хапае толькі сотні сярпоў; таму зрывае ён каласы і прыкра яму.

Паслядоўцаў шукае стваральнік такіх, што ўмеюць вастрыць сярпы. Іх назавуць разбуральнікамі і пагарднікамі дабра і зла. Але яны — жняцы і бяседнікі за святочным сталом.

Тых, хто будзе ствараць разам з ім, хто будзе жаць разам з ім, субяседнікаў шукае Заратустра: што яму трупы і пастухі з іхнім быдлам!

А ты, першы мой паслядоўца, бывай! Добра схаваў я цябе ў дупле, надзейна схаваў ад ваўкоў.

Але расстаюся з табою, бо мой скончыўся час. Паміж дзвюма зорамі адкрылася мне новая ісціна.

Не буду я ні пастухом, ні далакопам. І з народам ужо не гаварыцьму ніколі: апошні раз гаварыў я да мёртвага.

Са стваральнікамі, са жняцамі, з субяседнікамі хачу я з'яднацца: я пакажу ім вясёлку і ўсе ступені Звышчалавека.

Усім самотным сваю песню я буду спяваць: і тым, што самотныя ўдвух; і тым, што яшчэ маюць вушы, каб чуць нечуванае, — ім укладу я ў сэрца цяжар шчасця майго.

Я іду да сваёй мэты, я іду сваёю дарогаю; я пераскочу цераз марудлівых і нядбайных. Хай будзе мой шлях іхнім захадам!»

Так сказаў Заратустра свайму сэрцу, а сонца стаяла ў зеніце; і тут паглядзеў ён угору, бо пачуў над сабою пранозлівы птушыны крык. І што ж! Шырока кружляючы ў небе, лунаў арол і нёс змяю, але не так, як носяць здабычу: змяя абвівалася вакол яго шыі, нібы сяброўка.

«Гэта мае звяры! — сказаў Заратустра, рады ад шчырага сэрца. — Самая гордая жывёліна пад сонцам і самая мудрая жывёліна пад сонцам — выправіліся ў дарогу.

Яны хацелі даведацца, ці жывы яшчэ Заратустра. А праўда, ці жывы яшчэ я?

Мне небяспечней сярод людзей, чым сярод звяроў, небяспечнымі сцежкамі ходзіць Заратустра. Няхай жа вядуць мяне звяры мае!»

Сказаўшы гэта, згадаў ён словы святога старца ў лесе, уздыхнуў і прамовіў сэрцу свайму:

«Я хацеў бы стаць разумнейшым! О, калі б я стаў такі ж мудры, як мая змяя!

Але я немагчымага прагну: прашу гордасць сваю, каб яна заўсёды ішла з маёй мудрасцю разам.

І калі мая мудрасць пакіне мяне — а яна так любіць мяне пакідаць, — хай тады ўжо і гордасць мая заадно з дурнотай адыдзе!»

Так пачаўся захад Заратустры.



# ЗАРАТУСТРАВЫ КАЗАНІ

## Пра тры пераўтварэнні

Я скажу вам пра тры пераўтварэнні духу: як дух зрабіўся вярблюдам, вярблюд — ільвом і, нарэшце, леў — дзіцём.

Шмат цяжкага выпала духу, моцнаму духу, трываламу, здольнаму да шанавання: найцяжэйшага, найневыноснейшага прагне ягоная моц.

«Што ёсць цяжкае? — пытаецца трывалы дух, становіцца, як вярблюд, на калені і хоча, каб яго добра наўючылі.

Героі, што ёсць найцяжэйшае? — пытаецца трывалы дух. — Ці не тое, што я магу ўзняць на сябе і радавацца сваёй сіле?»

Ці не азначае гэта: прынізіцца, каб убольваць сваю пыху? Ці прымусіць заззяць сваю дурасць, каб пасмяяцца з мудрасці?

Альбо гэта азначае: пакінуць сваю справу, калі яна якраз святкуе перамогу? Альбо ўзысці на высокую гару, каб змусіць змусіцеля?

Альбо гэта азначае: карміцца жалудамі і травой пазнання і дзеля праўды трываць душэўны голад?

Альбо гэта азначае: хварэць і адганяць суцеш-

нікаў і запрызніцца з глухімі, якія ніколі не чуюць, чаго ты хочаш?

Альбо гэта азначае: увайсці ў брудную ваду, калі яна ёсць вада праўды, і не аганяцца ад халодных жаб і цёплых жаб?

Альбо гэта азначае: любіць сваіх пагрэбнікаў і падаць руку здані, якая хоча нас запалохаць?

Усё найцяжэйшае бярэ на сябе дух трывалы: падобніцца цяжка наўючанамі вярблюду, які спяшаецца ў пустыню; спяшаецца ў сваю пустыню і ён.

А там, у пустэльнай пустыні, адбываецца другое пераўтварэнне: там дух робіцца ільвом, каб здабыць сабе волю, ён хоча зрабіцца і гаспадаром сваёй пустыні.

Там ён шукае свайго апошняга ўладыку: ён хоча быць яму ворагам, апошняму Госпаду і Богу свайму, да пераможнага канца хоча змагацца з вялікім цмокам.

Хто ж ён, той вялікі цмок, якога дух больш не хоча прызнаваць за Госпада і Бога? Завецца той цмок — «Ты-павінен». Але дух ільва гаворыць «я хачу».

Звер «Ты-павінен» ляжыць на дарозе ў яго, залатою лускою ільсніцца, і на кожнай лусчынцы золатам блішчыць «Ты павінен»!

Бляск тысячагадовых каштоўнасцяў на гэтай лусцэ, і магутны цмок кажа так: «Каштоўнасці ўсіх рэчаў блішчаць на мне сваім бляскам».

«Ужо ўсе каштоўнасці створаны, і ўсе яны — гэта я. Сапраўды, не павінна больш быць «Я хачу!» — так кажа цмок.

Братове мае, навошта патрэбен леў у духу? Ці не даволі толькі ўючнай жывёлы, пакорлівай і пачцівай?

Ствараць новыя каштоўнасці не можа яшчэ і леў; але стварыць свабоду дзеля новай творчасці можа ягоная сіла.

Стварыць сабе свабоду і паставіць свяшчэннае «Не» вышэй за абавязак — вось навошта патрэбен леў, братове мае.

Забраць сабе права ствараць новыя каштоўнасці — вось чаго найболей баіцца трывалы і пачцівы дух. Сапраўды, рабункам, вартым драпежнага звера, здаецца яму ўсё гэта.

«Ты павінен» калісьці было ў яго найвышэйшай святыняй, і ён любіў яе; а цяпер ён мусіць убачыць у ёй памылку і сваволю, каб здабыць сабе свабоду ад сваёй любові, — вось навошта леў патрэбен.

Але скажыце мне, братове мае, што можа дзіця зрабіць такога, што не даецца ільву? Навошта драпежнаму зверу рабіцца яшчэ і дзіцём?

Дзіця — гэта нявіннасць і забыццё, новы пачатак і гульня, кола, якое само па сабе коціцца, першы рух, свяшчэннае «Так».

Бо свяшчэннае «Так» патрэбна ў гульні стварання, братове мае: *сваёй* волі цяпер прагне дух, *свой* свет здабывае страчаны светам.

Я назваў вам тры першыя пераўтварэнні духу: як дух зрабіўся вярблюдам, потым — ільвом, нарэшце — дзіцём.

Так сказаў Заратустра. У той час ён спыніўся ў горадзе, які называўся Пярэстая Карова.

# Пра кафедры цноты

Заратустру нахвальвалі аднаго мудраца, які вельмі добра ўмеў разважаць пра сон і цноты; за гэта яго высока шанавалі і шчодра дарылі, і ўсе вучні багавейна сядзелі перад кафедрай. Падышоў да яго і Заратустра і разам з усімі сеў перад кафедрай. І сказаў мудрэц:

«Гонар і сорам сну! Гэта першае! І цурайцеся тых, хто кепска спіць і чувае ўначы!

Перад аблiччам сну нават злодзей саромеецца: нячутна крадзецца ён у змроку начным. Але няма сораму ў начнога вартаўніка, ён трубіць у дудку і не саромеецца.

Не абы-якая штука — умець спаць: бо на тое трэба чуваць цэлы дзень.

Дзесяць разоў на дзень ты павінен перасільваць сябе: гэтая перасілка дае табе прыемную стому і душы тваёй будзе сонным макам.

Дзесяць разоў на дзень ты павінен зноў заміряцца з сабою, бо перасілка — гэта горыч, і кепска спіць той, хто не замірыўся.

Дзесяць праўд ты павінен знайсці за дзень, інакш шукацьмеш праўду ўначы, і душа твая застанецца галодная.

Дзесяць разоў на дзень смейся і весяліся, каб уначы не мець клопату з жыватом — гэтым бацькам маркоты.

Мала хто ведае гэта: трэба мець усе цноты, каб добра спаць. Хіба ж буду я сведчыць ілжыва? Хіба буду чыніць пералюбы?

Хіба дазволю сабе пажадаць рабыню бліжкага майго? Не, не паспрыяла б такое добраму сну.

І нават калі ў цябе ёсць усе цноты, не забывайся яшчэ аднаго: умей у свой час пасылаць спаць усе свае цноты.

Каб не сварыліся яны, гэтыя ясачкі любыя, тым больш праз цябе, няшчасны!

Будзь з Богам у згодзе і з суседам сваім, гэтага вымагае добры сон. Будзь у згодзе таксама і з суседавым чортам! Інакш ён сярод ночы пачне наведваць цябе.

Шануй начальствы свае і слухайся іх, нават калі яны ходзяць крыва! Гэтага хоча добры сон. Хіба ж бо твая ў тым правіна, калі ўлада кульгае?

Таго пастуха назаву самым лепшым, які пасвіць авечкі на сакавітых пашах: бо так здабывае ён добры сон.

Я не хачу ні вялікае чты, ні багатае вучты: ад гэтага запаляецца ў целе каса. Але добра спіцца, калі ёсць добрае імя і маленькі скарб.

Лепш невялікі гурток, аніж дурны; але ўсе павінны прыходзіць і адыходзіць сваім часам. Гэта спрыяе добраму сну.

Даспадобы мне ўбогія духам: яны спрыяюць добраму сну. Яны шчасныя, тым болей калі прызнаваць за імі заўсёды іх рацыю.

Так праходзіць дзень у дабрачынца. А як ноч настае, баюся я клікаць сон; не хоча ён, каб яго клікалі, уладыку ўсіх цнотаў!

Я толькі думаю, што зрабіў я і што цэлы дзень меціў. Цярпліва, як карова, жую гэта ўсё, пытаючыся ў сябе: якія ж былі тыя дзесяць маіх пераадоленняў?

І тыя дзесяць замірэнняў, і дзесяць праўдаў, і тыя дзесяць разоў, калі я смяяўся, усцешаны сэрцам?

І вось, пакуль я так разважаю і ўзважваю ўсе гэтыя сорак думак, разбірае мяне раптам сон, названы ўладыкам цнотаў.

Ён б'е мяне па павеках — і яны цяжэюць, кранаецца вуснаў — і яны не змыкаюцца.

Сапраўды, нячутным крокам ён ідзе да мяне, самы лагодны злодзей, і крадзе мае думкі, і я застываю на месцы, дурны, як гэтая кафедра.

Але ж нядоўга стаю так, зморны сном, і адразу кладуся...»

Слухаючы мудраца, Заратустра смяяўся сам сабе ў сэрцы, бо нешта яму прасвятлілася. І ён так сказаў свайму сэрцу:

«Дурань гэты мудрэц і яго сарака думкамі, але, мяркую, паспаць ён не дурань.

Шчасны і той, хто жыве з ім побач! Такі сон перадаецца, ён праходзіць нават праз тоўстыя сцены.

Мабыць, сама кафедра ў яго зачараваная. І нездарма сядзяць хлопцы перад прапаведнікам цноты.

Яго мудрасць кажа: чуваць дзеля добрага сну. Сапраўды, калі б нават жыццё не мела ніякага сэнсу і калі б я быў змушаны выбраць бязглуздзіцу, тады і мне яго мудрасць здалася б найбольш вартаю выбару.

Цяпер мне зусім зразумела, да чаго калісь людзі імкнуліся перад усім, шукаючы цнотаў, Добрага сну шукалі яны і ў дадатак — цнотаў, увітых кветкамі соннага маку!

Мудрасць сну без сненя — яе прапаведавалі з кафедры ўсе гэтыя хвалёныя мудрацы, іншага сэнсу жыцця яны не ведалі.

І цяпер яшчэ ёсць прапаведнікі цнотаў, але не заўсёды такія сумленныя; аднак час іхні ўжо праміnуў. І нядоўга яшчэ ім вяшчаць: неўзабаве лягуць і яны.

Шчасныя гэтыя санліўцы, бо неўзабаве паснуць».

Так сказаў Заратустра.

## Пра «тагасветных»

Аднаго разу Заратустра, як усе «тагасветныя», залётаў думкаю па той бок чалавека.

Творам пакутнага і нямоглага Бога здаўся тады мне наш свет.

Ён здаўся мне мрояй і выдумкай Бога; каляровым дымам перад вачмі незадаволенага божышча ўявіўся мне гэты свет.

Дабро і Зло, Радасць і Цярпенне, Я і Ты — усё здавалася мне каляровым дымам перад творчымі вачыма. Творцу рупела адвесці ад сябе свой позірк — і ён стварыў свет.

Адвесці позірк ад цярпенняў сваіх і забыцца — гэта п'янкая радасць пакутнікам. Самазабыццём і п'янкою радасцю здаўся мне гэты свет.

Свет, вечна недасканалы; недасканалы адбітак вечнай супярэчлівасці, п'янкая радасць свайму недасканаламу твору — такім здаўся калісьці мне гэты свет.

Так, нібы той, хто марыць пра іншы свет, нібы «тагасветны», памкнуў я аднаго разу свае мары па той бок чалавека. А ці праўда — па той?

О братове мае, гэты створаны мною Бог быў творам рук чалавечых і неразумствам яго, як і ўсе астатнія божышчы!

Ён быў чалавекам і пры тым толькі малою часткаю чалавека і майго «Я»; а з майго попелу і полымя прыйшоў да мяне гэты прывід. І праўда ж бо, ці не з іншага свету прыйшоў ён!

І што ж, братове мае? Не перасіліў сябе я, пакутніка, я занёс свой попел у горы і набыў сабе самае зыркае полымя. Зірніце! Прывід *адпусціў* мяне!

Пакутаю і цярпеннем было б цяпер мне верыць у такія прывіды: горам і прыніжэннем было б

гэта таму, хто ацаляецца. Таму я цяпер прамаўляю пра тагасветных.

Горам і нямогласцю і кароткім шаленнем шчасця, якое ведае толькі пакутны цярплівец, створаны ўсе тыя светы.

Стомленасць, якая прагне *адным* скачком, смяротным скачком дасягнуць апошняга крэсу, міласэрная стома няведання, што ўжо не хоча болей хацець, — гэта яна стварыла ўсіх багоў і ўсе тыя светы.

Верце мне, братове мае! Цела, якое зняверылася ў целе, пальцамі аслеплага духу абмацвала апошнія сцены.

Верце мне, братове мае! Цела, якое зняверылася ў зямлі, услухоўвалася ў тое, што гаварылі нетры жыцця.

І вось — захацела яно прабіцца праз апошнія сцены, выйсці з апошніх сваіх крэсаў і дастаць таго свету.

Але надзейна схаваны ад чалавека «той свет», гэтае Нешта, нечалавечае, зусім пазбытае ўсіх чалавечых рысаў; і маўчаць нетры жыцця і ніколі не звяртаюцца да чалавека, акрамя як у вобразе Чалавека.

Сапраўды, цяжка даказаць усякае жыццё і цяжка прымусіць яго гаварыць. Але скажыце мне, братове мае, самае дзівоснае з усяго існага — ці ж не даказана яно самым лепшым чынам?

Так, самое маё «Я» і ўвесь хаос супярэчнасцяў яго найбольш сумленна сведчыць пра сваё быццё: творчае, ацэнлівае, спрагненае «Я» ёсць мера і каштоўнасць усіх рэчаў.

І гэта маё «Я», самае праўдзівае сведчанне быцця, гаворыць пра цела і імкнецца да яго, нават калі аддаецца палкім марам і зламанымі крыламі трапеча.

Найсумленней вучыцца яно гаварыць, гэтае «Я»; і чым болей вучыцца, тым болей знаходзіць слоў, каб хваліць цела і зямлю.

Новаму гонару навучыла мяне маё «Я», гэтаму гонару цяпер вучу я людзей: не хаваць болей галавы ў пясок нябесных абстракцый, а высока несці яе, зямную галаву, што стварае сэнс зямлі.

Новай волі вучу я людзей: прыняць той шлях, якім раней ішлі сляпа і наўздогадзь, і ахвоча ісці гэтым шляхам, і хваліць яго, і не збочваць з яго потайкам, як гэта робяць хворыя, блізкія да смерці!

Гэта ж яны, хворыя і блізкія да смерці, занядбалі цела і зямлю, выдумалі Незямное і адкупныя і крывавыя ахвяры; але ж нават гэтыя змрочныя труцізны, такія салодкія ім, яны бралі ў зямлі і ў цела!

Ад галечы і гароты сваёй хацелі яны ўцячы, але зоркі былі занадта далёка. І ўздыхалі яны: «Ах, каб былі ў небе дарогі, якімі можна было б прайсці ў іншае быццё, каб здабыць шчасце!» — і вось яны выдумалі сабе гэтыя пралазы і крывавы напой!

Няўдзячныя! — яны ўбілі сабе ў галаву, што здолелі адцурацца цела і зямлі. Але ж каму яны абавязаныя болем і шчасцем таго адцурання? — Свайму целу і гэтай зямлі.

Заратустра лагодны з хворымі. Сапраўды, не гневаецца ён на іхнюю няўдзячнасць і на ўсё, што іх суцяшае. Хай жа яны ацаляюцца і перасільваюцца, хай ствараюць сабе найвышэйшае цела!

І таго, хто ацаляецца, не дакарае Заратустра, калі той пяшчотна глядзіць на аблуды свае ды апоўначы крадзецца да магілы свайго Бога; толькі ж хваробаю і слабасцю цела застаюцца ў мяне яго слёзы.

Заўсёды шмат хворых сярод замроеных і затужаных у божышчы: люта ненавідзяць яны цікаўніка і тую, самую маладую, цноту, якая называецца праўдзівасцю.

Назад, у морак мінулага яны азіраюцца; сапраўды, інакш глядзелі тады на мару і на веру: шал розуму лічыўся богападабенствам, а паняверка — грэхам.

Задужа добра ведаю я гэтых богападобных і ведаю, чаго яны хочуць: яны прагнуць, каб у іх верылі і каб сумненне лічылася грэхам. Добра ведаю я і тое, у што яны самі вераць найбольш.

Сапраўды, не ў іншыя светы і не ў адкупную сілу крыві — яны зацята вераць у цела, сваё іхняе цела ў іх — «рэч у сабе».

Братове мае, услухайцеся лепей у голас здаровага цела — чысты і сумленны ў яго голас. Праўдзівей і сумленней гаворыць здаровае цела — дужа дасканалае, і гаворыць яно пра сэнс зямлі».

Так сказаў Заратустра.

## Пра пагарднікаў цела

Пагарднікам цела хачу я сказаць сваё слова. Не павінны яны ні перавучвацца самі, ні перавучваць другіх, хай толькі разлучацца з целам — і гэтак стануць нямыя.

«Я — цела і душа», — кажа дзіця. І чаму ўсе не гавораць, як дзеці?

Але той, хто прачнуўся і спазнаў, кажа: я — толькі цела, і не болей таго; а душа — толькі слова, якое азначае нешта ў целе.

Цела — гэта вялікі розум, вялікае мноства

з *адной* свядомасцю, вайна і мір, статак і пастух.

Прыладай твайму целу служыць і маленькі розум, які ты называеш «духам», мой браце, ён — толькі прылада і цацка твайго вялікага розуму — цела.

Я, — кажаш ты з гонарам за гэта слова. Але важнейшае, хоць ты і не хочаш у гэта паверыць, шмат важнейшае тваё цела і яго вялікі розум; яно не кажа «Я», яно творыць яго.

Усё, што адчувае пачуццё, што спазнае дух, ніколі не мае ў сабе свайго канца. Але пачуццё і дух хочуць давесці табе, што яны — канец усіх рэчаў: так яны любяць славу.

Пачуццё і дух — толькі прылады і цацкі: за імі крыецца Самасць. Самасць шукае вачыма пачуццяў і слухае вушамі духу.

Самасць заўсёды слухае і шукае: яна параўноўвае, падпарадкоўвае, заваёўвае і разбурае. Яна пануе і загадвае нават твайму «Я».

За думкамі і пачуццямі тваімі, браце мой, стаіць магутны валадар, невядомы мудрэц — Самасць яго імя. У тваім целе жыве ён, ён і ёсць тваё цела.

У цела больш розуму, чым у тваёй найвышэйшай мудрасці. І хто ведае, навошта ўвогуле патрэбна целу твая найвышэйшая мудрасць?

Твая Самасць смяецца з твайго Я і яго гордых падскокаў. «Што мне тыя выдыганні і ўзлёты думкі? — кажа яна сабе. — Бакавая дарога да маёй мэты. Я — толькі шлейка майму «Я», і ўдыхаю ў яго ягоныя паняцці.

Самасць умаўляе «Я»: «тут адчувай радасць!» І «Я» радуецца і думае, як яму скаштаваць гэтай радасці, — яно ж і *павінна* так думаць.

Пагарднікам цела хачу я сказаць сваё слова. З пашаны ўзнікла іхняя пагарда. Што ж гэта

3. Зак. 530.

такое, што стварае пагарду і пашану, каштоўнасць і волю?

Творчая Самасць стварыла сабе пагарду і пашану, гэта яна — творца радасці й смутку. Творчае цела зрабіла сабе розум як прыладу сваёй волі.

Нават у дурасці і ў пагардзе вы, пагарднікі цела, служыце Самасці. Я кажу вам: вашая Самасць хоча памерці і адварочваецца ад жыцця.

Яна ўжо не можа рабіць таго, да чаго найболей імкнецца, — тварыць звыш сябе. Гэтага яна хоча найболей, і ў гэтым яе найбольшае жаданне.

Аднак ёй ужо позна імкнуцца да гэтага: і вось — Самасць прагне пагібелі.

Вашая Самасць жадае смерці — таму і аддалі вы цела пагардзе! Бо вы ўжо не можаце тварыць звыш сябе.

Вось чаму абураецеся вы на жыццё і на зямлю. Неўсвядомленая зайздрасць хаваецца ў косым позірку вашай пагарды.

Не, не пайду я па вашай дарозе, вы, пагарднікі цела! Вы мне не кладка да Звышчалавека!

Так сказаў Заратустра.

## Пра радасці і шалы

Браце мой, калі ёсць у цябе цнота, і калі яна твая цнота, дык навошта, каб ты валодаў ёю супольна з усімі.

Вядома, табе хочацца лашчыць яе і называць імем, жартуючы, тузаць за вуха і быць з ёю запанібрата.

Глядзі ж! Цяпер імя, якім ты назваў яе, зрабілася супольным, і ты сам зрабіўся часцінай народу і натоўпу разам з цнотаю сваёю!

Лепш, калі ты скажаш: «Нельга ні выказаць, ні назваць імем тое, што ёсць пакута і слодыч маёй душы, а таксама голад майго нутра».

Хай будзе твая цнота занадта высокая, каб даваць ёй імя: а як давядзецца табе гаварыць пра яе, не саромейся заікацца.

А заікаючыся, кажы так: «Гэта маё дабро, і я люблю яго; яно падабаецца мне ўсё цалкам, і я адзін хачу дабра.

Ні патрэбы маёй натуры, ні божага закону, ні чалавечага ўстанаўлення я не хачу бачыць у цноце маёй; не хачу, каб яна стала мне указніцай дарогі на неба, у рай.

Прадмет любові маёй — зямная цнота: у ёй мала мудрасці і зусім мала сэнсу, зразумелага ўсім.

Але гэтая птушка зладзіла ў мяне сваё гняздо, таму я люблю і шчыра пешчу яе, і цяпер яна ў мяне выседжвае залатыя яечкі».

Так ты павінен заікацца і хваліць сваю цноту.

Калісьці цябе вярэдзілі палкія шалы, і ты называў іх ліхімі. А цяпер ёсць адны толькі цноты: яны выраслі з тваіх шалаў.

Ты ўклаў сваю найвышэйшую мэту ў гэтыя шалы, паклаў яе ў сваё сэрца: радасцямі і цнотамі зрабіліся яны цяпер.

Хай ты з роду запальчывых, альбо з пахацінцаў, альбо з фанатыкаў, альбо з помслівых:

— усё-такі, урэшце, усе шалы твае ператварыліся ў цноты і ўсе твае дэманы ў анёлаў.

Калісьці трымаў ты дзікіх сабак у сваіх сутарэннях: і вось — у галасістых птушак яны абярнуліся.

З труцізны сваёй ты згатаваў сабе бальзам: ты даіў карову журбы — а цяпер п'еш салодкае малако з яе вымя.

І нічога ліхога з цябе больш не вырасце, хіба што зло, якое ўзнікае з барацьбы тваіх цнотаў.

Браце мой, калі шчасце з табою, дык у цябе толькі *адна* цнота, і не больш: тады табе лягчэй ісці цераз кладку.

Пачэсна мець многа цнотаў, але гэта — цяжкая доля; і многія выпраўляліся ў пустыню і мярцвілі сябе, бо стамляліся быць вайной і рысталішчам сваіх цнотаў.

Браце мой, ці ж гэта не ліха — войны і бітвы? Аднак гэтае ліха патрэбнае, як патрэбныя зайздрасць і недавер, і паклёп паміж тваімі цнотамі.

Зірні, — як кожная цнота прагне найвышэйшага: яна патрабуе ўсяго твайго духу, каб ён стаў *яе* вешчуном, яна хоча ўсёй тваёй сілы ў гневе, любові, нянавісці.

Кожная цнота раўнівая, а рэўнасць — жахлівая рэч. І цноты могуць гінуць ад рэўнасці.

Ахоплены яе полымем, нібы скарпіён, цаляе ў сябе сваім джалам.

О, браце мой, ці ж ты не бачыў, як цнота кляне і джаліць сябе?

Чалавек — гэта нешта, што трэба адолець: і таму ты павінен любіць свае цноты, бо праз іх ты загінеш...

# Пра бледнага злачынцу

Вы не хочаце забіваць, пакуль жывёла не стане на калені, вы, суддзі і ахвярныя разнікі? Бачыце, бледны злачынец кіўнуў: у вачах у яго вялікая пагарда.

«Маё «Я» — нешта, што трэба адолець: маё «Я» — прычына вялікай пагарды да чалавека», — кажуць вочы ягоныя.

Тое, што ён сам судзіў сябе, было ў яго найвялікшай хвілінай: не дацца ж упасці ў Ніжэйшасць таму, хто ўзвысіўся!

Няма іншага збавення, акрамя хуткай смерці таму, хто так пакутуе ад самога сябе.

Суддзі, са спагады павінны вы забіваць, [redacted] не з помсты і, забіваючы, думаць, каб жыццё апраўдала вас!

Мала толькі заміріцца з тым, каго вы караеце смерцю. Хай будзе ваш смутак любоўю да Звышчалавека: так апраўдаеце вы працяг вашага жыцця!

«Вораг», — павінны сказаць вы, а не «ліхадзей»; «хворы», — павінны сказаць вы, а не «мярзотнік»; «шаленец», — павінны сказаць вы, а не «грэшнік».

А ты, акрываўлены суддзя, калі б ты надумаў уголас выказаць тое, што ўчыніў ужо ў думках, кожны закрычаў бы: «Далоў гэты бруд і ядавітага гада!»

Але адно — думка, але другое — учынак, але трэцяе — вобраз учынку. Паміж імі не круціцца кола прычыны.

Нейкі вобраз зрабіў бледным гэтага бледнага чалавека. Ён быў нароўні з учынкам сваім, учыняючы яго; але ўчыніўшы, не вынес вобраза ўчынку свайго.

З гэтага часу толькі злачынцу, які ўчыніў злачынства, пачаў ён бачыць у сабе. Шаленствам я называю гэта: выключэнне зрабілася ў яго сутнасцю.

Праведзеная рыса зачароўвае курыцу; удар, які ён нанёс, зачараваў яго бедны розум. Шаленствам *пасля* ўчынку я называю гэта.

Слухайце, суддзі! Есць яшчэ й іншае шаленства — гэта *шаленства перад* учынкам. Не, зусім не дастаткова глыбока ўпаўзлі вы ў гэтую душу!

Так кажа акрываўлены суддзя: «Навошта забіў гэты злачынец? Ен хацеў абрабаваць!» А я вам кажу: душа ягоная прагнула крыві, а не рабунку: ён прагнуў шчасця нажа!

Але слабы розум не ўмясціў у сабе гэтага шаленства і пераканаў яго. «Ах, няма ладу што — кроў! — казаў ягоны розум, — прынамсі, можна шчэ і абабраць! Адпомсціць!»

І паслухаўся ён свайго слабога розуму і яго развагаў, свінцом яны леглі на плечы ягоныя, і вось, забіваючы, ён яшчэ й абабраў. Бо яму не хацелася, каб было брыдка за сваё шаленства.

Цяпер свінцовым цяжарам ляжыць на ім віна, а яго розум зноў нерухомы, спаралізаваны і цяжкі.

Калі б толькі ён мог страсянуць галавой, скінуў бы той цяжар; бо хто яшчэ можа страсянуць галавой?

Што ж такое гэты чалавек? Куча хваробаў, якія праз ягоны дух лезуць у свет, — там яны хочуць знайсці сваю здабычу.

Што ж такое гэты чалавек? Клубок ядавітых гадзюк, якія заўсёды ў разладзе паміж сабою, і вось яны распаўзаюцца па свеце, шукаючы спажывы.

Зірніце на гэта гаротнае цела! Тое, па чым яно ныла і ад таго пакутавала, гэтая нікчэмная душа спрабавала растлумачыць; і яна тлумачыла гэта як радасць забойства, як жаданне зведаць шчасце нажа.

На тых, хто сёння нядужы, нападае ліха, слушней, — тое, што *сёння* лічыцца ліхам: і вось — гэтыя спрагненыя самі спрабуюць зрабіць, каб балела, і пры гэтым праз тое самае, ад чаго ім якраз і баліць. Але былі і іншыя часы, і іншае дабро й ліха.

Калісьці ліхам былі паняверка і воля да Самасці. Ерэтыкамі і чарадзеямі рабіліся нямоглыя, як чарадзеі і ерэтыкі, цярпелі яны і хацелі іншых увесці ў цярпенні.

Але гэта не на вашыя вушы, бо супярэчыць таму, чаму вучаць вас «добрыя», кажаце вы мне. Але што мне да вашых «добрых»!

Шмат што ў іх гідзіць мяне, і, што праўда, не іхняе ліха. Але мне хацелася б, каб шал захапіў іх і каб загінулі яны, як гэты бледны злачынец!

Праўда, хацеў бы я, каб іх шаленства называлася ісцінай, альбо вернасцю, альбо справядлівасцю; але ў іх ёсць «цнота», каб жыць доўга ў жалю вартай самазадаволенасці.

Я — парэнча моста над бурлівым патокам: трымайся за мяне, хто можа трымацца! А за кульбаку я вам не буду.

Так сказаў Заратустра.

## Пра чытанне і пісанне

З усяго напісанага я люблю толькі тое, што напісана сваёй крывёю. Пішы крывёю, і ты будзеш ведаць, што кроў — гэта дух.

Нялёгка зразумець чужую кроў; я ненавіджу тых, хто чытае з нуды.

Хто ведае чытача, той ужо не працуе дзеля яго. Яшчэ адно стагоддзе чытачоў — і сам дух прасмердне.

Тое, што кожны бярэцца вучыцца чытаць, надоўга псуе не толькі напісанае, але і самую думку.

Калісьці дух быў Богам, потым зрабіўся чалавекам, а сёння — увогуле робіцца чэрняю.

Хто піша крывёю і прыпавесцямі, той хоча, каб яго не чыталі, а вучылі на памяць.

У гарах самая кароткая дарога з вяршыні на вяршыню, але на гэта патрэбны доўгія ногі. Прыпавесці — тыя самыя вяршыні; а тыя, каму яны напісаны, павінны быць высокія і вынёслыя.

Рэдкае і чыстае паветра, блізкая небяспека, дух, поўны радаснай лютасці,— усё гэта добра стасуецца.

Хай мяне атачаюць горныя духі — я адважны. Мужнасць разганяе прывіды і сама сабе стварае горных духаў, — мужнасць хоча смяяцца.

Я ўжо не адчуваю так, як адчуваеце вы: на гэтыя цяжкія, змрочныя хмары пада мною, з якіх я смяюся, — на гэтыя навальнічныя хмары якраз і падобныя вы.

Вы гледзіце ўгору, калі прагнеце вышыні. А я гляджу ўніз, бо я ўзвысіўся.

Хто з вас можа і смяяцца і быць узвышаным?

Хто падняўся на самыя высокія горы, той смяецца, з усякай трагедыі — і на сцэне, і наяве.

Мужнымі, бестурботнымі, пакеплівымі, уладнымі — такімі хоча нас бачыць Мудрасць: яна — жанчына і заўсёды любіць толькі воіна.

Вы кажаце мне: «цяжка несці жыццё». Навошта ж вам тады ваш гонар раніцай і слухмянасць увечары?

Цяжка несці жыццё: не стройце з сябе такіх здалікатненых! Усе мы — мілыя, цягавітыя аслы і аслíхі.

Што супольнага ў нас з ружыным бутонам, які трапеча, калі на яго ападзе кропля расы?

Праўда: мы любім жыць, але не таму, што прывыклі жыць, а таму, што прывыклі любіць.

У любові заўсёды ёсць нешта шалёнае. Але ж заўсёды ёсць і нешта разумнае ў шаленстве.

І нават мне, хто дабром прымае жыццё, здаецца, што матылькі і мыльныя пузыры, альбо на іх падобныя людзі, найбольш ведаюць шчасце.

Гэтыя лёгкія, дурныя, далікатныя і рухавыя душы, і тое, як яны пырхаюць, даводзяць Заратустру да слёз і песняў.

Я паверыў бы толькі ў такога бога, які ўмее скакаць.

І калі я глядзеў на свайго д'ябла, я знайшоў у ім сур'ёзнасць, грунтоўнасць, глыбіню і ўрачыстасць; гэта быў Дух Цяжару, праз яго ўсё падае.

Забіваюць не гневам, а смехам. Устаньце, давайце заб'ём Дух Цяжару!

Я навучыўся хадзіць: з таго часу я дазваляю сабе бегаць. Я навучыўся лётаць: з таго часу не трэба, каб мяне штуршком зрушвалі з месца.

Цяпер я лёгкі, цяпер я лётаю, цяпер сябе бачу пад сабою, цяпер нейкі бог скача ўва мне.

Так сказаў Заратустра.

4. Зак. 530.

## Пра дрэва на гары

Заратустрава вока змеціла, што адзін хлопец пазбягае яго. І вось ён, калі аднаго разу ўвечары ішоў гарамі вакол горада, які называўся Пярэстая Карова, раптам убачыў гэтага хлопца; той сядзеў, прыхіліўшыся да дрэва, і стомленымі вачыма глядзеў у даліну. Заратустра дакрануўся да дрэва, каля якога сядзеў хлопец, і сказаў:

«Калі б я захацеў страсянуць гэтае дрэва рукамі, я не змог бы.

А вось вецер, які мы нават не бачым, тузае яго і гне, куды хоча. Найгорш нас гнуць і тузаюць нябачныя рукі».

Хлопец устаў і сказаў, сумеўшыся: «Я чую Заратустру, а якраз я толькі што думаў пра яго».

Заратустра спытаўся: «Чаго ж ты палохаешся? З чалавекам адбываецца тое самае, што і з дрэвам.

Чым больш ён імкнецца ўгору, да святла, тым мацней карані яго імкнуцца ў глыбіню зямлі, уніз, у змрок — у зло».

«Так, у зло! — усклікнуў хлопец. — Як жа ты здолеў зазірнуць мне ў душу?»

Заратустра засмяяўся і сказаў: «Некаторыя душы нельга адамкнуць: на тое іх трэба спачатку выдумаць».

«Так, у зло! — зноў усклікнуў хлопец. — Ты сказаў праўду, Заратустра. Я перастаў верыць самому сабе з таго часу, як памкнуўся ўгору, і ніхто ўжо цяпер не верыць мне. Як жа такое сталася?

Я мяняюся занадта хутка: маё «сёння» абвяргае маё «ўчора». Падымаючыся, я часта пераскокваю прыступкі, і гэтага не даруе мне ніводная прыступка.

Калі я ўгары, я заўсёды адчуваю сябе самотна. Ніхто не гаворыць са мною, холад адзіноты кідае мяне ў дрыжыкі. Чаго ж мне трэба на вышыні?

Мая пагарда расце разам з запалам; чым вышэй я падымаюся, тым больш пагарджаю тым, які падымаецца. Чаго ж мне трэба ўгары?

Мне брыдка за тое, што я падымаюся і што спатыкаюся! Я смяюся са сваёй задышкі! Як ненавіджу тых, якія лётаюць! Як я стаміўся на вышыні!»

Тут хлопец змоўк. А Заратустра зірнуў на дрэва, каля якога яны стаялі, і сказаў:

«Самотна стаіць на гары гэта дрэва, высока узнялося яно над чалавекам і над зверам.

І калі б яно загаварыла, не знайшлося б нікога, хто зразумеў бы яго, — так вынёсла яно вырасла.

І вось яно чакае і чакае, — а чаго яно чакае? Так блізка ссуседзілася яно з хмарамі: ці не чакае яно першай маланкі?»

Калі Заратустра сказаў гэта, хлопец усклікнуў, пляснуўшы рукамі: «Ты маеш рацыю, Заратустра. Я хацеў сваёй пагібелі, калі імкнуўся ўгору, і ты — маланка, якое чакаў я! Паглядзі, што зрабілася са мною, пакуль ты тут са мною: *зайздрасць* да цябе разваліла мяне!» — так гаварыў хлопец, горка плачучы. А Заратустра абняў яго і павёў за сабою.

І калі прайшлі яны крыху дарогі, загаварыў Заратустра: «Заходзіцца сэрца маё. Лепш за ўсякія словы гавораць мне твае вочы, што табе пагражае небяспека.

Ты яшчэ не свабодны — ты толькі *шукаеш* свабоды. Стамілі цябе твае пошукі і забралі твой сон.

Ты імкнешся ў свабодную вышыню, зорак прагне твая душа. Але і благія твае памкненні прагнуць свабоды.

Твае дзікія сабакі рвуцца на волю; яны брэшуць ад радасці ў сваіх падзямеллях, пакуль твой дух імкнецца разбурыць усе вязніцы.

Ты сам яшчэ вязень, прагны свабоды: мудрая душа ў такіх вязняў, але разам з тым падступная і нядобрая.

Свабодны духам павінен ачысціцца. Бо ў ім яшчэ шмат астрожнага змроку і цвілі — вока яго павінна ачысціцца.

Так, я ведаю небяспеку табе. Але заклінаю цябе сваёй любоўю і надзеяй: не адкідай сваёй любові і надзеі!

Высакародна ты любіш пакуль што, і высакародна любяць цябе, а твае нелюбы злосна зіркаюць табе ў плечы. Ведай, што высакародны ўсім папярок дарогі.

«Добрым» таксама ён заважае; калі ж яны яго называюць добрым, дык гэтым самым хочуць прыняць яго з дарогі.

Высакародны хоча стварыць новае і новую цноту. Добры хоча захаваць старое, каб яно заставалася цэлае.

Але не ў тым небяспека высакароднаму, што ён зробіцца добры, а што знахабіцца, зробіцца перасмешнікам і знішчальнікам.

Я ведаў высакародных, якія страцілі сваю найвышэйшую надзею. І вось цяпер яны ўзводзяць паклёпы на ўсе высокія памкненні.

І вось цяпер яны жывуць, зрываюць без сораму кароткія ўцехі і ставяць перад сабою мізэрныя мэты — не больш як на дзень выстарчае гэтых мэтаў.

«Дух — таксама салодкі шал» — так кажуць

яны. І разбіліся крылы ў іх духу, і цяпер ён поўзае ўсюды і апаганьвае ўсё, што грызе.

Калісьці яны мерыліся стаць героямі, сёння яны ласуны. Сёння смутак і жудасць — ім за герояў.

Але любоўю сваёй і надзеяй заклінаю цябе: хавай героя ў сваёй душы! Як святыню хавай сваю найвышэйшую надзею!»

Так сказаў Заратустра.

## Пра прапаведнікаў смерці

Есць прапаведнікі смерці, і на зямлі поўна людзей, якім патрэбна пропаведзь агіды да жыцця.

Зямля кішыць лішнімі, жыццё сапсавана процьмай жывых. О, калі б можна было абяцаннем «вечнага жыцця» вынадзіць іх з гэтага жыцця!

Прапаведнікаў смерці называюць «жоўтымі» або «чорнымі». А я хачу паказаць вам іх у іншых колерах.

Вось яны, гэтыя жахлівыя, што носяць у сабе драпежнага звера і не маюць іншага выбару, акрамя пажады і самакатавання. Але і пажада іхняя — таксама самакатаванне.

Яны яшчэ нават не рабіліся людзьмі, гэтыя жахлівыя: няхай жа яны прапаведуюць агіду да жыцця і гінуць самі!

Вось яны, сухотныя душою — толькі нарадзіліся, а пачынаюць ужо паміраць і трызняць вучэннем пра стому і адмаўленне.

Яны вельмі хацелі б смерці, дык давайце ж пахвалім іх волю! Будзем асцярожныя, каб не ажывіць гэтых мерцвякоў і не пашкодзіць гэтыя жывыя трупы!

Яны сустракаюць хворага, альбо старога, альбо нябожчыка; і адразу кажуць: «жыццё абвергнута»!

Але абвергнуты толькі яны самыя і іхнія вочы, якія бачаць толькі аблічча сутнага.

Глыбока запануранымя, прагныя да ўсяго дробнага і выпадковага, што цягне з сабою смерць, — так яны чакаюць яе, сцяўшы зубы.

Альбо яшчэ: хапаюцца за салодкае, кпяць са сваёй гарэзлівасці; трымаюцца за жыццё, як за саломіну, і кпяць, што трымаюцца за саломіну.

Іх мудрасць маўляе: «Дурань, хто жыве далей, але хто ж бо з нас не дурань! І ў гэтым — уся дурнота жыцця!»

«Жыццё — толькі пакута» — так кажуць іншыя і не хлусяць: дык жа дайце сабе клопату зрабіць так, каб *вашае* жыццё спынілася! Пастарайцеся скончыць жыццё, якое для вас — пакута!

І хай такою будзе запаведзь вашае цноты: «Забі сябе сам! Украдзь сябе ў жыцця!»

«Салодкае пахацінства — грэх, і так кажуць адны прапаведнікі смерці, дазвольце ж нам пайсці і не рабіць дзяцей!»

«Нараджаць вельмі цяжка, — кажуць другія, — ды і навошта? Нараджаюцца толькі няшчасныя!» Гэтыя таксама прапаведуюць смерць.

«Спагада патрэбная, — кажуць трэція, — забярыце ўсё, што я маю! Забярыце і мяне самога. Тым меней буду я прывязаны да жыцця!»

Калі б яны былі ў аснове спагадлівыя, яны адвярнулі б ад жыцця сваіх блізкіх. Быць злымі — вось што было б іх сапраўдным дабром.

Але яны хочуць выбавіцца ад жыцця; што ім да таго, што яны яшчэ мацней вяжуць сваімі ланцугамі і дарункамі іншых людзей!

І нават вас, каму жыццё — гэта цяжкая праца і неспакой, хіба вас жыццё не стаміла? Хіба вы яшчэ не выспелі на пропаведзь смерці?

Усе вы, каму па душы цяжкая праца і ўсё імклівае, новае, нязведнае, — вы самі сабе цяжкія сталі; ваш імпэт — гэта толькі ўцёкі ад сябе і жаданне забыцца.

Калі б вы болей верылі ў жыццё, вы менш аддаваліся б імгненнасці. Але занадта мала ў вас зместу, каб чакаць, і нават каб ленавацца!

Усюды чуюцца галасы прапаведнікаў смерці; і поўніцца зямля людзьмі, якім патрэбная пропаведзь смерці.

Альбо «вечнага жыцця»: мне ўсё адно — толькі б зніклі яны з улоння зямлі!

Так сказаў Заратустра.

## Пра вайну і ваяроў

Ад самых годных сярод ворагаў нашых мы не хочам літасці, а таксама і ад тых, каго мы любім да глыбіні душы. Дык жа дазвольце мне сказаць шчырую праўду!

Браты мае па вайне! Я вас люблю ад усяго сэрца; я заўсёды быў адзін з вас, і цяпер я такі самы. І я — самы годны з вашых ворагаў. Дык жа дазвольце мне сказаць вам шчырую праўду!

Я ведаю нянавісць і зайздрасць вашага сэрца. Вы не настолькі вялікія, каб не ведаць нянавісці і зайздрасці. Няхай жа ў вас будзе досыць велічы, каб не было брыдка за саміх сябе!

І калі вы не можаце быць апосталамі пазнання, дык будзьце, прынамсі, ваярамі яго. Бо яны — спадарожнікі і прадвеснікі апосталаў.

Я бачу безліч салдатаў — хацелася б пабачыць безліч ваяроў! Я бачу салдатаў, аднолькава абмундзіраваных: тое, што яны на сабе носяць, называецца уніформай. Хай жа не будзе гэтакі аднастайны змест пад іх уніформай!

Будзьце такія, як тыя, чыё вока заўсёды цікуе за ворагам — *іхнім* ворагам. Не кожны бо з вас здольны ненавідзець з першага позірку.

Свайго ворага вы павінны шукаць, змагацца на сваёй вайне, за свае перакананні! Калі ж вашыя перакананні будуць разбітыя, няхай вернасць ваша адсвяткуе сваю перамогу!

Любіце мір як сродак да новай вайны. І мір кароткі любіце мацней за доўгі.

Не да працы заклікаю я вас, а да змагання; не да міру, а да перамогі. Хай будзе праца ваша — змаганне, а мір ваш — перамога!

Вы кажаце, добрая мэта асвячае нават вайну? А я кажу вам: толькі дабро вайны асвячае ўсякую мэту.

Вайна і мужнасць стварылі больш вялікае, чым любоў да блізкага. Не спагада, а адвага ваша ратавала дагэтуль няшчасных.

«Што такое дабро?» — пытаецеся. Дабро — гэта адвага. Хай малыя дзяўчаткі кажуць: «Дабро — гэта тое, што прыгожае і разам з тым кранальнае».

Вас называюць бессардэчнымі: але сэрца ваша шчырае, і я люблю сарамяжлівасць вашай сардэчнасці. Вы саромеецеся прыліву чуллівасці, іншыя саромеюцца адліву яе.

Вы брыдкія? Ну што ж, братове мае! Ахініцеся ўзвышаным, апраніцеся ў мантыю брыдкага!

І калі душа ваша робіцца велічнай, яна робіцца пагардлівай, і сама яе ўзнёсласць тоіць у сабе ліхату. Я ведаю вас.

У ліхаце сустракаецца пагардлівец з бяссільцам. Але яны не разумеюць адзін аднаго. Я ведаю вас.

Вы павінны мець толькі ворагаў, вартых нянавісці, а не ворагаў дзеля пагарды. Вы павінны ганарыцца сваімі ворагамі: тады толькі поспехі вашых ворагаў будуць вашымі поспехамі.

Паўстанне — гэта слушнасць рабоў. Хай будзе вашай слушнасцю паслушэнства! А кожны ваш загад — гатоўнасцю.

Кожнаму добраму ваяру «ты павінен» гучыць прыемней, чым «я хачу». І ўсё тое, да чаго схільнае сэрца ваша, павінна быць спачатку загадана вам.

Хай будзе ваша любоў да жыцця любоўю да найвышэйшай надзеі: а гэтай надзеяй хай зробіцца найвышэйшае ваша перакананне!

Але і яго вы павінны атрымаць ад мяне як загад — ён такі: чалавек ёсць нешта, што трэба пераадолець.

Дык жывіце жыццём паслушэнства і вайны! Які сэнс у доўгім жыцці! Які ваяр хоча літасці!

Я не літую вас, я люблю вас усім сэрцам, мае супольнікі па вайне!..

Так сказаў Заратустра.

## Пра новых куміраў

Сям-там яшчэ ёсць плямёны і народы, але не ў нас, братове мае; у нас ёсць дзяржавы.

Дзяржава? Што гэта такое? Дык вось, слухайце ж мяне цяпер, бо скажу я вам словы мае пра пагібель народаў.

Дзяржавaю называецца самая халодная пач-

вара. Холадна хлусіць яна; і вось якая хлусня лезе з вуснаў яе: «Я, дзяржава, — гэта народ».

Гэта хлусня! Родапачынальнікамі народаў былі творцы — яны надзялілі вераю і любоўю сваіх супляменнікаў: так яны служылі жыццю.

А тыя, што паставілі пасткі на людзей і назвалі гэта дзяржавай, — знішчальнікі: меч і сотню жаданняў навязалі яны ўсім.

Там, дзе яшчэ ёсць народ, не разумее ён дзяржавы і ненавідзіць яе як сурочлівае вока і замах на правы і звычаі.

Такую азнаку даю вам я: у кожнага народа ёсць свая мова дабра і зла, і ў гэтым адзін народ не разумее другога. Свая мова здабываецца кожным народам у спрадвечных правах і звычаях яго.

Але дзяржава хлусіць на ўсіх мовах дабра і зла; і ўсё, што яна кажа — хлусня, і ўсё, што яна мае, — украдзена ёю.

Усё ў ёй — фальшывае; крадзенымі зубамі кусаецца яна, пачвара. Нават вантробы ў яе — фальшывыя.

Месіва моваў у разуменні дабра і зла — гэтую азнаку я даю вам як азнаку дзяржавы. Сапраўды, цяга да пагібелі — азнака гэтая! Сапраўды, яна кліча прапаведнікаў смерці!

Народзяцца многія мноствы: лішнім і была прыдумана дзяржава!

Глядзіце, як надзіць яна гэтыя многія мноствы! Як яна душыць іх, як жуе і перажоўвае!

«Няма на зямлі нічога большага, чым я. Я — палец Божы, я — упарадковец» — так рыкае пачвара. І не адны толькі даўгавухія і блізарукія на каленях кленчаць!

О, нават вам, вялікія душы, нашэптвае пачвара сваю чорную хлусню! О, яна ўгадвае багатыя сэрцы, што ахвотна раздаюць сябе!

Яна ўгадвае і вас, перcharacterожцы старога бога! Вы стаміліся ў барацьбе, і цяпер сама стома вашая служыць новаму куміру!

Героямі і тымі, хто сумленны, хацеў бы абставіць сябе гэты новы кумір! Ахвотна грэецца на сонцы чыстага сумлення халодная пачвара.

Гэты новы кумір усё *вам* гатовы аддаць, калі *вы* паклоніцеся яму: так ён купляе бляск цнотаў вашых і позірк гордых вачэй.

Вамі хоча ён завабіць многія мноствы! І вось прыдумана была пякельная штука — конь смерці, які бразгае збруяй боскіх пашанаў!

Праўда, смерць была вынаходлівая для многіх мностваў, смерць, якая славіць сябе пад выглядам жыцця: сапраўды, неацэнная паслуга ўсім прапаведнікам смерці!

Дзяржаваю называю я гэтага куміра; дзяржаваю, дзе ўсе — і добрыя і благія — упіваюцца атрутай; дзяржаваю, дзе ўсе — і добрыя і благія — губляюць саміх сябе; дзяржаваю, дзе павольнае самазабойства ўсіх называецца «жыццём».

Зірніце ж на ўсіх гэтых лішніх! Яны крадуць творы вынаходцаў і скарбы мудрацоў: культурай называюць яны гэты крадзеж — і ўсё ў іх ператвараецца ў хваробы і нягоды!

Зірніце на гэтых лішніх! Яны ўвесь час хворыя, яны выблёўваюць сваю жоўць і называюць гэта газетай. Яны глытаюць адзін аднаго і ніяк не могуць сябе стравіць.

Зірніце ж на гэтых лішніх! Яны грабуць багацці і бяднеюць яшчэ больш. Яны, нямоглыя, прагнуць улады і, перш за ўсё, яе рычага — грошай!

Зірніце, як яны лезуць, гэтыя ўвішныя малпы! Як караскаюцца адзін цераз аднаго і зрываюцца ў смярдзючую прорву!

Туды, да трона імкнуцца яны: у шаленстве сваім яны думаюць, быццам на троне сядзіць шчасце! Часта бруд сядзіць на троне, а часта сам трон — на брудзе.

Шаленцы ўсе гэтыя, што караскаюцца, як малпы, кідаюцца, быццам у гарачцы. Смуродам патыхае іхні кумір, гэтая халодная пачвара; смярдзяць і яны самыя ўсе разам, службіты ідала.

Братове мае, няўжо вы хочаце задыхнуцца ў смярдзючым чадзе з іх ненажэрных пашчаў? Біце шыбы, выскоквайце на свабоду!

Уцякайце ад смуроду! Уцякайце ад ідалапаклонства лішніх людзей!

Уцякайце ад смуроду! Бяжыце ад чаднага дыму чалавечых ахвяр!

Зямля яшчэ і сёння свабодная для ўзвышаных душ. Яшчэ шмат вольных мясцінаў для пустэльнікаў і тых, хто самотны ўдвух; мясцінаў, дзе веюць пахошчамі спакойныя моры.

Яшчэ адкрыты вялікім душам доступ да свабоднага жыцця. Сапраўды, мала чым авалодае той, хто валодае толькі малым: хвала беднасці!

Толькі там, дзе канчаецца дзяржава, пачынаецца чалавек — не лішні чалавек: там гучыць песня таго, хто патрэбен, — адзіная і непаўторная.

Туды, дзе канчаецца дзяржава, — туды глядзіце, братове мае! Хіба не бачыце вы вясёлкі і мастоў, якія вядуць да Звышчалавека?

Так сказаў Заратустра.

## Пра рыначных мух

Дружа мой, уцякай у свой зацішак! Я бачу, ты аглушаны шумам вялікіх і паколаты джаламі малых.

Лес і скалы ўмеюць з годнасцю маўчаць разам з табою. Прыпадобніся ж зноў да ўлюбёнага дрэва твайго: раскінуўшы голле, прыслухоўваючыся, ціха схілілася яно над морам.

Дзе канчаецца адасабленне, там пачынаецца рынак; дзе пачынаецца рынак, там пачынаецца шум вялікіх актораў і брунжанне ядавітых мух.

У свеце самыя лепшыя рэчы яшчэ нічога не значаць, пакуль няма таго, хто іх пакажа з памоста: вялікімі людзьмі называе натоўп гэтых паказнікаў.

Дрэнна разумее натоўп усё вялікае, ці — творчае. Але добра разумее актораў, якія паказваюць усё вялікае на сцэне.

Вакол вынаходцаў новых каштоўнасцяў круціцца свет — нябачна круціцца ён; а наваколактораў круцяцца натоўп і слава: гэта і называецца светапарадкам.

У актора ёсць дух, але мала сумлення духу. Ён заўсёды верыць у тое, праз што і іншых прымушае паверыць, — ён верыць у *сябе самога!*

Па-новаму ён верыць заўтра, а паслязаўтра — зноў інакш. Імклівыя ў яго пачуцці, як у натоўпу, і гэтакія ж пераменлівыя настроі.

«Перакуліць» азначае ў яго «даказаць»; «збіць з панталыку» — «пераканаць». А лепшаю за ўсякія доказы ён лічыць кроў.

Ісціна, якая пранікае толькі ў чуйныя вушы, для яго — хлусня і нішто. Сапраўды, ён верыць толькі ў тых багоў, ад якіх у свеце найболей шуму!

Рынак поўны гарластых блазнаў, і натоўп ганарыцца сваімі вялікімі людзьмі! гэта ў яго — валадары хвіліны!

Але хвіліна настойлівая, і вось — прыспешваюць яны цябе і патрабуюць адказу: так ці не? Бяда, калі ты захочаш паставіць сваё крэсла паміж іхнімі «за» і «супраць»!

Хай жа не будуць табе спакусаю гэтыя мітуслівыя паборцы безумоўнага, табе, любасніку ісціны! Яна яшчэ ніколі не трымалася за руку абсалютнага.

Ухіляйся і асцерагайся гэтых настырнікаў: толькі на рынку прыстаюць з пытаннем — «так» ці «не»?

Павольна цячэ жыццё ўсіх глыбокіх крыніц: яны павінны доўга чакаць, пакуль даведаюцца, *што* ўпала ў глыбіні іхнія.

У баку ад рынку і славы ідзе ўсё вялікае; у баку ад рынку і славы жылі заўсёды вынаходцы новых каштоўнасцяў.

Дружа мой, уцякай у свой зацішак: я бачу, што цябе пакусалі ядавітыя мухі. Бяжы туды, дзе вее свежы сіберны вецер!

Уцякай у свой зацішак! Занадта блізка да малых і нікчэмных ты жыў; уцякай ад іх нябачнае помсты! Няма ў іх нічога, акрамя помсты.

Не падымай на іх рук! Бо ім ліку няма, і не твая гэта доля — аганяцца ад мух.

Іх безліч, гэтых малых і нікчэмных; не аднаму ганарыстаму будынку сталіся прычынаю пагібелі кроплі дажджу і пустазелле.

Ты — не камень, але ўжо робішся пусты ад мноства кропель, што капаюць на цябе. Шчыліны і трэшчыны паяўляюцца на табе ад тых кропель.

Я бачу, стаміўся ты ад ядавітых мух і да

крыві падрапаны ў многіх мясцінах, а гонар твой не хоча нават абурыцца.

Крыві тваёй хочуць яны, крыві прагнуць іх бяскроўныя душы — вось і джаляць яны ў нявіннасці і прастаце сваёй.

Але ты глыбокі і глыбока пакутуеш нават ад нікчэмных ран; і вось, не паспееш ты вылечыцца — зноў паўзе чарвяк па тваёй руцэ.

Але ты занадта горды, каб узяць і раздушыць гэтых ласуноў; дык сцеражыся, каб не сталася доляй тваёй цярпець ад іх ядавітай нахабнасці.

І, хвалячы, брунжаць яны вакол цябе: настырнасць — вось што такое іхнія пахвалы! Быць бліжэй да скуры і да крыві тваёй — гэтага прагнуць яны.

Яны ліслівяць табе, як Богу ці д'яблу; яны вішчаць перад табою, быццам перад Богам альбо д'яблам. Што [illegible] таго! Яны лісліўцы, пахлебцы і не больш за тое.

Бываюць яны ласкавыя і запабеглівыя з табою. Але такая была заўсёды разумнасць у баязліўцаў. Так, баязліўцы — разумныя!

Сваёй нікчэмнай душой яны шмат думаюць пра цябе: ты заўсёды ім падазроны. Усё, пра што яны думаюць, робіцца падазроным.

Яны караюць цябе за ўсе твае цноты. А даруюць — затое цалкам — толькі памылкі твае.

Бо ты, паблажлівы і справядлівы, кажаш: «Не вінаватыя яны ў сваім гаротным існаванні». А іх дробная душа думае: «Віна на ўсякім вялікім існаванні».

Калі ты паблажлівы, яны ўсё адно адчуваюць тваю пагарду і вяртаюць табе дабрадзейства твае, джалячы патаемна.

Твая маўклівая гордасць заўсёды ім не да-

спадобы; але яны трыумфуюць, калі ты бываеш настолькі сціплы, каб стаць славалюбным.

Тое, што пазнаём мы ў чалавеку, успалымняем мы ў ім. Сцеражыся ж малых!

Перад табой яны адчуваюць сябе нікчэмнымі, і нікчэмнасць іх тлее і разгараецца ў нябачную помсту.

Хіба ты не заўважаў, як часта яны змаўкалі, калі ты падыходзіў да іх, і як сіла пакідала іх, быццам з вогнішча, якое тухне?

Так, дружа мой, дакор сумлення ты блізкім тваім; бо не вартыя яны цябе. Таму яны і ненавідзяць цябе і гатовыя смактаць тваю кроў.

Блізкія твае заўсёды застануцца табе ядавітымі мухамі; сама веліч твая робіць іх такімі ядавітымі і падобнымі на мух.

Дружа мой, уцякай у свой зацішак, туды, дзе вее свежы сіберны вецер. Не твая гэта доля — аганяцца ад мух.

Так сказаў Заратустра.

## Пра цноту

Я люблю лес. У горадзе жыць блага: занадта багата палкіх людзей там.

Ці не лепей дацца ў рукі забойцу, чым у мару палкай жанчыне?

Вы толькі гляньце на гэтых мужчын: іх вочы кажуць, што яны не ведаюць нічога лепшага на зямлі, чым спаць з жанчынай.

Бруд на дне душы ў іх; і бяда, калі толькі ў бруду гэтага ёсць яшчэ і дух.

О, калі б вы былі дасканалыя, прынамсі, гэтаксама, як звяры! Але звярам уласцівая нявіннасць.

Хіба я заклікаю забіваць свае пачуцці? Я заклікаю да нявіннасці пачуццяў.

Хіба да цноты я заклікаю вас? У некаторых цнота — дабрадзейнасць, у многіх — амаль загана.

Яны, магчыма, і стрымліваюцца, але сабака пачуццёвасці зайздросліва выглядвае з усіх іхніх учынкаў.

Да вышыняў іх дабрадзейнасці, аж да сферы духу, дзе пануе холад, гоніць іх гэтая жывёліна, якая нясе з сабою варожасць.

І як вынаходліва сабака пачуццёвасці ўмее маліць за каліўца духу, калі яму адмоўлена ў целе!

Вы любіце трагедыі і ўсё, што кроіць вам сэрца, але я не давяраю вашаму сабаку.

У вас надта жорсткія вочы: надта пажадліва гледзіце вы на пакутнікаў. Ці не пераапранулася пажадлівасць ваша, якая называе сябе цяпер спагадлівасцю?

І яшчэ такое параўнанне дам вам: многія, што хацелі выгнаць свайго змушчальніка, ператварыліся ў свіней.

Каму цнота заважае, таму яе не варта раіць: каб не сталася яна дарогаю ў апраметную, каб не ператварылася ў бруд і пахацінства душы.

Няўжо я кажу пра нешта бруднае? А ўсё ж гэта — яшчэ не самае благое.

Той, хто спазнае, неахвотна ідзе ў ваду ісціны не тады, калі яна брудная, а калі яна плыткая.

Сапраўды, ёсць цнатлівыя да глыбіні душы: яны паблажлівыя і смяюцца вельмі ахвотна і весялей за вас.

Яны смяюцца і з цноты і пытаюцца: «Што такое цнота?

Ці не дурасць гэта? Але гэтая дурасць сама прыйшла да нас, а не мы да яе.

Вельмі гасцінна прытулілі мы гэтую госцю ў нашым сэрцы: цяпер яна жыве ў нас, хай застаецца колькі хоча!»

Так сказаў Заратустра.

## Пра сябра

«Сам-насам з сабою, — думае адлюднік, — гэта ўжо не адзін, гэта ўжо зашмат. Заўсёды адзін ды адзін — гэта надоўга — два!»

«Я» і «Мяне» не знаюць меры ў гутарцы: як гэта вытрываць, калі б не было сябра?

Сябар адлюдніку — гэта заўсёды трэці, гэта каранец, які заважае гутарцы двух заглыбляцца.

Ах, як многа безданяў у адлюдніка. Вось чаму так палка прагне ён сябра і вышыні ягонай.

Нашая вера ў іншых выдае, у што б мы хацелі верыць у саміх сабе. Наша палкае жаданне здабыць сябра — гэта наш прадажнік.

І часта праз каханне хочуць усяго толькі пераскочыць зайздрасць. І часта нападаюць і робяць сабе ворага толькі на тое, каб прыхаваць сваю слабасць.

«Будзь, прынамсі, маім ворагам!» — кажа сапраўдная пачцівасць, якая не адважваецца прасіць сяброўства.

Калі ты хочаш мець сябра, ты павінен быць гатовы весці за яго вайну; а каб весці вайну, трэба *ўмець* быць ворагам.

У сваім сябры трэба шанаваць яшчэ і ворага.

Хіба можаш ты падысці да свайго сябра, не падступіўшыся да яго?

Хай будзе твой сябар самым годным ворагам тваім. Будзь самы блізкі да сэрца ягонага, супраціўляючыся яму.

Ты не хочаш перад сваім сябрам насіць вопратку? Ты робіш гонар яму, паказваючыся такім, які ты ёсць? Але за гэта ён пасылае цябе к чорту!

Хто не маскуе сябе, той абурае: у вас аж столькі падстаў баяцца сваёй галізны! Былі б вы багамі, тады вы саромеліся б сваёй вопраткі!

Не прыхарошвайся дзеля сябра, бо стралой і парывам да Звышчалавека маеш ты быць яму.

Ці глядзеў ты на сябра, калі ён спіць, каб убачыць, які ён тады? Што такое твар твайго сябра? Гэта — сама твой твар, але ў грубым і недасканалым люстры.

Ці бачыў ты сябра свайго, калі ён спіць? Ці не спалохаўся ты яго выгляду? О, чалавек ёсць нешта такое, што трэба пераадолець.

Здагадвацца і ўмець маўчаць павінен сябар: не ўсё ты павінен хацець бачыць. Хай сон твой адкрые табе, што робіць твой сябар, калі чувае.

Хай здагадка твая будзе мілажальная: даведайся спярша, ці хоча сябар твайго мілажалю. Можа, ён любіць у табе цвёрды пагляд і позірк вечнасці.

Хай будзе твой мілажаль да сябра схаваны пад моцнай абалонкай, на ёй ты павінен скрышыць свае зубы. Тады спагада набудзе вытанчанасць і слодыч.

Ці стаў ты чыстым паветрам, хлебам і лекамі сваймy сябру? Некаторыя не ўмеюць скінуць з сябе ланцуг, аднак ратуюць сваіх сяброў.

Ты раб? Тады ты не можаш быць сябрам. Тыран? Тады ты не можаш мець сяброў.

Занадта доўга жылі ў жанчыне раб і тыран. Таму яна няздольная на сяброўства: яна ведае толькі каханне.

У яе каханні заўсёды ёсць несправядлівасць і слепата да ўсяго, чаго яна не любіць. Але і ў свядомым каханні жанчыны ёсць і раптоўнасць, і маланка, і ноч побач з святлом.

Пакуль яшчэ жанчына няздольная на сяброўства. Жанчыны — усё яшчэ кошкі альбо птушкі. Альбо, у лепшым разе, каровы.

Пакуль яшчэ жанчына няздольная на сяброўства: але скажыце вы мне, мужчыны, хто з вас здольны?

О вашая беднасць, мужчыны, о скнарыстасць вашай душы! Тое, што вы даяце сябру, я даю кожнаму свайму ворагу, але ж не раблюся бяднейшы.

Ёсць таварыскасць: хай будзе і сяброўства!

Так сказаў Заратустра.

## Пра тысячу і адну мэту

Шмат краін і народаў пабачыў Заратустра: так ён адкрыў дабро і зло ў розных народаў. Не знайшоў ён на цэлай зямлі сілы, большай за дабро і зло.

Ніводзін народ не здолеў бы выжыць, не робячы ацэнкі — што дабро і што — зло; каб захавацца, ён павінен ацэньваць інакш, чым ягоны сусед.

Многае, што ў адных народаў называюць дабром, у другіх лічыцца ганьбаю і гідою —

восьшто зразумеў я. Многае з таго, што тут называецца ліхам, там ходзіць у пурпурах шаноўлі.

Ніколі сусед не разумеў суседа; заўсёды здзіўлялася душа аднаго ■ шалу і злосці другога.

Скрыжаль даброцяў вісіць над кожным народам. Глядзі, гэта скрыжаль ягоных пераадоленняў, гэта голас ягонай волі да ўлады.

Вартае хвалы ў яго тое, што цяжка робіцца; добрым называецца цяжкае і непазбежнае; а тое, што настолькі моцнае, што аж можа вызваліцца ад найвялікшай гароты, — самае рэдкае і цяжкае — ён абвяшчае свяшчэнным.

Тое, што дазваляе яму панаваць, перамагаць і ззяць на зайздрасць суседу, мае ў яго значэнне найвышэйшага, самага першага мерніка каштоўнасцяў і сэнсу ўсіх рэчаў.

Сапраўды, браце мой, калі ты ўведаў патрэбу народа, яго зямлю, і неба, і суседа ягонага, ты адкрыў закон пераадолення яго і адгадаў, чаму ён падымаецца па гэтай лесвіцы да надзеі сваёй.

«Ты заўсёды павінен быць першы і стаяць наперадзе іншых; нікога не павінна любіць твая раўнівая душа, акрамя сябра», — словы гэтыя ўзрушалі душу грэка, і ён ішоў сцежкай сваёй велічы.

«Гаварыць праўду і добра валодаць лукам і стрэламі», — лічылася годнаю, але і нялёгкаю справаю кожнага народа, ад якога паходзіць маё імя — імя, якое я нашу з годнасцю і гонарам, хоць і нялёгка мне гэта.

«Шанаваць бацьку і маці і да патаемных глыбіняў душы аддавацца іх волі» — такая скрыжаль пераадолення другога народа, які ўзвёў яе над сабою і зрабіўся магутнай і вечнай сілай яе.

«Захоўваць вернасць і ў імя яе ахвяраваць крывёю і гонарам нават у ліхіх і небяспечных дзеях» — так, павучаючыся, пераадольваў сябе другі народ, і, пераадольваючы, вялікія надзеі панёс ён у сабе.

Сапраўды, людзі самі сабе зрабілі ўсё сваё дабро і зло. Сапраўды, не пазычалі яны і не знайшлі нічога, і нішто не ўпала само да іх, быццам голас з неба.

Спачатку чалавек даў каштоўнасць рэчам, каб гэтым захаваць сябе; ён даў рэчам сэнс, чалавечы сэнс. Таму і назваў сябе чалавекам, што пачаў ацэньваць.

Ацэньваць — гэта ствараць. Чуеце вы, творцы! Ацэнка прыўлашчвае каштоўнасць усім ацэненым рэчам. Толькі праз ацэнку з'яўляецца каштоўнасць: без ацэньвання быў бы пусты арэх быцця. Чуеце вы, творцы!

Перамена каштоўнасцяў — гэта перамена творцаў. Заўсёды будзе разбуральнікам той, хто робіцца творцам.

Калісьці творцамі былі цэлыя народы, і толькі потым — асобныя людзі; сапраўды, асобны чалавек — гэта самае маладое з усяго створанага.

Скрыжалі даброцяў павесілі над сабою народы. Любоў, якая імкнецца загадваць, і любоў, якая прагне слухацца, разам стварылі гэтыя скрыжалі.

Імкненне да статка больш даўняе за імкненне да свайго «Я»: і пакуль добрае імкненне азначае волю статку, толькі дрэннае сумленне скажа: «Я».

Сапраўды, падступнае і бессардэчнае «Я», якое шукае сваёй выгоды ў выгодзе многіх, — не пачатак статка, а пагібель яго.

Хто любіць і стварае — вось ён быў заўсёды творцам дабра і зла. Агонь любові і гневу палае на імёнах усіх дабрачыннасцяў.

Шмат краін і народаў пабачыў Заратустра, але не знайшоў ён на цэлай зямлі большае сілы, чым творы тых, што любяць: Дабро і Зло — іх імёны.

Сапраўды, пачварная сіла і ўлада гэтай пахвалы і гэтага паганьбення. Скажыце мне, братове мае, хто адолее іх? Хто накіне аковы на тысячагаловага звера, скажыце?

Тысяча мэт было дагэтуль, бо была тысяча народаў. Цяпер не хапае толькі кайданоў на тысячагаловага звера, не хапае *адной* мэты. У чалавецтва яшчэ пакуль што няма мэты.

Але скажыце мне, братове мае: калі ў чалавецтва дагэтуль няма мэты, дык ці ёсць яно само, ці яго яшчэ няма?

Так сказаў Заратустра.

## Пра любоў да блізкага

«Вы туліцеся да блізкага і гаворыце прыгожыя словы. А я кажу вам: ваша любоў да блізкага — гэта толькі любоў да самога сябе.

Вы ўцякаеце да блізкага ад саміх сябе і хацелі б выдаць гэта за дабрачыннасць; а я наскрозь бачу вашу «самаадданасць».

«Ты» старэйшае за «Я»; «Ты» абвешчана свяшчэнным, але пакуль што не прызнана свяшчэнным «Я»: і вось — чалавек туліцца да блізкага.

Хіба ж заклікаю я вас любіць блізкага? Я лепей параю вам уцякаць ад блізкіх і любіць далёкіх!

Вышэй за любоў да блізкага стаіць любоў да далёкага і будучага; вышэй за любоў да чалавека — любоў да дзеяў і прывідных яваў.

Гэтая прывіднасць, што лунае над табой, браце мой, прыгажэйшая за цябе; чаму б табе не аддаць ёй сваё цела і кроў? Але ты баішся і ўцякаеш да блізкага.

Вы не трываеце сябе і недастаткова сябе любіце: і вось вы хочаце спакусіць блізкага свайго на любоў да вас і пазалаціць сябе ягонымі аблудамі.

Я хацеў бы, каб вы не трывалі ўсіх гэтых блізкіх і суддзяў іхніх; тады вы мусімеце стварыць з саміх сябе сябра з перапоўненым сэрцам.

Вы запрашаеце сведку, калі хочаце, каб вас пахвалілі; і калі вы пераканалі яго думаць пра вас добра, тады і самі пачынаеце думаць пра сябе добра.

Хлусіць не толькі той, хто гаворыць насуперак таму, што ён ведае, а найперш той, хто гаворыць насуперак свайму няведанню. Менавіта так вы стасункуецеся паміж сабою, уводзячы наконт сябе ў зман сваіх суседзяў.

Неразумны гаворыць пра сябе так: «Стасункі з людзьмі псуюць характар, асабліва калі яго няма».

Адзін ідзе да блізкага, бо шукае сябе, а другі — бо хоча страціць сябе. Ваша неразумная любоў да сябе ператварае вашу адзіноту ў турму.

Далёкія расплачваюцца за вашу любоў да блізкага; і кожны раз, калі вы збераецеся ўпяцёх, шосты павінен памерці.

Я не люблю вашых святаў: надта багата актораў сустракаю я там, і нават гледачы часта прыкідваюцца акторамі.

Не пра блізкага я вучу вас, а пра сябра. Хай будзе сябар вам святам зямлі і прадчуваннем Звышчалавека.

Я вучу вас пра сябра і поўніцу сэрца ягонага. Але трэба ўмець быць губкай, калі хочаш, каб цябе любілі ад поўніцы сэрца.

Я вучу вас пра сябра, пра шалю дабра, на якой свет стаіць, дасканалы і завершаны; я вучу вас пра стваральнага сябра, які заўсёды гатовы адарыць такім светам.

І як гэты свет разгортваецца перад ім, так, згортваючыся, зноў вяртаецца да яго, падобна да станаўлення дабра праз зло, падобна да станаўлення мэты праз выпадак.

Хай будзе табе будучае і далёкае прычынаю твайго сённяшняга: у сябру сваім любі Звышчалавека, як прычыну сваю любі.

Братове мае, любіць блізкага не запрашаю я вас, я заклікаю вас любіць далёкага».

Так сказаў Заратустра.

## Пра дарогу стваральніка

«Браце мой, ты хочаш асамотніцца? Хочаш шукаць дарогі да самога сябе? Пацярпі крыху і выслухай мяне.

«Хто шукае, той лёгка губляе сябе. Усякае асамотненне ёсць грэх» — так кажа статак. А ты доўга быў у статку.

І голас ягоны яшчэ доўга будзе гучаць у табе. І калі ты скажаш: «У мяне ўжо не *адно* сумленне з вамі», — гэта будзе скарга і боль.

Бачыш, гэты самы боль народжаны ў табе *адным* сумленнем: апошнім водбліскам гэтае сумленне яшчэ ўспыхвае на смутку тваім.

5. Зак. 530.

Але ты хочаш ісці дарогаю смутку, бо гэта дарога да цябе самога? Тады пакажы, што маеш на гэта і права, і новую сілу!

А ці ёсць ты новае права і новая сіла? Першы рух? Кола, якое круціцца само сабою? Ці можаш ты прымусіць зоркі абарочвацца вакол цябе?

О, як многа любацерпцаў за вышыню! І тых, каму яна курчамі славалюбства выходзіць! Пакажы мне, што ты не любацерпец і славалюбец!

О, як многа вялікіх ідэй, дзеянне якіх падобнае да кавальскіх мяхоў: ад іх чалавек надзімаецца і робіцца яшчэ пусцейшы.

Ты сябе лічыш свабодным? Я хачу пачуць тваю галоўную думку, а не тое, што ты ўцёк з-пад ярма.

Ці з тых ты, хто *меў права* скінуць ярмо? Ёсць і такія, што пазбыліся сваёй апошняй вартасці, адкінуўшы паслужлівасць.

Свабодны ад чаго? Што Заратустры да гэтага! Але позірк твой павінен сказаць мне: *дзеля* чаго ты свабодны?

Ці можаш ты стварыць сабе сам дабро і зло? І ўцвердзіць над сабою волю сваю як закон? І быць самому сабе помснікам і суддзёю закону свайго.

Страшна быць сам-насам з такім суддзёю і помснікам. Так кінута зорка ў пустую прастору і ў ледзяное дыханне адзіноты.

Сёння ты яшчэ пакутуеш ад людскога мноства, ты самотны; пакуль яшчэ з табою ўся твая мужнасць і ўсе твае надзеі.

Але прыйдзе час, і ты стомішся ад самотнасці, і сагнецца твая ганарыстасць, і заскрыгоча зубамі твая мужнасць, і ты крыкнеш: «Я адзінокі!»

Настане час, і не ўбачыш ты больш сваёй

вышыні, а ўсё тваё нізкае будзе блізка; узнёслае тваё будзе палохаць цябе, быццам прывід, і ты крыкнеш тады: «Усё — ашуканства!»

Есць пачуцці, якія могуць забіць самотніка; калі ж гэта ім не ўдаецца, яны павінны памерці самі! Але ці здолееш ты зрабіцца забойцам?

Браце мой, ці вядомае табе слова «пагарда». І пакуты справядлівасці — быць справядлівым з тымі, хто пагарджае табою?

Многіх ты прымушаеш мяняць думку пра цябе: за гэта яны жорстка адпомсцяць. Бо ты ж наблізіўся да іх і ўсё-такі прайшоў міма: гэтага яны табе ніколі не прапусцяць.

Ты ўздымаешся над імі; але чым вышэй падымаешся, тым меншым ты здаешся воку зайздрасці. А найбольш ненавідзяць таго, хто здольны лётаць.

«Як вы хочаце быць справядлівымі са мною? — павінен ты казаць. — Я выбіраю вашую несправядлівасць як вызначаную мне долю».

Несправядлівасць і бруд кідаюць услед самотнаму; але, браце мой, калі ты хочаш зрабіцца зоркай, ты ўсё адно павінен свяціць ім!

Сцеражыся добрых і праведных! Яны любяць крыжаваць кожнага, хто сам стварыў сабе цноту: яны ненавідзяць самотнага.

Пільнуйся таксама святой прастаты! Усё, што не проста, не святое ў яе; яна таксама любіць бавіцца з агнём — з агнём вогнішча.

Бойся прыпадкаў сваёй любові! Надта ж бо хутка падае самотнік руку першаму лепшаму.

Сяму-таму-іншаму ты павінен падаць не руку, а толькі даць лапу; і я хачу, каб у лапы тваёй былі пазуры.

Але самы небяспечны вораг, які табе можа заступіць дарогу, — гэта ты сам: ты сам цікуеш сябе ў пячорах і ў нетрах.

Самотны, ты ў дарозе да самога сябе! І на гэтай дарозе ты абмінаеш самога сябе і пройдзеш міма сямі сваіх засмуціцеляў!

Ты будзеш сам сабе ерэтыком, і чарадзеем, і вешчуном, і шаленцам, і скептыкам, і бязбожнікам, і ліхадзеем.

Ты мусіш спаліць сябе ў сваім полымі, як бы інакш ты хацеў абнавіцца, не абярнуўшыся спачатку ў попел!

Самотны, ты ідзеш дарогаю стваральніка: ты хочаш стварыць Бога з тых сямі змусціцеляў-засмуціцеляў!

Самотнік, ты ідзеш дарогаю любові: самога сябе ты любіш і таму пагарджаеш сабою, як пагарджаюць толькі тыя, што любяць.

Тварыць хоча хай, хто любіць, бо ён пагарджае! Што ведае пра любоў той, хто не пагарджаў тым, што любіў!

З любоўю ідзі ў асамотненне і з прагаю стварання, браце мой; і толькі потым пакульгае за табою справядлівасць.

З маімі слязьмі ідзі ў сваё асамотненне, браце мой. Я люблю таго, хто імкнецца тварыць звыш сябе і таму гіне...»

Так сказаў Заратустра.

## Пра старых і маладых жанчын

Чаго ты так баязліва крадзешся ўпоцемках, Заратустра? І што так старанна хаваеш пад палою?

Ці не скарб які, падараваны табе? Ці не дзіця, якое толькі што нарадзілася? А можа, ты спрыяцеліўся з ліхадзеямі і цяпер ходзіш дарогамі злодзеяў?»

«Сапраўды, браце мой, — адказваў Заратустра, — тое, што нясу я, гэта — скарб, падораны мне: адна маленькая праўда, вось што нясу я.

Аднак яна з норавам і капрызная, як дзіця; і калі б я не заціскаў ёй рот, яна крычала б бесперастанку.

Калі сёння, на захадзе сонца, ішоў я адзін сваёй дарогаю, сустрэлася мне старэнькая бабка, і як бы звярнулася да маёй душы:

«Пра многае сказаў Заратустра і нам, жанчынам, але нічога не сказаў *пра жанчыну*».

І я запярэчыў ёй: «Гаварыць пра жанчыну трэба толькі з мужчынамі».

«Пагавары пра жанчын і са мною, — папрасіла яна, — я ўжо даволі старая, так што адразу і забудуся».

І я ўмілажаліўся са старое і сказаў так: усё ў жанчыне — загадка, і на ўсё ёсць *адна* разгадка: гэта — цяжарнасць.

Мужчына ў жанчыны — сродак; мэта заўсёды — дзіця. А што такое жанчына ў мужчыны?

Дзвюх рэчаў хоча сапраўдны мужчына — небяспекі і гульні. І таму патрэбна яму жанчына, як самая небяспечная цацка.

Мужчына павінен быць выхаваны для вайны, а жанчына — для выхавання воіна; усё астатняе — лухта.

Занадта салодкіх пладоў не любіць воін. Таму і любіць ён жанчыну: горкая яму найсаладзейшая жанчына.

Жанчына разумее дзяцей лепш за мужчыну, але ў мужчыне дзіцячага больш, чым у жанчыне.

У сапраўдным мужчыне заўсёды схавана дзіця: яно хоча гульні. Знайдзіце ж у ім дзіця, жанчыны!

Хай будзе жанчына цацкаю, чыстай і далікат-

най, быццам каштоўны камень, які блішчыць цнотамі яшчэ не створанага свету.

Хай зорны прамень ззяе ў каханні яе! Хай будзе яе надзеяй: «О,калі б мне нарадзіць Звышчалавека!»

Хай адвага будзе ў каханні яе! Каханнем яна пераможа таго, хто ёй страшны.

Хай будзе гонар у каханні яе! Зрэшты, жанчына мала глуздуе ў гонары. Хай жа стане гонарам яе — кахаць заўсёды мацней, чым кахаюць яе, і ў каханні ніколі не быць другою.

Мужчына хай асцерагаецца жанчыны, калі яна кахае: яна ідзе на любыя ахвяры, усё астатняе ў яе не мае вартасці.

Мужчына хай асцерагаецца жанчыны, калі яна ненавідзіць: бо мужчына ў глыбіні душы толькі злы, а жанчына — пахібная.

Каго ненавідзіць жанчына найбольш? — Так гаварыла жалеза магніту: «Найбольш за ўсё я цябе ненавіджу за тое, што ты цягнеш, не маючы даволі сілы, каб прыцягнуць».

Шчасце мужчыны завуць «Я хачу». Шчасце жанчыны — «Ён хоча».

«Бач, толькі цяпер свет удасканаліўся» — так думае кожная жанчына, калі ўпакорваецца з поўніцы свайго кахання.

Упакорвацца павінна жанчына і здабыць глыбіню для сваёй паверхні. Бо паверхня яе — неспакойнае, бурлівае шумавінне на плыткай вадзе.

Наадварот, мужчына глыбокі, яго бурлівы паток бушуе ў падземных пячорах: жанчына толькі ледзь-ледзь адчувае, але не спасцігае яго сілы». І тут запярэчыла мне жанчына: «Шмат вабнага сказаў нам Заратустра, асабліва занадта маладым.

Дзіўна, Заратустра мала ведае жанчын, аднак мае рацыю, што да іх! Ці не таму гэта, што ў жанчыны няма нічога немагчымага?

А цяпер прымі як падзяку адну маленькую праўду! Я ўжо залішне старая на яе!

Угарні яе і затулі ёй рот, а то яна крычыць занадта голасна, гэтая малая праўдка».

«Давай мне, жанчына, тваю маленькую праўду!» — сказаў я.

І сказала старая жанчына:

«Ідзеш да жанчыны? Не забудзь плётку!»

Так сказаў Заратустра.

## Пра ўкус змяі

Аднаго разу ў спякотны дзень заснуў Заратустра пад смакоўніцаю і прыкрыў рукамі свой твар. І вось — падпаўзла змяя і ўкусіла яго ў шыю так, што ён крыкнуў ад болю. Прыняўшы рукі з твару, ён убачыў гадзюку; а тая пазнала Заратустравы вочы, сумелася і ўжо хацела была адпаўзці.

«О не, — сказаў Заратустра, — яшчэ не адзячыўся я! Ты ў час разбудзіла мяне, яшчэ далёкая ў мяне дарога».

«Твая дарога ўжо недалёкая, — журботна адказала гадзюка, — мой яд забівае».

Заратустра ўсміхнуўся. «Калі гэта паміраў дракон ад змяінага яду? — запярэчыў ён. — Вазьмі ж свой яд назад! Ты не такая багатая, каб дарыць яго мне». Тады гадзюка абвілася вакол яго шыі і злізала з раны яго.

Калі Заратустра расказаў пра гэта сваім вучням, яны спыталіся ў яго: «У чым жа, Заратустра, мараль тваёй прыпавесці?» І ён адказаў так:

«Разбуральнікам маралі называюць мяне добрыя і праведныя: мараль прыпавесці амаральная.

Менавіта ж: калі ёсць у вас вораг, не плаціце яму за зло дабром, бо гэта пасароміць яго. Наадварот, пераканайце яго, што ён зрабіў вам дабро.

Лепей разгневацца, чым пасароміць! І мне не падабаецца, што вы гатовыя дабраслаўляць, калі вас праклінаюць. Лепей таксама крыху праклясці!

І калі спасцігла вас вялікая несправядлівасць, адразу адкажыце на яе пяццю малымі! Агідна глядзець на таго, каго несправядлівасць гняце толькі аднаго.

Ці вядома вам гэта? Падзеленая несправядлівасць — гэта ўжо напалову справядлівасць. І толькі той павінен браць на сябе несправядлівасць, каму па сіле несці яе!

Маленькая помста больш чалавечная за ніякую. І калі кара не ёсць гонар і права злачынцы, дык навошта мне вашыя кары.

Больш высакародна прызнаць сябе несправядлівым, чым чапляцца за права сваё, асабліва калі твая праўда. Але на гэта трэба быць удосталь багатым.

Я не трываю вашай халоднай справядлівасці, і з вачэй суддзі вашага глядзіць кат з халодным мечам.

Скажыце, дзе знайсці тую справядлівасць, якая ёсць любоў з відушчымі вачыма?

Дык прыдумайце ж мне такую любоў, якая панясе не толькі любую кару, але і любую віну!

Прыдумайце такую справядлівасць, якая апраўдвае ўсіх, акрамя тых, што судзяць!

Хочаце пачуць яшчэ і гэта? У таго, хто хоча быць справядлівым да канца, нават хлусня ператвараецца ў чалавекалюбнасць.

Як жа зрабіцца справядлівым да канца? Як аддаць кожнаму сваё! Мне будзе даволі, калі я аддам кожнаму маё.

І нарэшце, братове мае: сцеражыцеся ўнесправядлівіцца да пустэльніка! Як пустэльнік можа забыць? Чым адплаціць!

Пустэльнік падобны да глыбокага калодзежа. Лёгка кінуць камень у яго; але пойдзе ён на дно — і скажыце, хто з вас захоча дастаць яго зноў?

Сцеражыцеся скрыўдзіць пустэльніка. Але калі вы ўсё ж зрабілі гэта, тады яшчэ і забіце яго!»

Так сказаў Заратустра.

## Пра дзіця і шлюб

Есць у мяне адно пытанне да цябе — і толькі да цябе, браце мой; як марскі лот, кідаю яго ў тваю душу, каб даведацца, наколькі яна глыбокая.

Ты малады і марыш пра дзіця і шлюб. І я пытаюся ў цябе: ці той ты чалавек, каб *мець права* жадаць дзіцяці?

Ці пераможца ты, ці адолеў самога сябе, ці кіруеш сваімі пачуццямі, ці гаспадар сваіх цнотаў? Пра гэта пытаюся я ў цябе.

Ці, можа, у жаданні тваім гаворыць жывёла і патрэба тваёй прыроды? Альбо адзінота? Альбо незадаволенасць сабою?

Я хачу, каб твае перамога і свабода прагнулі дзіцяці. Жывыя помнікі павінен ты ставіць перамозе і вызваленню.

Ты павінен будаваць вышэй і далей за

6. Зак. 530.

сябе. Але перш збудуй самога сябе, суразмерна з душою і целам.

Расці ж не толькі ўшыркі, але і ўгору. Сад сужэнства хай дапаможа табе ў гэтым!

Ты павінен стварыць вышэйшае цела, першы рух, кола, якое круціцца самое: ты павінен стварыць творцу.

Шлюб: я так называю волю дваіх стварыць адзінае, большае за тых, што стварылі яго. Шлюб — гэта ўзаемная павага і шанаванне гэтай волі.

Хай гэта будзе сэнсам і праўдай твайго шлюбу. Але тое, што лічыцца шлюбам у процьмы людзей, ва ўсіх гэтых лішніх, — як гэта назваць?

О, гэтая ўбогасць душы на дваіх! О, гэты бруд душы на дваіх! Гэта нікчэмная асалода — быць удваіх!

Усё гэта называюць яны шлюбам і кажуць, што саюзы іх змацаваныя на нябёсах.

Тады не трэба мне такога неба лішніх людзей! Не, не трэба мне гэтых аблытаных нябеснаю сеткаю жывёл!

Хай не наблізіцца да мяне гэты Бог, які, крэкчучы, дабраслаўляе тое, чаго не злучаў!

Але не смейцеся з такіх шлюбаў! Якое дзіця не мае прычыны паплакаць па бацьках сваіх!

Годнасным здаваўся мне чалавек, сталым для сэнсу зямлі; але як убачыў ягоную жонку, свет здаўся мне домам вар'ятаў.

Так, я хацеў, каб зямля дрыжала ў курчах, калі паруюцца святы і гусь.

Адзін выйшаў шукаць праўды як герой, а здабыў у рукі маленькую разубраную хлусню. І называе гэта сваім шлюбам.

Другі быў амаль недаступны і выбіраў пры-

дзірліва. Але раз і назаўсёды сапсаваў сваё таварыства — і называе гэта сваім шлюбам.

А той шукаў служанку з цнотамі анёла. І вось — сам зрабіўся служанкаю ў жанчыны, і цяпер яму самому трэба стаць анёлам.

Часта я заўважаю, якія асцярожныя пакупнікі і якія хітрыя ў іх вочы. Але нават самы хітры з іх бярэ сабе жонку не гледзячы.

Каханнем называецца ў вас мноства пустых шаленстваў. А шлюб ваш як *адна* вялікая дурасць кладзе крэс гэтым пустым шаленствам.

Ваша каханне да жанчыны і каханне жанчыны да мужчыны — о, калі б было яно спагадаю да схаваных, пакутных божышчаў! Але часцей за ўсё толькі дзве жывёліны адгадваюць адна адну.

Нават найлепшае каханне ваша — толькі падабенства кахання і хваравіты запал; тым часам яно павінна быць паходняй, якая асвятляе дарогу ў вышыню.

Прыйдзе час, калі вам трэба будзе любіць звыш сябе! Дык *навучыцеся* ж спачатку кахаць! І таму давядзецца вам выпіць горкі келіх кахання.

Нават у келіху вышэйшай любові ёсць горыч; так нараджае яна імкненне да Звышчалавека, абуджаючы прагу тваю, творца!

Прага творчасці, страла, якая ляціць да Звышчалавека: скажы, браце мой, ці такая воля твая, што імкнецца да шлюбу?

Святыя для мяне такая воля і такі шлюб.

Так сказаў Заратустра.

## Пра свабодную смерць

Многія паміраюць занадта позна, а некаторыя — занадта рана. Пакуль яшчэ здаецца дзіўнай запаведзь: «Памры ў свой час».

Памры ў свой час: так вучыць Заратустра.

Канечне, як можа чалавек памерці ў свой час, калі ён жыў не ў свой? Лепей было б яму не радзіцца! — Так раю я ўсім лішнім.

Але і лепшыя ганарацца сваёй смерцю, і нават самы пусты арэх хоча, каб яго раскалолі.

Усе ставяцца да смерці сур'ёзна; але пакуль што яна святам не стала. Людзі яшчэ не навучыліся шанаваць светлыя святы.

Я вам паказваю смерць, у якой здабываецца поўнасць і закончанасць, — смерць, якая зробіцца ўсім жывым — джалам і святым зарокам.

Сваёю смерцю памірае той, хто прайшоў дарогу сваю, памірае пераможна сярод тых, хто поўны спадзяванняў і даў свой святы зарок.

Так паміраць трэба навучыцца; хай не будзе свята там, дзе той, хто памірае, не асвяціў прысягі тых, што застаюцца жыць!

Такая смерць — самая лепшая; а яшчэ лепшаю будзе — памерці ў змаганні і растраціць вялікую душу.

Але і змагарнік і пераможнік аднолькава ненавідзяць вашую смерць: ашчэрыўшы зубы, яна скрадваецца, як злодзей, а прыходзіць да вас як валадарка.

Сапраўды свабодную смерць я хвалю, тую смерць, што прыходзіць да мяне, бо *я* хачу яе.

Калі ж памкнецца да смерці воля мая? — У каго ёсць мэта і пераемнік, той захоча смерці ў свой час, калі гэта зручна мэце і пераемніку.

З глыбокага шанавання мэты і пераемніка не павесіць ён сухіх вянкоў у святыні жыцця.

Сапраўды, я не хачу быць падобным да таго, хто сукае вяроўку: вяроўка даўжэе, а сам ён адступае назад.

Некаторыя робяцца надта старымі, каб перамагаць і знаходзіць ісціны; бяззубы рот ужо не мае права на ісціну.

Кожны спрагнены славы павінен загадзя развітацца з пашанаю і засвоіць цяжкае майстэрства: у свой час — сысці.

Не давайся, каб цябе елі тады, калі ты найбольш смачны; гэта ведаюць тыя, хто хоча, каб іх доўга любілі.

Бываюць, вядома, кіслыя яблыкі: іх доля — чакаць апошняга дня восені, і тады робяцца яны адначасова спелымі, жоўтымі і маршчыністымі.

У адных раней старэе сэрца, у другога — розум. Адны бываюць старымі ў маладосці, а хто позна малады, доўга застаецца такі.

Некаторым не ўдаецца жыццё: атрутлівы чарвяк точыць ім сэрца. Хай прыкладуць яны ўсю сілу сваю, каб смерць ім болей удалася.

Есць і такія, што ніколі не робяцца салодкімі: яны пачынаюць гнісці ўжо з лета. Толькі маладушнасць трымае іх на галіне.

Надта многа жывых, і залішне доўга трымаюцца яны на сваіх галінах. Няхай жа наляціць бура і страсе з дрэва ўсю гэтую гнілізну і чарвівасць!

Хай явяцца прапаведнікі *хуткай* смерці і, як тая бура, страсянуць дрэвы жыцця! Але я чую толькі пропаведзь павольнага паміранння і цярплівасці да ўсяго «зямнога».

Вы прапаведуеце цярплівасць да ўсяго зямно-

га? Але гэта зямное і так занадта доўга трывае вас саміх, паклёпнікі!

Сапраўды, надта рана памёр той яўрэй, якога шануюць прапаведнікі павольнай смерці, і многім з таго часу зрабілася наканаваннем тое, што ён памёр так рана.

Толькі слёзную яўрэйскую скруху паспеў зведаць яўрэй Ісус, разам з нянавісцю добрых і праведных, і тады абняла яго прага смерці.

Чаму ён не застаўся ў пустыні, далёка ад добрых і праведных! Магчыма, ён навучыўся б жыць, і любіць зямлю, і нават смяяцца!

Верце мне, братове мае! Зарана памёр, ён і сам адмовіўся б ад вучэння свайго, дажыўшы да маіх гадоў! У ім было дастаткова высакароднасці, каб адмовіцца!

Але ён быў яшчэ няспелы. Няспелая любоў у хлопца, і няспелая нянавісць яго да зямлі і чалавека. Яшчэ звязаныя і цяжкія ў яго адчуванні і крылы духу.

Сталы мужчына больш дзіця, чым хлопец, і меней скрухі ў ім: лепш разумее ён смерць і жыццё.

Свабодны на смерць і свабодны ў смерці, ён вымаўляе свяшчэннае «Не», калі ўжо няма калі сказаць «Але»: так разумее ён смерць і жыццё.

Хай не будзе паміранне ваша наганаю чалавеку і зямлі, сяброве мае: з такою просьбаю звяртаюся я да лёду вашай душы.

Нават у смерці павінны палаць ваш дух і цнота, як вечная зара над зямлёю; інакш смерць ваша дрэнна вам удалася.

Так хачу памерці і я: каб вы, сяброве мае, дзеля мяне яшчэ болей любілі зямлю; я хачу зноў абярнуцца ў зямлю — знайсці спакой у той, што нарадзіла мяне.

Сапраўды, была мэта ў Заратустры, у яе шпурляў ён меч свой; ад сёння вы, сяброве, будзеце пераемнікамі мэты маёй, вам я кідаю залаты мяч.

Найпрыемней мне глядзець на вас, сяброве мае, калі падкідаеце вы яго! Вось чаму я затрымаюся яшчэ на зямлі: даруйце мне за гэта!

Так сказаў Заратустра.

## Пра цноту, якая адорвае

### 1

Калі Заратустра развітаўся з горадам, які палюбіла яго сэрца і які называўся Пярэстая Карова, следам за ім пайшлі многія, што называлі сябе ягонымі вучнямі, і праводзілі яго. Так дайшлі яны да ростані; тут Заратустра сказаў ім, што далей пойдзе сам, бо любіць хадзіць самотна. А яго вучні падалі яму пры развітанні кія, а на залатой булавешцы яго змяя абвівалася вакол сонца. Заратустра парадаваўся з кія і абаперся на яго; а потым сказаў да вучняў:

«А скажыце мне: як зрабілася золата найвышэйшай каштоўнасцю? — А таму зрабілася, што яно рэдкае, і няма ў ім патрэбы, і пяшчотны бляск у яго; яно заўсёды дорыць самое сябе.

Толькі як адлюстраванне найвышэйшай цноты золата пачало лічыцца найвышэйшай каштоўнасцю. Золатам свецяцца вочы ў таго, хто дорыць. Залаты бляск азначае мір паміж сонцам і месяцам.

Найвышэйшая цнота рэдкая і бескарысная, яна ззяе і пяшчотная ў сваім ззянні; цнота, якая дорыць, — найвышэйшая цнота.

Папраўдзе, я вас разгадаў, вучні мае: вы, як і я, парываецеся да цноты, якая дорыць. Сапраўды, што ў вас супольнага з ка́тамі і ваўкамі?

Вашая прага ў тым, каб самім стаць і дарункам, і ахвяраю: таму і прагнеце вы прыняць у душу ўсе скарбы.

Ненаедна імкнецца ваша душа да багаццяў і каштоўнасцяў, бо і вашая цнота ненаедная ў сваім жаданні дарыць.

Вы прыцягваеце ўсе рэчы да сябе і ў сябе, каб яны выліваліся з вашай крыніцы дарункамі вашай любові.

Сапраўды, рабаўніком усіх каштоўнасцяў павінна зрабіцца любоў, якая дорыць; але здаровую і святою я называю гэтую сябелюбнасць.

Есць яшчэ і другая сябелюбнасць, якая нічога не мае, галодная, заўсёды гатовая ўкрасці; такая сябелюбнасць у хворых, хворая сябелюбнасць.

Вачыма злодзея глядзіць яна на ўсё бліскучае; з галоднай прагавітасцю прымерваецца яна да таго, хто многа есць; заўсёды лісліва плазуе яна каля стала тых, якія дораць.

Хвароба і нябачная звыраднеласць праглядваюцца ў гэтай прагавітасці; пра кволае цела сведчыць зладзюжніцкая прагнасць гэтай сябелюбнасці.

Скажыце мне, братове мае: што лічыцца ў нас кепскім і найгоршым? Ці ж не звыраднеласць? — А якраз жа яе мы маем там, дзе няма душы, каб дарыла.

Угору вядзе наша дарога, ад роду да вышэйшага роду. Але нас жахае пачуццё, калі яно звырадняецца і кажа: «Усё — дзеля мяне».

Наша пачуццё ляціць угору: яно сімвал наша-

га цела, сімвал узвышэння. Сімвалы такіх узвышэнняў — гэта імёны цнотаў.

Так праходзіць цела праз Гісторыю — у станаўленні і змаганні. А дух — што ён для цела? Ен — вяшчун ягоных бітваў і перамог, таварыш і водгалас яго.

Усе назовы дабра і зла — сімвалы: яны не гавораць, а толькі намякаюць. Дурань, хто шукае ведання ў назовах.

Зважайце ж, братове мае, на тую часіну, калі ваш дух захоча загаварыць сімваламі: бо там выток вашай цноты.

Тады ваша цела ўзвышаецца і ўваскрасае; сваёй мілатою яно адчыняе ваш дух, і ён робіцца творцам і ацэннікам, і нясе любоў і дабро ўсім рэчам.

Калі ваша перапоўненае сэрца хвалюецца і разліваецца, нібы паток, гэта — дабро і небяспека тым, што жывуць на беразе: там выток вашай цноты.

Калі вы ўзвысіліся над пахвалой і дакорам і ваша воля хоча загадваць усім рэчам як воля таго, хто любіць, — там выток вашай цноты.

Калі вы грэбуеце мяккім ложкам і ўсім прыемным, але лёгка засынаеце нават побач з раскошнымі пасцелямі распешчаных — там выток вашай цноты.

Калі вы пачынаеце жадаць *адной* воляй і гэты паварот ад усяго, што вас турбуе, называеце неабходнасцю — там выток вашай цноты.

Сапраўды, яна — новае дабро і новае ліха! Сапраўды, голас новай крыніцы з глыбіні!

У ёй магутнасць, у гэтай новай цноце; яна — пануючая думка, а вакол яе — мудрая душа: залатое сонца, а вакол яго — змей пазнання».

## 2

Тут Заратустра прымоўк на хвіліну і любоўна зірнуў на вучняў. Пасля казаў далей, і ў голасе перамяніўся:

«Заставайцеся верныя зямлі, братове мае, з усёй уладаю вашае цноты! Ваша любоў, якая дорыць, і ваша пазнанне, хай паслужацца яны сэнсу зямлі! Так прашу я і заклінаю вас.

Не дазваляйце цноце вашай адляцець ад зямнога і біцца крыламі аб вечныя сцены! О, як шмат цноты адляцела заўчасна!

Вярніце — як зрабіў гэта я, — вярніце адляцелую цноту назад, на зямлю, зноў да цела і жыцця: хай аддае яна зямлі свой сэнс, сэнс чалавечы!

Сотні разоў ляцелі ўпрочкі і збіваліся з тропу дух і цнота. І дагэтуль жывуць у нашым целе ўсе гэтыя мроі і аблуды: яны сталіся нашай воляй і плоццю.

Сотні разоў маніліся вырвацца і памыляліся дух і цнота. Праўда, якраз чалавек і быў іх спробаю вырвацца! О, колькі невуцтва і аблудаў сталася ў нас плоццю!

Не толькі розум тысячагоддзяў, але і іхняя неразумнасць выяўляюцца ў нас. Небяспечна быць спадчынай.

Ідучы крок за крокам, мы змагаемся з волатам-выпадкам, і над чалавецтвам да сённяга яшчэ навісае неразумнасць і бязглуздасць.

Хай паслужацца вашыя дух і цнота зямлі, братове мае: хай будзе каштоўнасць усіх рэчаў зноў устаноўлена вамі! Дзеля гэтага павінны вы змагацца. Дзеля гэтага — ствараць!

Спазнаючы — ачышчаецца цела; набываючы вопыт ведання, узвышаецца яно; у спазнаўца

ачышчаюцца ўсе яго памкненні; душа радуецца ў таго, хто ўзвысіўся.

Лекар, ацалі сябе сам, тады вылечыш ты і свайго хворага. Найлепшым ацаленнем яму будзе, калі ён на свае вочы ўгледзіць таго, хто сам сябе ацаліў.

Есць тысячы сцежак, якімі ніхто яшчэ не хадзіў, і тысячы здароўяў і схаваных выспаў жыцця. Яшчэ не адкрытыя і не даследаваныя чалавек і яго зямля.

Чувайце і слухайце, самотнікі! Таямнічыя вятры веюць на крылах будучыні; і да чуйнага вуха далятае добрая вестка.

Вы, сённяшнія самотнікі, вы, што адлюдніліся, вы яшчэ станеце народам: ад вас, што выбралі самі сябе, павінен пайсці народ выбраны, і ад яго — Звышчалавек.

Сапраўды, зямля яшчэ будзе мясцінай ацалення! І ўжо веюць вакол вас новыя пахошчы, якія нясуць ацаленне — і новую надзею!»

3

Сказаўшы гэта, Заратустра змоўк, як чалавек, які яшчэ не сказаў апошняга слова; доўга нерашуча пакручваў ён сваім кіем. Нарэшце сказаў, і голас ягоны перамяніўся:

«Адзін пайду я цяпер, вучні мае! Ідзіце і вы, і таксама адныя! Так хачу я.

Сапраўды, я вас заклікаю: ідзіце ад мяне і супраціўляйцеся Заратустру! А яшчэ лепей — саромейцеся яго! Бо, можа, ён ашукваў вас.

Чалавек пазнання павінен не толькі любіць ворагаў сваіх, але і ўмець ненавідзець сяброў.

Благая аддзяка настаўніку, калі вучні ягоныя

так і застаюцца вучнямі. І чаму вы не хочаце абскубці вянок мой?

Вы шануеце мяне; што, калі раптам зруйнуецца вашая шаноўля? Пільнуйцеся, каб слуп з ідалам не забіў вас!

Вы кажаце, што верыце ў Заратустру? Але што ў тым Заратустры? Вы вернікі мае — але што з тых усіх вернікаў?

Вы яшчэ не шукалі сябе — а ўжо здабылі мяне. Так бывае з усімі вернікамі; і таму так мала значыць любая вера.

Цяпер я заклікаю вас пакінуць мяне і знайсці сябе; і толькі тады, калі вы адкінеце мяне, я вярнуся да вас.

Сапраўды, братове мае, іначай шукацьмуць вас, страчаных мною, мае вочы; іншай любоўю тады любіцьму я вас.

І ў свой час вы павінны будзеце стацца сябрамі маімі і дзецьмі *адной* надзеі; тады буду я з вамі трэці раз, каб адсвяткаваць Вялікі Полудзень з вамі.

Вялікі Полудзень — гэта калі чалавек на паўдарозе ад жывёлы да Звышчалавека святкуе пачатак свайго вечара як сваю найвышэйшую надзею; бо гэта ёсць дарога да новай раніцы.

І тады дабраслові сябе той, хто гіне, хто ідзе дарогай заходу, бо так пераходзіць ён да таго, што па той бок; і сонца яго пазнання будзе ў зеніце.

*«Памерлі ўсе багі; сёння мы хочам, каб жыў Звышчалавек»*, — хай гэта будзе ў Вялікі Полудзень наша апошняя воля!..»

Так сказаў Заратустра.

*«...і толькі тады, калі вы адкінеце мяне, я вярнуся да вас. Сапраўды, братове мае, іначай шукацьмуць вас, страчаных мною, мае вочы; іншай любоўю тады любіцьму я вас».*

Заратустра.
Пра цноту, якая адорвае



## Дзіця з люстэркам

Пасля гэтага Заратустра зноў адышоў у горы, у самотнасць пячоры сваёй, у адлюдненасць: так чакае сейбіт, пасеяўшы сваё насенне. А яго душа была ўся ў нецярплівасці і палкай тузе па тых, каго ён палюбіў, бо шмат чаго яшчэ было ў яго, каб даць ім. А гэта цяжэй за ўсё: з любові паціскаць адкрытую руку і, адараючы, захоўваць сарамлівасць.

Так праходзілі ў самотніка месяцы і гады; а мудрасць яго ўсё расла і прыносіла яму пакуты ад сваёй поўніцы.

Аднойчы ён прачнуўся на досвітку, доўга нешта ўспамінаў, седзячы на ложку, і нарэшце так сказаў свайму сэрцу:

«Што ж так напалохала мяне ў сне, што я аж прачнуўся? Ці не падышло да мяне дзіця з люстэркам?

«Заратустра, — сказала дзіця мне, — зірні на сябе ў люстэрку!»

Але паглядзеўшы ў люстэрка, я ўскрыкнуў, і сэрца маё скаланулася: не сябе я пабачыў у ім, а д'ябальскую морду і з'едлівы смех.

Сапраўды, я ясна разумею азнаку майго сну і

перасцярогу: маё *вучэнне* ў небяспецы, жыціца хоча звацца жытам!

Мае ворагі ўмацаваліся і знявечылі вобраз майго вучэння, так што мае любасныя вучні пасаромеліся дарункаў, якія ім даў я.

Я страціў сяброў сваіх; настала часіна шукаць, каго я страціў».

З гэтымі словамі Заратустра ўскочыў, але не так, як, задыхаючыся, ускокваюць у страху, а як прарок і спявак, калі ён ахоплены натхненнем. Са здзіўленнем глядзелі на яго арол і змяя, бо, як ранішняя зара, на яго твары заззяла будучае шчасце.

«Што са мной сталася, звяры мае? — сказаў Заратустра. — Ці не пераменіўся я? Ці не наведала мяне, як подых буры, шчасце?

Неразумнае шчасце маё, і неразумнае ўсё, што пачне выказваць яно: занадта яшчэ маладое маё шчасце — будзьце ж паблажлівыя да яго.

Я паранены сваім шчасцем: усе пакутнікі няхай стануць маімі гаіцелямі!

Зноў я змагу сысці да сваіх сяброў, а таксама і да ворагаў! Заратустра зноў будзе гаварыць, і дарыць, і тварыць любоў любасным!

Мая нецярплівая любоў патокамі выліваецца з вышыняў у даліну, да ўзыходжання і падзення. З маўклівых гор і з навальнічных хмар болю бурліва ападае яна ўніз, у даліны.

Занадта доўга сумаваў я, гледзячы ўдалечыню. Занадта доўга належаў адлюдненасці: так я развучыўся маўчаць.

Я ўвесь зрабіўся вуснамі і цурчаннем ручая, які бяжыць з высокіх скал: у даліну хачу я скінуць казань сваю.

І хай паток маёй любові спадае ў бездараж! Бо як жа патоку не знайсці дарогі да мора!

Праўда, ёсць ува мне возера, пустэльнае і самадастатковае; але паток маёй любові і яго парывае ўніз — да мора!

Новымі дарогамі іду я, новыя казані нараджаюцца ўва мне; як і кожны, хто стварае, стаміўся я ад старых слоў. Не хоча мой дух больш хадзіць на стаптаных падэшвах.

Занадта павольна цячэ для мяне любая казань: на тваю калясніцу ўскокваю я, о бура! Але і цябе яшчэ буду бічаваць маёй лютасцю!

Нібы крык і вокліч радасці, прамчуся я па марскіх прасторах, пакуль не знайду тых шчасных выспаў, дзе жывуць мае сябры!..

І ворагі мае сярод іх! Як я люблю цяпер кожнага, з кім магу гутарыць! І ворагаў маіх — іх таксама прымае шчаснасць мая.

І калі я ўскокваю на самага наравістага свайго каня, мой найлепшы памочнік дзіда: яна — самая надзейная служка мая.

Дзіда, якую я кідаю ў сваіх ворагаў! Як я ім удзячны, што магу нарэшце кінуць дзіду!

Вялікае было напружанне маёй хмары: пад грамовы рогат маланак я асыплю градам даліны.

Магутна захвалююцца мае грудзі, грознай бураю праляціць па гарах іх подых: так прыйдзе палёгка сэрцу.

Сапраўды, як бура, ідзе маё шчасце і свабода! А ворагі няхай думаюць, што нехта *ліхі* лютуе над іх галовамі.

І нават вы, сяброве мае, збаіцеся маёй неацуглянай мудрасці; і, магчыма, уцечаце з маімі ворагамі.

О, калі б я мог пастушынай жалейкаю адклікаць вас назад! О, калі б мая мудрасць-ільвіца навучылася рыкаць пяшчотна! А мы ж разам ужо шмат чаго навучыліся!

У бязлюдных гарах зачала мая дзікая мудрасць; на жорсткіх камянях нарадзіла яна сваё самае малое дзіця.

Цяпер, як шалёная, носіцца яна па пустыні і ўсё шукае мяккага дзёрну — мая старая дзікая мудрасць!

На мяккае дзярно вашых сэрцаў, сяброве мае! — на любоў вашых сэрцаў яна прагне пакласці сваё любаснае дзіця!»

Так сказаў Заратустра.

## На шчасных выспах

Смоквы падаюць з дрэў сакавітыя і салодкія; і пакуль яны падаюць, лопаецца іх чырвоная скурка.

Паўночны вецер я спелым смоквам.

Дык вось, як і смоквы, дастаюцца нам гэтыя павучанні, сяброве мае: дык піце з іх сок і ежце іх салодкую плоць! Восень навокал, і яснае неба, і дзень на ўшчэрбе.

Паглядзіце, якая багаціна вакол нас! І як хораша глядзець з гэтага багацця ў далячыні марскія!

Калісьці казалі «Бог», гледзячы ў марскую далеч; а сёння я вучу вас казаць «Звышчалавек».

Бог — гэта нейкая здагадка; але я не хачу, каб ваша здагадка сягала далей за вашу творчую волю.

Ці маглі б вы *стварыць* Бога? — Дык памаўчыце мне лепей пра ўсіх багоў! А Звышчалавека стварыць вы маглі б.

Можа, нават не вы самыя, братове мае! Але

перарабіць сябе ў бацькоў і продкаў Звышчалавека можаце, — гэта быў бы ваш самы лепшы твор!..

Бог — гэта здагадка; але я хачу, каб ваша меранне было ў граніцах памыснага.

Маглі б вы *змысліць* Бога? — Але воля да ісціны азначала б вам, што ўсё павінна пераўтварыцца ў па-чалавечы памыснае, па-чалавечы бачнае і па-чалавечы адчувальнае! Вашы ўласныя пачуцці павінны вы прадумаць да канца!

І тое, што называеце вы светам, павінна быць спачатку створана вамі: ваш розум, ваша ўяўленне, ваша воля, ваша любоў павінны зрабіцца светам! І сапраўды, для вашай шчаснасці, о спазнаўцы!

І як бы вы пераносілі жыццё без гэтай надзеі, вы, спазнаўцы? Нельга вам зрадніцца ні з неспасцігальным, ні з неразумным.

Але адкрыю вам цалкам сваё сэрца, сяброве мае: *калі б* багі існавалі, як бы я вытрываў, што я не Бог! *Значыцца,* ніякіх багоў няма.

Вось такую выснову зрабіў я; і цяпер яна мяне вабіць...

Бог — гэта здагадка; але хто выпіў бы ўсю пакуту гэтай здагадкі і не памёр бы? Няўжо трэба адабраць веру ў таго, хто творыць яе, забараніць арлу лунаць у арліных вышынях?

Бог — гэта думка, якая ўсё простае робіць крывым і ўсё, што стаіць — каб круцілася. Як? Значыцца, і сам час адкінуць, і ўсё, што мінушчае, лічыць маною?

Думаць такое — гэта віхура і крутня касцей чалавечых і ваніты страўніка: сапраўды хваробай крутні я называю такія загадкі.

Пахібным і варожым чалавеку я называю гэта вучэнне пра адзінае, і цэльнае, і нерухомае, і сытае, і нязбытнае!

Усё нязбытнае — гэта толькі сімвал! А паэты занадта многа ілгуць...

А пра час і станаўленне павінны гаварыць самыя высокія сімвалы: яны павінны хваліць усё збытнае і быць апраўданнем яму!

Стварэнне — гэта найбольшае збавенне ад цярпенняў і палёгка жыцця. Але каб явіўся стваральнік, патрэбныя цярпенні, і многае ў жыцці павінна перамяніцца.

Так, шмат горычы памірання павінна быць у вашым жыцці, стваральнікі! Так рабіцеся заступнікамі збытнага і нясіце апраўданне яму.

Каб сам стваральнік зрабіўся дзіцём, якое толькі што нарадзілася, яму трэба зрабіцца парадзіхай і перацерпець пакуты яе.

Праўду кажу вам, праз сотні душ прайшоў я дарогай сваёй, праз сотні калысак і радзільных патугаў. Колькі разоў расставаўся я і ведаю апошнія гадзіны родавых енкаў.

Але так ужо хоча мая стваральная воля, мой лёс. Альбо, слушней будзе сказаць, менавіта такога лёсу хоча мая воля!

Усё адчувальнае ўва мне пакутуе, яно ўвязнена ў цямніцу; але маё жаданне пастаянна прыходзіць да мяне як вызваліцель і вяшчун радасці.

Жаданне вызваляе: вось сапраўднае вучэнне пра волю і свабоду — так вучыць вас Заратустра.

Больш-не-хацець, больш-не-ацэньваць, больш-не-ствараць! — о, калі б гэтая вялікая стома была заўсёды далей ад мяне!

Нават спазнаючы, я адчуваю толькі радасць волі маёй, радасць зачацця і станаўлення; і калі спазнанне маё нявіннае, дык таму, што жыве ў ім воля да зачацця.

Прэч ад Бога і ад усіх багоў вабіла мяне

гэтая воля; навошта было б ствараць, калі б яны існавалі!

Але зноў і зноў мяне цягне да людзей, да творчасці — мая палымяная творчая воля; так цягне молат да каменя.

О людзі, у камені дрэмле мне вобраз, вобраз маіх вобразаў! О, чаму ў самым грубым і неачасаным камені наканавана яму спаць!

Цяпер жа мой молат шалёна руйнуе ягоную вязніцу. Ад каменя ляцяць асколкі: што мне да таго?

Я хачу закончыць пачатае, бо цень падышоў да мяне — самы ціхі, самы лёгкі цень аднаго разу падышоў да мяне!

Ценем прыйшла да мяне прыгажосць Звышчалавека. О братове мае! Што мне цяпер багі!»

Так сказаў Заратустра.

## Пра міласэрных

Сяброве мае, пакеплівыя словы дайшлі да вашага сябра: «Падзівіцеся на Заратустру! Ці ж не ходзіць ён сярод нас, бы сярод звяроў?»

Але лепей сказаць так: «Той, хто спазнае, ходзіць сярод людзей, *як* сярод звяроў».

А сябе чалавек называе таму, хто спазнае: звер з чырвонымі шчокамі.

Як такое сталася ў яго? Ці не таму, што яму даводзіцца часта саромецца?

О, сяброве мае! Так гаворыць той, хто спазнае: «Сорам, сорам і сорам — вось гісторыя чалавека!»

І таму высакародны пастанаўляе сабе не сараміць: сарамлівасць ён пакідае сабе, саромецца перад усімі пакутнікамі.

Сапраўды, я не люблю міламжальных, святашчасных у сваім міласжалі: надта ж бо пахібныя яны ў сваім сораме.

Калі я павінен быць міласжальны, дык не хачу, каб мяне такім называлі; а ўжо калі я міласжальны, дык толькі на адлегласці.

Я лепей накрываю сваю галаву і ўцякаю прэч раней, чым пазнаюць мяне; і я заклікаю вас рабіць гэтаксама, сяброве мае!

Няхай лепей доля мая вядзе па дарозе тых, якія, як і вы, ніколі не пакутуюць, і з тымі, ■ кім я *змагу* падзяліць надзею, бяседу і мёд!

Сапраўды, я дапамагаў так ці іначай пакутнікам; але мне заўсёды здавалася лепшым навучыцца радавацца.

З таго часу, як жывуць людзі, надта мала радаваўся чалавек; толькі гэта, братове мае, ёсць спадчынны грэх!

І калі мы навучымся больш радавацца, дык так мы найлепей развучымся крыўдзіць іншых і выдумляць розныя цярпенні.

Таму я ўмываю рукі, якія памагалі пакутніку, таму я таксама ачышчаю і сваю душу.

Бо тое, што я міласжальна глядзеў на пакутніка, змушае мяне саромецца праз сорам ягоны; і калі я памагаў яму, дык гэта горка пакрыўдзіла гонар ягоны.

Вялікая запабеглівасць не робіць удзячным, а толькі ахвочым да помсты; і калі дробная дабрачыннасць не забываецца, дык, як чарвяк, точыць.

«Будзьце раўнадушныя, прымаючы што-небудзь! Рабіце гонар ужо тым толькі, што прымаеце» — так я раю тым, каму няма чым адарыць.

Але я — дару: я ахвотна дару, як сябар дорыць

сваім сябрам. А чужыя і бедныя няхай самі рвуць плады з майго дрэва: гэта не так сорамна.

А жабракоў след было б зусім звесці! Сапраўды, непрыемна і даваць ім і не даваць.

А разам з імі грэшнікаў, і каго грызе сумленне! Паверце мне, сяброве мае: згрызоты сумлення вучаць кусаць.

Але самае горшае — дробныя змыслы. Сапраўды, лепей рабіць ліхое, чым мець дробныя змыслы!

Хоць вы і кажаце: «Асалода ад дробных змыслаў ухіляе нас ад буйных ліхадзействаў». Аднак у гэтым выпадку не варта разменьвацца на дробязі.

Ліхадзейства — як скула: яно свярбіць, і чэшацца, і нарывае — яно заяўляе пра сябе сумленна.

«Глядзі, я — хвароба» — так кажа ліхадзейства; у гэтым яго сумленнасць.

А нікчэмны намысел падобны да грыбка: ён паўзе, пранікае, стараецца, каб яго не ўбачылі, — пакуль усё цела не струхлее і не зжухне ад гэтых драбнюткіх істотаў.

А таму, хто апантаны нячыстым, я кажу гэта слова на вуха: «будзе лепей, калі твой чорцік праявіцца чортам, — памажы яму! І ў цябе яшчэ ёсць дарога да велічы!..»

О братове мае! Пра кожнага з нас вядома занадта многа! Многія робяцца для нас празрыстымі, але мы яшчэ доўга не можам пранікнуць праз іх толькі па гэтай прычыне.

Цяжка жыць з людзьмі, бо цяжка маўчаць.

І найбольш мы несправядлівыя не з тымі, хто нам агідны, а з тымі, да каго мы ніяк не дачыняемся.

А калі ў цябе ёсць сябар-пакутнік, дык стань

яму месцам супакаення, але адначасова і мулкім ложкам, паходным ложкам: так ты найлепей дагодзіш яму.

І калі сябар учыніць табе ліхое, скажы так: «Я дарую табе за тое, што ты мне ўчыніў; але як дараваць за ліха, якое ты гэтым учынкам зрабіў *сабе*?»

Так гаворыць вялікая любоў: яна адольвае і дараванне, і шкадаванне.

Трэба стрымліваць сваё сэрца; бо варта толькі даць патуранне яму, як страціш галаву!

О, дзе ў свеце хто нарабіў большага глупства, як міласэрнікі? І што ў свеце спрычыніла болей пакут, чым дурасць міласэрных?

Гора тым, якія любяць, але яшчэ не дасягнулі вышыні, якая вышэй за іх міласэрнасць!

Сказаў мне аднаго разу д'ябал: «І ў Бога ёсць сваё пекла: гэта ягоная любоў да людзей».

А нядаўна я чуў ад яго: «Бог памёр; ад міласэрнасці да людзей памёр Ён».

Дык вось, я засцерагаю вас ад міласэрнасці: *адсюль* сунецца на людзей чорная хмара! Паверце, я разбіраюся ў прыкметах надвор'я!

Дайце ўвагі і такому слову: усякая вялікая любоў вышэйшая за ваш спагадны міласэрнасць, бо яна яшчэ мусіць стварыць тое, што любіць.

«Сябе самога прыношу я ахвяраю любові, *і блізкага майго, як і сябе*» — так гавораць стваральнікі.

Але ўсе стваральнікі жорсткія».

Так сказаў Заратустра.

# Пра святароў

Аднаго разу Заратустра даў знак сваім вучням і сказаў такія словы:

«Вось святары: і хоць яны ворагі мае, спакойна ідзіце міма іх, і хай вашыя мячы спяць!

І сярод іх ёсць героі; многія з іх адпакутавалі ўдосыць: таму яны хочуць, каб і іншыя пакутавалі.

Злыя ворагі яны: нішто так не помсціцца, як іхняя пакорлівасць. І лёгка апаганьваецца той, хто чапае іх.

Але мая кроў зродненая з іхняй; я хачу, каб мая кроў шанавалася і праз іхнюю...»

І калі яны прайшлі міма, горыч агарнула Заратустру; нядоўга змагаўся ён са сваім болем, і прамовіў так:

«Шкада мне гэтых святароў. Яны вельмі мне не да густу; але мне гэта мала абыходзіць з таго часу, як я сярод людзей.

Але я пакутую і пакутаваў з імі: яны палонныя, мечаныя. Той, каго называюць Збаўцам, закаваў іх у аковы...

У аковы фальшывых каштоўнасцяў і аблудных слоў! О, калі б збавіў іх хто-небудзь ад гэтага Збаўцы!

Яны думалі, што высадзіліся на шчасным востраве, калі навакол бушавала мора; але глядзіце, гэта была пачвара, якая яшчэ спала.

Фальшывыя каштоўнасці і аблудныя словы: гэта самыя горшыя пачвары ў смяротных: доўга спіць і чакае ў іх наканаванне.

Але нарэшце прачынаецца, жарэ і глытае тых, што паставілі на ім свае буданы.

О, паглядзіце толькі на тыя буданы, што па-

7. Зак. 530.

ставілі святары! Цэрквамі называюць яны свае лёхі [redacted] салодкімі пахошчамі.

О, гэта сфальшаванае святло, гэта непрадыхлівае паветра! Тут, дзе душы трэба лунаць у вышынях, узляцець ёй не дазволена!

Але так ім наказана паводле веры: «На калені, угору па лесвіцы, грэшнікі!»

Сапраўды, лепей пабачыць бессаромнага, чым вылупленыя вочы іх сораму і багавейнасці!

Хто ж стварыў гэтыя лёхі і лесвіцы каяння? Ці не тыя, што хацелі схавацца і саромеліся яснага неба?

І толькі калі яснае неба прагляне праз дзіравыя дахі, а разваленыя сцены зарастуць травою і чырвоным макам — толькі тады захоча маё сэрца звярнуцца да котлішчаў гэтых багоў.

Яны назвалі Богам тое, што супрацьстаяла і мучыла; і праўда, шмат гераічнага было ў гэтым пакланенні!

І не ведалі яны, як інакш ім любіць свайго Бога, як толькі крыжуючы людзей!

Яны думалі пражыць мерцвякамі, у чорнае апраналі яны сваіх нябожчыкаў; і нават у прамовах іхніх унюхваю я паганы смурод склепа.

І хто жыве паблізу іх, той жыве каля чорных сажалак, дзе жабы выспеўваюць саладжавую скруху сваю.

Лепшыя песні мусілі б спяваць яны мне, каб я навучыўся верыць у іхніх Збаўцаў; збавёнымі меліся б выглядаць іхнія вучні!

Голых хацеў бы я ўбачыць іх, бо толькі прыгажосць павінна прапаведаваць каянне. А каго пераканае гэтая закукленая ў чорнае нудота?

Далібог, іх збаўцы самі з'явіліся не са свабоды і не [redacted] сёмага неба! Далібог, яны самі ніколі не ступалі па дыванах спазнання!

З прагалаў складаецца дух іх збаўцаў; але ў кожную пустую раміну ўставілі яны сваю хімеру, сваю затычку, якую назвалі Богам.

У спагадзе захлынуўся іхні дух, і калі яны брыняюць ад яе, наверх заўсёды выплывае вялікае глупства.

Старанна пакрыкваючы, гналі яны статак па кладцы: нібыта ў будучыню толькі *адна* дарога! Далібог, і гэтыя пастухі не больш чым авечкі!

Шырокая душа і малы дух у гэтых пастухоў: але, братове мае, нават самая шырокая душа — якая ж убогая яна паша!

Крывавыя знакі пакідалі яны на дарозе, якою ішлі, і іхняе глупства вучыла, што праўда даказваецца толькі крывёю.

Але кроў — найгоршае сведчанне праўды; кроў затручвае самае чыстае вучэнне, робіць з яго аблуду і нянавісць сэрца.

І калі хто ідзе за сваё вучэнне на вогнішча — што даказвае гэта! Больш пераканаўча, калі з твайго полымя паўстане тваё вучэнне!

Адурманенае сэрца і халодная галава: калі яны злучаюцца, узнікае смерч — «Збаўца».

Калісьці былі сапраўды больш велічныя і высакародныя, чым тыя, каго люд называе збаўцамі, якія сілай смерчу ўцягвалі за сабою!

І вы мусіце, братове мае, знайсці збавенне ад яшчэ большых збаўцаў, магутнейшых, калі толькі хочаце знайсці дарогу да свабоды!

Яшчэ ніколі не было Звышчалавека. Бачыў я голых абодвух — і самага велічнага чалавека, і самага мізэрнага...

Надта ж бо падобныя яны паміж сабою. Далібог, нават у самым Вялікім знайшоў я залішне шмат чалавечага!»

Так сказаў Заратустра.

# Пра цнатлівых

Громам і нябеснымі феерверкамі трэба гаварыць да вялых і санлівых пачуццяў.

Але голас прыгажосці гаворыць ціха: ён пранікае толькі ў самыя разбуджаныя душы.

Ціха трымцеў і смяяўся сёння мой шчыт; гэта прыгажосці святы смех і трымценне.

З вас, цнатліўцы, смяялася сёння мая прыгажосць. І чуўся мне голас яе: «Яны яшчэ хочуць, каб ім заплацілі!»

Вы, цнатлівыя, хочаце, каб вам яшчэ й заплацілі! Хочаце платы за цноту, і неба за зямлю, і вечнасць за вашае «сёння»?

І цяпер абураецеся мною, калі я вучу, што няма таго, хто плаціў бы? І сапраўды, я нават не вучу, што цнота сама па сабе ўжо ёсць плата.

Ах, вось што мяне засмучае: за аснову ўсіх рэчаў прымаецца ілжа — плата і кара, а цяпер гэта ўсё і ў аснове вашых душаў, цнатліўцы!

Але, як дзіковыя іклы, словы мае распоруць асновы вашых душаў; я хачу быць вам плугам.

Усё запаветнае вашых асноваў павінна выйсці на святло; і калі ўспоратыя і зламаныя вы будзеце ляжаць на сонцы, ваша ілжа аддзеліцца ад праўды.

Бо ваша праўда вось у чым: вы *надта чыстыя* для бруду такіх слоў, як помста, кара, плата, адплата.

Вы любіце вашую цноту, як маці сваё дзіця; але дзе вы такое чулі, каб маці хацела платы за сваю любоў?

Тое, што вы ў сабе любіце найбольш, якраз і ёсць ваша цнатлівасць. У вас ёсць прага колца: каб дагнаць само сябе, дзеля гэтага круцiцца і абарочваецца кожнае колца.

І на зорку, якая ўжо гасне, падобныя ўсе ўчынкі вашае цноты; святло яе недзе яшчэ ў дарозе і блукае ў прасторы, — і калі ж яно ўжо будзе не ў дарозе?

Так і святло вашае цноты ўсё яшчэ ў дарозе, нават калі ўчынак ужо адбыўся. Хай сабе ён ужо забыўся, ужо мёртвы: святло яго ўсё яшчэ блукае ў прасторы.

Каб жа цнотнасць ваша стала вашай Самасцю, а не чым-небудзь пабочным, абалонкай, покрывам: гэта ёсць праўда глыбіняў вашай душы, дабрадзеі вы мае!

Вядома, ёсць і такія, у каго цнатлівасць — гэта сутарга пад бічом: іх ляманту вы ўдосыць наслухаліся!

Есць і яшчэ іншыя, у якіх цнатлівасць — гэта лянота іх заганаў: і кожнага разу, калі іхняя нянавісць і зайздрасць соладка пазяхаюць, прачынаецца ў іх «справядлівасць» і працірае заспаныя вочы.

А тых цягне ўніз: гэта іх спакушае іхні ж д'ябал. Але чым больш яны апускаюцца, тым большым жарам гараць у іх вочы і тым большая ў іх пажада да Бога.

Ах, і такі лямант дайшоў да вашых вушэй, цнатліўцы. «Што *не* я, тое і ёсць мой Бог і цнота!»

Есць яшчэ і такія, якія ледзьве рухаюцца, ды яшчэ і скрыпяць, бы калёсы, накладзеныя цяжкім каменнем: гэтыя шмат гамоняць пра годнасць і дабрачыннасць — свае тармазы яны называюць цнотаю!

Есць яшчэ і такія, што падобныя на будзільнік, які ўжо заведзены; яны адстукваюць свае «цік-так» і хочуць, каб цнотаю называлі іхняе «цік-так».

Вось ужо хто-хто, а гэтыя распацешылі мяне: дзе толькі знайду такі гадзіннік, буду накручваць яго сваімі кпінамі; хай пры гэтым яны яшчэ й ціктакаюць мне.

А іншыя ганарацца прыгаршчамі сваёй справядлівасці і прагнуць за гэта, каб ім дазвалялася ўсё і ва ўсім: каб аж увесь свет захлынуўся ў сваёй несправядлівасці.

Ах, як паскудна гучыць у іх вуснах слова «цнота». І калі яны кажуць: «я справядлівы», дык гэта заўсёды гучыць, як: «я адпомшчаны!»

Сваёй цнотаю яны сваім ворагам вочы выдралі б; і яны ўзвышаюцца толькі, каб прынізіць іншых.

І зноў жа ёсць такія, якія загразлі ў сваім балоце і гавораць праз чарацінку: «цнота — гэта каб ціха сядзець у багне.

Мы нікога не кусаем і саступаем дарогу куслівым; і ва ўсім трымаемся думкі, як нас навучылі».

І зноў жа ёсць такія, што любяць выстаўляцца і думаюць: цнота — гэта пэўным чынам рухацца.

Іх калені заўсёды сагнутыя, і рукі іх складзены на малітву за цноту, а іх сэрца нічога пра тое не ведае.

І зноў жа ёсць такія, якія лічаць за цноту казаць: «цнота патрэбная»; а па сутнасці, яны думаюць, што патрэбная толькі паліцыя.

А некаторыя, не ўмеючы разгледзець у чалавеку высокае, лічаць за цноту бачыць зблізку і нізкасць: так яны цнотаю лічаць сваё сурочлівае вока.

А некаторыя ж хочуць адукавацца ды ўзвысіцца і гэта называюць цнотай: іншыя хочуць адмовіцца ад усяго і быць скінутымі, і таксама называюць гэта цнотай.

І вось амаль усе такія думаюць, што маюць сваю долю ў цноце; і кожны хоча сама мала лічыцца знаўцам «дабра» і «зла».

Але не на тое прыйшоў Заратустра, каб сказаць усім гэтым хлусам і дурням: «Што *вы* ведаеце пра цноту! Што вы *можаце* ведаць пра цноту!..»

А каб вы, сяброве мае, стаміліся ад старых слоў, якіх вы навучыліся ад дурняў і хлусаў: ад слоў: «плата», «адплата», «кара па справядлівасці»...

Каб стаміліся казаць: «учынак добры, у ім няма сябелюбнасці».

Ах, сяброве мае! Каб жа *вашая* Самасць была ва ўчынках, як маці ў дзіцяці: вось гэта хай будзе *вашым* словам пра цноту!

Сапраўды, я забраў у вас, мусіць, сотню слоў і любімыя цацкі вашае цноты; і вось вы сярдуеце на мяне, як малыя.

Яны гулялі каля мора — накацілася хваля і змыла іхнія цацкі: і вось яны плачуць.

Але тая самая хваля прынясе ім новыя цацкі і новыя бліскучыя ракавіны і высыпле перад імі!

І яны суцешацца; як і яны, атрымаеце вы, сяброве мае, суцяшэнне і новыя бліскучыя ракавіны!..»

Так сказаў Заратустра.

## Пра набрыдзь людскую

Жыццё — гэта крыніца асалоды; але дзе п'е набрыдзь людская, там усе крыніцы затручаныя.

Я — за ўсё чыстае; але не трываю ашчэраных пашчаў і смагі нячыстых.

Яны заглядвалі ў глыбіню крыніцы: і вось свеціцца мне іх агідная ўсмешка з глыбіні крыніцы.

Святую ваду апаганілі яны сваім пахацінствам; а калі свае брудныя сны яны называлі асалодаю, затручвалі і словы.

Працівіцца полымя, калі яны кладуць на вагонь свае сырыя сэрцы; сам дух дыміць і бурліцца, калі набрыдзь падыходзіць да агню.

Мляўкім і гнілым робіцца плод у іхняй руцэ; у сухі лоўж ператварае іх позірк дрэва.

І многія, адвярнуўшыся ад жыцця, адвярнуліся толькі ад людской набрыдзі: бо не хацелі дзяліць з поганню ні крыніцы, ні агню, ні пладоў.

І шмат каторыя, што адышлі ў пустыню да дзікіх звяроў і знемагалі ад смагі, не хацелі толькі сядзець каля вады разам з бруднымі пагонцамі вярблюдаў.

І шмат каторыя, што прыходзілі спусташэннем і градам на ўрадлівыя палеткі, хацелі толькі таптаць карак набрыдзі людской, каб заткнуць ёй глотку.

І гэта яшчэ не той кавалак, якім я душыўся найбольш, — каб ведаць, што самому жыццю патрэбная варожасць, і смерць, і крыжавыя цярпенні: —

Але калісьці я спытаўся і ледзь не ўдавіўся сваім пытаннем: як? няўжо жыццю патрэбен і гэты зброд?

Патрэбны затручаныя крыніцы, і смярдзючыя

вогнішчы, і брудныя сны, і чэрві ў хлебе жыцця?

Не мая нянавісць, а мая агіда прагна жэрла маё жыццё! Ах, як часта я гідзіўся нават духам, калі бачыў, што і ў гэтай набрыдзі ёсць дух!

Нават ад уладароў я адвярнуўся, калі ўбачыў, *што* яны называюць уладараннем: па-гандлярску тузацца за ўладу — з набрыддзю людскою!

Жыў я сярод народаў, заклаўшы вушы, чужы ім моваю: каб не чуць і не разумець іх казаняў, іх дробязнага торгу за ўладу.

І, заціснуўшы нос, паныла ішоў я праз усё ўчарашняе і сённяшняе: сапраўды, гнюсна смярдзіць мярзотаю ўсё ўчарашняе і сённяшняе ў пісучай набрыдзі!

Я доўга жыў, як калека, — глухі, сляпы і нямы: толькі каб далей ад апанаванага свербам пісання развясёленькага зброду.

Цяжка, асцярожна ўздымаўся мой дух па лесвіцы; мізэрныя скраўкі радасці былі яму асалодаю; з кульбакаю валаклося жыццё ў сляпога.

Што ж сталася са мною? Як я пазбыўся агіды? Хто абмаладзіў мой позірк? Як узнёсся я на вышыні, дзе ўжо не сустрэнеш ніякага зброду каля крыніцы?

Ці ж не агіда дала мне крылы і сілу, каб падляцець да крыніцы? Далібог, мне трэба было ўзняцца ў вышыні, каб зноў здабыць крыніцу радасці.

О, я здабыў яе, братове мае! Тут, у вышынях струменіць гэтая крыніца! Усё-такі ёсць жыццё, з якога не п'е ніякая погань людская!

Надта бурліва струменішся ты, крыніца радасці! Часта спаражняеш ты келіх, хочучы напоўніць яго!

І ўсё ж я павінен навучыцца набліжацца да цябе больш сціпла: занадта бурліва струменіцца табе насустрач маё сэрца...

Маё сэрца, у якім палае лета, кароткае, спякотнае, смутнае, звышшчаснае: як тужыць маё сэрца-лета па тваёй прахалодзе!

Мінулася нясмелая скруха маёй вясны! Мінулася лютасць маёй снежнай замеці ў чэрвені! І ўвесь я — лета і полудзень летні!

Лета ў самым росхрысце са сцюдзёнымі крыніцамі і дабрашчаснаю цішай: о, прыйдзіце, сяброве мае, каб ціша яшчэ болей ушчасціла!

Бо гэта *нашая* вышыня і наша радзіма: занадта высока і стромка ўзнеслі мы сваё жытлішча, каб не дасталі нас апраметнікі і смага іхняя.

Кіньце ж позірк ваш чысты ў крыніцу маёй радасці, сяброве мае!

Не замгліцца яна ад вашага позірку! Яна адкажа вам усмешкай *сваёй* чысціні.

На дрэве будучыні ладзім мы наша гняздо; арлы будуць нам, самотным, ежу ў сваіх дзюбах насіць!

Вядома, не тую ежу, ад якое ядуць нячыстыя! Агонь хай бы елі яны і папяклі свае храпы!

Вядома, не падрыхтавалі мы тут жытлішчаў нячыстым! Ледзяным лёхам здалося б нашае шчасце іх целу і духу!

Магутнымі вятрамі будзем мы жыць пад імі, суседзі арлоў, суседзі снягоў, суседзі сонца: так жывуць магутныя вятры.

І, як вецер, узвею я сярод іх і сваім духам перайму дыханне ў іхняга духу: так хоча мая будучыня.

І тое праўда: які магутны вецер для ўсіх нізінаў — Заратустра; і вось што раіць ён сваім ворагам і ўсім, хто плюецца: «не наравіце пляваць *супроць* ветру!»

Так сказаў Заратустра.

## Пра тарантулаў

Зірні, вось норка тарантула! Ці не глянеш сам? Вось яго сетка: крані, хай задрыжыць.

А вось і ён сам, выпаўзае: здароў быў, тарантуле! Чорны трохкутнік на спіне ў цябе — твая мецiна: яшчэ я ведаю, што ў цябе на душы.

Мсцівасць у цябе на душы: куды ўджаліш ты, там вырастае чорны струп; твой помслівы яд змушае душу курчыцца!

І вось я прамаўляю да вас, прапаведнікаў *роўнасці,* якія змушаюць душу курчыцца! У мяне вы — тарантулы і схаваныя помснікі!

Але я хачу ваша схаванае вывесці на святло: таму я і смяюся вам у твар смехам узвышаных.

І таму я рву вашу сетку, каб шаленства вырвала вас з ілжывай нары і прага помсты выйшла з па-за слова «справядлівасць».

Бо *хай будзе чалавек збаўлены ад помсты:* вось мост, які вядзе да найвышэйшай надзеі, і вясёлка пасля доўгай слоты.

Але іншага хочуць, вядома, тарантулы. «Справядлівасць у нас — гэта каб свет напоўніўся навальніцамі нашай помсты» — так гамоняць яны паміж сабою.

«Мы хочам помсты і паганьбення ўсім, хто не роўны з намі» — так прысягаюцца сэрцы тарантулаў.

«І воля да справядлівасці — вось што павінна сёння стаць назовам цноты; супроць усяго, што мае ўладу, ускінемце кліч!»

Вы, прапаведнікі роўнасці, тыранская бязглуздасць бяссілля крычыць з вас пра «роўнасць»: ваша запаветнае жаданне тыраніі кукліцца ў словах пра дабрадзейства!

Прыкрае славалюбства, затоеная зайздрасць, а

магчыма, яшчэ і славалюбства, і зайздрасць вашых бацькоў — усё гэта шугае з вас полымем і шалам помсты.

Тое, пра што змоўчваў бацька, выслоўліваецца ў сыне; часта і я знаходзіў у сыне бацькаву таямніцу — непрыхарошаную і распраненую.

На натхнёных падобныя яны: але не сэрца натхняе іх — а помста. І калі яны робяцца пражорлівымі і стрыманымі, дык гэта не розум, а зайздрасць робіць іх такімі.

Зайздрасць вядзе іх на сцежку мысліцеляў: і вось якая прыкмета такое зайздрасці — яны заходзяць так далёка, што ўрэшце, стомленыя, засынаюць на снезе.

У кожнай іхняй скарзе чуецца помслівасць, у кожнай пахвале тоіцца абраза; і быць суддзямі здаецца ім шчасцем.

Але я заклікаю вас, сяброве мае: не давярайце нікому, у кім бушуе прага караць!

Гэта людзі благое пароды і благога роду; у іх тварах — кат і сышчык!

Не давярайце і тым, хто шмат разводзіць пра сваю справядлівасць. Далібог, іх душам бракуе толькі мёду.

І калі яны называюць сябе «добрымі і справядлівымі», не забывайце, што, каб зрабіцца фарысеямі, ім не хапае толькі аднаго — улады!

Сяброве мае, я не хачу, каб мяне з кім-небудзь пераблыталі. Бо ёсць такія, што прапаведуюць маё вучэнне пра жыццё: і пры гэтым яны — прапаведнікі роўнасці і тарантулы.

Калі і гавораць на карысць жыцця, засеўшы ў сваіх норах, гэтыя ядавітыя павукі, адвярнуўшыся ад усяго жывога, дык толькі, каб шкодзіць.

Так яны хочуць нашкодзіць тым, у каго ўлада:

бо ў тых яшчэ колькі хочаш у запасе пропаведзяў смерці.

Каб было яно іначай, дык і тарантулы вучылі б інакш: менавіта ж бо яны былі калісь зацятымі паклёпнікамі на жыццё і спальшчыкамі ерэтыкоў.

Я не хачу, каб мяне блыталі з гэтымі прапаведнікамі роўнасці, бо справядлівасць кажа *мне* так: «людзі не роўныя».

І яны не павінны быць роўныя! Чым была б мая любоў да Звышчалавека, калі б я гаварыў інакш?

Тысячамі мастоў і сцежак хай людзі цісну цца ў будучыню, і ўсё больш павінны буяць між імі варожасць і няроўнасць: так кажа мне мая вялікая любоў.

Хай яны будуць вынаходцамі ўяваў і прывідаў у сваёй варожасці, і тады паміж імі адбудзецца вялікая бітва.

Дабро і зло, багацце і беднасць, высокае і нізкае, і ўсе імёны каштоўнасцяў — усё гэта стане зброяй і будзе ваяўніча сцвярджаць, што жыццё павінна ўвесь час пераадольваць самое сябе.

Угору, ставячы калоны і прыступкі, хоча ўзнесці сябе жыццё; яно хоча глядзець у бясконцыя далячыні, на святую прыгажосць, — *вось навошта* яму вышыня!

Але калі жыццю так патрэбна вышыня, дык яму патрэбныя і прыступкі, а таксама супярэчлівасць між прыступкамі і тымі, хто па іх узыходзіць! Узыходзіць хоча жыццё і пераадольваць сябе, узыходзячы.

Зірніце ж, сяброве мае! Вось, побач з нарою тарантула, — руіны старадаўняга храма; зірніце на іх прасветленым вокам!

Бо праўда, хто ўмацаваў думку сваю і ў камені ўзнёс яе ўгору, той ведаў усе таямніцы жыцця, як самы вялікі мудрэц!

Што барацьба і няроўнасць ёсць і ў прыгажосці, вайна за ўладу і звышмагутнасць — усяму гэтаму вучыць ён нас праз гэты ясны сімвал.

Паглядзіце, як ламаюцца аркі і скляпенні, пераходзячы адно ў адно ў боскім супрацьстаянні, як разам са святлом і ценем ідуць яны адно на адно, па-боску імклівыя.

Хай жа будзем ворагамі і мы, верныя і прыгожыя! Па-боску рынемся адзін на аднаго!

Ах! Вось і мяне самога джгнуў тарантул, мой даўні вораг! Па-боску надзейна і прыгожа джгнуў ён мяне ў палец!

«Павінна ж быць расплата і справядлівасць — так думае ён, — не за так жа спяваць яму гімны ў гонар варожасці!»

Так, ён адпомсціў за сябе! На жаль! Цяпер душа мая будзе курчам помсты!

Але каб *не* курчыцца мне, сяброве, прывяжыце мяне мацней да гэтага слупа! Лепей я буду стоўпнікам, чым курчам помсты!

Праўда, не курч і не смерч Заратустра; а калі ён і танцор, дык не танцуе тарантэлу!..»

Так сказаў Заратустра.

## Пра славутых мудрацоў

Народу служылі вы і прымхам народу служылі вы, славутыя мудрацы! — а *не* праўдзе! Таму вам і была пашана.

Таму і трывалі ваша няверства, што яно было хітрынай і ўзбочнай дарогай да народу. Так гас-

падар дае волю сваім рабам і нават цешыцца з іхняй дзёрзкасці.

Але хто ненавісны народу, як воўк сабакам, дык гэта — свабодны дух, вораг кайданоў, які не кланяецца нікому і жыве ў лясах.

Выгнаць такога з ягонага логава — гэта заўсёды называлася ў людзей «пачуццём справядлівасці»; на яго нацкоўваюць самых зубастых сабак і сёння.

«Бо праўда там, дзе народ! Гора, гора тым, што шукаюць!» — так у вас было спрадвеку.

Вы хацелі апраўдаць свой народ у ягоным пакланенні: вы называлі гэта «воляй да праўды», вы, славутыя мудрацы!

У сэрцы сваім вы заўсёды казалі: «З народу я выйшаў, адтуль сышоў на мяне і голас Божы».

Упартыя і разумныя, як аслы, вы заўсёды былі заступнікамі народа.

І многія ўладыкі, каб паладзіць з народам, запрагалі наперадзе сваіх коней вослікa — якога-небудзь славутага мудраца.

І цяпер я хачу, славутыя мудрацы, каб вы зусім скінулі з сябе ільвіную скуру!

Плямістую скуру драпежнага звера і калматы хіб даследчыка, шукальніка і заваёўніка!

Ах, каб хутчэй паверыў я ў вашую «шчырасць», вы павінны спачатку зламаць у сабе волю да пакланення.

Шчырым я называю таго, хто ідзе ў пустэльню бязбожнасці і там скрушвае сэрца сваё, гатовае да пакланення.

Сярод жоўтых пяскоў, пад скварным сонцам, касавурыцца ён, смяглы, на крынічныя аазісы, дзе ўсё жывое раскошуе ў халадку.

Але і смага не можа прымусіць яго прыпадоб-

ніцца да гэтых самазадаволеных: бо, дзе аазісы, там і ідалы.

Галодным, самотным, бязбожным: такім яму быць наканую ільвіная воля.

Свабодным ад шчасця раба, вызваленым з-пад божышчаў і пакланенняў, страханосным і бясстрашным, вялікім і самотным: гэта воля шчырага.

У пустыні заўсёды жылі шчырыя, свабодныя духі, жылі валадарамі пустыні; а ў гарадах жывуць славутыя мудрацы — укормленыя ўючныя жывёлы.

Заўсёды цягнуць яны, як аслы, тачку *народа*.

Не тое каб я на іх гневаўся: для мяне яны заўсёды застануцца слугамі ў збруі, нават калі яна зіхаціць золатам.

І часта яны былі добрыя слугі, вартыя пахвалы. Бо цнота кажа так: «Калі ты хочаш быць слугою, пашукай таго, каму твая служба будзе найбольш карысная!

Дух і цнота гаспадара твайго павінны ўзрастаць таму, што *ты* ягоны слуга: так і сам ты росцішся разам ягоным духам і ягонаю цнотаю».

Далібог, так, славутыя мудрацы, слугі народа! Вы ўзрасталі разам з духам і цнотай народа — і народ узрос праз вас! Да гонару вашага кажу я вам гэта!

Але народ застаецца для мяне ў вашай цноце, народ [redacted] дурнымі вачыма, — народ, які не ведае, што такое *дух!*

Дух ёсць жыццё, якое само пажынае жыццё; сваёю ж пакутаю памнажае яно сваё веданне: ці ведалі вы ўжо гэта?

І шчасце духу ў тым, каб быць памазанцам і ахвярнаю жывёлаю, асвечанай слязьмі: ці ведалі вы ўжо гэта?

Слепата сляпога і яго шуканне навобмацак сведчаць пра сілу сонца, на якое ён зірнуў: ці ведалі вы ўжо гэта?

Трэба, каб спазнавальнік навучыўся *будаваць* гарамі! Мала, што дух перастаўляе горы, — ці ведалі вы ўжо гэта?

Вы ведаеце толькі іскры духу, але не бачыце, што ён — кавадла, не бачыце вусцішнасці ягонага молата!

Далібог, вы не ведаеце гордасці духу! Але яшчэ больш невыноснай была б вам яго ўпакоранасць, калі б яна захацела загаварыць!

І вы яшчэ ні разу не асмеліліся ўкінуць ваш дух у снежную яму: бо вы недастаткова гарачыя! Таму вы і не ведаеце асалоды ягонага холаду.

Ва ўсім вы з духам вельмі даверлівыя і з мудрасцю часта абыходзіцеся так, нібыта яна багадзельня і лякарня для бедных і благіх паэтаў.

Вы не арлы: і таму вы не зведалі шчасця ў жудасці духу. А хто не птах, таму не дадзена адпачываць над прорваю.

Вы цёплыя: а крыніцы ўсякіх глыбокіх ведаў — халодныя. Сцюдзёныя, як лёд, самыя глыбокія вытокі духу — асалода рукам, гарачым дзеям.

Вы стаіце перада мною, ганарыстыя, з несагнутымі спінамі, славутыя мудрацы! Ні моцны вецер, ні магутная воля не ўзрушваюць вас.

Ці бачылі вы калі-небудзь, як ляціць па моры ветразь, круглы, напяты ветрам, як ён трымціць ад шаленства яго?

Як ветразь з трымценнем ад буры, ляціць мая мудрасць па моры — неакілзаная мудрасць мая!

А вы, знакамітыя мудрацы, слугі народа, — як *можаце* вы ляцець разам са мною.

Так сказаў Заратустра.

## Начная песня

Вось ноч: грамчэй загаварылі ўсе струмяністыя крыніцы. І мая душа таксама струмяністая крыніца.

Вось ноч: прачынаюцца песні закаханых. І мая душа — песня закаханага.

Нешта неспатоленае, неспатольнае ёсць ува мне; яно хоча голасу. Нейкая прага кахання ўва мне, яна гаворыць голасам кахання.

Светлы я; о, калі б я быў ноч! Але ў тым мая самотнасць, што я аперазаны святлом.

О, калі б я зрабіўся цёмны, як ноч! Як бы я піў з грудзей святла!

Як бы я дабраславіў вас саміх, іскрыстыя зоркі і светлячкі начныя ўгары! Які б я быў шчаслівы ад дарункаў вашага святла!

Але ў ззянні сваіх прамянёў я жыву і п'ю полымя, якое шугае з мяне.

Я не ведаю радасці таго, хто бярэ; я няраз думаў: стакроць шчаснейшы той, хто крадзе, чым хто дае.

У тым беднасць мая, што мая рука ніколі не стамляецца дарыць; у тым дбайнасць мая, што бачу я вочы спрагненыя і цемру, прасветленую жаданнем.

О ліхая доля даравальнікаў! О зацьменне сонца майго! О прага маёй прагі! О ненасытны голад перанасычанасці!

Яны бяруць у мяне: але ці кранаю я іхнюю душу? Прорва паміж «дарыць» і «браць»; а найменшая прорва пераадольваецца ў апошнюю чаргу.

Голад нараджаецца з маёй прыгажосці: наклікаць на вас бяду, асвечаную мною, абабраць тых, што прынялі дарункі, — да зла імкнецца мая прагнасць.

Адхапіць руку, калі ёй працягнута іншая рука; марудзіць, як вадаспад, які спрабуе затрымаць сваё падзенне — да зла імкнецца мая прагнасць.

Такая помслівасць ад лішніцы маёй; такое падступства сочыцца з маёй самотнасці.

Маё шчасце даравальніка памірае ў дараванні, дабрачыннасць мая стамілася ад лішніцы ўсяго!

Хто заўсёды дорыць, жыве ў небяспецы страціць сорам; хто заўсёды раздае — у таго рука і сэрца ў мазалях ад раздачы.

Мае вочы не слязяцца ад сораму за просьбітаў; мае рукі агрублі і не дрыжаць ад напоўненасці.

Куды падзеліся слёзы з вачэй маіх? Куды падзелася мяккасць майго сэрца? О самотнасць усіх, хто дорыць! О маўклівасць усіх светланосцаў!

Шмат сонцаў кружыцца ў пустой прасторы: усяму цёмнаму гавораць яны сваім святлом. А ў мяне яны нямыя.

О варожасць святла да ўсяго, што свеціцца: без жалю ідзе яно сцежкамі сваімі.

У безданях сонца несправядлівае да ўсяго светланоснага, халоднае да ўсіх іншых сонцаў — так робіць кожнае свяціла свае кругі.

Нібы буры, праносяцца сонцы шляхамі сваімі, у гэтым іх жыццё. Сваёй няўмольнай волі наровяць яны, у гэтым іхні холад.

Толькі вы адны, цёмныя ночы, здабываеце цяпло з усяго, што свеціцца! Толькі вы адны корміцеся малаком з поўных грудзей святла!

Я скаваны лёдам, ён пячэ мне далоні! О, гэтая прага ўва мне, якая прагне вашае смагі.

Вось і ноч: каб я быў святлом! І прагаю Начнога! І самотнасцю!

Вось і ноч: быццам крыніца, ліецца з мяне жаданне гаварыць.

Вось і ноч: гавораць толькі струмені крынічныя. І душа мая — струмяністая крыніца.

Вось і ноч: толькі цяпер прачынаюцца песні закаханых. І душа мая — песня закаханага.

Так спяваў Заратустра.

## Скочная песня

Аднаго разу ўвечары ішоў Заратустра са сваімі вучнямі праз лес; і, шукаючы крыніцу, выйшаў на зялёную лугавіну сярод дрэў і кустоўя: там скакалі дзяўчаты. Пазнаўшы Заратустру, яны перасталі танцаваць, а ён падышоў да іх з прыветлівым тварам і сказаў:

«Скачыце сабе, скачыце, мілыя дзяўчаткі! Не ненавіснік забаваў са злымі вачыма, не вораг дзяўчат прыйшоў да вас.

Я — заступнік Бога перад д'яблам, які ёсць Дух Цяжару. Як жа мне, рэзваногія, не любіць боскіх скокаў? Альбо прыгожых дзявочых ножак?

Праўда, я — лес і ноч цёмных дрэў: але хто не баіцца мораку, той знойдзе ружоўнік пад маімі кіпарысамі.

І спаткае маленькага бажка, наймілейшага дзяўчатам: ціха спіць ён каля крыніцы, самкнуўшы павекі.

Вось як, сярод белага дня заснуў ён, гультай! Мабыць, удосыць нагойсаўся за матылькамі?

Не сярдуйце на мяне, красуні-танцоркі, калі я крышачку пакараю бажка! Вядома, ён будзе плакаць і крычаць — але ён такі пацешлівы, нават як плача!

Увесь у слязах ён пачне прасіць вас, каб вы паскакалі; а я паспяваю вам пад ваш танец:

песню скочную, песню-смешку з Духа Цяжару — найвышэйшага і наймагутнейшага дэмана, пра якога кажуць, што ён «князь свету».

Вось тая песня, якую спяваў Заратустра, пакуль Купідон і дзяўчаты скакалі:

«О Жыццё! Зірнуў я нядаўна ў твае вочы, і мне здалося, што я апускаюся ў невымерную глыбіню.

Але не залатую вуду працягнула ты мне і смяялася з мяне, калі я называў цябе безданню.

«Так гавораць паміж сабою рыбы, — адказала ты мне, — якія не могуць дастацца да дна; усё, што *ў іх* занадта глыбокае, яны называюць бяздонным і недасягальным.

А я толькі пераменлівая і маю свой нораў, і ва ўсім я жанчына, і зусім не дабрадзейка.

І хоць вы, мужчыны, называеце мяне і «глыбокаю», і «вечнаю», і «таямнічаю»,

але вы заўсёды адорваеце нас сваімі дабрачыннасцямі, — эх вы, дабрадзеі!»

Так смяялася яна, недаверлівая; але я ёй не веру, не веру яе смеху, калі яна ліхасловіць сама сябе.

А калі я сам-насам гаварыў са сваёй дзікай мудрасцю, яна гнеўна сказала мне: «Ты жадаеш, імкнешся і кахаеш — і таму толькі ты *хваліш* Жыццё!»

Ледзь-ледзь не сказаў быў злосна ёй, угневанай, праўды; а нельга ж адказаць злосней, чым праўдаю сваёй мудрасці.

Так яно ўсё паміж намі траімі. Шчырым сэрцам люблю я толькі Жыццё і, сапраўды, найбольш тады, калі ненавіджу яго!

А што я прыхільны да мудрасці і часта нават аж занадта, — усё гэта таму, што ўжо ж вельмі яна мне нагадвае Жыццё!

Вочы Жыцця ў яе, усмешка і нават залатая вуда; што мне рабіць, калі яны такія падобныя?

І калі аднойчы Жыццё спыталася: «Хто яна, твая мудрасць?» — я палка адказаў: «О! Мудрасць!

Прагнуць яе і не могуць насыціцца, ніжуць вачыма яе покрывы, спрабуючы забрытаць у цянёты.

Ці прыгожая яна? Адкуль мне ведаць! Але і самым бывалым карасям яна — прынада.

Яна зменлівая і ўпартая; няраз я бачыў, як кусала яна сабе вусны і грэбенем наўмысна блытала валасы.

Магчыма, яна злая і ілжывая, і ва ўсім — жанчына; але і калі бэсціць сама сябе, нават тады здаецца самай спакушальнай».

Калі я гэта сказаў Жыццю, яно злосна засмяялася і заплюшчыла вочы. «Пра каго ты гаворыш? Ці не пра мяне?»

Нават калі праўда твая — хіба ж такое кажуць у вочы? Але раскажы мне пра мудрасць тваю!»

Ах, ты зноў расплюшчыла вочы, о любае Жыццё! І зноў мне здаецца, што я апускаюся ў невымерную глыбіню».

Так спяваў Заратустра. А калі танец закончыўся і дзяўчаты разышліся, засмуткаваў ён.

«Сонца даўно ўжо села, — сказаў ён нарэшце — на луг апала раса, ад лясоў вее халадок. Нешта невядомае акружыла мяне і задуменна пазірае. Як! Ты яшчэ жывы, Заратустра?

Чаму? Навошта? Дзеля чаго? Дзе і як? Ці не вар'яцтва — жыць далей?

О сяброве мае, гэта вечар пытаецца ўва мне. Даруйце мне скруху маю!

Настаў вечар: даруйце мне, што ён настаў!»

Так сказаў Заратустра.

# Хаўтурная песня

«Там маўклівая выспа магіл; там магілы маёй маладосці. Туды занясу я вечназялёны вянок жыцця».

Так думаючы сэрцам сваім, плыў я па моры.

О вобразы і відзежы маёй маладосці! О позіркі любові, вы, боскія імгненні! Як хутка вы паўміралі! Я спамінаю вас сёння, як памінаюць нябожчыкаў.

Ад вашых капцоў, любасныя нябожчыкі мае, чуюцца мне салодкія пахошчы, якія слязьмі заспакойваюць мне сэрца. Сапраўды, водар гэты хвалюе душу і дае палёгку самотнаму плыўцу.

Я ўсё яшчэ багацейшы за ўсіх і дагэтуль мне моцна зайздросцяць — я, самотнік! Бо *вы* былі са мною, а я і дагэтуль з вамі: скажыце, каму яшчэ падалі з дрэва чырвоныя яблыкі, як мне?

Я ўсё яшчэ ваш спадкаемец, я — зямля, якая цвіце ў памяць пра вас яркімі дзікімі цнотамі, о любасныя!

Мы былі створаныя адно аднаму, мілыя далёкія дзівосы; і не як баязлівыя птушкі набліжаліся вы да мяне і да жаданняў маіх, не, як даверлівыя да вернага!

Так, падобна мне, былі вы створаны на вернасць і пяшчотную вечнасць; ці павінен я цяпер называць вас па імёнах нявернасці вашай, вы, боскія позіркі і імгненні? Пакуль што я не ведаю іншых імёнаў.

Сапраўды, зарана паўміралі вы, уцекачы. Але не вы ўцяклі ад мяне, і не я ад вас, невінаватыя мы адно перад адным у нявернасці нашай.

Каб забіць *мяне*, душылі вас, спеўныя птушкі маіх спадзяванняў! Так, па вас, любасныя, злосць

пускала заўсёды свае стрэлы, — каб пацэліць мне ў самае сэрца!

І яны пацэлілі! Бо вы заўсёды былі мне найбліжэй да сэрца; вы былі ўсё тое, чым валодаў я і што валодала мною, — таму і мусілі вы памерці такімі маладымі!

У самае адчувальнае багацце маё пусцілі стралу: у вас, чыя скура, быццам пяшчотлівы пух, або, бадай што, — усмешка, якая паміpае ад аднаго позірку!

Але я так скажу маім ворагам: «Што ёсць забойства чалавека ў параўнанні з тым, што вы зрабілі мне!

Вы ўчынілі большае ліха, чым забойства; вы адабралі ў мяне незваротнае — так я кажу вам, ворагі!

Вобразы маладосці і любыя мне дзівосы адабралі ў мяне, адабралі шчасных духам, таварышаў маіх гульняў! На памяць пра іх я кладу гэты вянок і шлю вам праклён!

Гэта праклён вам, мае ворагі! Бо скарацілі вы маю вечнасць, — так у холадзе начы гасне гук! Імгненнем была мая вечнасць, мімалётнасцю божага позірку!»

Калісьці, у шчасную часіну, абвясціла мая чысціня: «Хай будзе мне боскім усё жывое».

Тады падступіліся вы да мяне са сваімі бруднымі хімерамі; куды падзелася шчасная тая часіна?

«Усе дні хай будуць свяшчэнныя мне» — так казала калісьці мая маладосць; і праўда, гэта была прамова вясёлай мудрасці!

Але тады вы ўкралі ў мяне мае ночы і прадалі іх за пакуты бессані: куды падзелася тая вясёлая мудрасць?

Калісьці ў вобразах птушак я шукаў шчаслівых

прыкметаў: тады вы пусцілі саву — злавесную пачвару — на мой шлях. О, дзе вы цяпер, мае пяшчотныя пошукі?

Калісьці я даў зарок адцурацца ад усякай агіды: тады вы ператварылі маіх блізкіх і сваякоў у гнойныя струпы. Ах, што сталася тады з маім высокім зарокам?

Як сляпы, хадзіў я калісьці шчаснымі сцежкамі: тады вы накідалі бруду на дарогу сляпому. І цяпер з'агідзелі яму былыя сцяжынкі.

І калі я спраўдзіў самае цяжкае для сябе і ўжо святкаваў перамогу маіх пераадоленняў, вы прымусілі енчыць тых, што любілі мяне, кажучы, быццам я ім спрычыніў найбольшы боль.

Сапраўды, вы заўсёды рабілі так: вы атруцілі найсаладзейшы мой мёд і зглумілі працу маіх самых руплівых пчол.

Самых нахабных жабракоў слалі вы насустрач майму міласэрнасці; сціжмы невылечна бессаромных тлуміліся заўсёды вакол спагады маёй. Так паранілі вы дабрачынствы мае ў іх веры.

І калі я ахвяраваў сваім самым святым, што меў, адразу і ваша «пабожнасць» клала свае тлустыя дары: так што густым чадным дымам душылася маё самае святое.

І аднойчы схацелася мне танцаваць так, як яшчэ ніхто не танцаваў, — вышэй за нябёсы хацеў я лунаць у сваім танцы. Тады падбухторылі вы майго любага спевака.

І заспяваў ён панылую, смутную песню; о, быццам злавесны рог затрубіў мне ў вушы!

Забойчы спявак — прылада зла, самы невінаваты! Ужо я ўстаў, гатовы да свайго найлепшага танца; але сваёй мелодыяй ён забіў маё захапленне.

Толькі праз танец магу я выявіць сімвалы і

падабенствы самых высокіх рэчаў: і вось найвышэйшы сімвал так і не адбіўся ў рухах майго цела!

Засталася нявыказаная і не знайшла выйсця мая найвышэйшая надзея! І памерлі вобразы і суцяшэнні маёй маладосці!

Як перанёс я ўсё гэта? Як вылечыў і адолеў гэтыя раны? Як паўстала мая душа з гэтых магіл?

Так, ёсць у мне нешта неўміручае, чаго нельга замкнуць у склеп, што здольнае ўзарваць нават скалы: гэта — *мая воля*. Моўчкі, не мяняючыся, праз гады.

Як і раней — сваім ходам, але маімі нагамі хоча ісці мая воля; суровае і непераможнае адчуванне яе.

Толькі гэтая мая пята — непацэльная. Ты жывая і верная сабе, ты самая цярплівая! І заўсёды прабіваешся праз скляпы!

Што не вырашылася ў маладосці, усё жыве ў табе; як маладосць, як жыццё, поўнае надзей, сядзіш ты тут, на магільных руінах.

Вітаю цябе, мая воля, разбуральніца скляпоў! Толькі там, дзе ёсць магілы, магчымыя ўваскрэсенні!»

Так спяваў Заратустра.

## Пра самапераадоленне

«Воля да праўды» — ці не так называеце вы, наймудрэйшыя, тое, што парывае вас і робіць палкімі?

Воля да памыснасці ўсяго існага: так называю я вашу волю!

Усё існае вы хочаце спачатку *зрабіць* яўным, памысным: бо сумняваецеся — а ці памыснае яно.

Але яно не павінна схіліцца перад вамі і дапасавацца да вас! Так хоча ваша воля. Усё існае павінна зрабіцца гладкім і падданым духу, як яго люстраны адбітак.

Уся ваша воля, наймудрэйшыя, у гэтым памкненні да ўлады, нават калі вы гаворыце пра дабро і зло, пра ацэнку ўсіх каштоўнасцяў.

Стварыць свет хочаце вы, перад якім вы маглі б укленчыць: такая ёсць ваша апошняя надзея і ваша ап'яненне.

Тым часам як нямудрыя, гэта значыць народ, — падобныя на раку, па якой плыве човен, а ў ім урачыстыя і пышна ўбраныя каштоўнасці.

Вашу волю і каштоўнасці вы пусцілі па рацэ станаўлення; я пазнаю вашу старую волю да ўлады па тым, у што верыць народ як у дабро і зло.

Гэта вы, наймудрэйшыя, пасадзілі вашых гасцей у човен, далі ім бляск і гордыя імёны, вы і ваша ўладніцкая воля!

Далей нясе рака ваш човен: яна павінна несці яго. Не абыходзіць вам, што пеніцца ўзбураная вамі рака і гнеўна праціўіцца кілю!

Не рака — небяспека вам і канец вашаму дабру і злу, наймудрэйшыя; але небяспечная сама воля да ўлады — невычэрпная самазарадная воля да жыцця.

Але каб вы зразумелі маё слова пра дабро і зло, хачу расказаць вам пра жыццё і ўласцівасці ўсяго жывога.

Я ішоў следам за ўсім жывым, я прайшоў па вялікіх і малых сцежках жывых, каб зведаць іх уласцівасці.

Стагранным люстэркам я лавіў позірк жывога, калі былі сціснуты ягоныя вусны; каб позірк той гаварыў мне. І ён гаварыў.

Але дзе б я ні знаходзіў жывое, усюды чуў словы пра паслушэнства. Усё жывое слухаецца.

А цяпер другое, што ўведаў я: загадваюць таму, хто не ўмее слухацца самога сябе. Такая ўласцівасць усяго жывога.

А вось трэцяе, што я чуў: загадваць цяжэй, чым слухацца. І не толькі таму, што той, хто загадвае, нясе цяжар тых, якія падпарадкоўваюцца, і што цяжар гэты можа лёгка раздушыць яго: спробаю і дзёрзкасцю здаваўся мне любы загад. І, загадваючы, жывое заўсёды ставіць сябе пад рызыку.

Нават загадваючы самому сабе, трэба яшчэ акупіць свой загад і стаць суддзёю, мсціўцам і ахвяраю свайго ж закону.

«Як жа гэта адбываецца? — пытаюся я ў сябе. — Што прымушае жывое падпарадкоўвацца, і загадваць, і, загадваючы, падпарадкоўвацца сабе?»

Дык слухайце ж маё слова, наймудрэйшыя! Пераканайцеся, ці сапраўды я пранік у аснову асноваў жыцця і да самых нетраў яе сэрца?

Усюды, дзе было што жывое, я знаходзіў волю да ўлады; і нават у паслушэнстве слугі я бачыў жаданне быць панам.

Воля слабога схіляе яго падпарадкоўвацца моцнаму, бо хоча панаваць над тым, хто яшчэ слабейшы: толькі гэтай радасці прагне ён і не хоча страціць яе.

І як меншае аддаецца большаму, каб радавацца і панаваць над яшчэ меншым, так ахвяруе сабою і найвялікшае, рызыкуючы жыццём дзеля ўлады.

У тым якраз і ёсць самаахвяраванне вялікага,

што яно — парыванне, і небяспека, і гульня, дзе стаўка — жыццё.

І там, дзе ёсць ахвяра, і служэнне, і позіркі кахання, — там ёсць і воля да панавання. Патайнымі сцежкамі прадзіраецца слабы ў крэпасць моцнага — да самага сэрца — і забірае ўладу.

І вось якую таямніцу расказала мне жыццё: «Глядзі, — сказала яно, — я тое, што *ўвесь час пераадольвае самое сябе.*

Хоць вы і называеце гэта прагай узнаўлення альбо імкненнем да мэты — да найвышэйшага, далёкага, разнастайнага, але ўсё гэта — адзінае і ёсць адна таямніца.

Я хутчэй загіну, чым адмоўлюся ад гэтага: далібог, там, дзе пагібель, захад і лістапад, там жыццё ахвяруе сабой дзеля ўлады!

Я — жыццё і павінна быць барацьбой і станаўленнем, мэтаю і супярэчнасцю мэтаў: хто адгадае маю волю, той зразумее, якімі *крывымі* дарогамі павінна ісці жыццё!

Што б ні стварала я, як бы ні любіла свой твор, — і яму і каханню я павінна зрабіцца супраціўцам, ты толькі сцежка і след маёй волі: сапраўды, мая воля да ўлады ідзе нагамі тваёй волі да праўды!

Хто ўзвясціў «волю да існавання», той прайшоў міма праўды; такой волі няма!

Тое, чаго няма, не можа хацець; а што ёсць, — не захоча быць, бо ўжо ёсць!

Толькі там, дзе ёсць жыццё, ёсць і воля: але не воля да жыцця — а воля да ўлады! Так я вучу цябе.

Многае цэніць той, хто жыве вышэй, чым жыццё; але і ў самой гэтай ацэнцы гаворыць воля да ўлады!»

Так вучыла мяне калісьці жыццё: гэтаксама,

наймудрэйшыя, вырашаю і я загадку вашага сэрца.

Праўду кажу вам: няма такога дабра і зла, каб яны не мяналіся. Няспынна павінны яны адольваць саміх сябе.

З дапамогаю вашых каштоўнасцяў і таго, што вы кажаце пра дабро і зло, вы чыніце гвалт, вы, ацэншчыкі: і ў гэтым ваша таемная любоў, бляск, трапятанне і парыванні душы.

Але яшчэ больш магутная сіла і новае пераадоленне вырастаюць з вашых каштоўнасцяў; аб гэтую сілу і пераадоленне разаб'ецца яйцо і яго шкарлупа.

І той, хто павінен быць творцам дабра і зла, той, праўда, павінен быць спачатку разбуральнікам, які разбівае каштоўнасці.

Так найвышэйшае зло належыць да найвышэйшай дабрыні — быць стваральным.

Дык будзем гаварыць толькі пра яго, наймудрэйшыя, хоць і злое яно ў сутнасці сваёй. Аднак маўчанне — яшчэ горш: усякая праўда, якую замоўчваюць, робіцца ядавітай.

Хай разаб'ецца аб нашую праўду ўсё, што *можа* разбіцца! Многа будынкаў мы маем яшчэ пабудаваць!»

Так сказаў Заратустра.

## Пра ўзвышаных

Спакойная глыбіня майго мора: хто адгадае, якіх пацешных пачвараў хавае яно!

Няўзбураная мая глыбіня; але яна блішчыць плывучымі загадкамі і ўсмешкамі.

Я сёння бачыў узвышанага, святочнага, па-

каянца духам: о, як рагатала душа мая з яго брыдкасці!

Выгнуўшы грудзі, быццам затрымліваючы дыханне, стаяў ён, гэты ўзвышаны, і маўчаў.

Ён быў увешаны агіднымі праўдамі, трафеямі свайго палявання, і задаваўся падранаю вопраткаю; і шмат калючак было на ім, але не было ніводнай ружы.

Ён яшчэ не навучыўся смеху і прыгажосці. Змрочны вярнуўся гэты паляўнічы з лесу пазнання.

Пасля бітвы з дзікімі звярамі вярнуўся ён дамоў; але праз сур'ёзнасць яго праглядвае яшчэ дзікі звер — не пераможаны!

Быццам тыгр, які падрыхтаваўся да скачка, — так трымаецца ён; але я не люблю гэтых напружаных душ, і не даспадобы мне ўсе гэтыя затоеныя.

А вы, сяброве, кажаце, што пра густ і смак не спрачаюцца? Але ўсё жыццё і ёсць спрэчка пра густ і смак!

Густ — гэта адначасова і вага, і шалі вагаў, і той, хто важыць; і гора жывым, якія хочуць пражыць без спрэчкі пра вагу, шалі і вагара!

О, калі б гэты ўзвышаны стаміўся ад сваёй узвышанасці: толькі тады выявілася б яго прыгажосць, і толькі тады я пакаштаваў бы яго і палічыў бы смачным.

І толькі адвярнуўшыся ад самога сябе, пераскочыць ён цераз свой цень — праўда! — проста ў *сваё* сонца!

Надта доўга сядзеў ён у цяні, пабялелі шчокі ў пакаянца духам: ён ледзь не памёр з голаду, чакаючы.

Яшчэ тоіцца ў ягоных вачах пагарда, і агіда — на вуснах у яго. І хоць ён дасягнуў супакаення, няма сонца ў ягоным спакоі.

Ён мусіў бы працаваць, як вол; і зямлёю мусіла б пахнуць ягонае шчасце, а не пагардай да зямлі.

Я хацеў бы бачыць яго белым валом, валом, які, чмыхаючы і рыкаючы, ідзе перад плугам; і сам рык яго павінен усхваляць усё зямное!

Твар у яго яшчэ змрочны: цень ад рукі грае на яго твары. Пачуцці ў вачах у яго яшчэ зацененыя.

Дзеі яго ляжаць на ім ценем: сама рука азмрочвае таго, хто рухае ёю. Не пераадолеў ён яшчэ дзеі сваёй.

Як мне падабаецца гэты бычыны хіб! Аднак я хацеў бы ўбачыць, што позірк ягоны — позірк анёльскі.

І сваю волю героя ён таксама мусіць забыць: хай будзе ён узнесены, а не проста ўзвышаны: хай сам эфір носіць яго, бязвольніка!

Ён перамагаў пачвараў і адгадваў загадкі: збаўцам, разбуральнікам і пераможцам усяго пачварнага і загадкавага ў сабе самім хай ён стане цяпер і пераўтворыць сваіх пачвараў у нябесных дзяцей.

Пазнанне яго яшчэ не навучылася ўсміхацца і не ведаць зайздрасці; яшчэ не ацiхла ў прыгажосці яго бурлівая палкасць.

Праўда, у прыгажосці, а не ў сытасці павінны патануць і змоўкнуць парыванні яго! Велікадушнасць прывабная ў тых, у каго настрой узвышаны.

Паклаўшы руку на галаву — так павінен адпачываць герой, хай ён нават пераадольвае свой адпачынак.

Але якраз у героя самае цяжкае — *прыгажосць*. Яна недасяжная нават самай моцнай волі.

Крыху больш, крыху менш: але ў гэтым

«крыху» якраз многае, якраз гэтае «крыху» і ёсць сутнасць.

Расслабіць мускулы і волю — гэта ў вас самае цяжкае, вы, узвышаныя!

Калі сіла, робячы літасць, сыходзіць у бачнае, такі сыход я называю прыгажосцю.

І ні ад кога я не патрабую прыгажосці так, як ад цябе, моцны: няхай дабрыня будзе тваё апошняе самапераадоленне.

Зло я залічваю на твой рахунак: таму патрабую ад цябе дабра.

Праўда, я часта смяяўся з слабых, якія ўважаюць сябе за добрых, бо іх няма кіпцюроў!

Ты павінен бачыць узор цноты ў калоне: чым вышэйшая яна, тым далікатнейшая і прыгажэйшая, а ўсярэдзіне — цвярдзейшая і мацнейшая.

Так, узвышаны, ты яшчэ будзеш прыгожы і будзеш трымаць люстэрка перад сваёй прыгажосцю.

Тады скаланецца твая душа ад боскіх жаданняў, і пакланенне будзе нават у тваім славалюбстве!

У гэтым — таямніца душы: толькі калі герой пакінуў яе, у сне да яе набліжаецца Звышгерой».

Так сказаў Заратустра.

## Пра край адукаванасці

«Надта далёка заляцеў я ў будучыню: жудасць ахапіла мяне.

І калі я агледзеўся, бачу! — вось толькі адзін час быў мой адзіны сучаснік.

Тады назад паляцеў я, дахаты — хутчэй і

хутчэй: так прыйшоў я да вас, людзі цяпершчыны, у край адукаванасці.

Упершыню наважыўся я як след разгледзець вас, і не было ліхога намыслу ў маім жаданні; праўда ж, прыйшоў я да вас з тугою ў сэрцы.

Але што сталася са мною? Як ні баяўся я, а мусіў смяяцца! Ніколі яшчэ вочы мае не бачылі нічога больш стракатага!

Я смяяўся і смяяўся, аж бакі мае рваліся, а сэрца трымцела: «вось яна, бацькаўшчына ўсіх горшчыкаў на фарбы!» — сказаў я сабе.

З целам і чэлесамі, размаляванымі ў пяцьдзесят колераў: такія сядзелі вы, сучаснікі, на вялікае маё здзіўленне!

І пяцьдзесят люстраў, якія ліслівa дагаджалі вам, стаялі вакол вас і паўтаралі гульню вашых фарбаў!

Праўда, людзі цяпершчыны, вы не прыдумаеце сабе лепшае маскі, чым ваш свой твар! Хто можа *пазнаць* вас?

Спісаныя знакамі мінуўшчыны, а паўзверх іх — яшчэ і новымі знакамі: так, вы хораша схаваліся ад усіх талмачоў!

А няхай бы і знайшоўся які даследчык нырак: але цяжка даць веры, што ў вас ёсць ныркі! Здаецца ж, зварганілі вас з фарбаў і ярлыкоў.

Усе часы і народы стракацяць з-пад вашых строяў; стракацізна нораваў і веравызнанняў у манерах і рухах вашых.

І калі зняць з вас вашыя строі, покрывы, і фарбы, і выдыганні вашыя, дык застанецца — каб толькі палохаць птушак.

Праўда, я і сам — напалоханая птушка, якая ўбачыла вас аднаго разу голых і без фарбы; і я паляцеў ад вас, як паляцеў бы ад шкілета, які пазаляцаўся б да мяне.

Лепей быць парабкам у пекле і слугаваць ценям мінуўшчыны! Нават жыхары падземнага тагасвецця таўсцейшыя і сыцейшыя за вас!

Так, у тым якраз і горыч вантробы маёй, што не пераношу я вас голых і апранутых!

Усё, што ёсць страшнага ў будучыні і што палохала птушак, якія збіліся з дарогі, — далібог, бліжэй сэрцу майму, чым вашая «рэчаіснасць».

Бо так кажаце вы: «Мы — гэта рэчаіснасць, без веры і без паняверкі»; — ну і хва́ліцеся, напінаеце грудзі свае і не бянтэжыцеся, што іх няма!

Ды і як *можаце* вы верыць, размаляваныя! Вы размаляваныя карцінамі, спісанымі з усяго, у што калі-небудзь верылі!

Вы — хадзячае абвяржэнне веры, абрыўкі і канцы думак. *Спаняверанымя* — так я называю *вас*, апалагеты рэчаіснасці!

Усе эпохі маюць адна адну наўме і балабоняць пра ваш дух: але сонныя мроі і балбатня мінуўшчыны ўсё ж бліжэйшыя да рэчаіснасці, чым ваша чуванне!

Вы — бясплённыя: і *таму* — няма ў вас веры. Але стваральнік заўсёды бачыў вешчыя сны і зорныя азнакі — і ён верыў у веру!

Вы — напалавіну адчыненая брама, каля якое чакаюць далакопы. І вось яна, *вашая* рэчаіснасць: «Усё асуджана на пагібель».

Вы стаіце перада мною, худыя і бясплённыя! Як тырчаць скабы вашыя! Некаторыя з вас самі не заўважаюць гэтага.

І кажуць: «Здаецца, пакуль я спаў, Бог нешта забраў у мяне? Гэтага цалкам хапіла б, каб зрабіць сабе з гэтага кабетку!

Дзівосная худзізна скабаў маіх!» — так кажуць многія мае сучаснікі.

Так, людзі цяпершчыны, вы смешныя мне! І асабліва калі дзіву даяцеся самі з сябе!

Шчасце, што я магу смяяцца [redacted] вашага здзіўлення і не даводзіцца мне каўтаць розную дрэнь з вашых місак.

Але не бяда, бо я маю панесці нешта больш *цяжкае:* не бяда, калі жукі і мухі сядуць на ношу маю!

Праўда, не стане яна цяжэйшая ад гэтага! І не праз вас, сучаснікі, ляжа на мяне самая вялікая стома.

Ах, куды б жа яшчэ падняцца мне [redacted] маёй скрухаю! З усіх гор выглядаю я сабе бацькоўскія і мацярынскія землі.

Але нідзе не знайшоў я бацькаўшчыны: у любым месцы я не на месцы і каля ніводнае брамы не затрымліваюся.

Чужыя мне сучаснікі, прадмет кпінаў маіх! А зусім жа нядаўна цягнуўся я да іх сваім сэрцам. Выгналі мяне з бацькоўскіх і мацярынскіх земляў.

Толькі адзін край я люблю — *край дзяцей маіх,* яшчэ не адкрыты, яшчэ далёкі ў акіянах: хай нястомна шукаюць яго мае караблі.

У дзецях маіх я спраўджу тое, што я — сын свайго бацькі: усёй будучыняй адкуплю — *гэтую* цяпершчыну!»

Так сказаў Заратустра.

## Пра незаплямленае пазнанне

«Калі ўчора ўзыходзіў месяц, мне здалося, быццам ён хоча нарадзіць сонца: так шырока і цяжарна раскінуўся ён на небасхіле.

Але ашукаў мяне гэты хлус сваёй цяжарнасцю; і я хутчэй паверу, што месяц — мужчына, а не жанчына.

Але мала падобны і да мужчыны гэты нясмелы начны летуценнік. Далібог, з нядобрым сумленнем блукае ён па дахах.

Бо ён пажадлівы і зайздрослівы, гэты мнішак; пажадлівы да зямлі і ўцехаў кахання.

Не, не люблю я гэтага ката на даху! Агідны мне кожны, хто падкрадваецца да прачыненых вокнаў!

Пабожна і маўкліва пераступае ён па зорных кілімах; але я не люблю такой ціхай мужчынскай хады, калі не звіняць шпоры!

Кожны сумленны крок сумленна папярэджвае; а кот прыпадае да зямлі і паўзе. Глянь, па-кашэчы прыпадаючы, паўзе і месяц.

Такое параўнанне я даю вам, датклівыя крывадушцы, вам, «чыстыя спазнавальнікі»! *Я* называю вас пажаднікамі.

І вы любіце зямлю і зямное: я добра вас разгадаў! Але сорам і нядобрае сумленне ў любові вашай — вы падобныя да месяца!

Пагарджаць зямным намовілі дух, а не нутробіну вашу, вось што наймацнейшае ў вас!

І вось духу вашаму брыдка, што ён падначальны вантробам і ўцякае ад свайго сораму на дарогі хлусні і ашукі.

«Самае высокае было б мне, — так гаворыць сабе ваш схлусянелы дух, — сузіраць жыццё без пахацінства, а не па-сабачы — высалапіўшы язык.

Быць шчаслівым у сузіранні, з памерлай воляй, без прыступаў прагнасці і сябелюбства, быць халодным і знэнджаным, але з п'янымі вачыма месяца!

Найлепшаю доляю было б мне любіць зямлю так, — спакушае сябе спакушаны, — як любіць яе месяц, і толькі адным позіркам дакранацца да яе.

Менавіта гэта я называю *незаплямленым* пазнаннем, калі мне ад рэчаў нічога не трэба, — толькі ляжаць перад імі, як люстэрка з сотняй вачэй».

О вы, датклівыя крывадушцы і пахацінцы! Вам бракуе нявіннасці ў жаданні: таму вы і хлусіце на яго!

Далібог, не як ствральнікі, вытворцы, не як радасныя станаўленцы любіце вы зямлю!

У чым нявіннасць? Яна там, дзе ёсць воля да зачацця. І ў таго найчысцейшая воля, хто хоча ствараць звыш сябе.

У чым прыгажосць? У тым, што я *павінен хацець* усёй сваёй воляй; што я прагну любіць і загінуць дзеля таго, каб вобраз не застаўся толькі вобразам.

Любіць і загінуць: гэта спалучэнне — вечнае. Воля да любові азначае гатоўнасць памерці. Так кажу вам я, баязліўцы!

Але ваш погляд, косы позірк пакладанца, хоча называцца «сузіраннем»! А тое, што можна абмацаць баязлівым позіркам, ахрышчана ў вас імем «прыгожае»! О вы, плюгаўнікі высокіх назоваў!

Але ў тым праклён ваш, незаплямленыя, чыстыя спазнавальнікі, што вы ніколі нічога не народзіце! Хоць і раскіньцеся, як парадзіхі, на небасхіле!

Праўда, у вашых вуснах цесна ад высокіх слоў. І што ж, мы павінны паверыць, што і ў сэрцах вашых цесна ад высакародства, вы, хлусы?

А мае словы — грубыя, пагарджаныя, гаркавыя словы: я ахвотна падымаю тое, што падае пад стол на банкетах вашых.

І ўсё ж гэтымі словамі я магу вам казаць праўду, крывадушнікі! Так, няхай едкія пахошчы ракавін і рыбіных касцей і калючае лісце паказычуць вам ноздры!

Паганы пах заўсёды вакол вас і банкетаў вашых: вашымі пажадлівымі думкамі, аблудамі і крыўляннем прасмердла паветра!

Майце ж адвагу паверыць сабе і нутробе сваёй! Хто не верыць сабе, той заўсёды хлусіць.

Абалонкаю божышча прыкрыліся вы, «чыстыя»: пад абалонкаю гэтаю схаваўся ваш агідны кольчаты чарвяк.

Праўда, вы ашукваеце, «сузіральнікі»! Самога Заратустру абдурылі вы калісьці боскаю абалонкаю сваёю: не распазнаў ён пад ёю гадзючых колцаў.

Калісьці здалося мне, што нейкая боская душа гуляе ў гульнях вашых, вы, чыстыя пазнавальнікі! Я тады лічыў, што лепшага мастацтва за ваша няма!

Далячынь хавала ад мяне гадзючую нечысць і мярзотны смурод, і я не падазраваў, што там вывінаецца пажадлівая яшчарчына хітрына.

Але я падышоў да вас *бліжэй:* і развіднела мне, а цяпер развіднела і вам — скончыліся любоўныя залёты месяца!

Зірніце! Стаіць ён, заспеты на месцы, бледны, перад ранішняй зарою!

Бо ўжо ідзе палаючае сонца, да зямлі хіліцца каханне яго! Каханне сонца — нявіннасць і жаданні стваральніка!

Зірніце, як нецярпліва падымаецца яно з-за мора! Ці ж не адчуваеце вы прагі і гарачага подыху яго кахання?

Яно прагне ўпіцца морам і падняць у сваю вышыню блакітнасць яго; і тысячаю грудзей падымаецца да яго мора.

Бо мора *хоча*, каб сонца цалавала яго і ўпівалася ім; яно *хоча* зрабіцца паветрам, і вышынёю, і сцежкаю святла, і самім святлом!

Далібог, як сонца, люблю я жыццё і ўсе глыбокія моры.

І вось што ў мяне называецца пазнаннем: каб усё глыбокае паднялося на вышыню маю!»

Так сказаў Заратустра.

## Пра вучоных

«Аднаго разу, калі я спаў, баран з'еў плюшчавы вянок на маёй галаве; з'еў і сказаў: «Заратустра больш не вучоны».

І, сказаўшы гэта, ён пагардліва адышоў і ганарыста. Адно дзіця расказала мне пра гэта.

Я люблю ляжаць тут, дзе гуляюць дзеці, каля разваленага мура, у бадзяках і чырвоных маках.

Я ўсё яшчэ вучоны для дзяцей, і бадзякоў, і чырвоных макаў. Не вінаватыя яны нават у злосці сваёй.

Але ў бараноў я ўжо больш не вучоны: такая ўжо доля мая — хай будзе яна дабраслаўлёная!

Бо праўда яна вось: пайшоў я з жытлішча вучоных, ды яшчэ і дзвярыма бразнуў.

Надта доўга сядзела мая галодная душа за іх сталом: не навучыўся я спазнаваць, як яны, — з такім самым спрытам, як лускаюць арэхі.

Я люблю свабоду і чыстае паветра над свежай зямлёю; лепей мне спаць на бычыных скурах, чым на іхніх годнасцях і шаноўлях.

Я занадта гарачы і таму згараю ад сваіх думак: мне часта перасмыкае дыханне. І тады трэба мусова вырвацца на прастору, прэч з усіх гэтых пыльных пакояў.

А яны вылежваюцца ў халадку: яны хочуць быць толькі гледачамі і не смеляцца сядзець там, дзе сонца паліць прыступкі.

Як разявы на вуліцах, што лупяць вочы на прахожых, так чакаюць і яны, і лупяць вочы на думкі, прыдуманыя не імі.

Пачапай іх рукамі, і падымецца пыл, як ад мяхоў з мукою; хто б мог падумаць, што гэты пыл — ад зерня і залатых дарункаў нівы?

Калі яны ўдаюць з сябе мудрацоў, мяне мароз па скуры дзярэ ад іх нікчэмных праўд і выслоўяў; і часам ад іх мудрасці патыхае такім смуродам, быццам яе спарадзіла балота: і праўда, я нават чуў, як жабы кумкалі з яе!

Спрытнюгі яны, і разумныя ў іх пальцы: што там *мая* прастадушнасць перад іхняй крывадушнасцю! Яны могуць усё — шыць, вязаць, ткаць: вось і вяжуць яны панчохі духу!

Яны — выдатныя гадзіннікавыя механізмы: трэба толькі ў час накручваць! Тады яны без памылак паказваюць час, з далікатным шумком.

Нібы млыны і ступы, працуюць яны — толькі паспявай падсыпаць у іх зерне! Ужо ж яны перамелюць яго ў белы пыл.

Кожны пільна сочыць за пальцамі суседа, і не надта давяраюць яны адно аднаму. Здатныя да маленькіх хітрын, яны сочаць за тымі, чые веды накульгваюць, і пільнуюць, як павукі.

Я бачыў, як асцярожна гатуюць яны атруту:

пры гэтым заўсёды нацягваюць шкляныя пальчаткі на пальцы.

І такімі касцямі яны ўмеюць гуляць: і гуляюць з запалам, аж іх кідае ў пот.

Чужыя мы адно аднаму, і іхнія цноты мне нават больш агідныя, чым падступства і фальшывыя косці ў гульні.

І калі я жыў сярод іх, жыў я над імі. І за гэта яны не любілі мяне.

Яны і слухаць не хацелі пра тое, каб хтонебудзь хадзіў над іхнімі галовамі; і таму паміж мною і сабою, над галовамі сваімі, яны наклалі дрэваў, зямлі і смецця.

Так заглушылі яны шум крокаў маіх: да гэтага часу найгорш мяне чулі самыя найвучонейшыя.

Усе памылкі і слабасці людзей паклалі яны паміж сабою і мною: «чорнай падлогай» называецца гэта ў іхніх дамах.

Але нягледзячы на гэта, я са сваімі думкамі хаджу *паверх* іхніх галоў; і калі б я захацеў пайсці дарогаю сваіх памылак, дык і тады я быў бы вышэй.

Бо людзі *не* роўныя: так кажа справядлівасць. І тое, чаго я хачу, *яны* не маюць права хацець!»

Так сказаў Заратустра.

## Пра паэтаў

«З таго часу, як я лепей ведаю цела, — сказаў Заратустра аднаму свайму вучню, — я кажу пра дух толькі ў параўнаўчым сэнсе; і ўсё «непрамінальнае — таксама толькі параўнанне».

«Я ўжо чуў гэта ад цябе аднаго разу, — адказаў вучань, — і тады ты яшчэ дадаў: «А

паэты залішне маняць». Чаму ты сказаў, што паэты залішне маняць?»

«Чаму? — сказаў Заратустра. — Ты пытаешся чаму? Я не той, у каго можна пытацца пра ўсе іх «чаму».

Не ўчора пачалося маё жыццё! Даўно ўжо я пераўжыў асновы сваіх меркаванняў.

Ці не быў бы я бочкаю памяці, калі б насіў пры сабе ўсе свае асновы!

Захоўваць свае меркаванні — ужо і гэта залішне для мяне; а колькі птушак ужо адляцела!

І сярод іх у галубятні маёй ёсць нейкая залётная, не вядомая мне; яна дрыжыць, калі я кладу на яе руку.

Дык што ж табе аднаго разу сказаў Заратустра? Што паэты залішне маняць? Але і сам Заратустра — паэт.

А цяпер ці верыш ты, што тут ён сказаў праўду? Чаму верыш?»

Вучань адказаў: «Я веру ў Заратустру». Але Заратустра пахітаў галавою і ўсміхнуўся.

«Вера не робіць з мяне праведнага, — сказаў ён, — тым больш вера ў мяне.

Але пастановім сабе, што нехта сказаў сур'ёзна, быццам паэты залішне маняць: ён меў бы рацыю — мы залішне манім.

Мы вельмі мала ведаем і блага вучымся: таму мы і мусім маніць.

І хто з нас, паэтаў, не разводзіў свайго віна? Колькі атрутных мяшанак было прыгатавана ў скляпах нашых; там шмат чаго адбывалася, чаго і апісаць не спасобіць.

І як што мы мала ведаем, нам даспадобы ўбогія духам, асабліва — маладыя жанчыны!

Мы таксама вельмі кідкія да ўсяго, што вечарамі распавядаюць старыя кабеты. Гэта ў сабе мы называем Вечна-Жаночым.

І нібыта існуе нейкі таямнічы, адмысловы шлях да ведання, *прысыпаны*, таму, хто нечагась навучыўся: во так во — верым мы ў народ і ў «мудрасць» ягоную.

А вось у што вераць усе паэты: калі хто ляжыць у траве альбо на голым пагорку і цікуе вухам, дык улоўлівае нешта такое, што лунае паміж небам і зямлёй.

І калі паэтаў ахінаюць наплывы пяшчоты, яны перакананыя, што сама прырода закахалася ў іх.

І што яна ціхенька скрадаецца да іх і нашэптвае ім нешта таямнічае, ліслівыя словы: гэтым яны ганарацца і задаюцца перад усімі смяротнымі!

О, як многа розных рэчаў паміж небам і зямлёй, пра якія даюць сабе летуценіць толькі паэты!

І тым больш пра тое, што *над* небам: бо ўсе багі — сімвалы і паэтычныя вычуды!

Праўда, нас заўсёды цягне ўгору, у царства захмар'я: на хмары мы садзім стракатыя пудзілы называем іх багамі і Звышчалавекамі...

Яны занадта лёгкія на такія крэслы! — і гэтыя багі, і Звышчалавекі!

Ах, як я змакрэў ад усяго гэтага недасягальнага, што мусова пнецца зрабіцца падзеяй! О, як я стаміўся ад паэтаў!»

Пакуль гаварыў Заратустра, вучань сердаваў на яго, але маўчаў. Замоўк і Заратустра: а позірк ягоны быў скіраваны ўсярэдзіну сябе, і здавалася, што глядзеў ён кудысьці ўдалечыню. Нарэшце ўздыхнуў.

«Я — ад сёння і ад учорага, — сказаў ён, — але ёсць ува мне і нешта ад заўтра, і ад паслязаўтра, і ад запаслязаўтра.

Я стаміўся ад паэтаў, старых і новых: надта павярхоўныя для мяне ўсе гэтыя плыткія моры.

Яны мыслілі недастаткова ўглыбіню: таму і пачуццё іх не даставала да самых асноў.

Трошкі юрлівасці, трошкі нуды — гэта яшчэ лепшыя іхнія думкі.

А мне іх прывідныя павевы і подыхі — гэта ад брынчання іхніх арфаў; што яны дагэтуль ведалі пра палкасць гукаў!..

Яны таксама недастаткова чыстыя: каламуцяць ваду, каб яна здавалася глыбейшаю.

Яны любяць выдаваць сябе за ўлагодцаў: але ў мяне яны заўсёды толькі пасрэднікі і мяшальнікі, неданоскі і нячыстыя!..

Ах! Часта закідваў я мярэжы ў іхняе мора, каб злавіць добрую рыбіну; а лавіў заўсёды толькі галаву якога-небудзь старавечнага божышча.

Так, галоднаму мора дало камень. Магчыма, што і самыя яны выйшлі з мора.

Вядома, і сярод іх пракідаюцца перлы: але гэта яшчэ больш надае ім падабенства з цвёрдымі ракавінамі. І часта замест душы я знаходзіў у іх толькі салёную слізь.

У мора навучыліся яны і гардзейства: ці ж бо мора — не пава над павамі?

І перад найбрыдчэйшым буйвалам раскукольвае яна хвост і ніколі не стамляецца круціць сваім карункавым веерам з срэбра і шоўку.

Атупела глядзіць на яе буйвал, і душа яго падобная на пясок, яшчэ больш падобная на нетру, а найбольш на балота.

Што яму хараство, і мора, і павіныя строі! Такую вось прыпавесць апавядаю я пра паэтаў.

Праўда, дух у іх — таксама пава над павамі і мора гардзейства!

Духу паэтаваму патрэбныя гледачы: хай гэта будуць хоць буйвалы!..

Але я стаміўся ад гэтага духу: і прадбачу час, калі ён стоміцца сам ад сябе.

Я ўжо бачыў паэтаў, якія пераўтварыліся і звярнулі свой позірк на сябе.

Я бачыў пакаянцаў духам: яны выраслі з паэтаў».

Так сказаў Заратустра.

## Пра вялікія падзеі

На моры ёсць выспа — непадалёк ад шчасных выспаў Заратустры, — на ёй заўсёды курыцца вулкан; народ, і асабліва старыя кабеты, казалі пра гэтую выспу, што яна каменная глыбіна перад брамаю ў пекла; а ўсярэдзіне самога вулкана ёсць вузкая дарога ўніз да самай брамы.

І вось, у той самы час, калі Заратустра жыў на шчасных выспах, сталася так, што адзін карабель кінуў якар каля выспы, на якой курыўся той вулкан; і каманда сышла з карабля на бераг, каб папаляваць на трусоў. А калі пазней, недзе пад полудзень, капітан і яго людзі сабраліся разам, яны раптам убачылі, што нехта ляціць да іх у паветры, і нечы голас ясна сказаў: «Пара! Даўно пара!» Калі ж гэты прывід наблізіўся да іх — а ён шпарка, як цень, ляцеў да вулкана, — яны, ашаломленыя, пазналі ў ім Заратустру; бо ўсе, акрамя капітана, бачылі яго нераз і любілі, як любіць люд — спалучаючы любоў з нясмеласцю.

«Паглядзіце! — сказаў стары стырнік, — Заратустра ляціць у пекла!..»

Якраз таго самага часу, калі карабельнікі

прысталі да выспы, разнеслася пагудка, што Заратустра знік; і калі пыталіся ў сяброў пра яго, тыя казалі, што ён уначы пайшоў да карабля, не сказаўшы, куды хоча адплысці.

Так узнік закалот, а праз тры дні, калі даведаліся пра відзежы ў карабельнікаў, ён памацнеў; і ўвесь народ загаварыў, што Заратустру зваlok д'ябал. Праўда, ягоныя вучні смяяліся з гэтае галамоўзіны; адзін сказаў нават: «Я хутчэй паверу, што Заратустра сам звалок д'ябла». Аднак у глыбіні душы ўсе сумеліся і хваляваліся: дзіва што радасці было, калі на пяты дзень Заратустра паявіўся сярод іх.

І вось Заратустраў расказ пра гутарку з Агнявым Сабакам.

«Зямля, — сказаў ён, — мае абалонку; і абалонку гэтую абчапілі хваробы. Напрыклад, адна такая хвароба называецца — «чалавек».

А другая хвароба называецца «Агнявы Сабака»: і *пра яго* людзі хлусілі і дазвалялі хлусіць.

Каб разамкнуць таямніцу, перайшоў я мора і ўбачыў праўду голую! Босую з ног да галавы.

Цяпер я ведаю, што такое Агнявы Сабака і ўсе гэтыя дэманы вывяржэння і абвяржэння, якіх баяцца не адны толькі старыя кабеты.

«Выходзь, Агнявы Сабака, са сваёй прорвы! — крыкнуў я. — І прызнавайся, ці настолькі глыбокая прорва твая? Адкуль бярэцца ўсё тое, што ты вырыгаеш на нас?

Ты многа п'еш з мора: гэта відаць па солі твайго красамоўства. Сапраўды, як на сабаку з прорвы ты залішне ясі з паверхні!

Я лічу цябе нутравешчам зямлі, і не болей за тое: кожнага разу, чуючы дэманаў вывяржэння і абвяржэння, я лічыў іх падобнымі да цябе — падсоленымі, хлуслівымі і пляскатымі.

Вы ўмееце рыкаць і засыпаць попелам! Вы — непамысныя выхвалякі, вы дасканала авалодалі майстэрствам так награваць глей і слізь, каб яны закіпалі.

Дзе вы, там паблізу заўсёды павінен быць глей і мноства губкападобных, пячорыстых і створкава-зашчэмленых: усё гэта рвецца на волю.

«Воля», — радасна рыкаеце вы: але я адвык верыць у вялікія падзеі, калі вакол іх так многа ляманту і чаду.

І павер мне ты, пякельны шум! Найвялікшыя падзеі — гэта не самыя галаслівыя, а нашы самыя сцішаныя гадзіны.

Не вакол выдумшчыкаў новага галасу, а вакол вынаходцаў новых каштоўнасцяў круціцца свет; *нячутна* круціцца ён.

І прызнай, што як толькі рассеецца дым і астыне твой грукат, выявіцца, што не было анічога. Вялікая важнасць, калі які-небудзь горад знябыўся, як мумія, а якая-небудзь статуя ляжыць у брудзе!

І вось што яшчэ я хачу сказаць усім звяргальнікам статуяў: далібог, гэта найвялікшае глупства — кідаць соль у мора, а статуі ў бруд.

У брудзе пагарды вашай ляжала статуя: але на тым і трымаецца закон яе, што з прыніжэння зноў паўстае жыццё і жывая прыгажосць!

І вось — у боскім німбе падымаецца яна цяпер, яшчэ больш панадная ў пакутніцтве сваім; і сапраўды, яна яшчэ падзякуе вам за тое, што вы скінулі яе, разбуральнікі!

Такую параду я даю каралям, і цэрквам, і ўсяму, што злядашчылася пад цяжарам гадоў і аслабла ад цнотаў сваіх: дайце скінуць сябе! І вы зноў вернецеся да жыцця, а дабрачыннасць вернецца да вас!»

Так я казаў Агнявому Сабаку. Тут ён панура перапыніў мяне і спытаўся: «Царква? Што гэта такое?»

«Царква, — адказаў я, — гэта своеасаблівая дзяржава, але вельмі ілжывая. Аднак жа замоўкні, падступны сабачыска! Ці ж ты не ведаеш суродзічаў сваіх!

Як і ты сам, дзяржава ёсць сабака крывадушнасці; як і ты, яна любіць гаварыць сярод дыму і грукату, каб прымусіць верыць, як гэта робіш і ты, быццам гаворыць яна з нутра рэчаў.

Бо яна мусова хоча быць найважнейшым зверам на зямлі; і вераць ёй, што яна здольная на гэта».

Пасля маіх слоў Агнявы Сабака стаў, як кручаны, круціцца ад зайздрасці. «Як так? — закрычаў ён. — Як так найважнейшым зверам на зямлі? І ў гэта вераць?» І столькі дыму і жахлівага ляманту шуганула з пашчы яго, што я аж падумаў, а ці не задыхнецца ён ад гневу і зайздрасці.

Нарэшце ён супакоіўся, і аслабла пыхценне яго; але як толькі ён змоўк, я сказаў яму са смехам:

«Ты злуешся, Агнявы Сабака: значыцца, я слушна думаў пра цябе!

А каб мне так і застацца слушным, паслухай пра другога Агнявога Сабаку: ён і праўда вяшчуе з самога сэрца зямлі.

Золата і залаты дождж вывяргае дыханне ягонае: так хоча сэрца. Што яму попел, што яму чад і гарачая слізь!

Як каляровыя хмары, вылятае смех з ягонае пашчы; гідзяць яго тваё клекатанне, і пляўкі, і турзоты твайго чэрава!

А золата і смех — ён бярэ з сэрца зямлі: бо,

ведай жа і ты, нарэшце: *сэрца зямлі — з золата»*.

Калі Агнявы Сабака пачуў гэта, ён не меў болей змогі слухаць мяне. Прысаромлены, падцяў ён хваста, неяк лянiва збрахнуў сваё «Гаў! Гаў!» і папоўз у бярлог свой».

Так расказваў Заратустра. Але вучні ледзьве слухалі яго: так рупела ім расказаць яму пра карабельнікаў, трусоў і лятучага чалавека.

«Што мне сказаць вам на гэта? — адказаў Заратустра. — Хіба я прывід?

Мусіць, то быў мой цень. Вы, напэўна, ужо чулі што-небудзь пра вандроўніка і ягоны цень?

Пэўнасць адна: мне трэба мацней зашворыць яго, інакш загубіць ён маю добрую славу».

І зноў пахітаў галавою Заратустра і здзівіўся. «Што гэта азначае? — паўтарыў ён. — Чаму прывід крычаў: «Пара! Даўно пара?!»

*Што* — даўно пара?»

Так сказаў Заратустра.

## Вяшчун

«...і ўгледзеў я: вялікая маркота сышла на людзей. Самыя лепшыя стаміліся ад працы сваёй.

Вучэнне з'явілася, побач з ім подбегам — вера: «усё пустое, усё роўнае, усё ўжо было!»

І рэхам з усіх пагоркаў пайшло: «усё пустое, усё роўнае, усё ўжо было!»

Праўда, мы сабралі ўраджай: але чаму пагнілі, чаму пацвілі плады? Што ўпала апошняе ночы з ліхога месяца?

Марная была ўся наша праца, атруцянела на́ша віно, сурочлівае вока зжухліла нашы палеткі і сэрцы.

Усе мы высахлі; і калі б агонь нас усіх ахапіў, мы попелам рассыпаліся б: але і сам агонь мы стамілі.

Усе студні высахлі ў нас, нават мора адступіла. Зямля хоча раскалоцца, але бездань не хоча нас паглынаць!

«Ах, дзе тое мора, каб у ім утапіцца?» — такая наша скарга сярод панылых балот.

Сапраўды, да смерці стаміліся мы; і вось мы чуваем і жывём далей — у магільнях!»

Такія словы пачуў Заратустра ад аднаго вешчуна; і прароцтва ягонае запала ў сэрца, і ён пераменіўся. Маркотны і стомлены хадзіў ён усюды; і зрабіўся падобны да тых, пра якіх гаварыў вяшчун.

«Сапраўды, — сказаў ён вучням сваім, — яшчэ крыху, і прыйдуць гэтыя доўгія поцемкі. Ах, як ўратаваць ад іх маё святло!

Каб не патухла яно сярод гэтай маркоты! Далёкім сусветам павінна свяціць яно і самым далёкім начам!»

Так, замаркочаны ў сэрцы сваім, хадзіў паўсюды Заратустра; тры дні ён нічога не еў і не піў, не меў адпачынку і страціў дар слова. Нарэшце сталася так, што заснуў ён глыбокім сном. А вучні яго сядзелі доўгія ночы вакол яго і клапатліва сачылі, калі прачнецца ён, калі загаворыць зноў, ацалёны ад сваёй скрухі.

І вось словы, якія сказаў Заратустра, прачнуўшыся; а голас ягоны даходзіў да вучняў, нібы з далёкае далечы.

«Паслухайце, сяброве мае, сон, які я сасніў, і дапамажыце мне разгадаць яго сэнс!

Загадка ён мне, гэты сон, яго сэнс схаваны і не лунае над ім на крылах.

Снілася мне, быццам я адмовіўся ад жыцця.

Я стаў начным вартаўніком на могілках, там, на самотнай гары — у палацы Смерці.

Там я ахоўваў труны: поўныя былі скляпенні трафеяў яе перамог. Са шкляных дамавін глядзела на мяне пераможанае жыццё.

Я дыхаў паветрам запыленай вечнасці; задыхалася пылам, млела мая душа. Хто мог там асвяжыць сваю душу?

Светлыня поўначы атачала мяне, а побач, на кукішках, сядзела мая адзінота, і яшчэ трэцяя — хрыплівая мёртвая цішыня, найпершая сяброўка.

Насіў я з сабою ключы, самыя паржавелыя; і самыя рыпучыя дзверы ўмеў я адчыняць імі.

Як злавеснае краканне, ляцеў скрыгат па калідорах, калі падымаліся палавіны дзвярэй: вусцішна крычаў гэты птах, не даваўся, каб будзілі яго.

Але яшчэ вусцішней сціскалася сэрца, калі ўсё зноў аціхала, калі ўсё зноў апаноўвала цішыня, і я заставаўся адзін у падступнай моўчы.

Так ішоў і поўз час, калі толькі яшчэ быў час; што я ведаю пра тое! Але аднаго разу сталася нешта такое, што абудзіла мяне.

Тры разы бразнулі ў браму, як громам, тройчы загулі, завылі скляпенні ў адказ: і тады я падышоў да брамы.

«Альпа! — крыкнуў я. — Хто нясе свой попел на гару? Альпа! Альпа! Хто нясе свой попел на гару?»

І я націскаў на ключ і напіраў на браму, каб адчыніць яе. Але ні на палец не адчыніў.

Раптам віхурны вецер расхінуў свае крылы: са свістам разрэзаў паветра і кінуў мне чорную дамавіну.

І ў віску, і ў выцці, і грукаце дамавіна раскалолася і выплюнула тысячастайны рогат.

І тысяча твараў дзяцей, анёлаў, соваў, блазнаў і матылькоў ростам з дзяцей — усё *гэта* здзекліва раўло і рагатала з мяне.

Я страшна спалохаўся, і ўпаў на зямлю, і крычаў ад жудасці так, як не крычаў ніколі.

І мой крык разбудзіў мяне — і я апамятаўся...»

Заратустра расказаў свой сон і замоўк, бо не ведаў яшчэ, як яго растлумачыць. Тады вучань, якога ён найболей любіў, падняўся, схапіў Заратустру за руку і сказаў:

«Само жыццё тваё тлумачыць нам твой сон, о Заратустра!

Ці ж сам ты не вецер з віхурным свістам, які адчыняе браму ў замку Смерці.

Ці ж сам ты не дамавіна, поўная разнастайных і стракатых твараў зла, а таксама анёльскіх аблiччаў жыцця?

Сапраўды, як разнастайны — на тысячу ладоў — дзіцячы смех, уваходзіць Заратустра ва ўсе магільніцы, смяецца з начных ахоўцаў магіл, што брынчаць сваімі ржавымі ключамі.

Страшыць і скідаць ты іх будзеш сваім смехам; і няпамяць іхняя, і абуджэнне засведчаць тваю ўладу над імі.

І нават калі настануць доўгія поцемкі і смяротная стома, ты не сыдзеш з небасхілу нашага, о заступнік жыцця!

Новыя зоркі ты нам паказаў і па-новаму даў нам убачыць велікапышнасць начы; сам смех ты раскінуў над намі, быццам шматкаляровы кілім.

Ад сёння і назаўсёды трупы мерцвякоў стануць крыніцай дзіцячага смеху; заўсёды будзе дзьмуць магутны вецер, будзе трыумфаваць над смяротнай стомленасцю: у гэтым ты зарука і вяшчун!

Сапраўды, *іх ты сасніў,* тваіх ворагаў: гэта быў твой самы цяжкі сон!

Але як пазбыўся ты гэтых відзежаў і здабыў сябе, так і яны павінны прачнуцца ад саміх сябе — і прыйсці да цябе!»

Так сказаў вучань; і ўсе астатнія зграмадзіліся вакол Заратустры, хапалі яго за рукі і ўмаўлялі яго пакінуць ложак і скруху сваю і вярнуцца да іх. А Заратустра сядзеў проста на ложку, з чужым позіркам. Як чалавек, што вярнуўся з далёкай чужыны, глядзеў ён дапытліва ў твары сваім вучням; і яшчэ не пазнаваў іх. Калі ж яны аднялі яго і паставілі на ногі, тады адразу перамяніўся позірк ягоны; ён зразумеў усё, што адбылося, пагладзіў сваю бараду і сказаў вялікім голасам:

«Ну што ж! На ўсё свой час; але парупцеся мне, вучнёве мае, каб у нас сёння быў добры абед, ды баржджэй, баржджэй! Так я хачу акупіць свае благія сненні!

А вяшчун няхай есць і п'е поруч са мною: сапраўды, я пакажу яму мора, у якім ён можа патануць!»

Так сказаў Заратустра. І пасля доўга ўзіраўся у твар свайго вучня, які растлумачыў сон, і пры гэтым хітаў галавой.

## Пра збавенне

Аднаго разу, калі Заратустра ішоў цераз вялікі мост, абступілі яго калекі і жабракі, і адзін гарбаты сказаў яму так:

«Бачыш, Заратустра! Ужо і народ вучыцца ў цябе і пачынае верыць у тваё вучэнне: але каб ён

да канца паверыў табе, патрэбна вось яшчэ што — ты павінен пераканаць нас, калек! Тут ты маеш выдатны выбар, і, сапраўды, спрыяльная магчымасць: скарыстайся ёю! Ты можаш ацаляць сляпых, і кульгавыя ў цябе бегаюць, ты мог бы хоць крыху палегчыць ношку тым, у каго яна лішне цяжкая і мулкая: гэта была б выдатная нагода, каб калекі паверылі ў Заратустру!»

Але Заратустра запярэчыў таму, хто гаварыў: «Калі адабраць у гарбатага горб, гэтым самым ты пазбавіш яго духу ягонага — так вучыць народ. І калі сляпому вярнуць зрок, лішне шмат благога ўбачаць вочы ягоныя на зямлі — і пракляне ён лекара свайго. А той, хто дае кульгаваму бегаць, робіць яму вялікую шкоду: бо наўрад ці ён здолее бегаць так борзда, каб заганы яго не апярэджвалі — так гаворыць народ пра калек. І чаму б Заратустру не павучыцца ў народа, калі народ вучыцца ў Заратустры?

З таго часу, як я жыву сярод людзей, у мяне гэта зло найменшае, калі бачу я, што ў аднаго не хапае вока, у другога — вуха, у трэцяга — нагі; а ёсць і такія, што без языка або без носа, а то і без галавы.

Я бачу і бачыў горшае, а часам — настолькі брыдкае, што пра тое-сёе не хацелася б гаварыць, а шмат пра што ўжо не магу маўчаць, а менавіта: ёсць людзі, якім бракуе ўсяго, але яны маюць непамерны лішак у адным, гэта — людзі, якія яўляюць сабою толькі адно вялізнае вока, альбо адзін вялікі рот, альбо жывот, альбо яшчэ што-небудзь адно, але велізарнае, — калека навыварат называю я такіх.

І калі я пакінуў сваю самоту і першы раз ішоў па гэтым мосце, дык не паверыў сваім вачам, — доўга я прыглядваўся і нарэшце сказаў:

«Гэта ж бо вуха! Вуха велічынёю з чалавека!» Яшчэ пільней прыгледзеўся я, і сапраўды, пад вухам варушылася нешта незвычайна нікчэмнае, маленькае і кволае. Пачварнае вуха сядзела на слабой тоненькай сцяблінe, а сцяблінай гэтай быў чалавек! Праз павелічальнае шкло можна было нават разгледзець малюпасенькі, зайздрослівы тварык, а таксама пухленькую душку, якая трымцела на той сцяблінцы. А народ сказаў мне, што гэтае вялікае вуха не толькі чалавек, але і вялікі муж, геній. Але я не веру народу, калі ён гаворыць пра вялікіх людзей, і таму застаюся пры цвёрдай думцы, што гэта — калека навыварат, у якога ўсяго надта мала і толькі аднаго занадта шмат».

Сказаўшы так гарбатаму і тым, за каго ён заступаўся і каму быў тлумачом, Заратустра з глыбокім абурэннем звярнуўся да вучняў і сказаў:

«Праўда, сяброве мае, я хаджу сярод людзей, нібы сярод абломкаў чалавека!

Найжахлівейшае ў маіх вачах — бачыць чалавека разарванага і раскіданага, як на бойні або на полі бою.

І калі мае вочы ўцякаюць ад цяперашняга да мінулага — яны знаходзяць адно і тое: абломкі, і асобныя часткі, і фатальныя выпадковасці — але аніводнага чалавека!

Цяперашняе і мінулае на зямлі — о сяброве мае! Гэта самае невыноснае *мне;* і калі б я наперад не бачыў таго, што ідзе, я б не ведаў, як мне жыць.

Прарок і стваральнік, які выконвае волю сваю, — гэта ёсць будучыня і мост да яе; а апрача таго, нешта накшталт калекі на гэтым мосце: усё гэта — Заратустра.

І вы таксама часта пыталіся ў сябе: «Хто нам Заратустра? Як мы павінны называць яго?»

І, як і я, вы адказвалі сабе пытаннямі.

Абяцальнік? Або выконвае абяцанне? Заваёўнік? Або спадчыннік? Восень? Або плуг? Лекар? Або вылечаны?

Ці не паэт ён? Ці не выступае за непрыхарошаную праўду? Вызвольнік? Утаймавальнік? Добры? А мо ліхі?

Я хаджу сярод людзей, як сярод руінаў будучыні: той будучыні, якую бачу я.

І ў гэтым сэнсе і жаданні мае — сабраць разам і злучыць гэтыя абломкі, загадкі і фатальныя выпадковасці.

І як бы пераўжыў я тое, што я — чалавек, калі б чалавек не быў паэтам, збаўцам ад выпадковасці і адгадчыкам усіх загадак.

Выратаваць тых, што былі да нас, і ўсякае «Было» ператварыць у «Такая-была-воля-мая!» — толькі гэта я назваў бы збаўленнем!

Воля — вось імя вызвольніка і весніка радасці: так я вучыў вас, сяброве мае! А цяпер навучыцеся яшчэ і вось чаго: сама воля яшчэ ў палоне.

«Хацець» — вызваляе: але як назваць тое, што і вызвольніка закоўваюць у кайданы?

«Было» — так называецца ў волі яе скрыгат зубоўны і яе затоеная скруха. Бяссілая супроць таго, што ўжо спраўдзілася, злосна глядзіць яна на ўсё мінулае.

Воля не можа хацець назад; не можа яна адолець час і яго прагную ўпартасць — у гэтым яе затоены смутак.

«Хацець» — вызваляе: што ж прыдумвае воля, каб пазбыцца смутку і пасмяяцца са свайго турэмшчыка?

Ах, блазнам робіцца кожны палонны! І дурасць усё тое, як вызваляе сябе паланёная воля.

Яе патаемная дурасць — што час не бяжыць

назад; «Было» — так называецца камень, які яна не можа зрушыць з гнязда.

І вось коціць яна камяні дурасці і абурэння і помсціць тым, хто, як яна, не адчувае нянавісці і прыкрасці.

Так воля, вызвольніца, пачала прычыняць боль усяму, што здольнае адчуваць пакуты; помсціць яна за тое, што не можа павярнуць час назад.

Сутнасць гэтае *помсты* толькі ў адным: у агідзе волі да часу і ягонага «Было».

Праўда, найбольшая дурасць жыве ў волі нашай, і праклёнам стала ўсяму чалавецтву тое, што дурасць гэтая ўспрыняла дух!

Дух помсты: сяброве мае, дагэтуль гэта ўважалася за самае значнае дасягненне чалавечай думкі: і там, дзе была пакута, заўсёды абавязкова жыла́ і ка́ра.

«Кара» — менавіта так называе сябе помста; хаваючы ману сваю за гэтым словам, яна ліслівa пераконвае сябе ў чысціні свайго сумлення.

І як што чалавек, выяўляючы сваю волю, заўсёды пакутуе, што не можа павярнуць яе назад, дык і самую гэтую волю, і жыццё наогул палічылі караю!

І вось — хмара за хмарай грувасціліся над духам, пакуль нарэшце вар'яцтва не прамовіла: «Усё мінае, таму ўсё вартае таго, каб мінаць!»

«І ў гэтым сама справядлівасць і закон часу, — каб час жэр дзяцей сваіх» — так прапаведавала шаленства.

«У свеце ўсе рэчы маральна ўсталяваны паводле закону і кары. О, у чым здабыць збавенне ад зменлівасці рэчаў і кары на імя «Быццё»? — так прапаведавала вар'яцтва.

«Ці можна ўратавацца, ці ёсць якое вечнае

права? На жаль, не зрушыць камень здзейсненага ў мінулым: помста таксама павінна быць вечная!» — так прапаведавала вар'яцтва.

«Ніводнага ўчынку ўжо нельга адмяніць: немагчыма караю зрабіць учынак няўчыненым. Бо вось у чым вечнасць гэтай кары, кары Быццём: Быццё навек асуджана зноў і зноў рабіцца ўчынкам і віною!

Пакуль нарэшце воля не здабудзе збавення ад сябе самой і не зробіцца воляй да адсутнасці волі», — але вы і самыя ведаеце, братове мае, гэтую песню шаленства!

Я зводзіў вас далей ад гэтых баек, калі вучыў: «Воля — гэта стваральніца».

Усялякае «Было» — гэта абломак, загадка, фатальная выпадковасць, — да таго часу, пакуль стваральная воля не абвесціць: «Але ж так хачу я! Так захачу я!»

Хіба яна так ужо казала? Калі ж гэта? Ці вызвалілася воля ад сваёй дурасці?

Ці стала яна сама сабе збавіцелькай і весніцай радасці? Ці забылася пра дух помсты і скрыгат зубоў?

І хто навучыў яе мірыцца з часам і што — вышэй за ўсякае замірэнне?

Вышэй, чым усякае замірэнне, павінна хацець воля, якая ёсць воля да ўлады: але калі тое будзе? Хто навучыў яе яшчэ і хацець назад?»

Але на гэтым месцы сваёй прамовы Заратустра раптам спыніўся; здалося, быццам напаў на яго вялікі страх. Спалоханымі вачыма абвёў ён сваіх вучняў; нібы страла, пранізаў яго позірк іх думкі і таемныя намыслы. Але праз хвіліну ён засмяяўся і дабрадушна сказаў:

«Цяжка жыць з людзьмі, бо цяжка маўчаць. Асабліва — балбатуну».

Так казаў Заратустра. А гарбаты прыслухоўваўся да яго слоў, схаваўшы твар; пачуўшы, што Заратустра смяецца, цікаўна зірнуў на яго і паволі сказаў:

«Але чаму Заратустра гаворыць [redacted] намі інакш, чым са сваімі вучнямі?»

Заратустра адказаў: «Якое ж тут дзіва! З гарбатымі і гаварыць трэба гарбата».

«Добра, — адказаў гарбаты, — а з вучнямі, значыцца, і балбатаць трэба школьна.

Толькі чаму гэта Заратустра гаворыць інакш са сваімі вучнямі, чым з самім сабою?»

## Пра людскую мудрасць

«Страшная не вышыня, страшны схіл!

Схіл, дзе позірк зрываецца *ўніз*, а рука ўзлятае *ўгору*, каб за што-небудзь учапіцца. Тады трымціць сэрца ад раздваення волі.

О сяброве мае, ці ўгадваеце вы і ў маім сэрцы двайную волю?

Вось ён, *мой* схіл і мая небяспечная схільнасць, калі мой позірк імкнецца ўгору, а рука шукае апоры ў пустой прасторы, спрабуе ўтрымацца за бездань!

За людзей чапляецца мая воля, ланцугамі вяжу сябе [redacted] людзьмі, бо мяне парывае ўгору да Звышчалавека; бо да яго імкнецца мая другая воля.

Вось чаму я слепа жыву сярод людзей; проста, як бы я іх зусім не ведаў: каб мая рука не зусім страціла веру ў цвёрдую апору.

Я не ведаю вас, людзі: гэтая цемра вакол мяне часта была мне суцяшэннем.

Я сяджу каля дарожнае брамы перад усімі шэльмамі і пытаюся: хто хоча мяне ашукаць?

Мая першая людская мудрасць, што я даюся на падман, каб не дацца падманшчыкам.

Ах, калі б я баяўся чалавека, як бы ён тады мог быць якарам майму шарыку! Дужа лёгка панёс ён мяне ўгору і ўдалечыню!

Такое ўжо наканаванне майму лёсу, каб я жыў без асцярогі.

Калі той, хто жыве сярод людзей, не хоча памерці ад смагі, ён павінен навучыцца піць з любой шклянкі; і хто не хоча застацца чыстым, павінен умець умыцца і бруднай вадой.

Так я часта суцяшаў сам сябе: «Дарма! Нічога, стары! Няшчасце ўвінулася ад цябе: цешся ж гэтым, як шчасцем сваім!»

А другая мая людская мудрасць: я болей шаную *славалюбных,* чым ганарыстых.

Ці ж параненая славалюбнасць не маці ўсіх трагедый? А дзе паранена ганарыстасць, там вырастае нешта лепшае, чым яна сама.

Каб на жыццё было любасна глядзець, трэба, каб яго гульня была любасна згуляная: а на гэта спатрэбяцца добрыя акторы.

Добрых актораў я бачыў ва ўсіх славалюбцах: яны іграюць і хочуць, каб імі захапляліся — увесь дух іхні ў гэтым жаданні.

Яны выстаўляюць сябе, яны выдумляюць сябе: калі я побач з імі, я люблю назіраць жыццё — гэта ацаляе ад маркоты.

Таму я і шкадую славалюбных, што яны мне — лекары ад маёй маркоты і прывязваюць мяне да чалавека, як да відовішча.

І пасля: хто вымераў у славалюбнасці ўсю глыбіню яе сціпласці! Я добры і спагадлівы да яе, бо яна сціплая.

Яна хоча, каб вы навучылі яе верыць у сябе; яна корміцца з вашых вачэй, яна есць пахвалу з вашых рук.

Вашай ілжы яна яшчэ верыць, калі вы хлусіце пра яе нешта прыемнае: бо ў самых глыбінях яе сэрца ўздыхае: «што такое *я*!»

I калі сапраўдная цнота ёсць тая, што не ведае сама пра сябе, дык гэтая вось яна: славалюбны нічога не ведае пра сваю сціпласць!

I вось мая трэцяя людская мудрасць: я не дапускаю, каб ад вашай пудлівасці мне спрыкрала бачыць *ліхіх*.

Я шчаслівы, калі бачу дзівосы, спароджаныя гарачым сонцам, — тыграў, пальмы, грымучых змей. Ёсць і сярод людзей дзівосныя спараджэнні гарачага сонца, і ў ліхіх ёсць шмат чаго, каб дзіву дацца.

I, як вашыя мудрацы паказалі сябе не тое каб дужа мудрымі, так і вашае зло не выцягнула на рэпутацыю ліха.

I я часта пытаўся, круцячы галавою: «Навошта яшчэ гэты ваш гром, грымучыя змеі?»

Праўда, і ў ліха ёсць свая будучыня! I самы гарачы поўдзень яшчэ не адкрыты чалавеку.

Як многае ўжо сёння называецца ліхім злом, хоць ушыркі яно дванаццаць крокаў і тры месяцы ўдоўж! Але калі-небудзь прыйдуць на свет большыя цмокі.

Каб Звышчалавеку не забракавала свайго цмока — Звышцмока, трэба, каб гарачае сонца яшчэ доўга палала над сырою нетрай!

Вашыя дзікія каты павінны яшчэ зрабіцца тыграмі, а чарапахі — кракадзіламі: бо спраўнаму мысліўцу — спраўныя ловы!

I праўда, мае вы добрыя і справядлівыя! Шмат смешнага ў вас, асабліва — страх перад тым, што дагэтуль называлася «чортам»!

Вы такія чужыя душою вялікаму, што Звышчалавек быў бы вам *страшны* ў сваёй даброці!

І вы, мудрыя і ўсёведныя, уцяклі б ад палкай гарачы той мудрасці, у якой Звышчалавек вялікі ахвотнік абмываць сваю галізну!

А вы, людзі найвышэйшыя, якіх бачылі мае вочы! Я спаняверыўся ў вас і ўпотай смяюся з вас: я здагадваюся, — вы майго Звышчалавека чортам назвалі б!

Ах, я стаміўся ад гэтых «вышэйшых» і «найлепшых»: мяне парывае падняцца вышэй ад іх «вышыні», прэч ад іх, угору, да Звышчалавека!

Жах агарнуў мяне, калі я ўбачыў гэтых «найлепшых» голых; і тады крылы выраслі ў мяне, каб лунаць у далёкія будучыні.

У далёкія будучыні, самы паўднёвы Поўдзень, далей за мроі ўсіх мастакоў: туды, дзе багі саромеюцца любой вопраткі.

Але я хачу бачыць пераапранутых *вас*, суседзі мае і блізкія, у прыгожых строях, шаноўных і славалюбных, як яно і належыць «добрым» і справядлівым».

І сам я хачу сядзець сярод вас пераапрануты — каб *не пазнаваць* ні вас, ні сябе: і ў гэтым мая апошняя людская мудрасць.

Так сказаў Заратустра.

## Найцішэйшая гадзіна

«Што сталася са мною, сяброве мае? Вы бачыце, я — не ў гуморы, гнаны, слухаюся процi волі, гатовы ісці — ах, ісці *ад вас!*

Так, яшчэ раз мусіць Заратустра вярнуцца ў сваю самоту: але гэтым разам мядзведзь вельмі неахвотна вяртаецца ў бярлог.

Што сталася са мною? Хто мяне змушае на гэта? — О, гэтага вымагае мая гнеўная спадарыня,

гэта яна гаварыла са мною; ці называў я вам яе імя?

Учора ўвечары са мною гаварыла *мая найцішэйшая гадзіна:* гэта імя маёй жудаснай уладаркі.

Гэта было так — бо я павінен расказаць вам усё, каб угнявалася ваша сэрца на мяне, хто так раптоўна развітваецца з вамі!

Ці ведаеце вы спалох таго, хто засынае?..

Страх забірае яго да кончыкаў пальцаў, бо зямля выходзіць у яго з-пад ног і пачынаецца сон.

Такую вось прыпавесць раскажу я вам. Учора, у самы ціхі час, у час вечаровай цішыні, зямля вымкнулася ў мяне з-пад ног, і пачаўся сон.

Стрэлка пасунулася, гадзіннік майго жыцця перавёў дух — я ніколі яшчэ не чуў такой цішыні вакол сябе; дык вось, маё сэрца спалохалася.

І вось да мяне загаварыла без голасу: *«Ты гэта ведаеш, Заратустра?»*

І я закрычаў жахліва да гэтага шэпту, і кроў адплыла з майго твару: але я маўчаў.

Тады зноў загаварыла мне без голасу: «Ты ведаеш гэта, Заратустра, але толькі не кажаш!..»

І я нарэшце адказаў, як зацяты: «Ведаю, ведаю, але казаць не хачу!»

І яна зноў безгалоса загаварыла са мною: «Ты *не хочаш,* Заратустра? Праўда? Не хавайся у сваёй упартасці!»

І я, плачучы і дрыжучы, як малое, казаў: «Ах, і праўда, я хацеў, але я не магу! Вызвалі мяне ад гэтага! Гэта мне не ў сілу!»

І зноў яна сказала: «Пры чым тут ты, Заратустра! Скажы мне сваё слова і памры!»

Я адказаў ёй: «Ах, хіба ж гэта *маё* слова? Хто *я* такі? Я чакаю больш вартага: я не варты нават таго, каб загінуць дзеля яго».

Тады яна зноў сказала безгалоса: «Пры чым тут ты? У табе яшчэ мала пакоры. У пакоры самая шорсткая скура».

І я адказаў: «Чаго толькі ўжо не вынесла скура маёй пакоры! Я жыву ля падножжа сваёй вышыні: якія высокія мае вяршыні? Ніхто яшчэ мне не сказаў гэтага. А мае даліны мне добра вядомыя».

І зноў бязгучна загаварыла цішыня: «О Заратустра, хто павінен рушыць горы, той дасць рух і далінам, і нізінам.

Я адказаў: «Яшчэ ніводнай гары не зрушыла слова маё, і тое, што я казаў, не даходзіла да людзей. Так я пайшоў да людзей, але пакуль што не дайшоў да іх».

І зноў мне моўчкі сказала цішыня: «што ты можаш ведаць *пра гэта!* Раса ападае на траву ў самы маўклівы час ночы».

І я адказаў: «Яны кпілі з мяне, калі я знайшоў сваю дарогу і пайшоў па ёй; праўда, мае ногі дрыжалі тады».

А яны сказалі: «Ты збіўся з дарогі, а цяпер яшчэ і з нагі!»

І зноў безгалоса сказала яна: «Што табе да кпінаў! Ты той, хто развучыўся слухацца: цяпер ты павінен загадваць!

Хіба ты не ведаеш, хто людзям самы патрэбны? Хто загадвае вялікае.

Цяжка здзейсніць вялікае: але яшчэ цяжэй загадаць яго.

Вось што самае-самае, што не даруецца: ты маеш уладу і не хочаш панаваць».

І я адказаў: «Мне бракуе голасу льва, каб загадваць».

І тады зноў, як бязгучны шэпт, яна сказала: «Словы, якія прыносяць буру, — самыя ціхія.

Думкі, якія прыходзяць галубінымі лапкамі, кіруюць светам.

О Заратустра, ты павінен быць ценем таго, што ідзе: так будзеш загадваць ты і, загадваючы, пойдзеш паперадзе».

І я адказаў: «Мне брыдка».

І зноў безгалоса сказала яна: «Ты яшчэ павінен зрабіцца дзіцём і не саромецца.

Гонар юнацтва яшчэ ёсць у табе, позна ты стаў хлопцам: але хто хоча зрабіцца дзіцём, павінен адолець і сваё юнацтва».

І я доўга вагаўся і дрыжаў і, нарэшце, сказаў тое самае, што і напачатку: «Я не хачу».

Тады вакол мяне выбухнуў смех. Гора мне! Як гэты смех рваў мае вантробы і кроіў сэрца!

І апошні раз маўклівы голас: «О Заратустра, паспелі твае плады, але сам ты яшчэ не паспеў, каб іх спажываць!

І таму табе зноў патрэбна самота: бо ты яшчэ павінен даспець».

І зноў пачуўся смех, цяпер ужо ён аддаляўся ад мяне; потым вакол мяне стала ціха, стала як бы двайная цішыня. А я ляжаў на зямлі, і пот ліўся з мяне.

Цяпер вы ўсе чулі: чаму я павінен вярнуцца ў самоту. Я нічога не ўтоіў ад вас, сяброве мае.

І ўсё гэта вы пачулі ад мяне, самага шчырага чалавека, — такім я хачу застацца і далей!

О, сяброве мае! І яшчэ сёе-тое я мог бы сказаць вам; і яшчэ штосьці я мог бы даць! Чаму ж не даю? Хіба я скупы?»

Калі Заратустра сказаў гэтыя словы, апанавала яго сіла вялікае скрухі, бо блізілася разлука з сябрамі, і ён загаласіў; і ніхто не мог суцешыць яго. А ўначы ён пайшоў і пакінуў сваіх сяброў.

*«Вы гледзіце ўгору, калі прагнеце вышыні. А я гляджу ўніз, бо я ўзвысіўся. Хто з вас можа смяяцца і быць узвышаным? Хто падняўся на самыя высокія горы, той смяецца з усякай трагедыі — і на сцэне, і на яве».*

Заратустра.
Пра чытанне і пісанне



## Вандроўнік

Было апоўначы, калі Заратустра выправіўся ў дарогу праз горны хрыбет, каб раніцай выйсці на другі бераг вострава, дзе ён меўся сесці на карабель. Там якраз была добрая гавань, у якой станавіліся на якар нават чужаземныя караблі; яны бралі на борт тых, хто хацеў плысці за мора са шчасных выспаў. І вось, калі Заратустра падымаўся ў горы, ён успамінаў дарогаю многія самотныя вандроўкі сваёй маладосці і як многа горных вяршынь і хрыбтоў ён ужо адолеў.

«Я вандроўнік, які ўвесь час падымаецца ў горы, — сказаў ён сэрцу свайму, — я не люблю раўнін і, здаецца, не магу заседжвацца ў цішы.

І што б мне цяпер ні падкінула доля яшчэ перажыць, — ва ўсім гэтым будзе вандраванне і адольванне гор: зрэшты, чалавек адольвае толькі самога сябе і жыве тым, што ў яго ўсярэдзіне.

Мінуў той час, калі выпадковасці яшчэ трапляліся на маёй дарозе; што ж такога яшчэ можа сустрэцца цяпер, каб яно не было часткаю мяне і маім здабыткам!

Толькі ж вяртаецца, у мяне самога, нарэшце, вяртаюцца мая Самасць і тыя часткі яе, што доўга

былі на чужыне, раскіданыя сярод многіх рэчаў і выпадковасцяў.

І яшчэ адно я ведаю добра: сёння я стаю перад маёй самай апошняй вяршыняй і перад тым, што даўно было мне наканавана. О, мне выпала ступіць на самую цяжкую дарогу! Я пачаў сваё самае самотнае вандраванне!

А хто падобны да мяне, не пазбегне гэтай хвіліны, хвіліны, якая скажа яму: цяпер толькі ты выходзіш на дарогу велічы! Вяршыня і прорва — цяпер яны зліліся ў адно!

Ты ідзеш па сваёй дарозе велічы: тваім апошнім сховішчам зрабілася тое, што дагэтуль называлася тваёй апошняй небяспекай.

Ты ідзеш па сваёй дарозе велічы: цяпер самай лепшай мужнасцю няхай стане веданне: за табою больш ніякай дарогі няма!

Ты ідзеш па сваёй дарозе велічы; і тут ніхто не можа красціся па тваім следзе! Твае ж ногі самі сціраюць за табою дарогу і напісана пад ёю: Немагчымасць.

І калі ў цябе больш няма ніякай лесвіцы, навучыся залазіць сабе на галаву: як яшчэ інакш табе падняцца вышэй!

На сваю галаву і далей праз сваё ж сэрца! Цяпер самае пяшчотнае ў табе павінна зрабіцца самым жорсткім.

Хто залішне ашчаджае самога сябе, той хварэе ад гэтага! Слава ўсяму, што гартуе! Я не слаўлю зямлю, дзе цячэ толькі алей і мёд!

Трэба навучыцца *глядзець ад сябе,* каб бачыць *многае:* гэтая цвёрдасць патрэбна кожнаму, хто падымаецца ў горы.

А хто занадта настырным вокам шукае спазнання, не бачыць нічога вакол сябе, акрамя паверхні ўбачанага!

А ты, Заратустра, хочаш разгледзець аснову ўсіх рэчаў і падаснову іх: і таму ты павінен падняцца нават вышэй за сябе, — далей і вышэй, пакуль самі зоркі не будуць *пад* табою!

Так! Глядзець уніз на самога сябе і на свае зоркі: толькі гэта я называю *вяршыняй,* толькі гэта яшчэ застаецца маёй *апошняй* вяршыняй!»

Так казаў сабе Заратустра, узыходзячы ў горы і суцяшаючы сабе сэрца такімі выслоўямі: бо маркоцілася сэрца, як ніколі раней. І калі ён падняўся на вяршыню хрыбта, перад ім адкрылася новае мора; ён спыніўся і доўга маўчаў. Ноч на гэтай вышыні была зольная, ясная і зорная.

«Я пазнаю свой лёс, — сказаў ён нарэшце журботна. — Дарма! Я гатовы. Вось і пачалося маё апошняе асамотненне.

Ах, гэтае чорнае жалобнае мора пада мною! Ах, гэтая цяжарная начная спрыкраласць! Ах, лёс і мора! Да вас я павінен цяпер спусціцца!

Я стаю перад маёй самай высокай гарою і перада мною мая самая доўгая вандроўка: таму мне і трэба спусціцца глыбей, чым калі раней:

— глыбей, чым калі раней, павінен я заглыбіцца ў цярпенні, у самы цёмны іх паток! Так хоча мой лёс: дарма! Я гатовы.

Адкуль узяліся высачэзныя горы? — калісьці пытаўся я сам у сябе. І вось даведаўся я, што яны падымаюцца з мора.

Сведчанні пра гэта запісаны на вяршынях і скалах. З самых глыбіняў павінна ўзыходзіць найвышэйшае да вышыняў сваіх...

Так казаў Заратустра на вяршыні гары, дзе было холадна; але калі ён падышоў да мора і спыніўся самотны сярод скал, агарнула яго млосць і яшчэ большая маркота, чым раней.

Усё яшчэ спіць, — сказаў ён, — спіць і мора. Дрымотна і адчужана глядзіць на мяне яго вока.

Але яно дыхае цяплом, і я ведаю: яно мроіць, яно сніць свой сон на цвёрдых каменных падушках.

Паслухай! Паслухай! Як яно стогне ад цяжкіх успамінаў! Альбо ад злавесных прадчуванняў?

Ах, я смуткую разам з табою, цёмная пачварына, ад перажыванняў за цябе я гневаюся на сябе.

Ах, чаму не стае моцы маёй руцэ! Як ахвотна я выбавіў бы цябе ад ліхіх мрояў!..»

І, сказаўшы гэта, Заратустра горка засмяяўся з самога сябе.

«Што, Заратустра! — сказаў ён. — Ты яшчэ і мору хочаш спець песню суцяшэння?

О, ты поўны любаснай мілаты дурань, Заратустра, поўны дабрашчаснага даверу! Але ты заўсёды быў такі: з даверам заўсёды падыходзіў да ўсяго вусцішнага.

Усіх пачвараў хацелася табе аблашчыць. Цёплае дыханне, крыху мяккай поўсці на лапах — і ты ўжо гатовы любоўна павабіць яе да сябе.

*Любоў* — небяспека самотніку, любоў да ўсяго, *калі яно толькі жывое!* Праўда ж, смешная мая дурнота і мая сціпласць у любові!..»

Так сказаў Заратустра і зноў засмяяўся; але тут ён згадаў сваіх пакінутых сяброў і, нібыта ў думках звінаваціўшыся перад імі, угневаўся на сябе за такія думкі. І яшчэ ў смеху заплакаў: ад гневу і маркоты горка плакаў Заратустра.

## Пра відзежы і здагадку

1

Калі сярод матросаў пайшлі чуткі, што на караблі Заратустра, — бо разам з ім на карабель узышоў яшчэ адзін чалавек са шчасных выспаў, — усіх разабрала цікаўнасць, усе чагось чакалі. Але Заратустра маўчаў два дні, быў халодны і глухі ад смутку і не адказваў ні на позіркі, ні на пытанні. А пад вечар другога дня прачнуўся яго слых, хоць ён па-ранейшаму маўчаў; а на гэтым караблі, які прыплыў здалёк і меўся плысці яшчэ далей, можна было пачуць пра многія дзівосы і небяспекі. А Заратустра быў сябар усім, хто робіць далёкія падарожжы і не можа жыць без рызыкі. І вось, пакуль ён прыслухоўваўся да гаворак, развязаліся аковы яго языка, і зламаўся лёд на сэрцы, і ён пачаў гаварыць так:

«Вам адважным шукальнікам, даследчыкам і ўсім, хто пад хітрымі ветразямі ішоў у жудасць мора,

— вам, упітым загадкамі, радым мігатліваму сумніўнаму святлу, чые душы пад гукі жалеек імкнуцца ўведаць падманлівыя бездані,

— бо вы не хочаце нясмелай рукою намацваць нітку; і там, дзе вы можаце *адгадаць,* вы ненавідзіце *рабіць высновы,*

— вам толькі раскажу я загадку, якую бачыў я, — твор самотніка.

Панура ішоў я нядаўна ў мярцвяна-бледных поцемках. Ужо не адно сонца зайшло для мяне.

Сцежка, якая ўпарта лезла сярод камянёў, незадаволеная, адзінокая, — ні травы, ні кустоў абапал — горная сцежка храбусцела пад настырнасцю маіх ног.

12. Зак. 530.

Моўчкі ступаючы сярод насмешлівага шабуршання дробнага камення, расціраючы на пыл кожны, аб які спатыкалася мая нага, я намагаўся падняцца ўгору.

Угору — насуперак духу, які цягнуў мяне ўніз, у прорву, насуперак Духу Цяжару — дэману і майму заклятаму ворагу.

Угору — хоць ён сядзеў на мне, паўкрот, паўтрус; кульгавы, ён і мяне спрабаваў зрабіць кульгавым; ён уліваў мне волава праз вушы ў мазгі — і думкі рабіліся, быццам кроплі волава.

«О Заратустра, — пакепліва шаптаў ён. — О камень мудрасці! Ты высока падкінуў сябе, але кожны кінуты камень павінен упасці!

О Заратустра, камень мудрасці, шпурнуты з прашчы, ты знішчальнік зорак! Як высока ты кінуў сябе, але кожны кінуты камень павінен упасці!

Прысуджаны да самога сябе і да самапабівання камянямі: о Заратустра, высока падкінуў ты камень, але ён упадзе *на цябе!*

І тут карлік замоўк, і надоўга. Але ягонае маўчанне ціснула на мяне; і праўда, часам удвух бывае табе больш самотна, чым аднаму.

Я ўсё падымаўся, я падымаўся, я мроіў, я думаў; але ўсё ціснула мяне. Я быў падобны на хворага, стомленага цяжкімі пакутамі, якога — ледзь толькі засне — будзіць яшчэ горшы сон.

Але ўва мне ёсць нешта, што я называю мужнасцю: яна заўсёды забівала ўва мне маркоту. Гэта мужнасць змусіла мяне спыніцца і сказаць: «Карлік! Ці ты! Ці я!»

Мужнасць — найменшы забойца, мужнасць, якая нападае: бо ў кожным нападзе гучыць ураchыстая музыка.

А чалавек — самы мужны звер: дзякуючы

гэтаму ён і перамог усіх астатніх. Гучнай ігрою ён пераадолеў боль; а чалавечы ж боль — самы глыбокі.

Мужнасць — смертаносная, калі з ёю лунаць над безданню, а чалавек жа заўсёды на краі бездані! Хіба «бачыць» не азначае «бачыць бездань»?

Мужнасць — самы спраўны забойца: яна забівае нават спагаду. А спагада — найглыбейшая бездань: бо як глыбока сягае чалавечы позірк у жыццё, гэтак жа глыбока сягае ён і ў спагаду.

Мужнасць — найлепшы забойца, мужнасць, якая *нападае:* і самую смерць яна забівае, бо пытаецца: «Дык гэта было жыццё? Дарма! Яшчэ раз!»

Многа пераможных акордаў у гэтых словах. Хто мае вушы, хай чуе!»

## 2

«Стой, карлік! — сказаў я. — Я! Ці ты! Але ж я дужэйшы з нас двух: ты не ведаеш яшчэ маіх бяздонных думак! Іх цяжар табе не па сіле!»

І тут мне палегчала: настырны карлік саскочыў з маіх плячэй! Ён цыгнуў на бліжэйшы камень; мы спыніліся якраз каля брамы, праз якую ішла дарога.

«Зірні на гэтую браму, карлік! — сказаў я. — У яе два твары. Дзве дарогі сыходзяцца т т: па іх яшчэ ніхто не праходзіў да канца.

Гэтая доўгая дарога назад — яна доўжы ца вечнасць. І гэтая доўгая дарога наперад — дру ая вечнасць.

Яны супярэчаць адна адной, гэтыя дарогі; яны тут сутыкаюцца лбамі, і тут, каля гэтай брамы, яны і сыходзяцца. А назва ў гэтай брамы напісана ўгары, над ёю: «Імгненне».

Але калі хто пойдзе па адной каторай далей — усё далей і далей — ці думаеш ты, карлік, што яны будуць вечна супярэчыць адна адной?»

«Усё простае хлусіць, — пагардліва адказаў карлік. — Уся праўда — крывая, а сам час — кола».

«Ты, Дух Цяжару! — сказаў я гнеўна. — Ці не завельмі лёгка ты рашаеш гэта пытанне? Глядзі, а то пакіну цябе, клышку, сядзець, дзе сядзіш, а я ж цябе нёс *угору!*

Глянь, — сказаў я далей, — глянь на гэта імгненне! Ад брамы імгнення ідзе доўгая, вечная дарога *назад:* за намі — вечнасць.

Ці не павінна быць так: усё, што *можа* адбыцца, ужо калісьці прайшло гэтай дарогай, ужо адбылося і мінула?

І калі ўсё ўжо было, дык што ты думаеш пра гэта Імгненне, карлік? Ці не павінна быць так: гэтая брама — таксама была?

І ці не звязаны ўсе гэтыя рэчы паміж сабою так моцна, што імгненне цягне за сабою ўсё наступнае? А значыцца — яшчэ раз самое сябе? Бо ўсё, што *можа* стацца на гэтай доўгай дарозе *наперад — павінна* адбыцца яшчэ раз!

І гэты марудлівы павук, які паўзе ў месячным святле, і само месячнае святло, і мы з табою, калі шэпчамся каля брамы пра вечныя матэрыі, — хіба ўсяго гэтага ўжо не было калісьці?

— і ці не павінны мы вяртацца і праходзіць па той дарозе, што ляжыць перад намі, далей, наперад па доўгай і страшнай дарозе: ці не павінны мы ўсе вечна вяртацца?»

Так казаў я, усё цішэй і цішэй: бо я спалохаўся сваёй думкі і далёкага, таемнага намыслу. І раптам я пачуў, як *завыў* сабака.

Ці чуў я калі раней, каб сабака так выў? Мае

думкі памкнуліся назад, у мінулае. Чуў! Калі быў малы, у самым раннім дзяцінстве,

— тады я чуў, як вые сабака. І бачыў, як ён дрыжаў, поўсць дыбарам, морда ўгору, у той ціхі час, апоўначы, калі сабакі вераць у прывіды;

— і мне стала шкада яго. Над домам толькі што выплыў мярцвяна-маўклівы месяц і спыніўся крывава-чырвоным шарам над пляскатым дахам, быццам злодзей над чужым дабром;

— тады сабаку апанаваў страх: бо сабакі чуюць злодзеяў і прывіды. І калі я зноў пачуў, як сабака вые, мне зноў стала шкада.

Куды знік карлік? І брама на дарозе? І павук? І нашыя шэпты? Ці я мроіў? Ці прачнуўся? Ці раптам апынуўся адзін, сярод суровых скал, у бязмежнай пустыні месячнага святла.

*Але там ляжаў чалавек!* І вось! Сабака скакаў, скуголіў, дыбіў поўсць; і вось ён убачыў, што я падыходжу, і зноў завыў і *закрычаў* — ніколі раней я не чуў, каб сабака крыкам клікаў на дапамогу.

І праўда, я ніколі не бачыў таго, што ўбачыў. Я ўбачыў маладога пастуха, які біўся ў курчы, задыхаўся, твар перакошаны, з рота звісала чорная змяя.

Нельга ўявіць сабе столькі агіды і смяротнага жаху на чалавечым твары! Мусіць, ён спаў, а змяя запаўзла яму ў горла і ўпілася ў яго.

Мая рука рванула змяю, яшчэ і яшчэ: дарма! Тады з маіх вуснаў вырваўся крык: «Кусі! Кусі! Адкусі ёй галаву! Кусі!» — так крычалі з мяне мая жудасць, мая агіда, мая нянавісць і міласэрнасць мой — усё маё благое і ўсё добрае злілося ў гэтым крыку.

Вы, дзёрзкія, што пасталі вакол мяне! Вы, шукальнікі, што спакушаеце нязведаныя акіяны

пад зманлівымі ветразямі! Вы, загадкава-радасныя!

Дык жа адгадайце загадку, якую бачыў я, растлумачце мне сэнс відзежаў самотніка!

Бо то былі відзежы і прадбачанне: *што* бачыў я ў гэтым сімвале? І *хто* той, які мае прыйсці?

Хто той пастух, якому ў горла запаўзла змяя? Хто той чалавек, якому ўсё самае цяжкае, самае чорнае запаўзае ў горла?

І пастух паслухаўся майго крыку і ўпіўся ў змяю зубамі. Прэч, далей ад сябе выплюнуў ён змяіную галаву — і ўскочыў.

І вось — ні пастуха, ні чалавека: нехтаператвораны, асветлены, стаіць і *смяецца!* Ніколі і ніхто яшчэ на зямлі не смяяўся так, як смяяўся ён!

О браты мае, я чуў смех — нялюдскі смех, — і з таго часу цісне мяне неспатольная прага, грызе маркота і ніколі не аціхае.

Прага гэтага смеху точыць мяне: о, як мне жыць далей! І як бы я мог цяпер памерці!»

Так сказаў Заратустра.

## Пра шчасце супроць волі

З такімі загадкамі і гаркотаю ў сэрцы плыў Заратустра па моры. А як ужо быў за чатыры дні дарогі ад шчасных выспаў і ад сваіх сяброў, ён перабароў свой смутак — пераможна, цвёрдымі нагамі ўцвердзіўся ў сваім лёсе. І такія словы сказаў свайму радаму сумленню:

«Зноў я адзін і хачу быць адзін — сам-насам

з ясным небам і вольным морам; зноў вакол мяне полудзень.

Калісьці папалудні я ўпершыню здабыў сваіх сяброў, тады ж я здабыў іх і другі раз — у гадзіну, калі супакойваецца ўсякая светлыня.

Бо што засталося ад шчасця і што на паўдарозе паміж небам і зямлёй, — тое шукае сабе прыстанку ў чыёй-небудзь светлай душы: а сёння ж усякае святло паспакайнела *ад шчасця.*

О паполудню жыцця майго! Калісьці і маё шчасце сышло ў даліну шукаць сабе прыстанку — і знайшло гэтыя шчырыя, гасцінныя душы.

О паполудню жыцця майго! Усё я аддаў бы за адно: гэтыя жывыя пасевы маёй думкі і ранішнюю зару найвышэйшай надзеі!

Калісьці стваральнік шукаў спадарожнікаў і дзяцей сваёй надзеі: і вось — выявіў ён, што не здабыць іх інакш, як папярэдне стварыўшы іх.

Так я чыню сваю справу, калі іду да сваіх дзяцей і вяртаюся ад іх: дзеля сваіх дзяцей Заратустра павінен удасканальвацца.

Бо ўсім сэрцам любяць толькі сваё дзіця і сваю справу; і калі любоў да самога сябе вялікая, дык гэта прыкмета цяжарнасці: так заўважаў я.

Яшчэ мае дзеці цвітуць сваёй першай вясной; стаяць яны поруч, хістаюцца на ветры, дрэўцы майго саду, найлепшае з маіх набыткаў.

І праўда! Там, дзе растуць такія дрэвы, *там* шчасныя выспы!

Але сваім часам я выкапаю іх і пасаджу ў розных мясцінах: каб навучыліся яны адзіноце, упартасці і асцярожнасці.

Гузавата і крыва, але гнутка і цвёрда няхай стаяць яны каля мора, як жывы маяк неперможнага жыцця.

Там, дзе буры ападаюць у мора і горы спатольваюць сваю прагу, дзень і ноч яны будуць стаяць на варце, каб выпрабаваць і зведаць *сябе.*

Выпрабавана і праверана мае быць кожнае, каб я ведаў, ці майго яны кораня, ці загартаваная ў іх воля, ці маўчаць яны, нават калі гавораць, і ці прыкідваюцца, што *бяруць* аддаючы:

— каб зрабіцца калі-небудзь маімі спадарожнікамі, якія твораць і святкуюць разам са мною, тымі, хто напіша маю волю на маіх скрыжалях. — «Усё існае хай удасканальваецца».

І дзеля іх і падобных на іх я сам павінен дасягнуць дасканаласці; таму я цяпер ухіляюся ад майго шчасця і перадаю сябе ўсім няшчасцям — каб выпрабавацца і зведаць сябе апошні раз.

І праўда, мне пара было ісці; і цень вандроўніка, і працяглы спакой, і цішыня — усё маўляла мне: «Даўно пара!»

Вецер свістаў мне ў шчыліну замка́ і казаў: «Ідзі!» Дзверы хітра адчыняліся і запрашалі: «Ідзі!»

Але я ляжаў, прыкаваны любоўю да сваіх дзяцей: жаданні любові закавалі мяне ў кайданы, ад любові хацеў я зрабіцца здабыткам сваім дзецям і страціць сябе дзеля іх.

«Пажадаць» — у мяне гэта азначае «страціць сябе». *У мяне ёсць вы, дзеці мае!»* У гэтым валоданні ўсё павінна быць упэўненасцю, каб не заставалася жадання.

Але сонца маёй любові горача апаліла мяне, у сваім соку варыўся Заратустра; і тады над мною праляцелі цень і сумненне.

Я прагнуў ужо зімы і марозу: «О, калі б зіма і мароз прымусілі мяне ляскаць зубамі і дрыжаць ад сцюжы!» — уздыхаў я. І вось, — падняліся ад мяне ледзяныя туманы.

Маё мінулае разграбло свае магілы, прачнуліся смуткі, пахаваныя жыўцом, — яны толькі драмалі, схаваныя ў са́ванах.

І ўсё клікала мяне ў знаках і азнаках: «Пара!» Але я не чуў, пакуль, нарэшце, не скаланулася мая бездань, пакуль не апякла мяне думка.

О думка мая, што прыйшла з бездані! Калі ж хопіць у мяне сілы чуць, як ты ўстаеш са сваёй магілы, і не дрыжаць пры гэтым?

Да самага горла даходзяць удары майго сэрца, калі адчуваю, як ты паўстаеш ува мне! Ад самога твайго маўчання ў мяне зацінае дух, калі ты маўчыш, бяздонная!

Ніколі я не адважваўся клікаць цябе *на святло:* годзе ўжо і таго, што насіў я цябе ў сабе! Яшчэ бракавала мне сілы на апошнюю мужнасць ільва, на найвышэйшую адвагу ягонае волі.

Шмат жахлівага было мне ў тваім цяжары: але калі-небудзь я здабуду яшчэ сілу і ільвіны рык, які выкліча цябе з мяне!

І толькі адолеўшы ў сабе гэта, я адолею і большае: *і перамога* будзе пячаткаю маёй дасканаласці!

А пакуль што я вандрую па невядомых морах; надгаджае мне выпадак. Я гляджу наперад і назад — і не бачу канца.

Не настала яшчэ гадзіна маёй апошняй барацьбы: магчыма, яна ўжо блізка? Жыццё і мора навокал вабяць мяне падступнай — сапраўды падступнай — прыгажосцю!

О папалудню жыцця майго! О надвячорак шчасця! О прыстань у бурлівым моры! О мір і спакой сярод невядомага! Як мала я вам давяраю!

Праўда, не давяраю я вашай падступнай прыгажосці! Я падобны на закаханага, які не верыць залішне пяшчотнай усмешцы.

Як ён, раўнівы, штурхае ад сябе каханую, пяшчотны ў суровасці сваёй, — так і я адштурхоўваю шчасную гадзіну.

Прэч ад мяне, шчасная гадзіна! Супроць маёй волі прыйшла з табой шчаснасць. Гатовы на самую глыбокую скруху, я стаю тут: прыйшла ты не ў час!

Прэч ад мяне, шчасная гадзіна! Лепей знайдзі сабе сховішча там, у сваіх дзяцей! Спяшайся! І яшчэ да вечара перадай ім дабраславенне майго шчасця!

Блізка ўжо вечар: сонца садзіцца. Адышло маё шчасце!»

Так сказаў Заратустра. Цэлую ноч ён чакаў, калі да яго завітае няшчасце: але марна чакаў. Ноч была ясная і ціхая, і само шчасце ўсё бліжэй, бліжэй падступалася да яго. А на золку засмяяўся Заратустра сэрцу свайму і сказаў пакепліва: «Шчасце бегае за мною. Гэта таму, што я не бегаю за жанчынамі. А шчасце — жанчына».

## На досвітку

«О неба нада мною, о Чыстае! Глыбокае! О Бездань святла! Сузіраючы цябе, я трымчу ад боскіх жаданняў.

Кінуцца ў тваю вышыню — гэта *мая* глыбіня! Схавацца ў тваю чысціню — гэта *мая* нявіннасць!

Бога хавае яго прыгажосць: *так* ты хаваеш свае зоркі. Ты маўчыш: так ты мне абвяшчаеш сваю мудрасць.

Маўкліва раскінулася ты над бурлівым морам; любоў твая і сарамяжлівасць — звеставанне маёй душы.

Ты прыйшло да мяне, прыгожае, схаванае ў сваёй прыгажосці, маўклівасцю гаворыш ты мне, адкрываеш сваю мудрасць.

О, як мне разгледзець усю сарамлівасць тваёй душы! На досвітку адкрылася ты мне, самотніку.

Мы здавён з табою сябры: і смутак, і сум, і аснова наша — усё супольнае ў нас, нават сонца. Мы не гаворым з табою, бо ведаем надта многа: моўчкі, усмешкамі перадаём мы адно аднаму нашыя веды.

Ці не святло ты ад майго полымя? Твая душа — ці не сястра майму розуму?

Мы вучыліся разам; разам вучыліся падымацца над сабою да саміх сябе і бясхмарна ўсміхацца:

— усміхацца з бясконцай далечы, светлымі вачыма, калі пад намі, быццам дождж, клубяцца Гвалт, Мэта і Віна.

І калі я бадзяўся адзінокі: чаго прагнула душа мая на сцежках аблуды? І калі падымаўся ў горы, каго, як не цябе, я шукаў там?

І ўсе мае бадзянні і ўзыходжанні — яны былі толькі вымушанасцю і дапамогаю няўмеку: мая воля хоча толькі ляцець, ляцець у цябе, у твае неабсягі!

Што ненавідзеў я больш за павольна-коўзкія воблакі, за ўсё, што цябе засмучала? І сваю нянавісць ненавідзеў, бо яна засмучала цябе!

Я ненавіджу павольна-коўзкія воблакі, гэтых скрадліва-драпежных катоў: яны забіраюць у цябе і ў мяне тое, што ў нас супольнае — нічым не абмежаванае, бясконцае сцверджанне і дабраславенне.

Павольна-коўзкія воблакі — мы ненавідзім гэтых пасяброўцаў і ўмяшанцаў, гэтых палавін-

нікаў, якія не навучыліся ні дабраслаўляць, ні праклінаць ад паўнаты сэрца.

Лепей ужо не бачыць неба і сядзець у бочцы, лепей пазбавіць сябе неба, знемагаючы ў прорве, чым цябе, святло нябеснае, бачыць запаморочанае коўзкімі воблакамі!

І мне часта хацелася змацаваць іх калючым дротам маланак, каб громам біць, як у літаўры, па іх напучаным жываце:

я — угневаны барабаншчык, бо яны ж адбіраюць у мяне тваё сцверджанне і дабраславенне, о неба, чыстае неба па-над мною! О бездань святла! — бо яны адбіраюць у мяне *маё* сцверджанне і дабраславенне.

Бо мне лепей хай шум і грукат і праклёны непагоды, чым абачлівая, сумніўная кашэчая спакайната; і сярод людзей найболей ненавіджу такіх вось скрадлівых, палавіністых, няпэўных і марудлівых, як гэтыя коўзкія воблакі.

І «хто не ўмее дабраслаўляць, павінен вучыцца праклінаць!» — гэтае светлае настаўленне ўпала мне з яснага неба, гэта зорка нават у самыя цёмныя ночы стаіць на маім небе.

А сам я — дабраслаўляю і сцвярджаю, калі толькі ты нада мною, чыстае, яснае неба, бездань святла! Тады ва ўсе бездані панясу я святое сцверджанне маё.

Я стаў тым, хто дабраслаўляе і сцвярджае: дзеля гэтага я зрабіўся змагаром і змагаўся так доўга, каб вызваліць калі-небудзь рукі на дабраславенне.

І вось маё дабраславенне — быць над кожнай рэччу яе круглым дахам, яе блакітным звонам, яе вечным спакоем; шчасны, хто так дабраслаўляе!

Бо ўсе рэчы ахрышчаны ў крыніцы вечнасці

і па той бок дабра і зла; а дабро і зло — гэта толькі імклівыя цені, вільготны сум, коўзкія воблакі.

Праўда, гэта дабраславенне, а не кляцьба, калі я вучу: «Над усімі рэчамі высіцца неба-выпадковасць, неба-нявіннасць, неба-непрадказальнасць, неба-весялосць».

«Выпадковасць» — гэта самая старая арыстакратыя свету, я вярнуў яе ўсім рэчам, я вызваліў іх ад падначалення мэце.

Гэтую свабоду і бясхмарнасць неба я паставіў, як блакітны звон, над усімі рэчамі, калі вучыў, што ні пад імі, ні праз іх не выяўляе сябе ніякая «вечная воля».

Гэтую дзёрзкую весялосць і блазнаванне я паставіў на месца той волі, калі вучыў: «Адно немагчымае ва ўсіх рэчах — разумнасць!»

Хоць *крыху* розуму — насенне мудрасці, расеянае ад зоркі да зоркі — гэтая закваска дамяшаная да ўсіх рэчаў: да блазнавання дамяшаная мудрасць рэчаў!

Крыху мудрасці — гэта ўжо магчыма; але вось якую шчасную ўпэўненасць знаходзіў я ва ўсіх рэчах: яны любяць *скакаць* на нагах выпадку.

О яснае і высокае неба па-над мною! У тым якраз ад сёння твая чысціня мне, што больш няма вечнага павука-розуму і ягонай павуціны:

— што ты — месца пад скокі боскіх выпадковасцяў, што ты — стол божышчаў, на якім божыя гульцы кідаюць гульнёвыя косці.

Ты чырванееш? Хіба я сказаў, чаго не след было? Альбо хочучы дабраславіць, сказаў які кленіч?

Альбо сорам — быць удвух — увагнаў цябе ў чырвань? Ты кажаш мне змоўкнуць і сысці, бо вось — блізіцца *дзень?*

Свет глыбокі, і ён глыбейшы, чым гэта калі думалася дню. Не ўсё асмельваецца гаварыць перад аблiччам дня. Але дзень блізіцца, і мы развітаемся!..»

Так сказаў Заратустра.

## Пра цноту, якая нікчэмніць

### 1

Калі Заратустра быў зноў на цвёрдай зямлі, ён не адразу пайшоў на сваю гару ў пячору, а прайшоў шмат дарог, усюды распытваў і выпытваў пра тое, пра сёе, так што, жартуючы, нават казаў сам сабе: «Вось рака, якая многімі звівамі вяртаецца да сваіх вытокаў!» Бо яму карцела ведаць, што сталася з *чалавекам* за час, калі яго, Заратустры, не было: зрабіўся ён большы ці меншы. І аднаго разу ён угледзеў шэраг новых дамоў; ён здзівіўся і сказаў:

«Што азначаюць гэтыя дамы? Далібог, не была вялікая тая душа, якая збудавала іх на сваё падабенства!

Ці не дурное дзіця дастала іх са скрынкі з цацкамі? Каб другое дзіця зноў іх схавала ў скрынку.

Гэтыя пакоі і каморкі: няўжо *людзі* ў іх уваходзяць і выходзяць назад? У іх жа толькі месца шаўкавічным кукалкам або памаўзлівым кошкам, якія даюцца паласавацца і сабою».

І Заратустра спыніўся і задумаўся. Нарэшце ён журботна сказаў: *«Усё тут здрабнела!*

Усюды я бачу ніжэйшыя вароты; такі, як я яшчэ, бадай што, увойдзе ў іх, але мусіць угнуцца.

О, калі я зноў вярнуся на радзіму, дзе мне не трэба будзе нагінацца, нагінацца перад малымі!» — І Заратустра ўздыхнуў і паглядзеў удалеч.

І таго самага дня ён сказаў казань пра цноту, якая нікчэмніць.

## 2

«Я хаджу сярод гэтага народу і не плюшчу вачэй: людзі не даруюць мне, што я не зайздрошчу іх цнотам.

Яны кусаюць мяне, бо я кажу ім: малым людзям патрэбны маленькія цноты; бо мне цяжка прызнаць, што *патрэбны* гэтыя самыя маленькія людзі!

Я падобны на пеўня ў чужым катуху, яго дзяўбуць нават куры; але я нічога не маю да гэтых курэй.

Я з імі ветлівы, як з любою нікчэмнаю прыкрасцю; быць калючым з малым здаецца мне мудрасцю, вартай хіба што вожыка.

Усе яны гавораць пра мяне, седзячы ўгары каля агню; усе гавораць пра мяне, але ніхто пра мяне не думае!

Вось новая цішыня, якой я навучыўся: той шум, які ўчыняюць яны вакол мяне, расхінае покрыва над маімі думкамі.

Яны ўчыняюць гармідар: «Чаго ад нас хоча гэта чорная хмара? Хоць бы яна не прынесла заразы!»

А нядаўна нейкая кабета схапіла сваё дзіця, калі тое памкнулася да мяне: «Забярыце дзяцей! — закрычала яна. — Такія вочы высмальваюць дзіцячыя душы».

Калі я прамаўляю, яны пачынаюць кашляць:

яны думаюць, што *гэтак* можна супраціўляцца бурліваму ветру; яны не здагадваюцца пра буру майго шчасця!

«Нам няма калі, нам не да Заратустры» — так пярэчаць яны; але што мне да іхніх «калі», якім не коле Заратустра?

І нават як хваляць мяне: хіба можна спачыць на іхніх усхваленнях? Хвала мне іхняя — што поле ў бадзяках: скура свярбіць нават як здымеш яе.

І вось што яшчэ ўведаў я сярод іх: хто хваліць, робіць выгляд, што аддае заслужанае, а папраўдзе ён сам хоча ўварваць сабе яшчэ болей!

Спытайцеся ў маёй нагі, ці падабаецца ёй іх манера хваліць і прынаджваць? Праўда, у гэтым рытме «цік-так» не можа яна ні скакаць, ні не варушыцца.

Яны спрабуюць хваліць мне іх дробную цноту і надзіць мяне да яе; яны і нагу маю хацелі б угаварыць на рытмічнае «цік-так» свайго шчасцейка.

Я хаджу сярод іх і не мружу вачэй: людзі *здрабнелі* і драбнеюць далей. *І прычына таго — іх вучэнне пра шчасце і цноту.*

Яны сціплыя нават і ў цноце, бо хочуць камфорту. А з камфортам сумяшчаецца толькі сціплая цнота.

Праўда, і яны вучацца хадзіць па-свойму, і нават ісці наперад: гэта я называю хадзіць *накульгваючы.* І гэтак я заважаю толькі тым, хто спяшаецца.

І шмат хто з іх, ідучы наперад, глядзіць назад, выцягнуўшы шыю: я ахвотна іх штурхаю.

Ногі і вочы не павінны ні хлусіць, ні ганіць за хлусню адно аднаго. Але шмат хлусні ў маленькіх людзей.

Некаторыя маюць сваю волю, але большасць толькі служаць волі іншых. Ёсць і сярод іх шчырыя, але большасць — усяго толькі благія акторы.

Ёсць сярод іх акторы несвядомыя, ёсць і акторы насуперак сваёй волі: шчырых заўсёды мала, асабліва — шчырых актораў.

Мужчынскія якасці тут рэдкія: вось чаму жанчыны ў іх робяцца мужчынамі. Бо толькі той, у каго ў дастатку мужчынскага, *вызваліць у жанчыне жанчыну*.

І вось найгоршая крывадушнасць, якую я ў іх бачыў: тыя нават, якія загадваюць, падрабляюцца пад цноты падначаленых.

«Я служу, ты служыш, мы служым» — так моліцца тут крывадушнасць паноў, — шкада, калі першы пан — толькі першы слуга!

Нават у іх крывадушнасць пранікла цікаўнасць маіх вачэй: і я разгадаў іхняе шчасце — шчасце мук — і іх бзычанне на асветленых сонцам шыбах.

Колькі дабрыні, столькі і слабасці бачу я. Колькі справядлівасці і спагады, столькі і слабасці.

Круглявыя, сумленныя і паблажлівыя яны паміж сабою, як пясчынкі круглыя, сумленныя і паблажлівыя да пясчынак.

Сціпла абдымаць маленькае шчасце — яны называюць гэта «ўпакорваннем»! І пры гэтым сціпла касавурацца на другое маленькае шчасце.

Яны, у сутнасці, хочуць вельмі мала, а найбольш аднаго — каб іх ніхто не крыўдзіў. Таму яны такія запабеглівыя і кожнаму робяць дабро. Але гэта — *баязлівасць:* хай сабе хоць і цнотаю называецца.

І калі яны, гэтыя маленькія людзі, гавораць

тоўстым голасам, я чую ў іх голасе толькі хрыпласць, бо любы продзімень робіць іх хрыплымі.

Яны кемлівыя, і ў цнотаў хітрыя пальцы. Але ім не хапае кулакоў — пальцы ў іх не ўмеюць сціскацца ў кулак.

Цнотаю яны лічаць тое, што робіць сціплым і плохім: так яны ператварылі ваўка ў ґабаку, а людзей — у найлепшую хатнюю жывёліну — чалавека.

«Пасярэдзіне мы паставілі сваё крэсла, — так кажа мне іхняя ўсмешка, — аднолькава далёка як ад паміраючых гладыятараў, так і ад задаволеных свіней»

Але гэта — *пасрэднасць:* хоць і называюць яе сціпласцю.

## 3

Я хаджу сярод людзей і кідаю слова-другое: яны ўжо не ўмеюць ні падняць, ні захаваць іх.

Яны здзіўляюцца, што я прыйшоў не выкрываць іх распусту і заганы; і праўда ж, не на тое прыйшоў я, каб асланяць ад дробных зладзюжак!

Яны здзіўляюцца, што не змыслены я вастрыць і выменчваць іхнюю мудрасць: нібыта мала ў іх навостраных мудрацоў, чые галасы адгукаюцца ўва мне, як рыпенне грыфеля па аспіднай табліцы.

І калі я заклікаю: «Кляніце ўсіх баязлівых дэманаў у вас, якія любяць скуглу сваю, — пабожна складваць далоні і ўзносіць малітвы»,— яны кажуць абурана:

«Заратустра — бязбожнік».

І надта ж галасліва лямантуюць іхнія прапаведнікі ўпакорвання — але якраз жа мне і

падабаецца крычаць у гэтыя вушы: «Праўда! Заратустра — бязбожнік».

Гэтыя настаўнікі ўпакорвання! Усюды, дзе ёсць нікчэмства, хвароба, струпы, поўзаюць яны, як вошы: і толькі агіда не дае мне душыць іх.

Ну што ж! Вось мая казань у іхнія вушы: «Я Заратустра, бязбожнік, які пытаецца: «Хто бязбожнейшы за мяне, каб я парадаваўся ягонай навуцы?»

Я — Заратустра, бязбожнік: усё Выпадковае вару ў сваім катле. І толькі калі яно ўварыцца, я вітаю яго, як сваю ежу.

І праўда, часта выпадак загадна набліжаецца да мяне: але яшчэ больш загадна звярталася да яго мая *воля* — і адразу ён падаў на калені;

— благаючы, каб я сардэчна прыняў яго і даў прытулак, і ліслiва ўмаўляў: «Паглядзі, Заратустра, так толькі сябар падыходзіць да сябра!»

Але навошта я гавару там, дзе ніхто не слухае маім слыхам! Тады я буду заклікаць усе вятры.

Вы ўсе драбнееце, маленькія людзі! Вы ўсе мізарнееце і крышыцеся, вы, аматары камфорту! Вы яшчэ загінеце,

— праз многія нікчэмныя дабрадзействы, праз дробныя грахі, праз нікчэмную вашу ўпакоранасць!

Занадта шмат мілажалю, занадта шмат саступлівасці — вось ваша глеба. Але каб дрэва вырасла *вялікае,* яму трэба пусціць магутныя карані ў цвёрдай скале!

Нават тое, што вы ўпускаеце, дапамагае ствараць тканіну будучыні ўсяго чалавецтва, нават вашае Нічога — толькі павуціна і павук, які жыве крывёю будучага.

І калі вы бераце, вы быццам крадзеце, вы,

маленькія праведнікі; але нават у шэльмаў ёсць свой гонар: «Крадзь толькі тады, калі нельга адабраць сілаю!»

«Гэта даецца» — вось яшчэ адна запаведзь упакоранасці. Я ж кажу вам, вы, самазадаволеныя: *бярэцца* і яшчэ болей будзе брацца ад вас!

О, калі б вы стрэслі з сябе ўсякае ваша *паўляжанне* і сталі рашучыя як у дзеянні, так і ў бяздзеянні!

О, калі б вы зразумелі маё слова: «Заўсёды рабіце тое, чаго хоча ваша воля, але спачатку станьце тымі, хто *можа хацець!*

Любіце і блізкіх сваіх, як саміх сябе, — але раней станьце тымі, хто *любіць самога сябе.*

Любіць вялікай любоўю, любіць вялікай пагардай!» — так кажа Заратустра, бязбожнік.

Але навошта я гавару там, дзе ніхто не слухае *маім* слыхам! Тут мне яшчэ рана прамаўляць.

Я сам — мой папярэднік сярод гэтых людзей, — пеўнеў крык на яшчэ цёмных вуліцах.

Але іхняя гадзіна падыходзіць! І мая — таксама! З кожнай гадзінай яны драбнеюць, бляднеюць, робяцца бясплоднымі — чэзлая зеляніна! бедная глеба!

Праўда, неўзабаве станеце вы перад мною засохлаю травою, стэпам неўрадлівым, стомленыя ад саміх сябе, асмяглыя, — але, бадай, сасмяглыя больш ад агню, чым без вады!

О, шчырахвальная гадзіна маланкі! О таямніца надпалуднёвай гадзіны! Калі-небудзь я абярну вас у лёткае полымя, і вы будзеце вешчаваць вогненнымі языкамі — языкамі полымя пачняце вы звеставаць: «Ён настае, ён блізкі, *Вялікі Полудзень!»*

Так сказаў Заратустра.

# На Елеонскай гары

«Зіма, госця ліхая, сядзіць у маім доме; пасінелі мае рукі ад яе прыяцельскага поціску.

Я паважаю яе, гэтую ліхую госцю, але ахвотна пакідаю адну. Я люблю ўцякаць ад яе, і калі бегчы борзда, можна ўцячы.

Борздымі нагамі, з палкімі думкамі я бягу туды, дзе аціхае вецер, — у асветлены сонцам закутак маёй гары Елеонскай.

Там я смяюся [illegible] суровай госці, але я ёй заўдзячваю тое, што яна ў мяне ловіць мух і суцішае шум.

Песні нават аднаго камара яна не хоча слухаць, тым болей двух; яна спусташае вуліцу, аж нават месяц баіцца заглянуць туды ўначы.

Яна суровая госця, але я шаную яе і не малюся, як які пестунец, пузатаму богу агню.

Лепей крыху паляскатаць зубамі, чым пакланяцца ідалам! — такі ў мяне характар. І асабліва я не люблю ўсіх агнявых ідалаў — распаленых, дымных, задушлівых.

Каго люблю, таго гарачэй люблю ўзімку, чым летам; злей і весялей смяюся са сваіх ворагаў, калі зіма прыходзіць у мой дом.

Праўда, я шчыра смяюся нават тады, калі *запаўзаю* ў пасцель: тады смяецца і гарэзуе маё схаванае шчасце; смяецца і падманлівы мой сон.

Я — плазун? Ніколі ў жыцці не слаўся плазам перад уладарамі; а калі і хлусіў, дык хлусіў толькі з любові. Вось чаму я вясёлы нават у зімовым ложку.

Просты ложак грэе мяне лепей за пышны, бо я раўнівы да гароты сваёй. І зімою яна верная мне.

Злосным выпадам пачынаю я кожны дзень і

смяюся з зімы халоднаю ваннаю: мая строгая госця толькі бурчыць.

Я люблю паказытаць яе васковаю свечкаю: каб яна, нарэшце, выпусціла неба, мудрае, быццам старац з сівою галавою,

маўклівае зімовае неба, што часта маўчыць нават пра сваё сонца!

Ці не ў яго я навучыўся светла маўчаць? Або, можа, яно навучылася ў мяне? Або ж мо кожны з нас сам сабе адкрыў яго?

Шматграннае і складанае паходжанне ўсіх добрых рэчаў — усе добрыя, бадзёрыя рэчы апантана скачуць у жыццё: няўжо існаваць ім толькі адзін раз?

Доўгае маўчанне — таксама неблагая, бадзёрая рэч: маўчаць і, як зімовае неба, шырока расплюшчанымі вачмі на ясным, светлым твары, доўга глядзець;

падобна зімоваму небу хаваць сваё сонца і сваю непахісную сонечную волю: праўда ж, *добра* вывучаў я гэта мастацтва і гэтую зімовую бадзёрасць!

Маё майстэрства і светлая нянавісць у тым, што маё маўчанне навучылася не выдаваць сябе маўчаннем.

Перaтрасаючы словы і гульнёвыя касці, мне няраз удавалася перахітрыць тых, хто поўны ўрачыстага чакання, перахітрыць так, каб вымкнуліся з-пад увагі гэтых прыглядчыкаў мае воля і мэта.

Каб ніхто не бачыў асновы і апошняй маёй волі, — на тое і вынайшаў я доўгае светлае маўчанне.

Шмат разумных людзей знайшоў я: яны хавалі свой твар і каламуцілі ваду, каб ніхто нічога не бачыў у іх і скрозь іх.

Але якраз да іх і прыходзілі найразумнейшыя і недаверлівыя, майстры лускаць усякія арэхі: менавіта з іх і вылоўлівалі самую асцярожную рыбку!

Але светлыя розумам, бадзёрыя і празрыстыя — самыя мудрыя маўкліўцы: такая *глыбокая* аснова ў іх, што нават самая празрыстая вада не выдае іх дна.

Ты, снежнабародае маўклівае зімовае неба, ты, сівы дзед, які з подзівам глядзіць на мяне са сваёй вышыні! Ты, нябесны сімвал маёй душы і яе дзёрзкасці!

І хіба мне не *трэба* хавацца, як таму, хто праглынуў золата, каб не раскроілі мне душу?

І ці ж абыдуся без хадуляў, каб *не заўважылі* маіх доўгіх ног усе гэтыя зайздроснікі і ненавіснікі навокал мяне?

Гэтыя закурэлыя, задушлівыя, зношаныя, выцвілыя, змаркочаныя душы — хіба *можа* іх зайздрасць стрываць маё шчасце?

Таму і паказваю я ім толькі зіму і лёд на вяршынях маіх і *не*, — што мая гара акружана ўсімі паясамі сонца!

Яны чуюць толькі сковыт маіх зімовых бураў: і не — як я лётаю над паўднёвымі марамі, якія яны палкія, цяжкія, скварныя — паўднёвыя вятры.

Праўда, яны сужальваюцца з маіх нягодаў і выпадковасцяў; але такое *маё* слова: «Дапусціце ўсе выпадковасці да мяне, невінаватыя яны, быццам малыя дзеці!»

Ці ж бы *вытрывалі* яны маё шчасце, калі б не схаваў я яго пад няшчасцямі і зімовай сцюжай, пад шапкамі з шкураў белых мядзведзяў, пад покрывам снежных нябёсаў!

— калі б я сам не ўмілажаліўся са спагады

іхняй — *мілажалем* гэтых змрочных зайздроснікаў!

— калі б я не ўздыхаў і не дрыжаў перад імі ад холаду, цярпліва *дазваляючы* ахутваць сябе спагадай!

І ў тым дзёрзкасць і добрая воля маёй душы, што *не хавае* яна зімы і сваіх снежных бураў; але не хавае і сваіх памарожанняў.

У аднаго адзінота — гэта ўцёкі хворага, а ў другога — уцёкі *ад* хворых.

Няхай *чуе,* як я дрыжу і ўздыхаю ад зімовай сцюжы, гэты зброд, які недаверліва касавурыцца, абступіўшы мяне! Задыхаючыся і з дрыжыкамі ўцякаў я [redacted] іх напаленых пакояў.

Няхай уздыхаюць яны і шкадуюць мяне, што маё цела абмарожана: «Хоць бы ён *не скалеў* на лёдзе пазнання!» — перажываюць яны.

Я ж бегаю па гары Елеонскай на бадзёрых нагах: у сонечным закутку сваёй гары я спяваю і смяюся [redacted] усякай спагады».

Так спяваў Заратустра.

## Пра мінанне

І вось, без спеху, мінаючы многія гарады і многія народы, абочнымі дарогамі вяртаўся Заратустра ў свае горы, у сваю пячору. І вось — нечакана ён апынуўся каля брамы *вялікага горада;* але тут, раскінуўшы рукі, да яго кінуўся апантаны блазен і заступіў дарогу. Гэта быў той самы юрод, якога люд назваў «Малпаю Заратустры», бо ён пераняў з яго казаняў сякія-такія спохваткі і фразы і, здаралася, прысвойваў сабе сёе-тое са скарбніцы ягонай мудрасці. І звяр-

нуўся блазен да Заратустры з такімі словамі:

«О Заратустра, тут — вялікі горад; тут няма чаго табе шукаць, а страціць ты можаш усё.

Навошта табе мясіць гэты бруд? Пашкадуй сваіх ног! Лепей плюнь на гэтую браму і вярніся назад!

Тут пекла думкам адлюдніка: усякія думкі варацца тут жыўцом і, зварыўшыся, драбнеюць.

Тлеюць тут усе вялікія пачуцці, затое брынчаць высахлыя і нікчэмныя!

Хіба не чуеш ты паху разніцы і кухняў духу? Хіба не чуеш, як смурод забітага духу ўзносіцца над гэтым горадам?

Хіба не бачыш, што душы тут, як мятыя брудныя анучы? А яны робяць з гэтых анучаў газеты!

А ў што ператварыўся тут дух? — Ва ўменне каламбурыць! Агідныя слоўныя памыі вырыгае ён: з гэтых памыяў і робяцца газеты.

Яны гоняць адно аднаго і не ведаюць куды. Яны распальваюць адно аднаго і не ведаюць, навошта. Яны грукочуць сваёю бляхаю і брынчаць сваім золатам.

Яны халодныя і шукаюць цяпла ў нагрэтай вадзе; яны распаленыя і шукаюць халадку ў застылых духах; яны ўсе кволыя і ссохлі ад грамадскай думкі.

Усе заганы і пахібы тут — дома; але ёсць і дабрачынныя — шмат паслужлівай і службовай дабрачыннасці;

— спрытнай дабрачыннасці з пісучымі пальцамі і заднім месцам, якое змазалела ад седні і чакання; і дабрачыннасць гэтая мае ўзнагароды — сціплыя знакі на грудзях, а таксама пласказадых дочак, напханых саломай.

Тут багата пабожнасці, а таксама пабожнага

лізаблюдства і нізкапаклонства перад Богам воінстваў, Саваофам.

Бо адтуль, «згары», падаюць зоркі і літасцівыя пляўкі, таму і цягнуцца ўгору пустыя — без зоркі — грудзі.

У месяца свой двор, і ў двара — свае паразіты: і на ўсё, што зыходзіць з двара, моліцца ўбогі зброд і пахлебная ўбожная дабрачыннасць.

«Я служу, ты служыш, мы служым» — так моліцца служоная дабрачыннасць каля падножжа ўладара: каб заслужаная зорка прычапілася, нарэшце, да запалых грудзей!

Але як месяц абарочваецца вакол усяго зямнога, так і ўладар абарочваецца вакол самага зямнога, што толькі ёсць: а гэта — золата гандляроў.

Бог воінстваў — гэта не Бог залатых зліткаў: князь думае, а гандляр кіруе!

У імя ўсяго ў табе светлага, моцнага, добрага, о Заратустра, плюнь на гэты горад гандляроў і вярніся назад!

Тут у кожнага ў венах шуміць гнілая і бледная кроў: плюнь на вялікі горад, на гэты велізарны сметнік, дзе бушуе і шуміць брудны накіп!

Плюнь на горад задушаных душ і запалых грудзей, зайздрослівых вачэй і ліпкіх пальцаў,

— на горад настырнікаў, блудадзеяў, пісакаў, крыкуноў і расшаленых гардзеяў,

— дзе ўсё сапсаванае, смярдзючае, заганнае, змрочнае, трухлае, прышчавае, падступнае сабрана разам;

— плюнь на вялікі горад і вярніся назад!»

Але тут Заратустра спыніў апантанага блазна і заткнуў яму рот.

«Перастань, нарэшце! — крыкнуў ён. — Мне ўжо даўно збрыдлі і прамовы, і выхілкі твае!

Навошта ты жыў так доўга ў балоце, што і сам зрабіўся жабай?

Ці не цячэ цяпер і ў тваіх жылах гнілая шумоўная балотная кроў, калі ўжо ты навучыўся так спрытна квакаць і ліхасловіць?

Чаму ты не сышоў у лес? Альбо не араў зямлі? Хіба мала ў моры зялёных астравоў?

Я пагарджаю пагардай тваёй; і калі ты асцерагаеш мяне, чаму ты не асцярог самога сябе?

З адной толькі любові залунаюць мая пагарда і птушка, якая нясе асцярогу, — але не з балота!

Цябе завуць маёй малпай, ты апантаны блазен: я ж называю цябе сваёй рохкай свіннёю; рохканнем ты ганьбіш хвалу, якую я ўзношу блазноце.

Але чаго ты пачаў рохкаць? Таму, што табе мала *ліслівілі*, — вось і сеў ты каля гэтага сметніка, каб мець прычыну рохкаць,

— і дзеля вялікае помсты! Бо помста — вось тваё шумавінне, славалюбны дурань, я раскусіў цябе!

Але твае дурныя прамовы шкодзяць мне, нават калі ты вымаўляеш правільныя словы! І хай нават тысячу разоў справядлівыя словы Заратустры — у тваіх вуснах яны заўсёды будуць шкодныя і несправядлівыя!»

Так сказаў Заратустра; паглядзеўшы на вялікі горад, ён уздыхнуў і доўга маўчаў. І нарэшце сказаў так:

«Не толькі гэты дурань агідны мне, але і горад ваш.

Ні з тым, ні з другім нічога не зробіш: іх нельга ні палепшыць, ні пагоршыць.

Гора гэтаму вялікаму гораду! Хацеў бы я пабачыць той вогненны слуп, у якім ён згарыць!

Бо слупы полымя павінны папярэднічаць Вялікаму Полудню. Але ўсё мае свой час і лёс.

Аднак жа такую навуку я дам табе на развітанне, дурань: дзе нельга болей любіць, там трэба *прайсці міма!*»

Так сказаў Заратустра і прайшоў міма блазна і міма вялікага горада.

## Пра адступнікаў

### 1

Ах, павяла і пажухла ўсё, што яшчэ нядаўна зелянела і стракацела на гэтым поплаве! А колькі мёду надзеі насіў я адгэтуль у свае вулеі!

Усе маладыя сэрцы ўжо пастарэлі, і не так пастарэлі, як стаміліся, спошліліся, супакоіліся — яны называюць гэта так: «Мы зноў зрабіліся пабожнікамі».

Яшчэ нядаўна бачыў я, як на світанку смела ішлі яны па дарозе сваёй; але здарожыліся іхнія ногі пазнання, і вось плявузгаюць яны цяпер на смеласць сваёй зары!

І праўда, быццам у скоках, калісьці лёталі іхнія ногі, пад ухвальны смех маёй мудрасці; а цяпер яны адумаліся. Толькі што я бачыў, як, угнуўшыся, паўзуць яны да крыжа.

Вакол свету і свабоды пырхалі яны калісьці, нібы камары і маладыя паэты. І вось, крыху пастарэўшы, крыху памаладзеўшы, яны ўжо запечныя лежні, цемрашалы і дэвоты.

Магчыма, таму панікла іхняе сэрца, што адзінота, быццам кіт, праглынула мяне? Магчыма, пакутліва доўга, але *марна* ўчувалася іхняе вуха ў поклічы маіх сурмаў і веснікаў?

Шкада! Заўсёды знаходзіліся і такія, чыё сэрца не разлучаецца з мужнасцю і дзёрзкасцю, чый дух цярплівы і вытрывалы. А астатнія — *баязліўцы.*

Астатнія — гэта заўсёды большасць, штодзённасць, многія мноствы, лішнія: усе яны баязліўцы!

Хто падобны на мяне, таму на долю выпадуць перажыванні, падобныя на мае, так што першымі яго прыяцелямі будуць блазны і нябожчыкі.

А другія — тыя, што назавуць сябе ягонымі *вернікамі:* ажыўлены натоўп, шмат любові, шмат шаленства, шмат дзіцячага шанавання.

Хай жа не прылепіцца да іх сэрцам той, хто падобны да мяне; не паверыць у гэтую вясну і цвіценне лугу той, хто ведае чалавечы род, — непастаянны і душою малы!

Калі б яны *маглі* інакш, яны і хацелі б інакш. Тое, што напалавіну, заўсёды руйнуе. Калі лісце жаўцее — на што ж тут скардзіцца!

Хай яны ляцяць і падаюць, пакінь іх, Заратустра, і не шкадуй! Лепей зрывай іх бурнай віхурай — зрывай гэтае лісце, Заратустра, каб адляцела прэч ад цябе ўсё *завялае!*

2

«Мы зноў сталі пабожныя», — прызнаюцца гэтыя адступнікі, а многія з іх яшчэ і баяцца прызнацца.

Я гляджу ім у вочы, проста ў румянец іх шчок: вы тыя, хто зноў *моліцца!*

Але гэта ганьба — маліцца! Ганьба не ўсім, а мне, табе і кожнаму сумленнаму. Ганьба *табе* — маліцца!

Ты добра ведаеш: твой баязлівы дэман у табе, што так любіць малітоўна складваць рукі або

трымаць іх на каленях і ўвогуле любіць спакой, — гэты баязлівы дэман кажа табе: *«Ёсць* Бог!»

Але ў такім разе і ты належыш да тых, хто баіцца святла, каму яно ніколі не дае спакою: з кожным днём табе давядзецца ўсё глыбей хаваць галаву ў цемру і ў чад!

Праўда, латвы ты выбраў час: бо вось зноў пырхаюць начныя птушкі. Настаў час усіх, хто баіцца святла, — вечар, час святкавання, калі нішто не «святкуецца».

Я чую і адчуваю: прыйшоў час іх урачыстых шэсцяў і палявання — палявання расслабленага, вялага, кволага на нюх, калі пад ціхі крок мармычуць малітвы,

— час палявання на душэўна-шчодрых дэвотаў: зноў пастаўлены ўсе пасткі, каб лавіць сэрцы! І дзе толькі ні падыму заслону, адусюль вылятае ўспалошаны начны матылёк.

Напэўна, ён быў там не адзін! Я адчуваю, што ўсюды пазапаўзалі маленькія абшчыны, і дзе толькі ёсць якая каморка, там знойдзеш і багамольцаў, і адчуеш іх пах.

Цэлыя вечары сядзяць яны і вядуць: «Дай нам зноў быць дзецьмі, каб казаць: «Божа літасцівы!» Набожныя цукернікі папсавалі ім языкі і страўнікі.

Альбо цалюткі божы дзень дзівяцца на хітрага павука-крыжака, які падпасвае здабычу і прапаведуе іншым павукам словы мудрасці: «Пад крыжамі зручна плесці сеткі!»

Альбо цэлыя дні выседжваюць з вудамі на балоце і лічаць сябе *глыбокімі,* але тых, хто ловіць вудамі там, дзе няма рыбы, я б нават павярхоўнымі не назваў!

Альбо пабожна-ўмільна вучацца іграць на арфе ў песняра, які сваёю ігрою вымацвае дарогі да

сэрца маладзічак, бо стаміўся ён ад старых баб і іхніх падахвотак.

Альбо вучацца трэсціся ад жаху ў цёмным пакоі ў якога-небудзь прыдурка-вучонага, які ўсё чакае духаў, і пры гэтым дарэшты спаражняюць свой розум!

Альбо прыслухоўваюцца да флейты старога вандроўнага шарлатана, які пераняў у журботна завыўнага ветру гукавую паныласць; вось і цягне следам за ветрам і прапаведуе панылымі гукамі скруху.

А некаторыя парабіліся начнымі вартаўнікамі; яны навучыліся дудзець у ражок, рабіць начны абыход і будзіць мінулае, якое даўно ўжо спачыла.

Пяць выслоўяў з старых паданняў чуў я ўчора ўначы каля садовага мура: ад стомленых, панурых, усохлых начных вартаўнікоў:

«Як на Айца, дык Ён не дужа клапоціцца пра сваіх дзяцей, у людзей айцы куды лепшыя!»

«Ён надта стары! І зусім ужо не клапоціцца пра сваіх дзяцей», — адказаў другі вандроўнік.

«Хіба ў іх *ёсць* дзеці? Ніхто не можа гэтага даказаць, калі ўжо і Ён сам гэтага не даказвае! Мне хацелася б, каб Ён хоць раз прывёў пераканаўчы доказ».

«Доказ? Ды калі тое было! Не дужа гладка ў Яго з доказамі — яму важней, каб Яму *верылі!*»

«Так, так! Вера робіць Яго праведным — вера ў Яго. Так было павялося ў нашых бацькоў! так яно ідзе і ў нас!»

Так гутарылі два начныя вартаўнікі, якія баяліся святла, і потым панyла задудзелі ў свае ражкі: было гэта ўчора ўначы каля садовага мура.

А ўва мне сэрца калацілася ад смеху, і хацела вырвацца, і не ведала куды, і апусцілася ў маю нутробу.

І праўда, я памру, бадай што, зайшоўшыся смехам, бачачы, як аслы ўпіваюцца, а начныя вартаўнікі запаняверваюцца ў Бозе.

Хіба не прайшоў *даўным-даўно* час на такія паняверкі? Хто яшчэ можа будзіць гэтую спачылую, светлабоязную даўніну!

Даўно ўжо пакончана са старымі божышчамі; і праўда — добры, вясёлы канец выпаў на іхнюю долю!

Не «поцемкамі» давялі яны сябе да смерці — гэта мана! Наадварот: яны так рагаталі аднаго разу, што паўміралі *ад смеху!*

Гэта адбылося, калі самае бязбожнае слова было прамоўлена нейкім богам: «Адзін Гасподзь! Хай не будзе ў цябе іншых багоў, апрача Мяне!» — стары, раўнівы, злосны барадач аж настолькі забыўся, што ўсе багі засмяяліся і, пагушкваючыся на сваіх тронах, казалі: «Ці не ў тым боскасць, што ёсць багі, ды няма ніякага Бога?»

Хто мае вушы, хай чуе!»

Так сказаў Заратустра ў горадзе, які ён любіў і які называўся Пярэстая Карова. Адгэтуль заставалася яшчэ два дні дарогі да пячоры, да вяртання да ягоных звяроў; і душа яго парадавалася блізкаму вяртанню.

# Вяртанне

«О адлюдненасць! Ты — мая *Айчына* Адлюдненасць! Надта доўга жыў я закінуты на чужыне, каб са слязьмі не вярнуцца да цябе!

Пагразі мне пальцам, як грозіць маці, усміхніся мне, як маці ўсміхаецца, і скажы: «А хто калісь нібы віхура паляцеў ад мяне?»

Хто на развітанне крыкнуў: «Надта доўга я быў у адзіноце і адвык маўчаць». Цяпер ты, вядома, навучыўся?

О Заратустра, я ведаю ўсё: і тое, што сярод мноства людскога ты быў *больш пакінуты,* чым раней са мною!

Адно — пакінутасць, другое — адлюдненасць: гэтаму ты навучыўся цяпер! І таму, што сярод людзей ты заўсёды будзеш ім чужы і дзікі:

— нават калі яны любіцьмуць цябе: бо яны найперш хочуць, каб іх *шкадавалі!*

А тут ты ў сябе дома, на радзіме; тут ты можаш гаварыць усё і адкрыць сваю душу, ніхто тут не саромеецца схаваных і скупых пачуццяў.

Тут усе рэчы, лашчачыся, набліжаюцца да тваёй прамовы і дагаджаюць табе: так хочацца ім паездзіць на тваёй спіне! На любой прыпавесці ты дапнеш да ўсякай ісціны.

Тут проста і шчыра можаш гутарыць з усімі рэчамі; і праўда, пахвалою здаецца іхняму слыху, што нехта гаворыць з ім шчыра!

А быць пакінутым — зусім іншае нешта. Ці памятаеш ты, Заратустра? Калі ў лесе над тваёй галавой крычала птушка, а ты нерашуча стаяў побач з мёртвым і не ведаў, куды ісці.

Калі ты казаў: «Хай мае звяры вядуць мяне! Я адчуваю, што мне больш небяспечна быць сярод

14. Зак. 530.

людзей, чым сярод звяроў». *Гэта* была пакінутасць.

А ці памятаеш ты яшчэ вось што, Заратустра? Калі ты быў на сваёй выспе, ты — крыніца віна сярод пустых вёдраў, раздаючы сябе спрагненым, даруючы і раздорваючы,

— пакуль, нарэшце, не застаўся ў адзіноце, спрагнены сярод п'яных, пакуль не пачаў скардзіцца начамі:

Ці не большая асалода ў тым, каб браць, чым даваць?

І красці, чым браць? *Гэта* была пакінутасць!

Ці памятаеш такое, Заратустра? Калі да цябе наблізілася твая Цішыня, якая адагнала цябе ад самога сябе, і злосна нашэптвала: «Скажы і рабіся!»

— і калі зрабіла табе болем тваё чаканне і маўчанне і паныласцю тваю ўпакораную мужнасць. *Гэта* была пакінутасць!»

О адлюдненасць! Ты, мая Айчына, Адлюдненасць! З якой шчаслівай пяшчотай звястуе мне твой голас!

Мы не пытаемся адно ў аднога, мы не скардзімся адно аднаму: мы ідзем разам у адчыненыя дзверы.

Бо ў цябе ўсё адчынена і светла, і тут лягчэй бягуць ногі часу, бо ў цемры час цісне мацней, чым на святле.

Тут мне раскрываюцца словы пра быццё, быццам скрынкі, раскрываюцца мне словы пра ўсё сутнае: усё сутнае хоча стаць словам, усякае станаўленне хоча навучыцца ў мяне гаварыць.

А там, унізе, любая казань марная! Там «забыць і прайсці міма» — найлепшая мудрасць: *гэтаму* я цяпер навучыўся!

Хто хоча ў людзей зразумець усё, павінен да

ўсяго дакрануцца. Але на гэта ў мяне занадта чыстыя рукі.

Я ўжо не магу дыхаць [illegible] імі адным паветрам; о, навошта я жыў так доўга ў шуме і ў іх смярдзючым дыханні!

О шчаслівая цішыня вакол мяне! О чыстыя пахі! Як глыбока і чыста дыхае цішыня! Як учуваецца яна, шчаслівая!

А там, унізе, — там усё гаворыць і ўсё застаецца не пачутым. Хоць званамі абвяшчай мудрасць сваю: гандляры на рынку ўсё роўна заглушаць яе звонам медзі!

Усё ў іх гаворыць, а разумець усе адвыклі. Усё ў іх валіцца з рук, але нічога не трапляе больш у глыбокія крыніцы.

Усё ў іх гаворыць, усё растурзана словамі. Тое, што яшчэ ўчора было цвёрдае і не па зубах самому часу, сёння — згрызенае і абгрызенае — звісае з зяпы людзей цяперашчыны.

Усё ў іх гаворыць, усё агалошваецца. Тое, што калісьці было схавана і таямніцай глыбокіх душаў, сёння належыць вулічным трубачам і ўсякім легкакрылым кузакам.

Дзівосная рэч — чалавечая істота! Ты, шум цёмных вуліц, ты зноў за мною! Найвялікшая небяспека мая засталася за мною!

Шкадаваць і спагадаць — заўсёды было маёй найбольшай небяспекай, але ж усякая чалавечая істота прагне, каб яе шкадавалі і спагадалі ёй.

З нявыказанымі ісцінамі, з рукою дурня і сэрцам без розуму, багаты дробязнай хлуснёй спагады — так я жыў сярод людзей заўсёды.

Сядзеў я сярод іх пераапрануты, гатовы не пазнаваць *сябе* толькі дзеля таго, каб трываць *іх,* і пераконваў сябе: «Дурань, ты не ведаеш людзей!»

Перастаеш разумець людзей, калі жывеш сярод іх: надта шмат на іх блізіру, знешняга, — навошта *тут* дальнавідныя, палка-разумныя вочы!

І калі яны не прызнавалі мяне, я, дурны, у сваёй апантанасці прагнуў іх за гэта яшчэ больш, чым сябе: прывыклы быць жорсткім да сябе, я часта помсціў сабе за гэты жаль.

Пакусаны ядавітымі мухамі і паточаны, як камень, процьмай кропляў злосці, я сядзеў сярод іх і пераконваў сябе: «Не вінаватае ўсё нікчэмнае ў нікчэмнасці сваёй!»

Асабліва ядавітымі з усіх мух я лічыў тых, што завуць сябе «добрымі»: яны кусаюць, не ўсведамляючы сваёй віны, яны хлусяць, не ўсведамляючы яе, — як *маглі б* яны быць са мною справядлівымі!

Хто жыве сярод добрых, таго спагада вучыць хлусіць. Спагада робіць паветра затхлым усім свабодным душам. Глупства добрых — бяздоннае.

Хаваць сябе самога і багацце сваё — гэтаму я навучыўся там, унізе: бо я выявіў, што кожны з іх — убогі духам. У тым была хлусня маёй спагады, што пра кожнага я ведаў,

— ведаў, бачыў і нават носам чуў, што не толькі *дастаткова,* але нават *занадта шмат* духу дасталося яму!

Гэтыя іх надзьмутыя мудрацы, але не надзьмутымі, а мудрымі называў я іх: я так навучыўся глытаць словы. Гэтыя іх магільшчыкі — я ж называў іх даследчыкамі і выпрабавальнікамі: так я навучыўся падмяняць словы.

Самыя сабе капаюць далакопы гэтыя хваробы. Пагібельныя выпарэнні дрэмлюць пад старым смеццем. Не трэба турбаваць балота. Лепей жыць у гарах.

Шчаслівымі грудзьмі я ўдыхаю зноў свабоду

гор! Нарэшце мой нос пазбаўлены паху чалавечага існавання!

Свежае паветра, як пеністае віно, казыча мне ноздры, і яна чмыхае, душа мая, чмыхае і радасна гукае: «На здароўе!»

Так сказаў Заратустра.

## Пра тры пахібы

### 1

«У сне, у апошнім ранішнім сне я стаяў на высокай скале, па той бок свету, трымаў вагі і *важыў* свет.

О, дужа рана настала мне ранішняя зара — палкая і раўнівая! Заўсёды раўнівая яна да маіх гарачых ранішніх сноў.

Вымерны таму, у каго ёсць час; выважаны таму, хто ўмее важыць; дасягальны моцным крылам; адгадны боскім адгадчыкам — такім явіўся мне ў сне гэты свет.

Сон мой, адважны марак, напалавіну карабель, напалавіну шквал, маўклівы, як матылёк, нецярплівы, як сокал:

адкуль узяўся ў яго сёння і час, і цярплівасць, каб важыць свет!

Мабыць, мудрасць мая нашаптала яму нішкам — чуйная, пакеплівая, дзённая мудрасць мая, якая смяецца з усіх бясконцых светаў! Бо яна кажа: «Дзе сіла, там валадарыць і *лік*, бо ў яго болей сілы».

Як упэўнена глядзеў мой сон на гэты канцы свет, — без цікаўнасці, без шкадавання, без страху, без мальбы:

— быццам выспелы яблык прасіўся ў руку

маю, крамяны і залацісты, з далікатнай халаднаватай аксамітнай скуркай — такім здаўся мне свет:

— быццам ківала мне дрэва з раскідзістымі галінамі, моцнае воляй, сагнутае дзеля апоры і адпачынку нагам стомленых дарожнікаў: такім здаўся мне са скалы гэты свет;

— быццам пяшчотныя рукі неслі мне насустрач скрынку, адчыненую захапленню сарамяжлівых шанавальных вачэй — такім гэты свет здаўся мне сёння;

— не так загадкай, каб адпудзіць чалавечую любоў; не так разгадкай, каб прыспаць чалавечую мудрасць, — па-чалавечы добрым здаўся мне сёння свет, пра які так многа ліхасловяць!

Які ўдзячны я свайму ранішняму сну за тое, што сёння на золку ўзважыў я свет! Па-чалавечы добрым прыйшоў да мяне сон, суцешнік сэрцаў!

І ўдзень я зраблю, як ён, і навучуся ў яго ўсяго найлепшага: цяпер я хачу пакласці на шалі з усіх ліхаў тры самыя ліхія і па-чалавечы правільна іх узважыць.

Хто вучыў дабраслаўляць, той вучыў і выклінаць: якія ж на свеце ёсць тры найсамыя клятыя рэчы? Іх я і хачу пакласці на шалі.

*Пахацінства, уладалюбства, сябелюбства* — гэтыя тры да сёння выкліналіся найбольш і найбольш іх аплявузгалі; і вось гэтыя тры пахібы сёння я хачу па-чалавечы добра ўзважыць.

Давай! Тут мая скала, там — мора: яно падкочваецца мне пад ногі, калматае, лашчыцца — вернае, старое страшыдла, спагадлівы сабака, якога я люблю.

Давай! Тут я трымаю вагі, над бурным морам, і выбіраю сведку, каб ён глядзеў, — выбіраю

цябе, любае маё самотнае дрэва, што шырока раскінула голле, пахучае, водарнае!

Па якім мосце ідзе сённяшняе ў будучыню? Па чыёй волі высокае хіліцца да нізкага? І што загадвае вышэйшаму расці вышэй і вышэй?

Цяпер шалі ў раўнавазе і ў нерухомасці: тры цяжкія пытанні кінуў я на адну шалю, тры цяжкія адказы трымае другая.

2

Пахацінства: калючка і слуп ганьбы ўсім у пакаяных валасяніцах пагарднікам цела; асуджанае на праклён як «зямное» ва ўсіх, хто марыць пра іншы свет, бо яно пагарджае ўсімі настаўнікамі хлусні і дурыць іх.

Пахацінства: павольны агонь зброду, на якім згарае яно; усім смярдзючым лахманам і чарвівым дрэвам — распаленая, агнявая печ.

Пахацінства: нявіннае і свабоднае яно ў свабодных сэрцаў, сад зямнога шчасця, святочнае багацце і дарунак будучыні ад лішніцы яго.

Пахацінства: гэта салодкая атрута толькі завялым, а тым, у каго львіная воля, гэта вялікі сардэчны мацунак, віно з усіх вінаў, багавейна захаванае.

Пахацінства: гэта найвялікшая асалода, сімвал найбольшага шчасця і найвышэйшай надзеі. бо многаму было дадзена абяцанне шлюбу і нават большага, чым шлюб:

— многаму, што яшчэ больш чужое адно аднаму, чым мужчына жанчыне: а хто спасціг да канца, *наколькі чужыя* адно аднаму мужчына і жанчына?

Пахацінства: аднак мне трэба абмежаваць думкі і словы, каб не ўварваліся ў мае сады свінні і апантанцы!

Уладалюбства: вогненны біч у самых цвёрдых з усіх цвердакаменных сэрцаў; жудаснае катаванне, нагатаванае самаму жорсткаму, змрочнае полымя вогнішчаў, на якіх паляць жыўцом.

Уладалюбства: гэта жорсткія кілзы, накінутыя на самыя славалюбныя народы; яно здзекуецца з любога сумніўнага дабрачынства, яно едзе вярхом на любым кані і на ўсякай гардыні.

Уладалюбства: землятрус, які разбурае ўсё лядашчае і пустое; раз'юшаны, грымучы, карны разбуральнік фарбаваных дамавін; бліскучы пытальнік побач з зайздроснымі адказамі.

Уладалюбства: перад позіркам яго чалавек поўзае і плазуе, сцелецца рабом і робіцца ніжэйшы за змяю і свінню, пакуль, нарэшце, не вырвецца ў яго крык вялікай пагарды.

Уладалюбства: грозны настаўнік вялікай пагарды, які кідае ў твар гарадам і царствам: «Далоў цябе!», пакуль, нарэшце, і самі яны не залямантуюць: «Далоў, *мяне!*»

Уладалюбства: яно падымаецца да чыстых і адзінокіх, каб іх прывабіць, падымаецца ўгору да самадастатковых вяршыняў, палаючы, як любоў, малюючы ў нябёсах панадныя пурпуровыя блікі асалодаў.

Уладалюбства: але хто сказаў, што нездаровая такая палкасць, калі высокае імкнецца да ўлады над ніжэйшым! Сапраўды, няма нічога хваравітага ў такім жаданні, у такім прышэсці!

Каб адзінокая вяршыня не заставалася вечна адна і была сабе дастатковая; каб гара сышла да даліны, а вятры вяршыняў — да нізінаў.

О, хто знойдзе сапраўднае імя, каб назваць і ўзвесці ў дабрачыннасць гэта імкненне! «Цнота, якая адорвае» — так назваў калісьці Заратустра тое безназоўнае.

І тады сталася — і праўда, сталася ўпершыню, — што слова яго ўзвялічыла *сябелюбства* — бадзёрае, здаровае сябелюбства, што б'е струмянём з моцнай душы;

— з моцнай душы, спалучанай з узвышаным целам, цудоўным, неперсаможным і дужым, побач з якім кожная рэч робіцца люстрам;

— з моцнай душы, злучанай з пругкім целам, якое гаворыць само за сябе, з целам-танцорам, сімвалам і выразам якога служыць душа, якая радуецца сабе самой. Радасць такіх целаў і душаў называе сябе дабрачыннасцю, цнотаю.

Сваімі казанямі пра благое і добрае абмяжоўвае сябе гэтая радасць, быццам свяшчэннымі гаямі, імёнамі свайго шчасця аганяецца яна ад усяго пагарды вартага.

Яна гоніць прэч усё маладушнае; яна кажа: «Благое — гэта баязлівае!» Вартым пагарды ёй здаецца кожны, хто ўвесь час турбуецца, уздыхае, скардзіцца і здабывае з усяго найменшую выгоду.

Яна пагарджае і любою панылаю мудрасцю: бо сапраўды ёсць мудрасць, якая расцвітае ў змроку, мудрасць, якая, як начны цень, увесь час уздыхае: «Усё — марнасць!»

Яна не любіць баязлівай недаверлівасці і ўсіх тых, хто патрабуе прысяг замест позіркаў і працягнутых рук; і не любіць недаверлівай мудрасці, бо гэта — мудрасць баязлівая.

Яшчэ ніжэй яна цэніць дагодлівага і пакорнага, таго, хто адразу, як сабака, кладзецца на спіну; ёсць мудрасць, якая па-сабачы дагодлівая, пакорная, пабожная і паслужлівая.

Ненавісны і агідны ёй той, хто ніколі не абараняецца, хто глытае атрутныя пляўкі і злосныя позіркі, хто надта цярплівы, хто ўсё пера-

носіць і ўсім задаволены: бо гэта — характар раба.

Хай гэта рабалепства перад багамі і слядамі ад іх выспяткаў, хай перад людзьмі з іх дурнымі меркаваннямі, — на *ўсё* рабскае яно плюе, гэтае вялікае сябелюбства.

Благое: так называе яно ўсё, што баязліва і па-рабску прыніжана, — вочы, што пакорліва моргаюць, прыгнечаныя сэрцы і тую ілжывую, сагнутую людскую пароду, якая гатова цалаваць тоўстымі, баязлівымі губамі.

І мудрасць задніцы: так называе яна ўсё, над чым мудруюць рабы, старыя і стомленыя, а асабліва — благое, недарэчнае, марнае мудраванне папоўскай дурасці!

Усе гэтыя задамудрыя — гэтыя жрацы, усе гэтыя стомленыя ад свету і тыя, чые душы — бабскага альбо рабскага роду — як спрытна яны збэсцілі сябелюбства.

Менавіта бо гэтая задняя мудрасць лічылася цнотай і называлася яе імем толькі дзеля таго, каб гнаць ад сябе сябелюбства! «Адмовіцца ад сябе» — вось чаго з поўнай падставай хацелі ўсе стомленыя жыццём баязліўцы і павукі-крыжакі!

А сёння да іх набліжаецца дзень, калі ўсё зменіцца: меч суддзі, Вялікі Полудзень; і многае зробіцца тады яўным!

І хто славіць «Я» і асвячае сябелюбства, сапраўды, той кажа натхнёна, быццам прарок: «Вось настае ён, Вялікі Полудзень, вось ён ужо блізка!»

Так сказаў Заратустра.

# Пра Дух Цяжару

## 1

«Мае вусны — вусны народа: лішне груба і шчыра кажу я маім шаўкавістым трусікам. І яшчэ больш чужое маё слова ўсім чарнільным душам і пісучым лісам.

Мая рука — рука дурня: гора ўсім сталам і сценам і ўсяму, дзе ёсць месца пад пісаніну і мазню!

Мае ногі — ногі каня; я імі скачу і чвалую на злом галавы, па палях уздоўж і ўпоперак, як чорт рады хуткаму бегу.

Мой страўнік — ці ж не страўнік арла? Бо найбольш любіць ён ягнячае мяса. Далібог, гэта страўнік птушкі.

Выкармлены няшчодрай простай ежай, заўсёды гатовы да лёту, гатовы ў неба — такі я: як жа мне быць не птушкай?

Да таго ж я варожы Духу Цяжару — гэта ўва мне таксама птушынае; праўда бо, смяротная, непрымірная, спрадвечная мая варожасць! О, куды толькі не лётала і дзе толькі не блукала мая варожасць!

Цяпер я магу пра гэта спяваць і хачу спяваць: хоць я адзін у пустым доме і давядзецца спяваць толькі сваім вушам.

Ёсць, вядома, іншыя спевакі, у каго толькі ў поўным доме голас мякчэе, рука робіцца вымоўнай, позірк — выразным, а сэрца — чуйным: але на іх я не падобны.

2

Той, хто навучыць людзей лётаць, зрушыць усе межавыя камяні; ён прымусіць самыя камяні лётаць, і новым імем назаве зямлю — імем «лёгкая».

Страус бяжыць хутчэй за самага борздага каня, але ў цяжкую зямлю яшчэ хавае сваю галаву: так і чалавек, які яшчэ не ўмее лётаць.

Цяжкімі ён называе зямлю і жыццё: бо *так хоча* Дух Цяжару! А той, хто прагне стаць лёгкім, павінен любіць сябе самога: так вучу *я*.

Вядома, любіць не любоўю хворых і нямоглых, бо у іх нават сябелюбнасць — смярдзючая!

Так вучу я: трэба вучыцца любіць сябе — любоўю здаровай і святой, каб заставацца верным сабе і не лунаць марна.

Такое лунанне назвала сябе «любоўю да бліз-кага»; гэтымі словамі дагэтуль ілгалі і крывадушылі больш за ўсё, асабліва тыя, каго свет ледзьве трываў.

І праўда, гэта зусім не запаведзь на сёння і на заўтра — *вучыцца* любіць сябе. Наадварот, з усіх мастацтваў гэта найтанчэйшае, наймудрэйшае і патрабуе найбольшай цярплівасці.

Бо свой здабытак заўсёды добра схаваны ад самога сябе, і з усіх скарбаў на астатку заўсёды выкопваецца свой скарб; такое ўздзеянне Духу Цяжару.

Ледзь не з калыскі нам даюць у спадчыну цяжкія словы і каштоўнасці: «дабро» і «зло» — так называюць гэтую спадчыну. І ў імя яе даруюць нам наша жыццё.

І таму пускаюць дзяцей да сябе, каб своечасова не даць ім палюбіць саміх сябе: такое ўздзеянне Духу Цяжару.

І мы — даверліва цягнем тое, што ўзбатуюць на нас, цягнем на агрубелых плячах па суровых гарах! І калі мы сплываем потам, нам кажуць: «Так, цяжка несці жыццё!»

Не толькі чалавеку цяжка несці і выносіць сябе! А ўсё таму, што цягне ён на сваіх плячах надта многа непатрэбшчыны. Як вярблюд, становіцца ён на калені і даецца наўючыць.

І асабліва цяжка таму, хто дужы, вынослівы, здольны да шанавання, — надта шмат чужых, цяжкіх слоў і каштоўнасцяў наўючвае ён на сябе: і вось — жыццё яму здаецца пустэльняй!

Сапраўды! Нават многае са *сваіх* здабыткаў нялёгка несці! Многае ў чалавеку падобнае да вустрыцы, агіднай і слізкай, якую цяжка ўхапіць.

Потым знешняя абалонка павінна быць размаляваная, каб выглядаць высакародна, быць як бы хадайнікам за ўсё, што ўсярэдзіне.

Але і гэтай штуцы трэба яшчэ навучыцца: *трэба мець* скарлупу, і выдатны блізір, і мудрую слепату!

Але і тут магчымая памылка: бо тая ці іншая чалавечая абалонка была і панылая, і вельмі нагадвае шкарлупу. Шмат схаваных вартасцяў і сілы застаюцца неразгаданымі; самыя далікатныя лагодкі не знаходзяць таго, хто іх ацэніць!

Жанчыны гэта ведаюць, асабліва тыя, якія высока цэняцца: крыху таўсцейшыя, крыху таншэйшыя — так часта ўвесь лёс у гэтым «крыху»!

Цяжка адкрыць чалавека, а самога сябе — найцяжэй; ён часта маніць пра душу. Такое ўздзеянне Духу Цяжару.

Але адкрыў сябе той, хто кажа: вось *маё* дабро і *маё* зло. Так ён прымушае замоўкнуць крата і карліка з іх словамі: «Дабро ўсім, зло ўсім».

Праўда, я не люблю і тых, у каго добрыя ўсе рэчы, а свет гэты лічыцца найлепшым. Такіх я называю ўсімзадаволенымі.

Усімзадаволенасць, якая ўмее знаходзіць смак ва ўсім, гэта не найлепшы густ! Я паважаю ўпартыя, наравістыя языкі і шлункі, якія навучыліся слоў «Я», «Так», «Не».

Але ўсё жаваць і пераварваць — гэта, бадай што, толькі ў свіней!

Увесь час паўтараць «І-А» — гэтаму навучаны толькі аслы і тыя, хто ім блізкі духам!

Майму густу патрэбныя жоўтая і ярка-чырвоная фарба, мой густ да ўсяго дамешвае кроў. Але той, хто беліць свой дом, знаходзіць сваю бяскроўную душу.

Адны закаханыя ў муміі, другія — у прывіды: і тыя, і другія аднолькава варожыя крыві і плоці. О, якія яны агідныя майму густу! Бо я люблю кроў.

І не хачу я жыць там, дзе кожны плюе, — не да густу мне гэта: бо ні ў кога няма ў роце золата; ужо лепей жыць сярод злодзеяў і клятваадступнікаў.

Але місалізнікі, якія вылізваюць пляўкі, мне яшчэ больш агідныя; а самую гнюсную жывёліну, якую я знайшоў сярод людзей, я назваў паразітам; яна не хацела кахаць, але хацела жыць за кошт кахання.

Няшчаснымі я называю ўсіх, у каго толькі адзін выбар: зрабіцца альбо лютым зверам, альбо лютым утаймавальнікам. Сярод іх я не паставіў бы свайго будана.

Няшчаснымі я называю і тых, хто заўсёды павінен быць *на варце*, — брыдкія яны майму густу: усе гэтыя мытнікі і гандляры, каралі і іншыя ахоўнікі краін і куфроў.

Праўда, я таксама навучыўся быць на варце — і навучыўся гэтаму добра, — толькі на варце *самога сябе.* Асабліва вучыўся я стаяць, і хадзіць, і бегаць, і лазіць, і скакаць: нельга адразу навучыцца лётаць!

Па вераўчанай лесвіцы навучыўся лазіць у любоўныя вокны, спрытна караскаўся на высокія мачты; сядзець на высокіх мачтах пазнання здавалася мне асалодай,

— падобна да маленькіх агеньчыкаў успыхваць на высокіх мачтах: хай сабе малое святло, але і яно вялікая ўцеха тым караблям, якія збіліся з дарогі і церпяць бедства.

Многімі спосабамі, рознымі дарогамі прыйшоў я да сваёй праўды: не па адной лесвіцы падымаўся я ўгору, адкуль позірк мой ляцеў удалечыню.

Неахвотна распытваў я, якою дарогаю прайсці, — гэта заўсёды было мне не да густу! Я лепш распытваў і выпрабоўваў гэтыя дарогі.

Выпрабоўваць і распытваць — такія былі дарогі мае: і сапраўды трэба яшчэ *навучыцца* адказваць на гэтыя пытанні! Але такі ўжо мой густ:

— не добры, не благі, а *мой* густ, якога мне не трэба ні саромецца, ні хаваць.

«Гэта цяпер *мая* дарога, а дзе ж ваша?» — так адказваю я тым, хто мяне распытвае: «Якою дарогай ісці?» Бо *дарогі,* толькі як дарогі, няма!»

Так сказаў Заратустра.

## Пра старыя і новыя скрыжалі

1

«Сяджу я тут і чакаю; навокал старыя пабітыя скрыжалі, а таксама новыя, напалавіну запісаныя. калі ж настане мая гадзіна?

— гадзіна майго зыходу, зыходу: бо я хачу яшчэ *адзін раз* да людзей.

Цяпер я чакаю гэтага: бо спачатку яшчэ павінны аб'явіцца азнакі, што гадзіна *мая* настала, — гэта павінен быць рассмешаны леў з чародкай галубоў.

Чакаючы, гутару сам з сабою, як той, каму ёсць калі. Ніхто нічога новага мне не кажа: вось я і раскажу сам пра сябе.

2

Калі я прыйшоў да людзей, убачыў, што сядзяць яны на старых прымхах: усе верылі, быццам яны даўно ведаюць, што ёсць чалавеку дабро, а што зло.

Старой пустой забавай здаваліся ім усе гамонкі пра цноту, а той, хто хацеў добра выспацца, балабоніў перад сном пра «дабро» і «зло».

Гэтую дрымоту я страсянуў, калі пачаў вучыць: *ніхто яшчэ не ведае,* што такое дабро і зло, ніхто, апрача творцы!

А стварае той, хто надае зямлі сэнс і дорыць ёй будучыню, а чалавеку — мэту; ён жа і *стварае* і добрае, і благое.

І сказаў я ім перавярнуць іх старыя кафедры і ўсё, на чым сядзела іх трухлявая пыха; я сказаў ім смяяцца з іх цнатлівых геніяў, і святых, і паэтаў, і збаўцаў свету.

З іх змрочных мудрацоў каб смяяліся, і з усіх, хто, нібы чорнае пудзіла, калі-небудзь сядзеў на дрэве жыцця.

На вуліцы іхніх магільніц сеў я побач з груганамі і падлай — і смяяўся з іх мінулага і яго светлай, разваленай велікапышнасці.

Сапраўды, як тапелец і прапаведнік пакаяння, выліў я свой гнеў на ўсё, што было ў іх вялікага і малога: «Лепшае ў іх — нікчэмнае, кепскае і благое ў іх — нікчэмнае!» — так смяяўся я.

Крыкам і смехам вылівалася з мяне мудрая палкасць мая, дзікая мудрасць мая, у гарах народжаная! Найвышэйшая палкасць мая, шумнакрылая!

І часта, калі я смяяўся, яна раптоўна вяла мяне ўдалеч і ўгору: і ляцеў я, трапятлівы, як страла, у напоеным сонцам захапленні:

— туды, у далёкую будучыню, якое не бачыла яшчэ нічыя мара, на Поўдзень такі скварны, што і не сніўся мастакам; туды, дзе багі, танцуючы, саромеюцца любога адзення:

— так я кажу параўнаннямі, запінаючыся і кульгаючы, як усе паэты: праўда, мне брыдка, што я мушу быць яшчэ і паэтам!

Туды, дзе любое станаўленне здавалася мне боскім танцам і дзёрзкай весялосцю, а свет — вызваленым з путаў і свабодным, памкнёным да сябе самога:

— быццам багі, якія вечна шукаюць сябе ў вечных уцёках ад сябе, шчасліва супярэчачы сабе і зноў, па-новаму, шукаючы сябе, самыя з сабою ў супярэчлівай згодзе,

— дзе сам час здаваўся мне шчаслівай насмешкай з імгненняў, дзе неабходнасцю была сама свабода, якая шчасна гуляла жазлом свабоды,

— дзе знайшоў я і старога свайго д'ябла, і спрадвечнага ворага — Духа Цяжару з усім, што стварыў ён — Гвалтам, Законам, Неабходнасцю, Вынікам, Мэтай, Воляй, Дабром і Злом.

Ці ж не павінна існаваць нешта, *над чым* можна танцаваць, летучы танцаваць? Ці не павінны дзеля лёгкага і найлягчэйшага існаваць краты і цяжкія карлікі?

## 3

І там гэта было; дзе я падняў з дарогі слова «Звышчалавек» і што чалавек ёсць нешта, што трэба пераадолець,

— што чалавек ёсць мост, а не мэта; што ўслаўляе ён свой полудзень і вечар, як дарогу да новых золкаў:

— слова Заратустры пра Вялікі Полудзень, якое ўзнёс я калісьці над людзьмі, быццам другую вячэрнюю зару.

Сапраўды, я даў ім убачыць новыя зоркі і новыя ночы; і над хмарамі, днямі і ночамі напяў я свой смех, як стракатую палатку.

Я лічыў іх усім *маім* змыслам і намыслам: сабраць у адно і сплавіць усё, што ёсць у чалавеку ўрыўкавага, загадкавага і застрашліва выпадковага,

— як паэт, адгадчык і збаўца ад выпадковага я вучыў іх быць стваральнікамі будучыні і ратаваць, ствараючы, тое, што *было*.

Выбавіць у чалавеку яго мінулае і так пераўтварыць усялякае «Было», каб воля сказала: «Але ж я так хацела! Я так буду хацець!»

— вось што я назваў збаўленнем, вось што вучыў я называць збаўленнем...

— цяпер я чакаю *майго* збавення, каб ісці да іх апошні раз.

Бо яшчэ *адзін раз* я іду да людзей: *сярод* іх я хачу дайсці да свайго захаду і, паміраючы, даць ім свой самы багаты дарунак!

Гэтаму я навучыўся ў сонца, калі заходзіць яно, самае багатае свяціла: яно сыпле золата ў мора з невычэрпных сваіх скарбніц,

— каб і самы бедны рыбак веславаў *залатым* вяслом! Якраз яго я аднойчы бачыў, і слёзы ад бачанага не спатолілі душы маёй.

Як сонца, ідзе Заратустра да захаду: і вось, ён сядзіць, чакаючы, а вакол яго старыя разбітыя скрыжалі, а таксама і новыя, напалавіну запісаныя.

## 4

Глядзіце, вось новая скрыжаль: але дзе мае браты, каб разам са мною занесці яе ў даліну, у сэрцы людскія?

Так загадвае мая вялікая любоў да далёкага: *не шкадуй блізкага твайго!* Чалавек ёсць нешта, што трэба пераадолець.

Ёсць многа шляхоў і спосабаў, як пераадолець: твая задача — дабрацца да іх! Але толькі блазен думае: «Цераз чалавека можна *пераскочыць*».

Пераадолей сябе самога нават у блізкім тваім: і права, якое можаш узяць сілком, не дазваляй даваць табе так!

Што робіш ты, ніхто ніколі не зробіць табе. Ведайце, няма ніякага аддання.

Хто не можа загадваць, мусіць слухацца. Некаторыя ўмеюць загадваць сабе, але ім шмат чаго не стае, каб слухацца самога сябе!

## 5

Такія вось яны, высакародныя душы: яны нічога не хочуць *дарам,* тым болей — жыцця.

Хто ў чэрні — той хоча жыць за так, дарам; а мы іншыя, каму жыццё — дадзена, мы ўвесь час разважаем, *што* лепей даць нам *на замену!*

І сапраўды, высакародная тая казань, якая абвяшчае: «Тое, што *нам* абяцае жыццё, *мы* хочам захаваць жыццю!»

Не трэба хацець асалоды, калі не дадзена ёю цешыцца. І яшчэ — не трэба *хацець* цешыцца асалодай!

Асалода і нявіннасць — самыя сарамлівыя рэчы: яны не хочуць, каб іх шукалі. Іх трэба *мець* — а *шукаць* трэба, бадай што, віну і цярпенні!

## 6

О братове мае, першынца заўсёды прыносяць у ахвяру. І вось, сёння мы — першынцы.

Усе мы праліваем кроў на таемных алтарах, згараем у ахвярным полымі ў гонар старых ідалаў.

Наша лепшае яшчэ маладое: і вось — сплываюць слінаю нашы бяззубыя зяпы. Наша мяса далікатнае, наша скура — яшчэ толькі ягнячая скура: як жа нам не будзіць сквапнасці ў жрацоў, прыслужнікаў старых ідалаў!

*У нас саміх* яшчэ жыве ён, гэты жрэц, які смажыць сабе на стол самыя далікатныя лагодкі. О братове мае, як жа першынцы не маюць быць ахвярай!

Але кожны, хто роднасны нам, прагне гэтага; і я люблю тых, хто не хоча берагчы сябе. Па-

гібельных, якія ідуць дарогай захаду, я люблю ўсёй любоўю сваёй: бо яны пераходзяць на той бок.

7

Быць праўдзівым — гэта *могуць* нямногія! А хто можа — яшчэ не хоча! І найменей могуць — добрыя.

О гэтыя добрыя! *Добрыя ніколі не кажуць праўды.* Духу быць добрым — хвароба.

Яны саступаюць, гэтыя добрыя, яны ўпакорваюцца, іх сэрца паўтарае чужое, іх істота слухаецца: а хто слухаецца, *той не чуе самога сябе!*

Усё, што ў добрых завецца злом, павінна ўз'яднацца, каб нарадзілася *адзіная* ісціна: о братове мае, ці дастаткова злыя вы для *гэтай* ісціны?

Дзёрзкая адвага, доўгі недавер, жорсткае — «не» — перасычанасць, надрэзванне жыцця — як рэдка ўсё *гэта* злучаецца ў адно! Але з такога насення расце ісціна!

Заўсёды *побач* з ліхім сумленнем раслі любыя *веды!* Дык разбіце ж, спазнаўцы, старыя скрыжалі!

8

Калі на вадзе ўмацаваныя палі, калі па-над патокам перакінутыя кладкі і парэнчы, далібог — ніхто не паверыць таму, хто скажа: «Усё цячэ».

Але нават дурань яму запярэчыць. «Як? — скажа дурань, — як гэта — усё цячэ? Вунь жа і мост, і парэнчы — яны *над* патокам!

*Над* патокам — усё нерухомае і моцнае, усе каштоўнасці рэчаў, масты, тэрміны, усё «дабро» і ўсё «зло»: усё гэта — *моцнае!*»

Як жа прыходзіць зіма, утаймавальніца рэк, дык і разумнейшыя прасякаюцца недаверам; і праўда, не толькі дурні тады пытаюцца: «Ці не павінна ўсё *стаяць спакойна?*»

«У аснове сваёй усё нерухомае» — вось сапраўднае зімовае вучэнне, прыдатнае бясплоднаму часу, добрая ўцеха запечным лежням.

«У аснове сваёй усё нерухомае» — але і супроць гэтага прапаведуе адліжны вецер.

Адліжны вецер — гэта бык, але не той, які арэ, не, — гэта кручаны бык, разбуральнік, які трушчыць лёд гнеўнымі рагамі! А лёд *трушчыць масты і парэнчы!*

І вось, братове мае, ці не ўсё цячэ *цяпер у патоку?* Ці не ўсе масты і парэнчы пападалі ў ваду і прапалі? Хто яшчэ *трымаецца* там за «дабро» і «зло»?

«Гора нам! Шчасце нам! Павеяў цёплы вецер!» — дык прапаведуйце, братове мае, на ўсіх плошчах!

## 9

Есць адна старая аблуда: імя ёй — Дабро і Зло. Вакол вешчуноў і звездароў дагэтуль абарочвалася кола гэтай аблуды.

Калісьці *давяралі* вешчунам і звездарам і таму верылі: «Усё — лёс: ты павінен, бо табе— мус!»

Потым перасталі давяраць вешчунам і звездарам і *таму* верылі: «Усё — свабода: ты можаш, бо ты — хочаш!»

О братове мае, да гэтага часу толькі цьмяна здагадваўся чалавек пра зоркі і будучыню, не ведаючы іх: і *таму* пра дабро і зло дагэтуль толькі здагадваюцца, але не ведаюць іх!

## 10

«Ты не павінен рабаваць! Ты не павінен забіваць» — калісьці гэтыя словы абвяшчаліся свяшчэннымі; перад імі хілілі калені і галовы і разуваліся.

Але я пытаюся ў вас: ці былі на ўсім свеце страшнейшыя разбойнікі і забойцы, чым гэтыя святыя словы?

Хіба мала ў самім жыцці забойства і разбою? І каб сталі свяшчэннымі гэтыя словы, ці не давялося забіць самую *ісціну?*

Альбо ж гэта была пропаведзь смерці — абвяшчалася свяшчэнным тое, што супярэчыць і супрацьстаіць усяму жывому?

О братове мае, разбіце, разбіце старыя скрыжалі!

## 11

Мне шкада ўсяго мінулага, бо бачу я: яно запрададзена...

— літасці, духу, вар'яцтву кожнага новага пакалення, якое прыходзіць і ператлумачвае нанава ўсё, што было, так, каб яно зрабілася яму мостам!

Можа з'явіцца вялікі тыран, падступны вораг, які будзе чыніць гвалт над усім мінулым у згодзе са сваёй сваволяй, пакуль яно не зробіцца яму мостам, і азнакаю, і герольдам, і пеўневым крыкам.

Але вось другая небяспека і прадмет маёй згрызоты: памяць чэрні не сягае далей за дзеда, а з дзедам і час спыняецца.

Так адыходзіць у забыццё ўсё мінулае: бо можа так стацца, што натоўп ніколі не запануе, і час патоне ў плыткай вадзе.

Таму, братове мае, патрэбна *новая арыстакра-*

*тыя,* варожая натоўпу і ўсякай тыраніі, арыстакратыя, якая зноў напіша слова «высакародны» на новых скрыжалях.

Патрэбна шмат высакародных і яшчэ больш высакародных, *каб магла быць арыстакратыя!* Альбо, як я аднаго разу сказаў: «Боскасць якраз у тым, што ёсць багі, але няма ніякага Бога!»

12

О братове мае, я паказваю вам новую арыстакратыю і дасвядчаю вас у яе: вы павінны зрабіцца пачынальнікамі і выхавальнікамі, сейбітамі будучыні,

— праўда, не пра тую арыстакратыю я кажу, месца сярод якое можна купіць, як купляюць яе гандляры за золата: бо ўсё, што мае цану, не мае вялікай каштоўнасці.

Ад сёння хай будзе вашым гонарам не тое, адкуль вы паходзіце, а куды прыходзіце. Ваша воля і вашы ногі, якія імкнуцца далей за вас саміх, — ад сёння хай будуць вашым новым гонарам!

Няпраўда, што служылі вы прынцу, — што мне да тых прынцаў! — альбо служылі апорай хісткаму, каб яно стаяла мацней!

Няпраўда, што пры двары ваш род праз прыдворства стаўся прыдворным, і вы навучыліся быць каляровымі, як фламінга, і гадзінамі выстойваць у невялікіх сажалках:

— бо *ўменне* выстойваць — дабрачыннасць прыдворных; усе яны думаюць, што да шчасця пасля смерці належыць таксама *дазвол* сесці!

І няпраўда, што дух, які вы называеце святым, вёў вашых продкаў у зямлю абяцаную,

якая, як я лічу, нявартая абяцання: бо там, дзе вырасла найгоршае дрэва, крыж, няма чаго абяцаць!

— і сапраўды, куды б ні вёў «святы дух» сваіх рыцараў, ва ўсіх паходах *перад* імі беглі казлы і гусі, апантанцы крыжа і іншыя шаляніцы!

О братове мае, не назад, а наперад павінен глядзець арыстакратызм ваш! Хай будзеце вы выгнаныя з земляў вашых бацькоў і прадзедаў!

*Зямлю дзяцей* вашых вы павінны любіць: любоў гэта хай будзе новым вашым арыстакратызмам; любіце яе, яшчэ не адкрытую зямлю, што ляжыць у далёкіх акіянах! Хай шукаюць яе вашыя караблі!

У дзецях вашых павінны вы *апраўдаць* тое, што былі дзецьмі сваіх бацькоў: так вы павінны адкупіць усё мінулае! Гэтую новую скрыжаль я станаўлю над вамі!

## 13

«Навошта жыць? Усё — марнасць! Жыць — гэта малаціць салому, жыць — гэта паліць сябе і ўсё роўна не саграваецца».

Гэтая старая трызня ўсё яшчэ ўважаецца за «мудрасць»; а таму, што старая яна і тхне гнілізнай, шануюць яе яшчэ болей. Так і тленне высакародніць!

Можна даравацъ, калі так кажуць дзеці, якія *баяцца* агню, бо калісьці апякліся! Шмат дзіцячасці ў старых кнігах мудрасці.

А хто заўсёды «малоціць салому», — як ён бярэцца ганіць саму малацьбу! Такім дурням трэба затыкаць рот!

15. Зак. 530.

Такія садзяцца за стол і не прыносяць з сабою нічога, нават здаровага голаду; і вось паклёп узводзяць яны: «Усё — марнасць!»

Але смачна есці і піць, о братове мае, гэта, сапраўды, не марнае мастацтва! Разбіце, разбіце скрыжалі тых, хто ніколі не радуецца!

14

«Чыстаму — усё чыста» — так кажа народ. А я кажу вам: «Свінням — усё свінства!»

Фанатыкі і дэвоты з паніклымі сэрцамі прапаведуюць: «Увесь гэты свет — брудная пачварына».

Бо ва ўсіх у іх — нячысты дух; асабліва ў тых, якія не маюць ні спакою, ні продыху, бо ўбачылі *задні бок* свету, — вось і мкнуцца яны ў іншыя светы!

*Такім* я кажу проста ў твар, і хай гэта не мілагучна: свет тым падобны да чалавека, што ў яго ёсць зад — *аж настолькі* гэта праўда!

У свеце многа бруду: *аж настолькі* гэта праўда! Але ад гэтага свет — яшчэ не брудная пачварына!

Мудрасць у тым, што многае ў свеце дрэнна пахне: бо сама агіда дае крылы і сілу, якая ўгадвае чыстыя крыніцы!

І ў найлепшым ёсць нешта агіднае; нават найлепшае — гэта тое, што мае быць пераадолена!

О братове мае, шмат мудрасці ў тым, што ў свеце ёсць бруд!

## 15

Я чуў, як звярталіся да свайго сумлення пабожныя шукальнікі іншага свету, і праўда, без злосці і фальшу яны гаварылі, хоць на зямлі няма нічога больш злоснага і фальшывага.

«Хай свет будзе такі, які ён ёсць! І мезенцам не паківай на яго!»

«Не супраціўляйся таму, хто хоча душыць і паліць, катаваць і лупіць скуру: і мезенцам не паківай на яго! Бо так, пакутуючы, вучацца людзі адмаўляцца ад свету».

«А свой розум ты павінен задушыць сам; бо твой розум — ад гэтага свету: так навучышся ты адмаўляцца ад яго».

Разбіце, разбіце ж, о братове мае, гэтыя старыя скрыжалі пабожнасці! Разбурце выслоўі паклёпнікаў на свет!

## 16

«Хто многа вучыцца, той адвучваецца ад усякіх моцных жаданняў» — так шэпчуцца сёння на ўсіх цёмных вуліцах.

«Мудрасць стамляе, нішто не акупляецца; ты не павінен нічога жадаць!» — гэтую новую скрыжаль я знайшоў павешаную нават на кірмашах.

Разбіце мне, о братове мае, разбіце мне і гэтую *новую* скрыжаль! Стомленыя ад свету, прапаведнікі смерці і турэмшчыкі павесілі яе: ведайце, што іхняя пропаведзь — гэта пропаведзь рабства!

Бо кепска вучыліся яны, і нават не найлепшаму вучыліся, і ўсяму занадта рана, і ўсяму занадта спехам: бо дрэнна елі яны, і гэта сапсавала ім страўнік;

— сапсаваны страўнік — вось гэта і ёсць іхні дух; гэта ён і наводзіць на думку пра смерць! Сапраўды, братове мае, дух ёсць страўнік!

Жыццё — гэта крыніца радасці: але ў кім гаворыць сапсаваны страўнік, той бацька смутку, таму ўсе крыніцы затручаныя.

Спазнаваць — гэта радасць таму, у каго ільвіная воля! А хто стаміўся, той слухаецца *чужое* волі, любая хваля кідае яго.

Так бывае са слабымі: яны губляюцца на сваіх шляхах. І, нарэшце, іхняя стома пытаецца: навошта ішлі мы тымі шляхамі? Усюды адно і тое самае!»

Прыемна ім слухаць пропаведзь: «Нічога не акупляецца! Вы не павінны нічога хацець!» Але гэта — пропаведзь рабства.

О братове мае, павевам свежага ветру ідзе Заратустра да ўсіх, хто стаміўся ў дарозе сваёй; шмат насоў ён яшчэ прымусіць чмыхаць!

Навошта праз сцены праходзіць маё свабоднае дыханне, у турмы, у запалонены розум праходзіць яно!

«Хацець» — вызваляе, бо хоча азначаць — «ствараць», — *так* вучу *я. Толькі* дзеля стваральнасці вы павінны вучыцца!

Але каб вучыцца, вы павінны спярша *навучыцца* ў мяне, і навучыцца добра! Хто мае вушы, хай чуе!

## 17

Вось стаіць човен — ён гатовы плысці туды, магчыма, у вялікае Нічога. Але хто захоча ўступіць у гэтае «магчыма»?

Ніхто з вас не хоча ўступіць у Човен Смерці! Як жа так, вы ж *стаміліся ад свету?*

Стомленыя ад свету! Не, вы яшчэ не адкінулі нават зямлю! Я бачу, што вы ўсё яшчэ юрыце да зямлі і закаханыя ў сваю стомленасць ад яе!

Нездарма адвісла ў вас губа — на ёй яшчэ сядзіць маленькае зямное жаданне! А ў вачах у вас хіба не носіцца аблачынка зямной радасці, яшчэ не забытай?

Шмат добрых прыдумак ёсць на зямлі, адны — карысныя, другія — прыемныя; дзеля іх варта любіць зямлю.

А некаторыя прыдумкі такія добрыя, што яны, як жаночыя грудзі, карысныя і разам з тым прыемныя.

А вы, стомленыя ад свету! Вы, нядбальцы зямныя! Даць бы вам дубчыкам! Дубчыкам трэба вярнуць бадзёрасць вашым нагам!

Бо калі вы не хворыя і не аджылыя, ад каго стамілася зямля, дык вы хітрыя абібокі або затоеныя пажадлівыя каты, аматары прысмакаў. І калі не хочаце зноў весела *бегаць*, дык выпратвайцеся з зямлі!

Няма патрэбы лячыць невылечных: так вучыць Заратустра. Хай выпратваюцца з зямлі!

Але каб паставіць кропку, трэба болей *мужнасці*, чым на пісанне новых вершаў: гэта ведаюць усе лекары і паэты.

## 18

О братове мае, ёсць скрыжалі, створаныя стомленасцю, і ёсць скрыжалі, створаныя гультайствам — гультайскія: кажуць яны адно, а хочуць, каб іх чулі па-рознаму.

Зірніце на гэтага змардаванага! Адна толькі пядзя аддзяляе яго ад мэты, але ў стомленасці сваёй ён упарты і зваліўся ён тут, у пыл, гэты адважнік!

Ад стомленасці пазяхае ён на шлях свой, на зямлю, на мэту і на сябе: і лепей пакутуе, а ні кроку не хоча ступіць далей, упарціцца:

— пакутаваць за пядзю ад сваёй мэты! Сапраўды, яшчэ давядзецца за валасы цягнуць яго на нябёсы, — такога героя!

Але лепш пакіньце яго там, дзе ён ляжыць, каб сышоў да яго суцешнік-сон з асвяжальным пошумам дажджу.

Хай ляжыць, пакуль сам не прачнецца, пакуль сам не адмовіцца ад усялякае стомы і ад усяго, што стома вяшчала ягонымі вуснамі!

Толькі, братове мае, адганіце ад яго сабак, гэтых умлелых лізуноў, увесь гэты гамуз свалаты:

— увесь гэты гамуз «адукаванай» набрыдзі, што раз'ядаецца на поце герояў!

## 19

Я замыкаю сябе ў кола і святыя граніцы; чым вышэй горы, на якія я ўзыходжу, тым меней людзей падымаецца са мною: з самых свяшчэнных гор я будую горны хрыбет.

Куды б вы ні падымаліся разам са мною, братове мае, глядзіце, каб не падымаўся разам з вамі які-небудзь *захрыбетнік*.

Захрыбетнік: гэта чарвяк, паўзун, плазун, які шукае ранаў і патайных хворых закуткаў вашага сэрца, каб тлусцець, раз'ядаючыся на іх.

І ў тым уся штука ягоная, што ён адгадвае стомленасць у душах, якія ўзыходзяць: у вашай тузе і бяссіллі, у вашай пяшчотнай ветлівасці, сарамяжлівасці ладзіць ён сваё мярзотнае логвішча.

Дзе дужы бывае слабы, дзе высакародны —

надта лагодны, там і ладзіць ён сваё мярзотнае логвішча: захрыбетнік жыве там, дзе ў вялікага сэрца ў рубцах дробных ран.

Што ёсць найвышэйшы род сутнага і што ёсць найнікчэмнейшы? Захрыбетнік — гэта самы найнікчэмнейшы, але той, хто вялікі, корміць болей за ўсё захрыбетнікаў.

Бо калі доўгая тая лесвіца, па якой душа можа ўзыходзіць угору і спускацца ў найглыбейшыя бездані, як не абсесці яе мноству захрыбетнікаў?

— бо калі душа шырокая і можа бегаць, блукаць і лунаць у сабе самой; калі гэта душа таго, хто патрэбен, душа, якая палка кідаецца ва ўсё Выпадковае;

— душа сутная, якая апускаецца ў станаўленне; душа, якая валодае, якая *прагне* волі і палкіх парыванняў;

— душа, якая ўцякае ад сябе самой і зноў сябе даганяе, апісваючы шырокія кругі; душа мудрая, якую так соладка ўмаўляе неразумнасць;

— душа, якая сама сябе любіць, у якой усе рэчы набываюць імкненне і супрацьборства, прыліў і адліў свой: — о, як ёй не мець, *найвышэйшай душы*, найгоршага захрыбетніка?

20

О братове мае, няўжо я жорсткі? Але я кажу так: што падае, — папхні!

Усё цяперашняе — яно падае і распадаецца: хто яго ўтрымае! А я хачу яшчэ і папхнуць!

Ці зведалі вы асалоду — скочваць камяні ў прорву са спадзістых скалаў? Глядзіце, як коцяцца людзі з цяперашчыны ў мае глыбіні!

Я — уверцюра да ігры найлепшага музыкі,

братове мае! Я — прыклад! *Рабіце* ж на мой прыклад!

І тых, каго не вучыце лётаць, вучыце *хутчэй падаць!*

21

Я люблю адважных: але мала быць рубакам, трэба яшчэ ведаць, *каго* рубаць!

І часта адвагі бывае болей у тым, каб утрымацца і прайсці міма: і захаваць сябе на больш вартага ворага!

Хай будуць ворагамі вам толькі тыя, хто варты нянавісці, а не пагарды: вы павінны ганарыцца сваімі ворагамі: так я калісьці вучыў вас.

На больш вартага ворага вы павінны захаваць сябе, братове мае: таму многіх вы павінны абмінуць на дарозе сваёй,

— асабліва ж безлічны зброд, што гарлае вам у вушы пра народ і народы.

Захавайце ж чыстым сваё вока ад іхніх «за» і «супраць»! Многа там правільнага, а многа і няправільнага: і напоўніцца гневам той, хто аддасць ім увагу сваю.

Углядацца ў іх, рубаць іх — гэта адно і тое самае; лепей ідзіце ў лясы і ўкладзіце мячы вашыя ў похвы!

Ідзіце *сваімі* дарогамі! А народу і народам дайце — хай ідуць сваімі! Сапраўды, цёмныя дарогі іхнія, не азораныя *аніводнай* надзеяй!

Хай гандляр пануе там, дзе ўсё, што блішчыць яшчэ, — гэта толькі яго золата! Час каралёў мінуўся: што сёння завецца народам, не заслугоўвае каралёў.

Бачыце ж, як народ пачаў пераймаць гандляроў: здабывае любую выгоду з усякага смецця!

Яны падглядваюць адно аднаго, яны перай-маюць адно аднаго — і гэта ў іх называецца «добрым суседствам». О шчасныя, далёкія часіны, калі народ казаў сабе: «Я хачу быць над на-родамі!»

Бо, братове мае: лепшае павінна панаваць, лепшае *хоча* панаваць! А дзе вучэнне кажа інакш, там *не хапае* лепшых.

22

Пра што б яны крычалі, калі б хлеб свой елі дарам? Падтрыманне жыцця ў целе — вось адзінае, што падтрымлівае іх існаванне і дае змест яму; і хай нялёгка ім гэта даецца.

Яны — драпежныя звяры: у іх «працы» жыве драпежная прага спажывы, і калі яны кажуць: «зарабіць», мне чуецца «абхітрыць»! І хай нялёгка даецца ім гэта!

Больш драпежнымі павінны стаць яны, хітрэй-шымі, разумнейшымі і *быць больш падобнымі да чалавека,* бо ён — самы драпежны звер.

Ва ўсіх звяроў чалавек адабраў іх цноты: таму ўсё і даецца яму цяжэй, чым звярам.

Пакуль што толькі птушкі вышэй за яго. Калі ж ён навучыцца лётаць — бяда! *Куды толькі* не заляціць драпежнасць ягоная!

23

Такімі я хачу бачыць мужчыну і жанчыну: яго — здатным да вайны, яе — раджаць дзяцей, але каб яны маглі танцаваць — і нагамі, і ґалавой.

Хай будзе прапашчы той дзень, калі мы хоць *раз* не танцуем! Хай назавецца ў нас хлуснёю любая ісціна, якая без радаснага смеху!

16. Зак. 530.

## 24

Вы бераце шлюб: глядзіце ж, каб не зрабіўся ён вам *турмою!* Вы надта спяшаецеся, і вось *вынік* гэтага — разрыў шлюбу!

Але гэта ўсё-такі лепш, чым схіляцца і хлусіць! Адна жанчына сказала мне: «Я парушыла шлюб, але да гэтага шлюб парушыў — мяне!»

Блага спараваныя, заўважаў я, самыя помслівыя: яны гатовыя помсціць усяму беламу свету за тое, што ўжо не могуць разлучыцца.

Вось таму я і хачу, каб шчырыя гаварылі адно аднаму: «Мы любімся; пабачым, ці любоў на паводзімся! Інакш зарука нашая — памылка.

Дайце нам часу і нядоўгага шлюбу, каб мы пабачылі, ці вартыя мы на вялікі шлюб! Вялікая рэч — быць заўсёды ўдваіх!»

Так я раю ўсім шчырым; і чым была б мая любоў да Звышчалавека і да ўсяго, што набліжаецца, калі б я гаварыў і раіў інакш!

Расці не толькі ўшыркі, але і ўгору — у гэтым, о братове мае, хай паможа вам сад шлюбу!

## 25

Глядзіце, хто зачарпнуў мудрасці са старых крыніц, будзе шукаць новых крыніц і вытокаў будучыні.

О братове мае, скора ўзнікнуць *новыя народы,* і зашумяць у новых глыбінях новыя крыніцы.

Бо землятрус, які засыпае шмат крыніц, і тады многія смягнуць, — ён жа вызваляе схаваныя, патаемныя сілы.

Землятрус адчыняе новыя крыніцы. Пры трасенні народаў пачынаюць струменіць новыя крыніцы.

І хто крыкне тады: «Вось крыніца многім

сасмяглым, *адно* сэрца многім пeратомленым, *адна* воля многім прыладам», — вакол таго збіраецца *народ*, інакш кажучы — шмат выпрабоўцаў.

Хто можа загадваць і хто павінен слухацца — вось што *выпрабоўваецца* тады! О, якімі доўгімі пашукамі, варажбою, парадамі, промахамі, доследамі і новымі спробамі выпрабоўваецца гэта!

Вось вучэнне маё: чалавечае грамадства — гэта спроба, гэта доўгае шуканне; яно шукае таго, хто загадвае!

— гэта спроба, братове мае! А ніякі не «дагавор»! Разбіце, разбіце мне гэтае слова, слова размяклых і распалавіненых сэрцаў!

## 26

О братове мае! Хто найбольш небяспечны будучыні чалавецтва? Ці ж бо не добрыя і праведныя!

— ці не тыя, што кажуць і чуюць у сэрцы сваім: «Мы ўжо ведаем, у чым дабро і праведнасць, мы ўжо дасягнулі гэтага; гора тым, якія ўсё яшчэ шукаюць!»

І якую шкоду ні чынілі б ліхія, шкода ад добрых — самая шкодная!

І як бы ні нашкодзілі светапаклёпнікі, шкода ад добрых — самая шкодная!

О братове мае, у сэрцы добрых і праведных зірнуў калісьці той, хто сказаў: «Гэта — фарысеі». Але яго не зразумелі.

І не маглі зразумець яго менавіта добрыя і праведныя: бо іхні дух паланёны іх чыстым сумленнем. Глупства добрых незвычайна разумнае.

Але вось праўда: добрыя *мусяць* быць фарысеямі, у іх няма выбару!

Добрыя *мусяць* укрыжоўваць таго, хто вынаходзіць сваю дабрачыннасць! Такая *яна*, праўда!

А другі, хто адкрыў іхнюю зямлю, — зямлю, сэрца і зямное царства праведнікаў, быў той, што спытаўся: «Каго больш за ўсіх ненавідзяць яны?»

*Стваральнік* ненавісны ім найбольш: той, хто разбівае скрыжалі ўсіх каштоўнасцяў і нішчыць старыя каштоўнасці; яны называюць яго злачынцам.

А добрыя — яны *не могуць* ствараць: яны заўсёды — пачатак канца:

— яны крыжуюць таго, хто піша новыя каштоўнасці на новых скрыжалях, яны прыносяць сабе ў ахвяру будучыню — яны крыжуюць усю чалавечую будучыню!

Гэтыя добрыя — яны заўсёды былі пачаткам канца.

## 27

О братове мае, ці зразумелі вы і гэтае слова? Ї тое, што казаў я калісьці пра «апошняга чалавека»?..

У кім найбольшая небяспека будучаму чалавецтву? Ці ж бо не ў добрых і праведных?

*Разбіце, разбіце мне добрых і праведных!* О братове мае, ці зразумелі вы і гэтае слова?

## 28

Вы ўцякаеце ад мяне? Вы напалохаліся? Вы дрыжыце ад маёй казані?

О братове мае, калі я сказаў вам разбіць скрыжалі добрых і праведных, тады ўпершыню я пусціў чалавека плысці ў адкрытае мора.

І толькі цяпер ім авалодвае вялікі страх і

абачлівасць, вялікая нядужасць і агіда, вялікая марская хвароба.

Уяўныя берагі і прывідную бяспеку завялі ў вас добрыя; у падмане гэтых добрых былі вы народжаныя і спавітыя падманам. Усё, да самых асноў перакручана і перахлушана добрымі.

А той, хто адкрыў зямлю, што называецца «чалавек», той адкрыў і другую — «чалавечую будучыню». Ад сёння вы павінны зрабіцца маракамі, адважнымі і настойлівымі!

Прыспела ўжо вам хадзіць у рост, братове мае, вучыцеся гэтаму! Многія маюць патрэбу ў вас, каб, гледзячы на вас, выпрастацца і ўзбадзёрыцца.

Мора бушуе: усё — у моры. Ну што ж! Наперад, верныя марскія сэрцы!

Што нам тая бацькаўшчына! Туды імкне карабель, дзе *зямля нашых дзяцей!* Туды, удалеч, імклівей за буру марскую памыкаецца вялікая наша жаданне!

29

«Чаму ты такі цвёрды? — спытаўся аднаго разу кухонны вугаль у алмаза. — Ці ж мы не блізкія сваякі?»

«Чаму вы такія мяккія?» — так пытаюся *я*, о братове мае: ці ж вы не браты мне?

Чаму вы такія мяккія, слабыя і дагодлівыя? Чаму так многа адмаўлення і ўмаўлення ў вашым сэрцы? І чаму так мала лёсу ў вашым позірку?

І калі вы не хочаце быць лёсам і няўмольнасцю, хіба зможаце вы са мною — перамагаць?

І калі цвёрдасць ваша не хоча ззяць, рэзаць і расцінаць, хіба зможаце вы са мною ствараць?

Бо стваральнікі — цвёрдыя. І вам павінна быць шчасце адбіць руку сваю на тысячагоддзях, як на воску...

— шчасце — быццам на медзі, адбіць пісьмёны на волі тысячагоддзяў, на волі, якая цвярдзейшая і высакароднейшая за медзь. Самае высакароднае — найцвярдзейшае.

О братове мае, гэтую новую скрыжаль я мацую над вамі: *цвярдзейце!*

30

О ты, мая воля! Ты, паваротніца ўсіх нягодаў, ты, *мая* неабходнасць! Аслані мяне ад малых перамог! Ты, воля душы маёй, якую я называю лёсам! Ты, Ува-Мне! Нада-Мною! Аслані і ахавай мяне дзеля *аднаго* вялікага лёсу!

І апошнюю сваю веліч, о воля мая, захавай на апошняе змаганне, каб быць табе няўмольнай *у* перамозе сваёй! О, хто не быў пераможаны ўласнай сваёй перамогай!

О, чый позірк не цямнеў у гэтым п'янючым сутонні! О, у каго з пераможцаў ногі не падгіналіся і не развучваліся стаяць!

Няхай ста́лы і дасканалы сустрэну я калінебудзь свой вялікі Полудзень: як растопленая медзь, як хмара, цяжарная маланкамі, як грудзі, поўныя малака:

— спелы самому сабе і схаванай волі сваёй, быццам лук, успалымнёны да стралы сваёй, як страла, успалымнёная да зоркі сваёй;

— да зоркі, даспелай і дасканалай у зеніце сваім, — палкай, пранізанай, шчаслівай пад забойчымі стрэламі сонца;

— быццам сонца і няўмольная воля яго, гатовая загінуць у перамозе сваёй!

О воля, адваротніца ўсіх нягодаў, *мая* неабходнасць! Захавай мяне на *адну* вялікую перамогу!..»

Так сказаў Заратустра.

# Той, хто ацаляе

## 1

Аднае раніцы, неўзабаве пасля вяртання ў пячору, Заратустра як апантаны, падхапіўся са свайго ложка, крыкнуў страшным голасам і ўстаў над ложкам з такім выглядам, быццам нехта ляжаў на ім і не хацеў уставаць; і так гучаў Заратустраў голас, што ягоныя звяры, спалохаўшыся, пазбягаліся да яго, а з усіх нораў і шчылін, што былі непадалёк ад Заратустравай пячоры, усе жывёлы кінуліся хто куды — ляцелі, беглі, паўзлі, — гледзячы па тым, што ў іх было — ногі ці крылы. А Заратустра сказаў такія словы:

«Падымайся, прадонная думка, выходзь з маёй глыбіні! Я — світанак і твой ранішні певень, уставай, заспаны чарвяк, падымайся! Даўно пара табе прачнуцца ад майго голасу!

Развяжы повязі свайго слыху: слухай! Бо і я хачу цябе слухаць! Падымайся! Тут хапае грому, каб і магілы пачулі!

І сатры сон, і слепату, і тупасць з вачэй! І слухай мяне нават вачыма: бо мой голас ацаляе нават тых, што нарадзіліся сляпыя.

А прачнуўшыся — чувай вечна: не такі я, каб, разбудзіўшы прабабку, сказаць ёй: «Спі далей!»

Вось ты варушышся, пацягваешся, крэкчаш? Уставай! Не крактаць павінна ты, а гаварыць! Цябе кліча бязбожнік Заратустра!

Я, Заратустра, абаронца жыцця, абаронца цярпенняў, абаронца кола — я клічу цябе, мая прадонная думка!

О, здароўя мне! Ты ідзеш, я чую цябе! Бездань мая *кажа*, сваю апошнюю глыбіню выставіў я на святло!

Здароўя мне! Прыходзь! Прыходзь! Падай мне руку — ха! пусці! ха-ха! — мярзота, мярзота, мярзота — гора мне!»

2

Але як толькі Заратустра вымавіў гэтыя словы, упаў, як мёртвы, і доўга ляжаў нерухома, як мёртвы. Ачуняўшы, ён быў белы, дрыжаў, не сыходзіў з месца і доўга не браў ні есці, ні піць. А трывала гэта сем дзён; але звяры не пакідалі яго ні ўночы, ні ўдзень, і толькі арол лётаў па ежу. Усё, што ён знаходзіў альбо здабываў сілаю, складваў Заратустру на ложак; так што той ляжаў сярод жоўтых і чырвоных ягад, вінаграду, сакавітых яблыкаў, кедравых арэхаў і духмяных траў. А ў ногі былі пакладзены два ягняці — цяжка далося адбіць іх у пастухоў.

Нарэшце, праз сем дзён падняўся Заратустра на ложку, узяў у рукі чырвоны яблык, панюхаў — і прыемны яму быў пах яблыка. І тады вырашылі ягоныя звяры, што пара загаварыць з ім.

«О Заратустра, — сказалі яны, — вось ужо сем дзён, як ты ляжыш з ацяжэлымі вачыма: ці не хочаш ты нарэшце ўстаць на ногі?

Выйдзі са сваёй пячоры: свет чакае цябе, як сад. Вецер калыша густыя пахошчы, якія ляцяць да цябе, і ўсе ручаі гатовыя бегчы за табою. Усе рэчы ўтохліся па табе, ты ж бо сем дзён ляжаў адзін: дык выйдзі з пячоры! Усе рэчы хочуць быць табе лекарамі!

Альбо, можа, новая веда прыйшла да цябе, горкая і цяжкая? Як рашчыненае цеста ляжаў ты, і вось — паднялася душа твая і выйшла за свае межы».

О звяры мае, адказаў Заратустра, балбачыце

сабе і дайце мне наслухацца вас! Разбіраюць мяне вашы казані; там, дзе так балбочуць, там свет расхінаецца мне садам.

Як прыемна, што ёсць словы і гукі: словы і гукі — хіба яны не прывідныя масты і вясёлкі паміж усім, што раз'яднана навекі?

У кожнай душы — свой адмысловы свет, і свет іншай душы для яе — свет іншы.

Якраз у рэчах, найбольш паміж сабою падобных, найпрыгажэй хлусіць блізір падабенства; бо самую малую прорву найцяжэй пераскочыць.

Ці ж можа быць мне што-небудзь — па-за мною? Нічога няма па-за намі! Але чуючы гукі, мы забываемся пра гэта; як цудоўна, што мы забываемся!

Ці не на тое падораны рэчам імёны і гукі, каб чалавек прападаў па любасных рэчах? Гаварыць — гэта цудоўная дурасць: гаворачы, чалавек танцуе над усімі рэчамі.

Якая прыемная ўсякая казань і падман гукамі! Гукамі танцуе наша любоў па каляровых вясёлках».

«О Заратустра, — сказалі на гэта звяры, — таму, хто думае гэтаксама, як і мы, усе рэчы танцуюць самі па сабе; усё прыходзіць, падае адно аднаму рукі, смяецца, уцякае і зноў вяртаецца.

Усё сыходзіць, усё вяртаецца; вечна коціцца Кола Жыцця. Усё памірае, усё зноў зацвітае; вечна бяжыць Год Жыцця.

Усё разбураецца, усё будуецца зноў; вечна будуецца ўсё той самы Дом Жыцця. Усё разлучаецца і сустракаецца зноў; вечна вернае сабе застаецца Кола Жыцця.

Кожнае імгненне пачынаецца жыццё; вакол кожнага «тут» абарачаецца колападобнае «там». Сярэдзіна — усюды. Дарога вечнасці — крывая».

«Ах вы, шэльмы! Ах вы, катрыншчыкі! — адказаў Заратустра і зноў заўсміхаўся, — вы добра ведаеце, што павінна спраўдзіцца ў сем дзён; — і як пачвара тая запаўзла мне ў горла і душыла мяне! Але я адкусіў ёй галаву і выплюнуў.

А вы, — вы ўжо зрабілі з гэтага песеньку на катрынку? І вось, я ляжу тут, яшчэ не ачомаўся ад схваткі з той пачварай і яшчэ не ачуняў ад збавення свайго.

*І вы гледзіце на ўсё гэта?* О звяры мае, няўжо і вы жорсткія? Няўжо і вам, як людзям, падабалася глядзець на жудасныя пакуты мае? Бо чалавек — самы жорсткі звер.

Трагедыі, крыжаванні, бой быкоў — усё гэта было ў яго дагэтуль найбольшай радасцю на зямлі; і калі ён прыдумаў пекла, дык пекла зрабілася яму на зямлі небам.

Калі вялікі чалавек крычыць — тут і лётам ляціць да яго маленькі, пажадліва высалапіўшы язык, і называе гэта — «спагадаю».

З якім запалам маленькія людзі — асабліва паэты — вінавацяць жыццё на словах! Паслухайце іх, але не прапусціце задаволенасці, якая гучыць у кожнай іхняй скарзе!

Жыццё імгненна перамагае сваіх вінаваўцаў. «Ты любіш мяне? — пытаецца яно бессаромна. Пачакай крыху, пакуль што мне няма калі разбірацца з табою».

З сабою чалавек — самы жорсткі звер; але ў кожнага, хто называе сябе «грэшнікам», «тым хто нясе крыж свой» альбо «пакаянцам», не прапусціце пахацінства, якое гучыць у кожнай ягонай скарзе і асудзе!

Але кажучы ўсё гэта, ці не раблюся і я сам абвінаваўцам чалавека? О звяры мае, вось адзінае,

чаго я навучыўся да гэтага часу: усё ліхое ў чалавеку патрэбна яму дзеля яго ж дабра і ўсяго найлепшага,

— усё благое і ліхое ёсць найлепшая *сіла* і цвёрды камень у руцэ ў найвялікшага творцы; чалавеку трэба рабіцца ўсё лепшым і злейшым.

Але не на тым веданні я быў распяты, што чалавек злы, наадварот, я крычу, як дагэтуль ніхто не крычаў:

«О, якая нікчэмнасць усё ліхоцце ягонае! О, якое дробнае ўсё яго найлепшае!»

Запаўзлі мне ў горла і душылі мяне велізарная перанасычанасць чалавекам і прадказанні прарока: «Усё роўна нішто не мае ўзнагароды сваёй, веданне душыць».

Доўгае сутонне слалася перад мною; да смерці стомленая і на смерць п'яная скруха мармытала, пазяхаючы:

«Вечна вяртаецца ён, той маленькі чалавек, ад якога ты так стаміўся» — так, пазяхаючы, казала скруха мая, пацягвалася і не магла заснуць.

Нарокі мае сядзелі на ўсіх магілах чалавечых і не маглі падняцца; зітханні мае і пытанні ўдзень і ўначы турзалі мяне скаргамі, і душылі, і злавесна кракалі:

«О, чалавек заўсёды вяртаецца! Маленькі чалавек вечна вяртаецца!»

Калісьці я бачыў абодвух голых — самага вялікага чалавека і самага малога: надта падобныя яны адзін да аднаго — нават у самым вялікім яшчэ залішне чалавечага!

Нават самы вялікі — які ж ён яшчэ малы! — гэта было маё перанасычэнне чалавекам! А вечнае

вяртанне маленькага чалавека адварочвала мяне ад жыцця агідаю!

О агіда! Агіда! Агіда!» — так казаў Заратустра, уздыхаючы і здрыгаючыся; бо згадаў ён сваю хваробу. Але звяры не далі яму дагаварыць казань.

«Не гавары болей, о ты, што выздароўліваеш! — адказвалі яны яму. — Лепей выйдзі вонкі, туды, дзе свет, быццам сад, чакае цябе.

Ідзі да ружаў, і да пчол, і да чародаў галубоў! Але спачатку ідзі да пеўчых птушак — і навучыся ў іх *спяваць!*

Бо спевы — таму, хто папраўляецца; а здароваму — казані. Ну, а як што і здароваму закарціць спяваць, дык песні ягоныя будуць не такія».

«Ах вы шэльмы і катрыншчыкі, замоўкніце! — адказваў Заратустра, смеючыся са сваіх звяроў. — Вы добра ведаеце, якую ўцеху здабыў я сабе за гэтыя сем дзён!

Мне трэба зноў спяваць — вось тая ўцеха і цаленне, якія ўведаў я: ці не хочаце вы і з гэтага зрабіць вулічную песеньку?»

«Не кажы болей, — зноў адказвалі яму звяры,— лепей зрабі сабе ліру, о, каторы ацаляецца, новую ліру!

Згадзіся ж, о Заратустра! Новым песням патрэбна і новая ліра.

Спевамі, шумнай радасцю і новымі песнямі гой душу сваю, Заратустра: каб ты мог несці цяжар вялікага лёсу свайго, — долі, якая ніколі дагэтуль не выпадала чалавеку!

Бо добра ведаюць твае звяры, о Заратустра, хто ты і кім павінен зрабіцца: ты — *настаўнік Вечнага Вяртання,* — гэта ад сёння доля твая!

Ты павінен першы звеставаць гэта вучэнне —

і як жа твой вялікі лёс не будзе таксама найвялікшай небяспекай і хваробай!

Вось мы ведаем, як вучыш ты: што ўсе рэчы вечна вяртаюцца, а з імі і мы самі, што мы існавалі ўжо безліч колькі разоў, а [redacted] намі — усе рэчы.

Ты вучыш, што ёсць Вялікі Год станаўлення, незвычайны год-волат; нібы клепсідра, павінен ён абарачацца зноў і зноў, каб нанава напаўняцца і зноў цячы;

— і ўсе гэтыя гады роўныя самім сабе, як у самым вялікім, так і ў самым малым; і самыя мы ў кожны Вялікі Год роўныя сабе, як у самым вялікім, так і ў самым малым.

І калі б ты цяпер захацеў памерці, о Заратустра, дык мы ведаем і тое, што б ты тады пачаў гаварыць пра сябе. Але звяры твае просяць, каб ты пакуль што не паміраў!

Без страху, глыбока ўздыхаючы ад шчасця, ты казаў бы: бо цяжар велізарнае ношы быў бы з цябе зняты, о найцярплівейшы!

«Вось я паміраю і знікаю, — такія былі б твае словы, — і ў імгненне ператвараюся ў нішто. Душы такія ж смяротныя, як і целы.

Але сувязь прычын, у якія я ўплецены, зноў вернецца і зноў створыць мяне! І сам я — адна з прычын Вечнага Вяртання.

Я вяртаюся — разам з гэтым сонцам, [redacted] гэтай зямлёй; з гэтымі арлом і змяёй — не дзеля нейкага новага, альбо лепшага, альбо падобнага жыцця:

Я вечна вяртаюся да гэтага жыцця як у самым вялікім, так і ў самым малым, каб зноў вучыць пра Вечнае Вяртанне ўсіх рэчаў.

— каб зноў сказаць свае слова пра Вялікі

Полудзень зямлі і чалавека, каб зноў звеставаць людзям пра Звышчалавека.

Я сказаў слова і гіну ў імя яго: так хоча вечны лёс мой — я гіну як прадвеснік!

Настаў час, калі кожны, хто гіне і ідзе да схілу свайго, дабраслові́ць сам сябе. Так канчаецца захад Заратустры»...

Сказаўшы гэтыя словы, звяры замоўклі і чакалі адказу Заратустры: але ён не заўважыў, што спыніліся іх прамовы. Нібы ў сне, ціха ляжаў ён з заплюшчанымі вачыма, хоць і не спаў, — бо ён гутарыў са сваёю душою. І тады змяя і арол, бачачы, што ахінула яго маўчанне, ушанавалі вялікую цішыню, якая абступіла яго, і асцярожна адышлі.

## Пра вялікае тамленне

«О душа мая, я навучыў цябе гаварыць «Сёння», і «Колісь», і «Раней», і навучыў карагодзіць над усімі «Тут», «Туды», і «Там».

О душа мая, з усіх закуткаў я вывеў цябе і ачысціў ад пылу, павуціны і мораку.

О душа мая, я змыў з цябе дробны сорам і загуменную цноту і пераканаў стаяць голай пад позіркам сонца.

Бурай, імя якой — дух, бушаваў я над расхваляваным морам тваім; усе хмары я разагнаў над табою і задушыў душагуба, які называецца «Грэх».

О душа мая, я даў табе права казаць «Не», як кажа гэтая бура, і казаць «Так», як адкрытае чыстае неба: ты спакойная цяпер, быццам святло, і праходзіш праз усе буры адмаўлення.

О душа мая, я вярнуў табе свабоду над усім

створаным і нястворaным: і хто ведае, як ведаеш ты, асалоду будучыні.

О душа мая, я навучыў цябе пагардзе, але не той, што прыходзіць, нібы чарвівасць, а вялікай пагардзе, якая любіць, якая тады любіць больш за ўсё, калі больш за ўсё пагарджае.

О душа мая, я навучыў цябе пераконваць так, што пераконваеш ты і самыя асновы: падобна сонцу, якое пераконвае мора падняцца да сваіх вышыняў.

О душа мая, я зняў з цябе ўсякае паслушэнства, кленчанне і падуладнасць, я даў табе імя «Пагарда бедаў» і «Лёс».

О душа мая, я даў табе новыя імёны і цацкі і назваў цябе: «Лёс», «Кола колаў», «Пупавіна часу» і «Блакітны звон».

О душа мая, твайму царству зямному даў я адпіць усякае мудрасці, усіх новых вінаў, а таксама ўсіх незабыўна-старых вінаў мудрасці.

О душа мая, святло многіх сонцаў вылiў я на цябе, цемру кожнай ночы, і ўсякую тугу і маўчанне: і вось — вырасла ты ў мяне, быццам лаза вінаградная.

О душа мая, цяжкая плодам сваім, быццам лаза вінаградная, стаіш ты перада мною, і набрынялымі саскамі і цёмнымі, густа навіслымі залацістымі гронкамі:

— збянтэжаная і прыгнечаная шчасцем, поўная чакання ў надмеры сваім і ў сораме ад гэтага чакання.

О душа мая, нідзе няма і не было падобнай да цябе, з большай любоўю, шырокай і ўсеахопнай! Дзе будучыня і мінуўшчына сыходзіліся б бліжэй, чым у табе?

О душа мая, я ўсё аддаў табе, і дзеля цябе апусцелі рукі мае. І вось! Цяпер ты гаворыш мне

з усмешкай, поўная смутку: «Хто ж з нас павінен дзякаваць:

— ці павінен дзякаваць дарыльнік, што ўзяў у яго той, хто бярэ? Дарыць — ці гэта не патрэба есці? Браць — ці не ёсць гэта спагада?»

О душа мая, я разумею ўсмешку смутку твайго: цяпер плод твой сам цягне журботныя рукі!

Паўната твая пазірае на шумнае мора, шукае і чакае; туга ад надмеру глядзіць праз неба вачэй тваіх!

І сапраўды, о душа мая! Хто, бачачы ўсмешку тваю, не сплываў бы слязьмі? Самі анёлы лілі б слёзы перад мілатою ўсмешкі тваёй!

Твая даброць і твая звышдабрыня не хочуць скардзіцца і плакаць: але самая ўсмешка твая сплывае жаданнем слёз, і дрыготкія вусны — прагаю галашэння.

«Усякі плач ці не ёсць скарга? І ўсякая скарга ці не ёсць абвінавачанне?» — так ты кажаш сабе, і лепей усміхаешся, чым слязьмі выліваеш цярпенні свае:

— патокамі слёз выліць твае цярпенні ад твайго надмеру і тамлення вінаграднай лазы па вінаградары з яго́ным нажом!

Але калі не хочаш галасіць, не хочаш выплакаць пурпуровую скруху, табе дадзена будзе *спяваць*, о душа мая! Глядзі, я ўсміхаюся сам, прадвяшчаючы табе гэта:

— табе дадзена будзе спяваць песню цярпенняў, пакуль моры не аціхнуць, прыслухоўваючыся да тамлення твайго,

— пакуль на ціхай змаркочанай роўнядзі мора не паявіцца човен, залаты цуд, вакол золата якога кружляцьме ўсё добрае, благое і нябачнае;

— і мноства звяроў, вялікіх і малых, і ўсё

цудоўнае, легканогае, будзе бегаць па блакітных сцежках,

— туды да залатога цуду, да вольнага чоўна і ягонага гаспадара — да вінаградара, які чакацьме з алмазным сваім нажом,

— да твайго вялікага збаўцы, о душа мая, — пакуль яшчэ безназоўнага; толькі песні будучыні знойдуць яму імя! І сапраўды, ужо водарыць дыханне тваё гэтымі песнямі;

— ужо палаеш і мроіш ты, ужо п'еш суцяшэнне з усіх глыбокіх, звонкіх крыніц, ужо адпачывае туга твая ў шчасці будучых песень!

О душа мая, цяпер я аддаў табе ўсё, нават сваё апошняе, і дзеля цябе апусцелі мае рукі: *я загадаў табе спяваць* — вось маё апошняе! Я загадаў табе спяваць, дык скажы мне, скажы: хто з нас павінен дзякаваць? — Зрэшты, не, лепей спявай мне, спявай, о душа мая! І дазволь мне дзякаваць табе!»

Так сказаў Заратустра.

## Другая скочная песня

### 1

«У вочы твае я зазірнуў нядаўна, о Жыццё: блішчала золата ў начы тваіх вачэй — і змоўкла маё сэрца перад палкім жаданнем:

— я ж бачыў, як залаты човен блішчаў на цёмнай вадзе, як знікаў і як зноў паяўляўся, ныраў, вынырваў і да сябе вабіў, залаты човен-гушкалка!

На мае ногі, што парываюцца ў скокі, ты кінула позірк — смяшлівы, пытальны, гарачы, п'янкі.

Сваімі маленькімі ручкамі ты толькі двойчы кранула кастаньеты — і вось ужо ногі мае ажылі, адурманеныя танцам.

Пяты адрываліся ад зямлі, пальцы ног быццам прыслухоўваліся, каб цябе зразумець: бо слых у танцора — у пальцах яго ног!

Я памкнуўся да цябе — і адступілася ты ад мяне; зашалясцелі, узляцелі, узвіліся на мяне хвалі тваіх валасоў!

Ад цябе і ад гэтых змей адхіснуўся я: і спынілася ты, крыху адвярнуўшыся, і палкае жаданне гарэла ў паглядзе тваім.

Хітрымі позіркамі вучыш мяне ты дарогам крывым; на дарогах крывых вучацца хітрасці ногі мае!

Зблізку я баюся цябе, здалёку — абагаўляю; твае ўцёкі вабяць, твой позірк зысклівы — спыняе: я пакутую, але чаго я не адцярпеў бы дзеля цябе!

Дзеля цябе, чый холад успалымняе, чыя нянавісць чаруе, чые ўцёкі прывязваюць, чые кпіны хвалююць:

— хто не адчуваў нянавісці да цябе — якая скоўвае, аблытвае, спакушае, шукае, здабывае! Хто не любіў цябе — невінаватую, нецярплівую, шалапутную грэшніцу з вачыма дзіцяці!

Куды надзіш мяне цяпер, ты — верх дасканаласці і неўтаймавальнасці? І зноў уцякаеш — салодкая і няўдзячная ветрагонка!

У танцы імкнуся я за табою, па найменшым следзе, табою пакінутым. Дзе ты? Падай мне руку! Хоць адзін пальчык падай!

Тут пячоры і зарасці: можна заблудзіцца! Стой! Пачакай! Хіба не бачыш ты, як праносяцца совы і кажаны?

Ты — сава! Ты — кажан! Хочаш дражніць

мяне? Дзе мы? Ці не ў сабак навучылася ты скуголіць і брахаць?

Як міла шчэрыш ты на мяне белыя зубкі, а злыя вочы так і бліскаюць у цяні валасоў!

Вось гэта танец дык танец! Я — паляўнічы, кім жа ты хочаш быць: маім сабакам ці сарнай?

Вось ты і поруч! Яшчэ хутчэй, ліхая скакуха! А цяпер угору! І туды! Жаль! Скачучы, я сам упаў!

О пагардлівая, глядзі, — я ляжу і прашу літасці! Больш прыемнымі сцежкамі хацеў бы ісці я з табою:

— сцежкамі кахання праз моўчу стракатых зарасцяў! Альбо там, па беразе возера, у глыбінях якога танцуюць залатыя рыбкі!

Ты стамілася? Зірні на вячэрнюю зару; а вунь — пасуцца авечкі; хіба не дзівосна — заснуць пад гукі пастуховай жалейкі?

Ты так стамілася? Я занясу цябе туды, абдымі мяне! А калі ты сасмягла, я знайду, чым цябе напаіць, толькі вусны твае адмовяцца піць!

О гэта гнуткая, увішная змейка, вядзьмарка праклятая! Увінулася! Дзе ты? А на твары маім засталіся дзве чырвоныя плямы ад тваіх рук!

Далібог, я стаміўся быць пастухом тваім вечным! Я дагэтуль спяваў табе, чарадзейка, а цяпер — ты закрычыш у мяне!

У такт плётцы маёй будзеш скакаць і крычаць! Бо не забыўся ж я плёткі? Не, не забыўся!»

2

Так, адказвала мне Жыццё, заціскаючы рукамі свае далікатныя вушы:

«О Заратустра! Не ляскай так страшна плёткай

сваёю! Ты ж ведаеш: шум забівае думкі, а да мяне якраз прыйшлі такія пяшчотныя думкі!

Мы з табою — па-за дабром і па-за ліхам і не творым ні таго ні другога. Па той бок дабра і зла знайшлі мы выспу сваю і зялёны луг — мы двое, толькі я і ты! Таму мы павінны жыць у спакоі і згодзе!

А калі мы не любім адно аднаго ад шчырага сэрца, ці варта праз гэта гневацца?

Ты ж ведаеш, што хораша стаўлюся я да цябе, а часта нават залішне хораша: і ўсё таму, што раўную цябе да тваёй мудрасці. Ах, гэтая мудрасць, старая бязглуздая дурніца!

Але калі мудрасць твая возьме дый кіне цябе, тады і любоў мая нядоўга прабудзе з табою».

Тут Жыццё задуменна азірнулася і ціха сказала: «О Заратустра, ты не надта верны мне!

Ты даўно ўжо любіш мяне не так моцна, як кажаш: ведаю, ты збіраешся неўзабаве пакінуць мяне.

Бо ёсць стары, цяжкі-цяжкі, гулкі звон — да самай пячоры тваёй далятаюць уначы ягоныя ўдары:

— І калі чуеш ты, як апоўначы б'е гадзіннік, ты думаеш паміж першым і апошнім — дванаццатым ударам —

— думаеш пра тое, о Заратустра, што неўзабаве пакінеш мяне, — я ведаю гэта».

«Ведаю, — вагаючыся, адказаў я, — але ты ведаеш таксама...» — І я сказаў Жыццю нешта на вуха, шэптам, пра залатыя пасмы яго скудлачаных, вар'яцкіх валасоў.

«Ты *ведаеш* гэта, о Заратустра? Гэтага не ведае ніхто».

І глядзелі мы адно на аднога, і пазіралі на

зялёны луг, на які клаўся вечаровы халадок, і галасілі. І гэтым разам Жыццё было мне мілейшае, чым калі-небудзь мудрасць мая».

Так сказаў Заратустра.

### 3

*Раз!*
О чалавеча! Зважай!
*Два!*
Глыбокае поўначы думкі чытай!
*Тры!*
«Я заснуў, я заснуў —
*Чатыры!*
Прачнуўся з глыбокага сну:
*Пяць!*
Глыбокі мой свет.
*Шэсць!*
Глыбейшы, чым думала ноч.
*Сем!*
Глыбокі боль свету, —
*Восем!*
Радасць — за скруху глыбейшая:
*Дзевяць!*
Хто кажа: «Мініся!
*Дзесяць!*
Але ўсякая радасць прагне вечнасці,—
*Адзінаццаць!*
Прагне глыбокай, глыбокай вечнасці!»
*Дванаццаць!*

# Сем пячатак, альбо Песня сцвярджэння і праўды

## 1

Калі я прарок і калі ўжо я поўны таго прарочага духу, які лунае над горным пераваламі паміж двума морамі,

цяжкаю хмараю блукаючы над мінулым і будучым; варожы душным нізінам і ўсяму стомленаму, што не можа ні жыць, ні памерці,

гатовы кідаць маланкі з цёмных грудзей і прамяні святла, якія збаўляюць; цяжарны маланкамі, якія ўсклікаюць «Так!»; у чыім смеху гучыць «Так!»; гатовы разліць святло прароцтваў:

— але шчасны той, хто носіць гэта ва ўлонні сваім! І праўда, доўга ён будзе цяжкаю хмараю навісаць над скалою, той, хто калісьці мае запаліць святло будучыні!

О, як не імкнуцца мне палымяна да Вечнасці і да шлюбнага пярсцёнка над усімі пярсцёнкамі — да Пярсцёнка Вяртання!

Ніколі яшчэ не сустракаў я жанчыны, ад якое хацеў бы дзяцей, акрамя той, якую кахаю, бо я кахаю цябе, о Вечнасць!

*Бо я кахаю цябе, о Вечнасць!*

## 2

Калі свайго часу мой гнеў разбураў магілы, перастаўляў пагранічныя камяні і скідаў у прорвы старыя разбітыя скрыжалі;

калі кпіны мае, быццам бура, змяталі парахно сатлелых слоў, і быў я памялом усім павукам-крыжакам і ачышчальным ветрам старым задушлівым склепам;

— калі я сядзеў, радуючыся, каля мясцінаў супакаення старых божышчаў, дабраслаўляючы і любячы свет каля помнікаў былым паклёпнікам на яго:

— бо люблю я нават цэрквы і магілы божышчаў, калі праз разбураныя купалы глядзіць сонца сваім ясным вокам; і быццам травы і чырвоныя макі, люблю я руіны храмаў:

— о, як не імкнуцца мне палымяна да Вечнасці і да шлюбнага пярсцёнка над усімі пярсцёнкамі — да Пярсцёнка Вяртання!

Ніколі яшчэ не сустракаў я жанчыны, ад якое хацеў бы дзяцей, акрамя той, якую кахаю: бо я кахаю цябе, о Вечнасць!

*Бо я кахаю цябе, о Вечнасць!*

3

Калі раней да мяне прыходзіла натхненне, якое брала пачатак ад таго жыватворнага дыхання, ад той нябеснай неабходнасці, што нават выпадковасці прымушае зорна карагодзіцца;

калі я смяяўся калісьці смехам стваральнай маланкі, за якою грозна, але непакорліва ідзе гром дзеяў;

калі колісь сядзеў з божышчамі за гульнёвым сталом зямлі і гуляў з імі ў косці, так што зямля дрыжала і пакрывалася шчылінамі, вырыгаючы ў прастору патокі агню:

— бо зямля — гэта стол божышчаў, які ўздрыгвае ад іх гульнёвых касцей і новых творчых размоваў:

— о, як не імкнуцца мне палымяна да Вечнасці і да шлюбнага пярсцёнка над усімі пярсцёнкамі — да Пярсцёнка Вяртання!

Ніколі яшчэ не сустракаў я жанчыны, ад якое

хацеў бы дзяцей, акрамя той, якую кахаю: бо я кахаю цябе, о Вечнасць!

*Бо я кахаю цябе, о Вечнасць!*

4

Калі за адзін глыток выпіваў я калісьці пеністы моцны трунак з кубка, у якім была прыгатаваная сумесь усіх рэчаў:

калі рука мая змешвала разам далёкае і блізкае дадаючы агню ў дух, да цярпенняў — радасць, да благога — добрае;

калі я сам — драбінка той выбаўляльнай солі, чыёй сілай у тым кубку нараджаецца добрая сумесь:

— бо ёсць соль, якая звязвае дабро са злом, і нават самое зло будзе добрай прыправай і шумавіннем лішку, што б'е цераз край:

— о, як не імкнуцца мне палымяна да Вечнасці і да шлюбнага пярсцёнка над усімі пярсцёнкамі — да Пярсцёнка Вяртання!

Ніколі яшчэ не сустракаў я жанчыны, ад якое хацеў бы дзяцей, акрамя той, якую кахаю: бо я кахаю цябе, о Вечнасць!

*Бо я кахаю цябе, о Вечнасць!*

5

Калі я люблю мора і ўсё, што роднаснае мору, асабліва калі яно гнеўна супярэчыць мне;

калі ёсць ува мне тая радасць пошуку, што імкне ветразі насустрач нязведанаму, калі ёсць у радасці маёй радасць марака;

калі калісь радасць мая ўсклікала: «Бераг знік з вачэй — сёння апалі з мяне апошнія путы,

— бясконцасць бушуе навокал, дзесьці там, далёка, вабна зззяе прастора і час, наперад! Мацуйся, старое сэрца!»:

—о, як не імкнуцца мне палымяна да Вечнасці і да шлюбнага пярсцёнка над усімі пярсцёнкамі — да Пярсцёнка Вяртання!

Ніколі яшчэ не сустракаў я жанчыны, ад якое хацеў бы дзяцей, акрамя той, якую кахаю: бо я кахаю цябе, о Вечнасць!

*Бо я кахаю цябе, о Вечнасць!*

6

Калі дабрачыннасць мая — дабрачыннасць танцора, і я часта абедзвюма нагамі ныраў у залаціста-аксамітны экстаз;

калі злосць мая — злосць смяшлівая, што жыве сярод ружаў і лілеяў;

— а ў смеху ўсё благое адно каля аднога, але асвячонае і апраўданае боскасцю сваёю;

— і калі ў тым альфа і амега мая, каб усё цяжкае зрабілася лёгкім, усякае цела і танцавала, а дух зрабіўся птушкай: і праўда, гэта і ёсць альфа і амега мая!

— о, як не імкнуцца мне палымяна да Вечнасці і да шлюбнага пярсцёнка над усімі пярсцёнкамі — да Пярсцёнка Вяртання!

Ніколі яшчэ не сустракаў я жанчыны, ад якое хацеў бы дзяцей, акрамя той, якую кахаю: бо я кахаю цябе, о Вечнасць!

*Бо я кахаю цябе, о Вечнасць!*

17. Зак. 530.

## 7

Калі калісь я распасціраў над сабою ціхае неба і на сваіх крылах імкнуўся ў свае нябёсы;

— калі, гуляючы, я плаваў у глыбінях святла, і птушка-мудрасць прылятала да свабоды маёй;

— і казала мне так: «Зірні, няма ні верху, ні нізу! Усюды ўзлятай, ці то ўгору, а ці то ўніз — ты ж лёгкі! Спявай! Перастань гаварыць!

— ці ж усе словы створаны не для цяжкіх? Ці ж усе словы не хлусяць лёгкім! Спявай! Перастань гаварыць!»

— о, як не імкнуцца мне палымяна да Вечнасці і да шлюбнага пярсцёнка над усімі пярсцёнкамі — да Пярсцёнка Вяртання!

Ніколі яшчэ не сустракаў я жанчыны, ад якое хацеў бы дзяцей, акрамя той, якую кахаю: бо я кахаю цябе, о Вечнасць!

*Бо я кахаю цябе, о Вечнасць!*

# ЧАСТКА ЧАЦВЕРТАЯ І АПОШНЯЯ



*— «О, дзе ў свеце хто нарабіў большага глупства, як мілажальнікі? І што ў свеце спрычыніла болей пакут, чым дурасць, мілажальных? Гора тым, якія любяць, але яшчэ не дасягнулі вышыні, якая вышэй за іх мілажаль! Сказаў мне аднаго разу д'ябал: «І ў Бога ёсць сваё пекла: гэта Ягоная любоў да людзей». А нядаўна я чуў ад яго: «Бог памёр, ад мілажальнасці сваёй да людзей памёр ён».*

Заратустра.
Пра мілажальных



## Мядовая ахвяра

І зноў беглі месяцы і гады над душой Заратустры, а ён не заўважаў гэтага; але валасы ў яго пасівелі. Аднаго разу сядзеў ён на камені каля пячоры і моўчкі глядзеў удалечыню на ўздыбленыя марскія нетры; звяры яго задуменна, пахаджалі вакол і, нарэшце, спыніліся перад ім.

«О Заратустра, — сказалі яны, — ці не цікуеш ты за сваім шчасцем?»

«Што мне тое шчасце! — адказаў Заратустра. Даўно ўжо я не імкнуся да шчасця — я імкнуся да свае справы». — «О Заратустра, — сказалі звяры, — ты кажаш так, быццам паверх усякае меры перапоўнены дабром. Быццам ты плывеш у блакітным возеры шчасця!» — «Ах вы, хітруны, — адказаў Заратустра, усміхаючыся, — які ўдалы вобраз вы выбралі! Аднак вы ведаеце, што шчасце мае цяжкае і не падобнае на рухлівую хвалю: яно гняце і не адстае ад мяне, быццам растопленая смала».

Тады звяры зноў задумаліся і пачалі хадзіць вакол, пасля зноў спыніліся перад ім. «О Заратустра, — казалі яны, — дык *вось чаму* ты робішся ўсё жаўцейшы і чарнейшы, хоць валасы твае бялеюць і робяцца падобнымі на лён? Глянь, ты і

праўда нібыта ўвесь у смале!» — «Ды што вы такое кажаце, звярове мае, — смеючыся адказаў Заратустра! — праўда, абылгаў я сваё шчасце, параўнаўшы яго з смалой. З усімі пладамі, якія спеюць, адбываецца тое самае, што і са мною. Гэта — *мёд* у жылах маіх; ён згушчае маю кроў, а душу робіць спакайнейшаю». — «Мабыць, так яно і ёсць, — адказалі звяры, набліжаючыся да яго, — а ці не хочаш ты сёння падняцца на высокую гару? Паветра празрыстае, і з гары свет лепей бачыцца, чым калі-небудзь іншым часам». — «Так яно, звярове мае, — адказваў ён, — цудоўная ваша парада па сэрцы мне: я падымуся на высокую гару! Але паклапаціцеся, каб у мяне быў мёд— жоўты, чысты, празрысты, халодны, як лёд, залацісты сотавы мёд. Бо ведайце, — там, угары, я хачу прынесці мядовую ахвяру».

Але калі Заратустра дабраўся да вяршыні гары, ён адаслаў звяроў, якія ішлі з їм, дамоў, і ўжо як убачыў, што застаўся адзін, шчыра засмяяўся і, азірнуўшыся, сказаў:

«Я гаварыў пра ахвяры і пра мядовую ахвяру: гэта была толькі зачэпка і, шчыра кажучы, карыснае дзівацтва! Тут, угары, я магу гаварыць вальней, чым перад пячорамі пустэльнікаў і свойскімі жывёламі.

Ахвяраваць? Хутчэй я распускаю тое, што мне дораць, — марнатраўца з тысячай рук: як мне назваць гэта ахвярай!

І калі я хацеў мёду, я хацеў толькі прынады салодкага, густога мядовага соку, якім ласуюцца бурклівыя мядзведзі і дзівосныя драпежныя птушкі:

— найлепшай прынады, якая так патрэбна паляўнічым і рыбакам. Бо калі гэты свет падобны на лес, населены дзікімі звярамі, і на па-

ляўнічыя абшары, дык, па-мойму, ён яшчэ больш падобны на бяздоннае і поўнае мора,

— на мора, поўнае стракатых рыб і крабаў, мора, якое парадавала б нават багоў, калі б яны захацелі самі парабіцца рыбакамі і закідваць мярэжы: такі багаты гэты свет на вялікія і малыя дзівосы!

Асабліва свет людскі, людское мора: я закідваю *ў яго* залатую вуду і кажу: расхініся, бездань людская!

Расхініся і выкінь мне рыб і бліскучых крабаў! Найлепшай прынадай наджу я сёння дзівосных чалавечых рыб!

— само сваё шчасце я закідваю ўдалячынь, ва ўсе староны, паміж усходам, зенітам і заходам, каб убачыць, ці многа рыб сярод людзей пачне трапятацца і тузацца на прынадзе майго шчасця,

— пакуль, падчапіўшыся на вострыя, схаваныя кручкі, не давядзецца ім — гэтым каляровым плотачкам бездані — дасягнуць *маёй* вышыні, вышыні самага зацятага лаўца чалавекаў і рыб.

Бо такі я ад пачатку, заваблівы і панадны, цягну ўгору і ўзвышаю, выхоўваю і прыглядваю, бо нездарма ж я калісьці казаў сам сабе: «Будзь тым, хто ты ёсць!»

Няхай жа цяпер яны падымаюцца *ўгору*, да мяне: бо я чакаю азнакі, якая абвяшчае, што пачалася гадзіна сыходу майго; а сам я пакуль яшчэ не апускаюся ў людское мора, у якое сваім часам мецьму апусціцца.

Таму і чакаю я ў гэтых гарах, хітры і пакеплівы, без цярплівасці і нецярплівасці, а, бадай, як той, хто ўжо развучыўся трываць, бо «трываць» яму ўжо больш не даводзіцца.

Бо не спяшаецца доля мая: няйначай, забы-

лася на мяне! Альбо прысела ў халадок за якім-небудзь каменем і ловіць мух?

І сапраўды, за тое я ўдзячны сваёй вечнай долі, што яна не падганяе і не прыспешвае мяне, і не шкадуе яна часу на жарты і злосць: вось і сёння падняўся я на гэту высокую гару, каб лавіць рыб.

Ці лавіў хто калі-небудзь рыбу ў высокіх гарах? Але хай бязглуздае тое, што я раблю тут, угары: гэта ўсё-такі лепш, чым сядзець там, унізе, — урачыстым, пажаўцелым і пазелянелым ад чакання,

— надзьмутым ад чакання і гнеўным, як завыванне свяшчэннай буры, якая нецярпліва ляціць з гор у даліны з лямантам: «Слухайце, а то я ўдару вас божым бічом!»

Няма ў мяне непрыязні да гэтых гняўлівых, бо прыдатныя яны пад кпіны мае! Яны і павінны быць настолькі нецярплівыя, гэтыя велізарныя, грымучыя барабаны: а раптам, калі ім сёння не дадуць слова, не атрымаюць яны яго ніколі?

Але я і доля мая, мы не звяртаемся ні да «Сёння», ні да «Ніколі»: у нас ёсць цярплівасць і час, нават лішак і таго і другога, каб гаварыць. Бо калісьці ж павінен прыйсці ён, і нас ён тады не міне.

Хто ж гэта павінен прыйсці і нас не мінуць? — Наш Вялікі Выпадак, наша вялікае, будучае царства зямное, тысячагадовае царства Заратустры.

Ці далёка яшчэ да яго, да гэтага царства? Што мне да таго! Аднак не слабне ад гэтага мая вернасць — на гэтым стаю, стаю моцна, на абедзвюх нагах,

— на гэтай вечнай аснове, на цвёрдых, створаных ад пачатку камянях, на найвышэйшых

цвярдынях спрадвечных гор, дзе сыходзяцца вятры, як каля мяжы бураў, пытаючыся — дзе? куды? адкуль?

Смейся, смейся, добрая лютасць мая! Скідай уніз у даліны свой смех, які ззяе пагардай! Самых цудоўных рыбін сярод людзей прынадзь ззяннем сваім!

І ўсё, што належыць *мне* ва ўсіх морах, тое, што ва ўсім — маё-і-мне: *гэта* вылаві мне, *гэта* дастань ■ глыбіняў наверх. Вось чаго чакаю я, самы ліхі з усіх лаўцоў.

Далей, далей, мая вуда! Глыбей апускайся, прынада шчасця майго! Вылі па кроплі сваю найсаладзейшую расу, мёд майго сэрца! Угрызіся, кручок мой, у жывот усякаму чорнаму смутку!

Далей, далей, позірк мой! О, як многа навокал мораў, колькі мігае агнёў чалавечай будучыні! О, якая чырвоная ціша над мною! Якая бясхмарная моўча!»

## Крык пра дапамогу

На другі дзень Заратустра зноў сядзеў на камені каля пячоры, тым часам як звяры турляліся па свеце, шукаючы есці, а таксама новага мёду: бо Заратустра звёў і змарнаваў увесь стары мёд да апошняй кроплі. І вось, як гэта сядзеў ён з кіем у руцэ і абводзіў ім свой цень на зямлі, і разважаў, — але не пра сябе і не пра свой цень разважаў, — уздрыгнуў ён раптам ад перапалоху, бо побач са сваім ценем убачыў нечы іншы. І калі ён хутка абярнуўся і ўстаў на ногі, убачыў перад сабою таго самага празарліўца, у якога аднаго разу еў і піў за сталом, таго самага першавесніка вялікай стомы, які павучаў: «Усё

18. Зак. 530.

адно нішто не дае ўзнагароды, свет не мае сэнсу, веды — душаць». Але з таго часу змяніўся ягоны твар, і калі Заратустра зірнуў яму ў вочы, зноў здрыганулася сэрца ягонае: так многа злавесных азнакаў і попельна-шэрых маланак прабегла па гэтым твары.

І празарлівец, здагадаўшыся, што робіцца ў душы ў Заратустры, правёў рукою па сваім твары, быццам хочучы начыста сцерці з яго гэтыя злавесныя знакі; так зрабіў і Заратустра. І тады, ачуўшыся, яны працягнулі адзін аднаму рукі, на знак таго, што гатовыя апытацца.

«Прашу ласкава, прароча вялікай стомы, — сказаў Заратустра, — нездарма ты быў калісьці маім госцем і застольнікам. Будзь ім і сёння, еж і пі за сталом у мяне, і не наракай, калі побач з табой будзе сядзець вясёлы стары!» — «Вясёлы стары? — перапытаў празарлівец, пахітаўшы галавой. — Хто б ты ні быў і кім бы ні хацеў зрабіцца, о Заратустра, надта доўга жыў ты тут, угары, — скора ўжо не будзе сушаю тое месца, дзе стаіць твой човен!» — «А хіба я на сушы?» — адказаў Заратустра, смеючыся. «Хвалі вялікай нягоды і скрухі падымаюцца ўсё вышэй і вышэй вакол тваёй гары, — сказаў вяшчун, — неўзабаве падхопяць яны твой човен і панясуць цябе разам з ім». Заратустра маўчаў і даваўся дзіву. «Хіба ты не чуеш? — казаў далей вяшчун, не чуеш глухога шуму, які падымаецца з глыбіні?» Заратустра ўсё яшчэ маўчаў і прыслухоўваўся: і вось — пачуў ён доўгі цягучы крык, які бездані кідалі адна адной, перадаючы ўсё далей і далей, бо ніводная не хацела пакінуць яго ў сабе: так злавесна гучаў ён.

«Ты, фатальны першавеснік, — сказаў нарэшце Заратустра, — гэта ж крык на дапамогу, чалавечы

крык, і, падобна на тое, што ляціць ён з цёмных глыбіняў невядомага мора. Хоць, зрэшты, што мне да чалавечых бедаў! Але апошні грэх, які застаўся ўва мне, — ці ведаеш ты назвіска яго?»

*Спагада!* — адказваў вяшчун з глыбіняў перапоўненага сэрца, падняўшы ўгору свае рукі. — О Заратустра, я прыйшоў, каб увесці цябе ў твой апошні грэх!»

І як толькі прамовіў ён гэтыя словы, зноў пачуўся крык, яшчэ працяглейшы і сумотнейшы, чым раней, але ўжо крыху бліжэй. — «Ты чуеш? Чуеш, Заратустра? — усклікнуў празорлівы вяшчун, — гэта цябе, цябе кліча гэты крык: «Ідзі, ідзі, ідзі, пара, даўно пара!»

Але Заратустра маўчаў, збянтэжаны і ўражаны; нарэшце ён спытаўся, нібы запаняверany ў сабе: «Хто гэта кліча мяне?»

«А то ты не ведаеш, — рэзка адказаў празрлівец, — навошта хаваешся? Гэта *вышэйшы чалавек* звяртаецца да цябе!»

«Вышэйшы чалавек? — усклікнуў Заратустра, ахоплены жахам. — Чаго ж *ён* хоча? Што *яму* трэба? Вышэйшы чалавек! Што яму трэба тут?»

А вяшчун не адказваў на Заратуствавыя спалохі, а ўслухоўваўся далей у покліч глыбіняў. Але адтуль доўга не чулася ніводнага гуку, тады ён павярнуўся і ўбачыў, што Заратустра ўсё яшчэ стаіць, не сыходзячы з месца, і дрыжыкі калоцяць яго.

«О Заратустра, — прамовіў ён, — ты не падобны на чалавека, які ад шчасця круціцца на месцы: каб не ўпасці, давядзецца табе скакаць!

Але калі ты і захочаш скакаць і выбраляць розныя выкрунтасы на канаце, усё адно ніхто не скажа: «Дзівіцеся, вось скача апошні вясёлы чалавек!»

Той, хто *яго* шукае тут, дарма ўзняўся на гэтыя вышыні: ён тут знойдзе пячоры і тых, што ў іх хаваюцца, а таксама сховы тым, хто ратуецца ўцёкамі, але не знойдзе ні патайнікоў, ні скарбніц шчасця, ні новых залатадайных жылін.

Хоць усё адно нічога не адшкадоўваецца, ніякія пошукі не маюць сэнсу, бо няма болей шчасных выспаў!»

Так уздыхнуў вяшчун; але з апошнім уздыхам яго да Заратустры вярнулася спакайната і ўпэўненасць, быццам ён з глыбокае цясніны зноў выйшаў на святло. «Не! Не! Тры разы не!! — усклікнуў ён бадзёрым голасам, агладжваючы бараду. — *Гэта я* ведаю лепш! Яшчэ ёсць шчасныя выспы! Ужо лепей памаўчы *пра гэта,* ты, мяшок журботы і зітханняў!

Перастань балабоніць, ты, паўдзённая дажджавая хмара. Ці ж ты не бачыш, што я ўжо прамок ад журботаў тваіх, як абліты сабака?

Атрасуся я і ўцяку ад цябе абсыхаць, — так што не здзіўляйся! Ці, можа, думаеш, гэта нявет-ліва. Але тут *мой* двор.

А вышэйшага чалавека я адразу знайду ў тых лясах, адкуль, можа, і далятаў яго крык. Можа, за ім гоніцца які-небудзь люты звер.

Ён — у *маіх* сферах: тут яму не зняшчасціцца! Сапраўды, у мяне тут нямала лютых звяроў».

І з гэтымі словамі Заратустра рушыў да лесу. Тады празарлівец сказаў: «О Заратустра, — ты хітрун!

Я зразумеў: ты хочаш пазбыцца мяне! Ты лепей пойдзеш у лес, да лютых звяроў!

Але гэта цябе не ўратуе! Увечары я буду зноў тут; я сяду ў тваёй пячоры і буду сядзець, цярплівы, як калода, і буду чакаць цябе!»

«Хай будзе так! — крыкнуў Заратустра ўжо

здалёк. — І хай усё маё ў гэтай пячоры належыць табе, дарагому майму госцю!

Калі ты знойдзеш мёд, — што ж! ліжы яго, бурклівы мядзведзь, саладзі душу сваю! А ўвечары мы будзем, абодва вясёлыя, скакаць пад мае песні, як вучоны мядзведзь.

Ты сумняваешся? Ты хітаеш галавою? Ну што ж, паглядзім, стары буркун! Я ж таксама — празарлівы вяшчун!»

Так сказаў Заратустра.

## Гутарка [redacted] каралямі

### 1

Заратустра не быў яшчэ і гадзіны ў дарозе па гарах сваіх і лясах, як раптам убачыў вельмі дзіўнае шэсце. Пасярод дарогі, якою ён хацеў спусціцца, ішлі два каралі, у каронах і падперазаныя пурпуровымі паясамі, стракатыя, як фламінга: перад сабою яны гналі нагружанага асла. «Што трэба гэтым каралям у маёй дзяржаве?» — здзіўлена сказаў Заратустра сэрцу свайму і паспяшаўся схавацца за куст. Але калі каралі параўняліся з ім, ён сказаў напаўголаса, быццам самому сабе: «Дзіўна! Дзіўна! Як звязаць адно з адным? Бачу двух каралёў — і толькі аднаго асла!»

Тады тыя двое спыніліся, з усмешкай гледзячы ў той бок, адкуль пачуўся голас, і павярнуліся адзін да аднаго. «Гэтаксама думаюць і многія з нас, — сказаў кароль, які ішоў справа, — але яны не кажуць гэтага ўголас».

А кароль злева, пацiснуўшы плячыма, адказаў: «Гэта, мабыць, пастух, які пасвіць козы. Альбо пустэльнік, які доўга жыве сярод скалаў

і дрэў. Без кампаніі псуюцца самыя добрыя норавы».

«Добрыя норавы? — сярдзіта і горка адказаў другі кароль. — Ад чаго ж мы ў такім разе ўцякаем? Ці не ад «добрых» нораваў? Ці не ад нашага «вышэйшага свету»?

І праўда, лепей жыць сярод пустэльнікаў і пастухоў, чым у коле нашай вызалачанай, ілжывай, нарумяненай чэрні, якая называе сябе «вышэйшым светам»,

— якая называе сябе «арыстакратыяй». Але ўсё ў іх ілжа, і нават сама іхняя кроў — ад застарэлых брудных хвароб і яшчэ горшых лекараў.

Сёння ў мяне найлепшае: грубы, хітры, упарты і вынослівы мужык: сёння гэта самы высакародны тып.

Сяляне — вось хто сёння самыя лепшыя людзі; яны і павінны панаваць! Аднак цяпер — царства натоўпу, і я ўжо не падманваю сябе. А натоўп — гэта мешаніна і неразбярыха.

У іх усё перамяшана: святы́ [redacted] нягоднікам, дваранін з яўрэем і ўсё звяр'ё з Ноевага каўчэга.

Добрыя норавы! Усё ў нас ілжывае і прагніло наскрозь. Ніхто ўжо не здольны на шаноўлю: якраз *ад гэтага* мы і ўцякаем. Усюды настырныя, ліслівыя сабакі, якія залоцяць пальмавае лісце.

Агіда душыць мяне таму, што мы, каралі, самі зрабіліся несапраўднымі, што мы хаваемся пад вопраткай лядашчай, раззалочанай дзедаўскай велікапышнасці, што для дурняў і прайдохаў і для ўсіх, хто сёння ўцягнены ў дробязны гандаль уладаю, мы не больш чым профілі на манетах!

Мы — не першыя сярод людзей, але павінны іграць ролю натоўпу: і ад гэтай хлусні перанасычанасць і агіда апанавалі нас.

Мы пайшлі, нарэшце, ад зброду, ад усіх гарлапанаў і ад мушынай квэцаніны брудных пісакаў, ад смуроду гандляроў, ад сутаргаў славалюбства і ад смярдзючага дыхання — цьфу! жыць сярод гэтай свалаты!

— цьфу! іграць ролю першых сярод свалаты! О агіда! Агіда! Агіда! Чым парабіліся мы, сённяшнія каралі!»

«Гэта прыступ тваёй старой хваробы, — сказаў левы кароль, — гэта прыступ агіды, бедны мой браце. Аднак, па-мойму, нехта падслухоўвае нас».

Заратустра, які напружліва ўважаў гэтым словам, адразу выйшаў са свайго сховішча, падышоў да каралёў і сказаў:

«О каралі, той, хто слухае вас і слухае з вялікай ахвотай, называецца Заратустра.

Я — Заратусра, я той, хто сказаў калісьці: Каму сёння абыходзяць каралі!» Не гневайцеся, але я ўсцешыўся, калі пачуў, як вы казалі адзін аднаму: «Каму сёння да нас, каралёў!»

Але тут *мая* дзяржава і мая ўлада: што вы шукаеце тут? Аднак, магчыма, па дарозе вы *знайшлі,* што шукаю я, — вышэйшага чалавека».

Пачуўшы гэта, каралі ўдарылі сябе ў грудзі і ў адзін голас сказалі: «Нас пазналі!

Мечам гэтага слова ты расцінаеш густы морак нашых сэрцаў. Ты адгадаў наш смутак, бо, бачыш, на тое мы і рушылі ў дарогу, каб знайсці вышэйшага чалавека,

— чалавека, які вышэйшы за нас: хоць мы і каралі. Яму вядзем мы гэтага асла. Бо найвышэйшы чалавек павінен быць і найвышэйшым уладаром на зямлі.

Няма больш горкай нядолі ў чалавечым лёсе, чым калі ўладары зямлі — не першыя сярод падданых сваіх. І ўсё тады робіцца хлуслівым, жахлівым і перакручаным.

Калі ж яны робяцца апошнімі і з людзей ператвараюцца ў быдла, тады чэрня ўсё больш падымаецца ў цане, пакуль нарэшце дабрачыннасць яе не абвесціць: «Глядзі, толькі я адна — дабрачыннасць!»

«Што я чую? — адказваў Заратустра. — Якія мудрыя каралі! Я ў захапленні і сапраўды з прыемнасцю перакладу на мову рыфмаў тое, пра што гаварылася:

— хоць гэтыя вершы не на кожнае вуха і наўрад ці спадабаюцца ўсім. Але я даўно ўжо не зважаю на доўгія вушы. Ну дык вось яны!

(Але тут і асёл загаварыў: выразна і не без ліхое подумкі ён сказаў — «І-А»).

У год народзінаў Хрыста Сівіла,
Калі была пад чаркай, заявіла:
О гора! Як усё змарнела, ўпала нізка
У колісь велічнай дзяржаве Рымскай:
Сталіцу свету блуд заеў! Агіда!
Стаў Цэзар быдлам, нават Бог — стаў жыдам!»

2

Каралі пацешыліся з Заратустравых рыфмовак, а каторы справа сказаў: «О Заратустра, як разумна зрабілі мы, што пайшлі пабачыцца з табою!

Бо ворагі твае ў люстэрка паказалі нам твой вобраз: і ў тым люстэрку ты паявіўся ў вобразе дэмана, са з'едлівай усмешкай, нам аж страшна стала.

Але і гэта не дапамагло! Зноў і зноў ты кроіў нам вушы і сэрцы сваімі выслоўямі. Нарэшце мы сказалі: а ці не ўсё роўна, які ён з сябе! Трэба *слухаць* яго, таго, хто павучае: «Вы павінны

любіць мір як сродак да новай вайны, і кароткі мір больш, чым доўгі!»

Ніхто яшчэ не казаў такіх ваяўнічых слоў: «Што ёсць дабро? Дабро — гэта быць адважным. дабро — гэта вайна, якая асвячае любую мэту».

О Заратустра, ад гэтых слоў бацькоўская кроў забушавала ў нашых жылах: быццам сама вясна загаварыла да бочак са старым вiном.

Калі мячы скліньваліся з мячамі, нібы акрываўленыя змеі, тады бацькі нашы любілі жыццё; мірнае сонца ў мірным небе здавалася ім нежыццёвым і халодным, а доўгі мір быў ганьбаю. Як уздыхалі яны, бацькі нашыя, калі бачылі на сцяне бліскучыя вышчарбленыя мячы! Нібы мячы гэтыя, прагнулі яны вайны. Бо меч хоча ўпівацца крывёю і ззяе ад палкага жадання»...

Пакуль каралі палка і захоплена балабонілі пра шчасце сваіх бацькоў, Заратустру моцна закарцела пасмяяцца з іхняга палу, бо на вочы відаць было, што каралі гэтыя — з высакароднымі, тонкімі рысамі твару — зусім міралюбныя. Але перасіліў сябе. «Ну што ж! — сказаў ён. — Вось дарога, якая вядзе да Заратустравай пячоры; доўгі будзе сённяшні вечар! А цяпер я пакіну вас: мяне кліча крык на дапамогу.

Гэта гонар маёй пячоры, калі самі каралі будуць сядзець у ёй і чакаць, але канечне, доўгая будзе чаканка ў іх!

Ну добра! Нічога не зробіш! Дзе сёння найлепш вывучваюцца чакаць, як не пры двары? І ўся каралеўская цнота, якая яшчэ засталася ў іх, ці ж не кажа яна: *умець* чакаць?»

Так сказаў Заратустра.

# П'яўка

Заратустра, увесь у сваіх думках, ішоў далей, спускаючыся з гор, па лясах, міма балацін; і, як яно можа стацца з кожным, хто разважае пра цяжкае і нялёгкае, незнарок на кагосьці наступіў. І вось — у твар яму адразу пырснулі крыкі болю, два праклёны і дваццаць два брыдкія кленічы, аж Заратустра, спалохаўшыся, замахнуўся кіем і ўдарыў таго, на каго наступіў. Але адразу спахапіўся, і сэрца яго смяялася з дурасці, якую толькі што зрабіў.

«Даруй, — сказаў ён чалавеку, які падняўся са змрочным тварам, — не сярдуй і паслухай спачатку такое прыпавесці

— пра тое, як адзін дарожнік, які марыў пра нешта далёкае, на пустой вуліцы незнарок штурхнуў нагой сабаку, што заснуў на сонцы;

— і як абодва падскочылі і кінуліся адзін на аднаго, нібы заклятыя ворагі, абодва перапалоханыя да смерці, — гэтаксама атрымалася і ў нас.

І ўсё ж — як мала было трэба, каб яны абышліся адзін з адным ласкава, сабака і дарожнік. Абодва ж яны — адзінокія!»

«Хто б ты ні быў, — усё яшчэ гневаючыся, сказаў незнаёмы, — ты моцна зачапіў мяне не толькі нагою, але і гэтым параўнаннем!

Дзівіся, ці ж я сабака?» — І з гэтымі словамі ён падняўся і выняў сваю голую руку з твані. А да гэтага ён, затаіўшыся і прыпаўшы да зямлі, ляжаў каля вады, як паляўнічы, калі высочвае дзічыну.

«Што ты робіш, — усклікнуў Заратустра спалохана, убачыўшы, што па руцэ незнаёмага цячэ кроў, — што ты тут робіш, няшчасны? Ці не ўкусіла цябе якая гнюсота?»

Але скрываўлены ўсміхнуўся, хоць і не прайшоў яшчэ гнеў у яго. «А табе што? — адказаў ён і хацеў адысці. — Тут я ў сябе дома, на сваіх пашах. Хай у мяне пытаецца, хто хоча: але перад кожным асталопам я не збіраюся перападаць».

«Ты памыляешся, спагадліва сказаў Заратустра, стрымліваючы яго, — ты тут не ў сябе дома, а ў маім царстве, і ў ім нікому не павінна быць блага.

Называй мяне як хочаш, — а я той, кім павінен быць. Сам сябе я называю Заратустра.

Вось што! Там угары дарога вядзе да маёй пячоры — гэта недалёка; ці не хочаш ты ў мяне загоіць свае раны?

Не пашанцавала табе ў гэтым жыцці, няшчасны: спачатку цябе ўкусіў звер, потым на цябе наступіў чалавек!»

Але пачуўшы імя Заратустры, пацярпелы перамяніўся. «Як пашанцавала! — усклікнуў ён. — Калі што яшчэ і мучыць мяне ■ жыццём, цепліць маю цікаўнасць, дык гэта адзін-адзіны чалавек — Заратустра, адно-адзінае стварэнне — п'яўка.

На тое •я і ляжу каля балота, як рыбак, і вось ужо разоў мо з дзесяць упівалася мне ў руку п'яўка, а цяпер куды больш цудоўную п'яўку прынадзіла мая кроў — самога Заратустру!

О шчасце! О цуд! Хай будзе пахвалёны той дзень, які прывёў мяне да гэтай балаціны! Хай будзе пахвалёная найлепшая, наймацнейшая п'яўка з усіх, што жывуць сёння, хай будзе пахвалёная п'яўка сумлення — Заратустра!»

Так сказаў незнаёмы; і Заратустра быў рады з ягоных слоў і пашаноўнай манеры гаварыць. «Хто ты? — спытаўся ён, падаючы яму руку. — Яшчэ шмат паміж намі нявысветленага і няяснага, але, здаецца, светлы дзень ужо распагоджваецца».

Я — сумленны духам, — адказаў той, — а ў справах духу цяжка знайсці чалавека больш строгага, цвёрдага і мэтанакіраванага за мяне, акрамя таго, у каго я вучыўся, — я кажу пра самога Заратустру.

Лепей не ведаць нічога, чым многае — напалавіну! Лепей на маю рызыку быць дурнем, чым мудрацом за кошт чужых думак! Я дашукваюся асновы:

— няважна, малая яна ці вялікая, называецца балотам альбо небам. Хай аснова гэтая будзе шырынёю хоць з далоню — мне досыць: хай толькі яна будзе аснова, на якой можна ўцвердзіцца!

— хай шырынёю хоць з далоню: на ёй можна ўцвердзіцца. У сапраўды сумленным спазнанні няма вялікага і малога».

«Дык, можа, ты даследчык п'явак? — спытаўся Заратустра. — Можа, ты, сумленны духам, да апошніх асноваў даследуеш п'яўку?»

«О Заратустра, — адказаў сумленны духам, — гэта было б аж-аж, калі б я адважыўся на гэта!

Калі што і спазнаў я, дык гэта п'яўчыныя мазгі: гэта — *мой* свет!

Сапраўды, гэта цэлы свет! Але даруй, тут ужо гаворыць мой гонар, бо ў гэтым няма мне раўні. Таму і сказаў я, што тут — я ў сябе дома.

Даўно ўжо даследую я гэтую адзіную рэч, мазгі, п'яўчыныя, каб коўзкая ісціна не выкаўзнулася ад мяне! Тут — маё царства!

— дзеля гэтага я ахвяраваў усім, праз адно гэта ўсё мне з'абыякавела; і побач з веданнем маім — цемра невуцтва.

Сумленне майго духу патрабуе ад мяне, каб я ведаў што-небудзь адно і не ведаў нічога

іншага: мне агідныя ўсе палавіністыя духам, усе туманныя, напышлівыя, замроеныя.

Там, дзе канчаецца сумленнасць мая, я сляпы, і хачу быць сляпым. Але дзе я хачу ведаць, я хачу быць сумленным, а значыцца — строгім, цвёрдым, мэтанакіраваным, жорсткім і неўблагальным.

Ты сказаў калісьці, о Заратустра: «Дух ёсць жыццё, якое само падцінае жыццё»; гэта прывабіла мяне і прывяло да твайго вучэння. І сапраўды, сваёю крывёю памножыў я веды свае!»

«І гэта відавочна», — адказаў Заратустра: бо з рукі сумленнага духам усё яшчэ лілася кроў. Дзесяць п'явак упіліся яму ў руку.

«О ты, дзіўны прыяцель, як добра вучыць мяне такая відавочнасць — ты сам! І магчыма, не ўсё асмеліўся б я даверыць твайму слыху, такому зыскліваму!

Ну што ж! тут мы і разыдземся! Але я хачу зноў пабачыцца з табою. Там, угары, дарога да маёй пячоры: сёння ноччу ты будзь маім жаданым госцем!

Я хачу загоіць таксама і раны твайго цела, на якое я наступіў:

я яшчэ падумаю пра гэта. А цяпер мне трэба спяшацца — мяне кліча крык на дапамогу!»

Так сказаў Заратустра.

## Чарадзей

### 1

Але калі Заратустра абагнуў скалу, ён убачыў непадалёк, на роўнай дарозе, чалавека, які курчыўся, як апантаны нячыстым, і, нарэшце, кінуўся

ніцма на зямлю. «Пастой! — сказаў Заратустра свайму сэрцу. — Гэта, мабыць, і ёсць той вышэйшы чалавек, чый пакутлівы крык пра дапамогу я чуў; зірну, ці нельга яму чым-небудзь памагчы». Але збегшы ўніз да таго месца, дзе ляжаў чалавек, ён убачыў перад сабою старога: дрыжыкі білі таго, вочы былі нерухомыя, і як ні маніўся Заратустра паставіць яго на ногі, усё было марна. Здавалася, няшчасны нават не заўважаў, што побач з ім нехта ёсць; шкада было глядзець, як ён роспачна акідаўся па баках, быццам пакінуты цэлым светам і бязмежна адзінокі. Нарэшце, пасля ўсіх гэтых канвульсіяў, ён загаласіў:

О, хто мяне адагрэе? Хто любіць мяне?
Дайце цяпла вашых рук,
Дайце вуголля астыламу сэрцу!
Ледзьве жывы,
Б'юся я ў курчах нязнанай хваробы, —
Іголкі калючыя моцнае сцюжы
Пранізваюць плоць,
Я трымчу —
Ты, Думка, ты гоніш мяне!
Схаваны за хмарамі лоўчы!
Жахлівы! Не мае імя!
Твой позірк пагардлівы б'е, як маланка
З непрагляднае цемры,
І вось я ляжу ў пакутлівых курчах
І ўсе спрадвечныя скрухі і мукі спасціглі мяне,
О Жорсткі лоўчы! Нязведаны Божа!
Бі мацней і глыбей!
Праніжы, разатні маё сэрца!
О, чаму мучыш мяне тупымі стрэламі?
Што яшчэ ўбачыў у мне
Твой зларадны, маланкавы позірк,
Позірк Боства, якое ніколі не мецьме патолі
ў відовішча мук?

Не, не пагібелі прагнеш маёй,
А цярпенняў!
Навошта *мяне* ты катуеш,
Зларадны, нязведаны Божа?
Я адчуваю, як крадзешся ты,
Чаго хочаш ты ад мяне сярод ночы?
Адкажы!
Ты гняцеш, ты ўціскаеш мяне.
О! Ты ўжо блізка!
Прэч! Прэч!
Ты чуеш дыханне маё,
Ты падслухоўваеш сэрца,
Ты, раўнівец! Да чаго ж ты раўнуеш мяне?
Прэч! Прэч!
А гэтая лесвіца — навошта яна табе?
Хочаш *пранікнуць*
У сэрца?
У схаваныя думкі?
Бессаромны зладзюга!
Што ты намысліў украсці?
Што спадзяешся выведаць?
Што спрабуеш выпытаць?
Кат!
Бог тартураў і смерці!
Альбо мушу я, як сабака,
Поўзаць перад табою
І цалкам аддацца табе, віляючы хвастом?

Дарэмна! Укалі ж мацней,
Самае жорсткае джала!
Не, я не сабака твой, я — твая дзічына,
Жахлівы лоўчы!
Я — самы горды з палонных тваіх,
Схаваны хмарамі разбойнік!
Гавары ж,
Схаваны ў маланках!

Засаднік пільны на дарогах!
Што табе *трэба*, Невядомы?

Што? Ты выкупу хочаш? Што магу табе даць?
«Зышчы многа», — раіць гонар!
Будзь стрыманы», — кажа гонар другі!

Ха-ха!
*Мяне* — хочаш ты? Мяне?
Мяне ўсяго?..
Ха-ха! катуеш мяне,
О, неразумны, ты прыніжаеш мой гонар!
Дай мне *любові* — хто сагрэе мяне?
Хто мяне яшчэ любіць?
Дай мне цяпла тваіх рук,
Дай жару астыламу сэрцу!
Дай самотніку лёду!
Бо сем зледзянелых покрываў
Навучылі мяне сумаваць па ворагах,
Скарыся мне, ліхамысьнік!
Дай мне — *сябе!*

Памчаўся прэч!
Пакінуў мяне, адзіны, апошні сябар,
Першы непрыяцель,
Нязведаны Бог, Бог, тартураў і смерці!

— Не! Вярніся!
Вярніся з усімі пакутамі!
Вярніся да апошняга самотніка!
Патокі слёз маіх цякуць *за табою*
І полымя сэрца!
О вярніся!
Мой нязведаны Божа!
Мой боль!
Маё апошняе шчасце!

## 2

Але тут Заратустра ўжо не мог стрымацца, схапіў кія і штосілы пачаў біць зарумзанага чарадзея. «Перастань! — усклікнуў ён са злым смехам. — Перастань ты, камедыянт! Утры нюні! Фальшываманетчык! Зацяты хлус! Я бачу цябе наскрозь!

Вось зараз я табе ўвалю, подлы чарадзей, гэта я ўмею — разаграваць такіх спруцянелых, як ты!»

«Кінь! — крыкнуў стары і ўскочыў з зямлі. — Не бі мяне больш, о Заратустра! Я толькі пацвяліў цябе!

Гэта — адна выява майстэрства майго; я хацеў выпрабаваць цябе, падсіліць цябе гэтай спакусе! І сапраўды, ты раскусіў мяне!

Але і сам ты — нямала даў мне ўведаць пра цябе: ты *жорсткі*, мудры Заратустра! Моцна б'еш сваімі «ісцінамі», і твая доўбня выбіла ў мяне *гэтую* ісціну!

«Не ліжыся, — адказаў Заратустра, усё яшчэ гневаючыся, і змрочна зірнуў на яго, — не ліжыся мне, зацяты блазен! Ты хлус: ці табе гаварыць пра ісціну!

Ты, паўлін над паўлінамі, ты, мора славалюбства, што разыгрываў ты перад мною, у каго павінен быў паверыць я, калі ты размазваўся перад мною так нікчэмна?»

«Я прытвараўся тым, *хто каецца духам*, — сказаў стары, — *ім я* прытвараўся: ты сам выдумаў калісьці гэты выраз,

— паэта і чарадзея, які канчае тым, што паварочвае дух свой супроць сябе самога, я разыгрываў пераўтворанага, які замярзае ад свайго няведання і благога сумлення.

І прызнайся ж, Заратустра: не адразу разгадаў ты мае хлусню і прытвapaннe! Ты *паверыў* у гора маё, калі аберуч падтрымліваў маю галаву.
— і я чуў, як ты жаліўся: «Яго надта мала любілі, надта мала любілі!» І тайна радавалася злосць мая, што здолеў я так спрытна цябе абдурыць».

«Ты ашукваў і больш празорлівых за мяне, — рэзка адказаў Заратустра. — Я не баюся падманшчыкаў, *я павінен* жыць без асцярожлівасці: так хоча мая доля.

А ты — *павінен* падманваць: настолькі я ведаю цябе! Твае словы павінны заўсёды мець два, тры, чатыры і болей сэнсаў. І тое, у чым ты прызнаваўся цяпер, не было да канца ні праўдай, ні хлуснёю!

Ты, подлы фальшываманетчык, хіба можаш інакш? Ты і хваробу сваю замажаш грымам, калі давядзецца табе паказацца голым свайму лекару.

Так і цяпер прыхарошыў ты перад мною сваю хлусню, кажучы: «Я *назнарок* разыгрываў гэта!» У гэтым было і нешта *сур'ёзнае*, і ў табе самым *ёсць* нешта ад таго, хто каецца духам!

Я добра разгадаў цябе: ты аблытаў чарамі ўсіх, але на сябе самога ў цябе ўжо не засталося ні маны, ні хітрасці — ты сам у сабе расчараваны!

Ты жнеш агіду як адзіную тваю ісціну. Усё, што сыходзіць з вуснаў тваіх, — хлусня і фальш, і толькі самыя вусны — адзінае, што засталося ў табе сапраўднага, бо агіда прыліпла да вуснаў тваіх».

«Хто ты такі, каб так гаварыць са мною, найвялікшы з жывых?» — пагардліва сказаў стары чарадзей, і зялёная маланка бліснула з яго вачэй

на Заратустру. Але ён тут жа панік і сумна сказаў:

«О Заратустра, я стаміўся, мне брыдка за маё майстэрства, мне яно агіднае, *я не вялікі* — навошта прыкідвацца! Але табе добра вядома — я шукаў велічы!

Я толькі хацеў паказаць вялікага чалавека і многіх пераканаў у сваёй велічы: але мана аказалася вышэйшай за мае сілы. На ёй я паламаўся.

О Заратустра, усё — мана ўва мне, але што я паламаўся, крушэнне маё — гэта *праўда!*»

«Гэта робіць табе гонар, — змрочна сказаў Заратустра, гледзячы ў зямлю! — Гэта робіць табе гонар, што шукаў ты велічы, але гэта сама і выдала цябе. Ты — не вялікі.

Ты — гаротны стары чарадзей, *гэта* і ёсць самае лепшае і праўдзівае ў табе, і я шаную цябе за тое, што ты стаміўся ад самога сябе і сам прызнаў, што не вялікі.

*За гэта* я паважаю цябе як таго, хто каецца духам: хай хоць адно імгненне, але ты быў праўдзівы!

А скажы, чаго шукаеш ты тут, сярод скалаў і ў *маіх* лясах? І калі *дзеля мяне* ты ляжаў на дарозе, у чым ты хацеў выпрабаваць мяне?

— у чым спакушаў ты *мяне?*»

Так гаварыў Заратустра, і яго вочы блішчалі. Стары чарадзей памаўчаў крыху і адказаў: «Хіба я цябе спакушаў? Я толькі шукаю.

О Заратустра, я шукаю каго-небудзь праўдзівага, шчырага, простага, недвухсэнсоўнага, шукаю чалавека, сумленнага ва ўсім, праведніка пазнання, сасуд мудрасці, вялікага чалавека!

Хіба ты не ведаеш гэтага, Заратустра? *Я шукаю Заратустру*».

І тады настала доўгае маўчанне, і Заратустра

глыбока задумаўся, так што нават заплюшчыў вочы. А пасля, калі вярнуліся да субяседніка думкі, ён узяў чарадзея за руку і сказаў яму ветліва, але не без хітрасці:

«Ну што ж! Там, угары, — дарога, якая вядзе да Заратустравай пячоры. У ёй і шукай, каго ты хацеў знайсці.

І спытайся парады ў маіх звяроў — у арла і ў змяі: яны дапамогуць табе ў тваіх пошуках. А пячора мая вялікая.

Праўда, сам я ніколі яшчэ не бачыў вялікага чалавека. Грубыя вочы яшчэ нават у самых празорлівых на ўсё вялікае. Сёння пануе чэрня.

Я ўжо сустракаў многіх, якія цягнуліся ўгору і надзімаліся, а народ крычаў: «Глядзіце, вось вялікія людзі!» Але які толк у кавальскіх мяхах! Урэшце паветра выходзіць з іх.

Зрэшты, лопаецца і жаба, якая надта доўга надзімалася, і паветра выходзіць з яе. Па-мойму, неблагая штука — тыцнуць у жывот надзьмутаму. Паслухайце ж мяне, дзеткі!

Усё сённяшняе належыць чэрні: хто сёння *ведае,* дзе вялікае, дзе малое? У каго пошукі велічы ўвянчаліся поспехам? Толькі ў бязглуздых: ім дадзена гэта шчасце.

Ты шукаеш вялікага чалавека, дзіўны блазен? хто *навучыў* цябе гэтаму? Хіба цяпер наспеў час на гэта? О ты, нікчэмны шукальнік, навошта спакушаеш мяне?»

Так сказаў Заратустра, суцешаны ў сэрцы сваім, і, смеючыся, пайшоў далей сваёй дарогай.

## У адстаўцы

Па доўгім часе пасля таго, як Заратустра пазбавіўся ад чарадзея, ён раптам убачыў, што зноў нехта сядзіць на дарозе, якою ён ішоў, — нейкі высокі чалавек у чорным, з бледным, змардаваным тварам. Заратустра вельмі засмуціўся, убачыўшы *яго*. «Шкада, — сказаў ён сэрцу свайму, — вось сядзіць яно, пераапранутае жальства; падобна, што чалавек гэты з пароды святароў: што *ім* трэба ў царстве маім?

Што?! Толькі што пазбыўся я чарадзея, і вось яшчэ адзін чарнакніжнік на дарозе маёй,

— нейкі чарадзей з уладаю накладання рук, цёмны цудадзей, асвечаны божаю мілатою і памазаны паклёпнік на жыццё, каб яго чорт скруціў!

Але чорта няма на месцы якраз тады, калі ён найбольш патрэбен: ён заўсёды з'яўляецца занадта позна, гэты праклятых кульгавы карлік!»

Так, страціўшы цярплівасць, сам сабе лаяўся Заратустра, прыкідваючы, як яму збочыць і прашмыгнуць міма чорнага чалавека, але ўсё абярнулася інакш. Той, што сядзеў на дарозе, адразу ўбачыў Заратустру, падхапіўся на ногі, быццам радасць раптам апантала яго, і кінуўся да яго.

«Кім бы ты ні быў, дарожнік, — ускрікнуў ён, — памажы старому, які заблудзіўся і стаміўся ад пошукаў, памажы старому, з якім так проста можа стацца бяда!

Незнаёмыя і чужыя мне гэтыя землі, і выццё дзікіх звяроў чуецца мне; і няма больш таго, хто бараніў мяне.

Я шукаў апошняга пабожнага чалавека, святога і пустэльніка, адзінага, хто ў сваім лесе не чуў таго, што сёння ведае кожны».

«Што ж сёння ведае кожны? — спытаўся Заратустра. — Ці не тое, што няма больш сярод жывых старога Бога, у якога калісьці верыў цэлы свет?»

«Вось і ты сказаў гэта, — журботна адказаў стары. — Я ж служыў гэтаму старому Богу да апошняй ягонай хвіліны.

А цяпер у адстаўцы, без гаспадара, а ўсё ж не свабодны, і смутак не пакідае мяне ні на хвіліну, а радасць прыходзіць толькі ва ўспамінах.

Таму і падняўся я ў гэтыя горы, каб, нарэшце, зладзіць сабе свята, як яно належыць апошняму Папу і Айцу царквы: бо ведай — я апошні Папа! І гэта будзе свята пабожных успамінаў і набажэнства!

Але памёр і ён, той самы пабожнік, святы, які жыў у лесе і які ўвесь час славіў Бога малітвамі і спевамі.

Самога яго я не знайшоў: а калі ўбачыў хаціну, толькі два ваўкі сядзелі ў ёй і вылі па смерці яго; бо яго любілі ўсе звяры. І я падаўся ўпрочкі.

Няўжо дарма прыйшоў я ў гэтыя горы і лясы? І тады я рашыў у сэрцы сваім, што пачну шукаць іншага, самага пабожнага з божых нявернікаў, — я рашыў шукаць Заратустру!»

Так казаў стары і ўважліва прыглядваўся да таго, што стаяў перад ім; а Заратустра ўзяў апошняга Папу за руку і доўга здзіўлена разглядваў яе.

«Што я бачу, шаноўны! Якая далікатная рука! — сказаў потым Заратустра. — Гэта рука чалавека, які нястомна раздаваў добраславенні. І вось — цяпер моцна трымае яе той, каго ты шукаў, бо я — Заратустра.

Гэта я, бязбожнік Заратустра, які сказаў: «Хто бязбожнейшы за мяне, каб парадавацца мне, вучню ягонаму?»

Так сказаў Заратустра, пранікаючы позіркам у думкі і патайныя намыслы апошняга Папы. І той нарэшце сказаў:

«Той, хто найболей любіў Яго і валодаў Ім, таму Ён цяпер і страчаны канчаткова,

— вось, глядзі, хто з нас сёння бязбожнейшы? Ці не я? Але толькі хто з гэтага парадуецца?»

«Ты служыў Яму да канца, — задуменна сказаў Заратустра пасля даўжманага маўчання, — табе вядома, *як* Ён памёр? Ці праўду кажуць, што Яго задушыла спагада,

— калі Ён убачыў *чалавека,* які вісеў на крыжы, і не вынес відовішча, калі любоў Яго да чалавека зрабілася пеклам, а пад канец і смерцю?»

Але апошні Папа нічога не адказаў на гэта, толькі адвёў убок вочы з выразам смутку і паныласці на твары.

«Хай будзе так, — сказаў Заратустра, падумаўшы нейкі час і гледзячы старому ў вочы.

Хай будзе так, з ім кончана. Але хоць і сведчыць пра гонар твой тое, што кажаш ты толькі добрае пра гэтага мёртвага, і табе, і мне добра вядома, *кім* Ён быў і якімі дзівоснымі шляхамі хадзіў».

«Гаворачы з Ім з вока на два, як бо то ж у мяне толькі адно, — жвава азваўся апошні Папа (а ён быў сляпы на адно вока), — у тым, што да Бога, я больш абазнаны, чым сам Заратустра, — і з поўным правам.

Шмат гадоў служыла Яму любоў мая, і воля мая ва ўсім ішла следам за воляю Яго. А добраму слузе вядома ўсё, нават тое, што пан хавае ад самога сябе.

Ён быў схаваны Бог, поўны таямніц. Сапраўды, нават сына свайго Ён здабыў няйнакш як таемнымі спосабамі. Перад дзвярыма Яго — перал юб.

Той, хто славіць Яго як Бога любові, не дужа высокае думкі пра любоў. Хіба не хацеў гэты Бог быць суддзёю? Хто любіць, любіць без агляд кі на ўзнагароду і аддзяку.

Калі ён быў малады, гэты Бог з усходу, Ён быў суровы і помслівы і стварыў пекла на асалоды любімцам сваім.

Але нарэшце Ён састарыўся і зрабіўся мяккі, вялы і жаласлівы і пачаў упадабняцца больш дзеду, чым бацьку, а яшчэ больш — старой нямоглай бабулі.

І вось, сядзеў Ён, скурчыўшыся на печы, бурчаў і жаліўся на слабасць у нагах, стомлены светам, стомлены, каб хацець чаго-небудзь, пакуль не задыхнуўся аднойчы ад залішняй спагады сваёй».

Але тут Заратустра перапыніў яго: «І ты, апошні Папа, бачыў *гэта* на свае вочы? Гэта магло быць і так; але магло быць *і* інакш. Калі паміраюць багі, паміраюць заўсёды па-рознаму.

Ну што ж! Так ці інакш, — Ён памёр! Шмат што ў Ім зневажала і вочы мае, і вушы, а пра самае горшае я памаўчу.

Я люблю ўсё, што глядзіць чыстым вокам і гаворыць праўдзіва. Тады як Ён, — а табе добра гэта вядома, стары святар, бо нешта было ў Ім і ад вашага роду, ад пароды Святароў — Ён заўсёды быў неадназначны.

Да таго ж Ён быў незразумелы. Як гневаўся Ён на нас, поўны лютасці праз тое, што мы былі блага Яго зразумелі! Але чаму ж тады Ён не гаварыў ясней?

А калі віною таго быў наш слых, дык ці ж не Ён вінаваты, што былі няздольныя слухаць Яго? І калі вушы нашыя былі забітыя брудам, ну што ж! Чыіх рук гэта справа?

Надта многае не ўдавалася гэтаму ганчару, які не давучыўся да канца! Аднак жа тое, што ён абрынуў помсту на гаршкі і творы свае, бо яны кепска яму ўдаліся, — гэта было грэхам супроць *добрага густу*.

І ў пабожнасці ёсць добры густ, і густ гэты урэшце абвесціць: «Далоў *такога* Бога! Лепей зусім без Бога, лепей на сваю рызыку тварыць свой лёс і быць неразумным, лепей самому зрабіцца богам!»

«Што я чую! — усклікнуў апошні Папа, натапырыўшы вушы. — О Заратустра, ты, з усім няверствам, намнога пабожнейшы, чым думаеш! Няйнакш у табе нешта боскае зрабіла з цябе бязбожніка.

Ці не сама пабожнасць твая не дазваляе табе красці? А вялікая сумленнасць твая яшчэ выведзе цябе нават за межы дабра і зла.

Глянь, — што табе ўгатавана! Твае вочы, вусны і рукі ад вечнасці назначаны для дабраслаўлення. Бо дабрасловяць не аднымі толькі рукамі.

Хоць ты і настойваеш, што ты бязбожнік, — каля цябе я адчуваю, як нябачна ўзносяцца пахошчы дабраслаўленняў: і разбіраюць мяне боль і багавейнасць.

Дазволь мне быць тваім госцем, о Заратустра, на гэтую ноч! Нідзе на зямлі не будзе мне так добра, як у цябе!»

«Аман! Хай будзе так! — адказаў Заратустра, вельмі здзіўлены. — Там, угары, праходзіць дарога, там і Заратустрава пячора.

Сапраўды, я ахвотна правёў бы цябе, о шаноўны, бо люблю ўсіх пабожных. Але крык пра дапамогу кліча мяне пакінуць цябе. Ніхто не павінен упадаць у бедства ў маіх валоданнях; пячора мая — добрая гавань. І я найболей люблю вяртаць засмучаным цвёрдую зямлю, каб трывала, абедзвюма нагамі стаялі яны на ёй.

Але хто здыме табе з плячэй *тваю* тугу? Занадта слабы я на гэта. Сапраўды, доўга чакаць нам, перш чым хто-небудзь зноў уваскрэсіць твайго Бога.

Бо няма Яго больш сярод жывых: Ён памёр назусім».

Так сказаў Заратустра.

## Самы брыдкі чалавек

І зноў неслі Заратустру ногі па гарах і лясах, а вочы яго бесперастанку шукалі спраглага ў вялікай бядзе і таго, хто клікаў на дапамогу, і нідзе не знаходзіў яго. Аднак ён усю дарогу радаваўся ў сэрцы сваім, поўным удзячнасці. «Колькі добрага дарыў мне сённяшні дзень у адшкадаванне за тое, што так блага пачаўся! Якіх незвычайных субяседнікаў сустрэў я!

Цяпер буду доўга пераважоўваць іхнія словы, быццам добрыя зярняты; і зубы мае павінны як след перамалоць і перажаваць іх, пакуль не пацякуць яны ў душу маю, як малако!»

Але вось дарога зноў абагнула скалу, мясціна раптам перамянілася, і Заратустра ўступіў у царства смерці. Як скарчанелыя, застылі тут чорныя і чырвоныя выступы скал: не было ні травы, ні дрэў, не спявалі птушкі. Бо гэта была

даліна, якое пазбягалі ўсе звяры, нават драпежныя; толькі змеі адной пароды — брыдкія, тоўстыя, зялёныя — прыпаўзалі сюды паміраць, калі наставаў іхні час. Таму пастухі і называлі гэтую даліну: Смерць Змей.

Заратустра ўдаўся ў змрочныя ўспаміны: яму здалося, што ён ужо раз быў тут. І шмат чаго цяжкага наплыло на яго, так што ён ішоў усё павальней і павальней і нарэшце спыніўся. Але вось, падняўшы вочы, ён убачыў край дарогі нешта падобнае на чалавека, хоць наўрад ці гэта быў чалавек, — нешта неапісальнае і няўяўнае. І адразу Заратустру зрабілася вельмі сорамна, што давялося пабачыць такое на свае вочы: пачырванеўшы да сівых валасоў, ён адвярнуўся і ўжо хацеў быў пакінуць гэта ліхое месца. І раптам мёртвая пустыня загаварыла гукамі: нешта заклекатала і захрыпела з зямлі — так уначы хрыпіць і клякоча вада ў засмечанай водаправоднай трубе; нарэшце гэтыя гукі ператварыліся ў чалавечую мову, і такія былі словы:

«Заратустра! Заратустра! Разгадай маю загадку! Скажы, скажы! Што такое — *помста сведку?*

Я асцерагаю цябе, тут — гладкі і коўзкі лёд! Глядзі, будзь уважлівы, каб гонар твой не паламаў ног!

Ты лічыш сябе мудрым, горды Заратустра! Дык разгадай жа гэтую загадку, ты, які калоў зубамі самыя цвёрдыя арэхі! Разгадай загадку, якая ёсць я! Адкажы: хто *я?*»

Але калі Заратустра пачуў гэтыя словы, — як вы думаеце, што сталася з ягонай душой? *Спагада разабрала яго;* і ён упаў на зямлю, быццам дуб, які доўга супраціўляўся намогам многіх дрывасекаў, — дуб, які падае грузна, раптоўна,

палохаючы нават тых, хто хацеў зваліць яго. Але тут ён зноў падняўся, і твар яго зрабіўся суровы.

«Вядома, я пазнаю цябе, — сказаў ён ледзяным тонам, — ты — *забойца Бога!* Дай мне прайсці!

Ты *не перанёс* Таго, Хто бачыў *цябе,* — Які бачыў цябе наскрозь, — цябе, самага брыдкага чалавека. І ты адпомсціў гэтаму сведку!»

Так сказаў Заратустра і ўжо хацеў быў пайсці далей; але той, каму няма назову, ухапіўся за край яго вопраткі і зноў пачаў клекатаць і хрыпець, шукаючы слоў. «Застанься! — сказаў ён, — застанься! Не праходзь міма! Я адгадаў, якая сякера зваліла цябе: хвала табе, о Заратустра, што ты зноў падняўся!

Я бачу, ты добра разгадаў душу забойцы — душу забойцы Бога. Застанься! Прысядзь да мяне, не пашкадуеш!

Да каго ж я імкнуўся, як не да цябе? Застанься, сядзь! Але не глядзі на мяне! Ушануй маю брыдоту!

Цяпер *ты* — маё апошняе прыстанішча, бо за мной гоняцца. Але гоняцца *не* з нянавісцю сваёй і *не* з ганчакамі — о, я смяяўся б з такога пераследу, я радаваўся б яму і ганарыўся б ім!

Хіба ж поспех не быў заўсёды на баку гнаных? А той, хто гоніць сумленна, канчае тым, што робіцца паслядоўнікам, — раз ужо ён *следуе* след у след! Але ад іх *спагадлівасці,*

— ад іх спагадлівасці ўцякаю я і прыбягаю да цябе. О Заратустра, абарані мяне, ты — апошняе маё прыстанішча, ты — адзіны, хто мяне разгадаў:

— ты разгадаў, як яно выпадае таму, хто забіў *Яго.* Застанься! А калі хочаш пайсці, нецярплівы, не ідзі той дарогай, якою ішоў я. *Тая* дарога пагібельная.

Ты злуешся, што я надта доўга выварочваюся навыварат? Што я ўжо раю табе? Але ведай, што ў мяне, самага брыдкага,

— велізарныя цяжкія ногі. Там, дзе я праходжу, дарога сапсаваная. Усякую дарогу я запячатваю смерцю і ганьбаю.

Але па тым, як ты хацеў моўчкі прайсці міма мяне, па тым, як ты пачырванеў — а я і гэта заўважыў, — я пазнаў у табе Заратустру.

Кожны іншы словам і позіркам кінуў бы мне міласціну — спагаду сваю. Але я не настолькі ўбогі, каб прыняць яе, — і ты разгадаў гэта,

— я нават залішне *багаты*, багаты на найвялікшае і найвусцішнейшае, на брыдкае і невыказнае! Твой сорам, о Заратустра, *ушанаваў* мяне!

З цяжкасцю я вырваўся з натоўпу спагадцаў, каб знайсці таго адзінага, хто сёння вучыць: «Спагада настырная», каб знайсці цябе, о Заратустра!

— будзе гэта божая альбо чалавечая спагада — яна заўсёды працівіцца сораму. І нежаданне дапамагчы можа быць больш высакароднае, чым іншая дабрадзейнасць, якая адразу падскоквае на дапамогу.

Але якраз спагада і называецца сёння дабрадзейнасцю ва ўсіх малых людзей: няма ў іх багавейнага захаплення вялікім няшчасцем, вялікай брыдкасцю, вялікай няўдачай.

Цераз іхнія галовы гляджу я ўдалечыню, як глядзіць сабака паверх авечак, што збіліся ў гурт. Усе яны — маленькія, зычлівыя, мяккапоўсныя шэрыя людцы.

Як чапля, закінуўшы галаву, з пагардай глядзіць на маленькія сажалкі, так і я гляджу на мітуслівую безаблічную масу нікчэмных пахацінстваў і душ.

Даўно ўжо прызнана права за ўсімі гэтымі малымі: так што яны нарэшце атрымалі і ўладу і цяпер павучаюць: «Дабро — гэта тое, што лічаць добрым малыя людзі».

А «ісцінай» прызнаюць сёння тое, што прапаведаваў той дзіўны святы і заступнік за ўсіх малых, які і сам выйшаў з іх і сведчыў пра сябе так: «Я ёсць ісціна».

Гэта праз ягоную нясціпласць даўно пачалі надзімацца ад важнасці ўсе малыя і нікчэмныя; ён не вучыў нейкай мізэрнай аблудзе, калі вучыў: «Я ёсць ісціна».

Ці адказаў хто-небудзь больш ветліва гэтаму гардзею? А ты, о Заратустра, прайшоў міма і сказаў: «Не! Не! Тры разы не!»

Ты асцерагаў ад гэтай аблуды, ты першы асцярог ад спагады — вядома, не ўсіх, але ж сябе і тых, хто роднасны табе.

Ты саромеешся сораму таго вялікага пакутніка; і сапраўды, калі ты кажаш: «Ад спагады сунецца на людзей вялікая хмара, сцеражыся!»

— калі ты павучаеш: «Усе стваральнікі не маюць жалю, любая любоў вышэйшая за спагаду»: тады думаю я — як добра вывучыў Заратустра ўсе прыкметы буры!

Але і сам ты — сцеражыся сваёй спагады! Бо многія ўжо ў дарозе да цябе, многа спрагненых, роспачных, скалелых.

Сцеражыся ж і мяне. Ты разгадаў найлепшую маю — і разам з тым найгоршую загадку маю, — ты разгадаў мяне самога і тое, што ўчыніў я. Я ведаю, якая сякера можа цябе спусціць.

Але Ён — *не павінен быў памерці:* сваім ўсёвідушчым вокам бачыў Ён *усе* глыбіні і асновы чалавека, усю яго схаваную ганьбу і брыдоту.

Спагада ягоная не ведала сораму: Ён пранікаў

у самыя брудныя мае закануркі. Ён павінен быў памерці — той, хто быў такі цікаўны, настырны і так ахвотна спагадаў.

Ён увесь час *бачыў мяне:* і я захацеў адпомсціць такому сведку — або не жыць самому.

Бог, які бачыў усё, *нават чалавека:* гэты Бог павінен быў памерці! Бо *нясцерпна* чалавеку, каб у яго быў такі сведка».

Так казаў самы брыдкі чалавек. А Заратустра ўстаў і намерыўся пайсці: бо холад пранізваў яго да самых касцей.

«Ты, каму няма назову, — сказаў ён, — ты асцерагаў мяне ад дарогі, па якой сам ішоў. У падзяку за гэта я раю табе сваю. Зірні, вунь там, угары, Заратустрава пячора.

Шырокая і глыбокая яна, і многа ў ёй зацішных куточкаў; нават самы таемны знойдзе там сабе прытулак. А каля пячоры — безліч расколін і нор, у якіх жывуць самыя розныя жывёлы; тыя, што скачуць, пырхаюць і поўзаюць.

Ты, выгнанец, які выгнаў сябе сам, ты не хочаш жыць сярод людзей, не хочаш іхняй спагады? Ну што ж! Рабі, як я! Так і навучышся ад мяне; навучыцца той, хто робіць.

А спачатку і перш за ўсё пагутары з маімі звярамі! Самы ганарысты звер і самы мудры — хай яны будуць найлепшымі нашымі дарадцамі!»

Так сказаў Заратустра і пайшоў далей яшчэ павальней і ўсё больш задуменны: бо шмат чаго пытаўся ён сам у сябе і нялёгка даваліся яму адказы.

«Аднак, які ўсё-такі мізэрны чалавек, — думаў ён у сэрцы сваім. — Які брыдкі, як хрыпіць і як многа ў ім схавана сораму!

Кажуць, чалавек любіць сябе: о, якою ж вялікаю павінна быць гэтая любоў да сябе! Як многа пагарды супрацьстаіць ёй!

І гэты, што сустрэўся мне на дарозе, ён таксама любіць сябе, пагарджае сабою, — вялікая была любоў ягоная і вялікая пагарда.

Я яшчэ не сустракаў нікога, хто глыбей пагарджаў бы самім сабою: і *гэта* — таксама вышыня. Шкада, магчыма, ён і быў *той самы* вышэйшы чалавек, крык якога я чуў?

Я люблю тых, хто здольны на вялікую пагарду. Аднак чалавек ёсць нешта, што трэба пераадолець...»

## Жабрак-самахот

Калі Заратустра пакінуў самага брыдкага чалавека, яму зрабілася холадна, і ён адчуў сябе асамотненым: бо так многа холаду і самоты перажыў ён у сэрцы, што і сам закарчанеў ад холаду. Але ідучы ўсё далей і далей, то ўверх, то ўніз, мінуўшы зялёны луг і дзікае камяністае рэчышча, дзе калісьці цурчаў нецярплівы ручай, ён раптам адчуў, што нагрэўся, і на сэрцы ў яго пацяплела.

«Што са мною? — пытаўся ён у сябе. — Мяне бадзёрыць нешта цёплае і жывое, яно, мабыць, недзе блізка.

Я ўжо не такі самотны; невядомыя спадарожнікі і браты лунаюць вакол мяне, іх цёплае дыханне кранае маю душу».

Але калі ён агледзеўся, шукаючы тых, хто суцешыў яго ў адзіноце, — і вось! — выявілася, што гэта былі каровы на пагорку; іх блізкасць і пах сагрэлі яму сэрца. Аднак, мяркуючы па ўсім, гэтыя каровы ўважліва слухалі нечыя словы і не звярталі ўвагі на Заратустру, які набліжаўся да іх. А калі ён падышоў зусім блізка, выразна

пачуў чалавечы голас аднекуль з сярэдзіны статка: а ўсе каровы павярнулі галовы да таго, хто гаварыў.

Тады Заратустра імкліва кінуўся на ўзвышэнне і разагнаў жывёлу, бо спалохаўся, каб не сталася тут з кім бяды, у якой наўрад ці дапаможа каровіна спагада. Але ён памыліўся; перад ім на зямлі сядзеў чалавек і, здавалася, угаворваў жывёлаў не баяцца яго, — міралюбны чалавек і горны прапаведнік, з вачэй яго тачылася сама дабрыня. «Чаго ты шукаеш тут?» — усклікнуў уражаны Заратустра.

«Чаго я тут шукаю? — адказаў той. — Таго самага, чаго і ты, перашкода радасці! Я шукаю на зямлі шчасця.

Я хачу навучыцца шчасця ў кароў. Бо, хай табе будзе вядома, я з самай раніцы гутару з імі, і яны ўжо гатовыя былі даць мне адказ. Навошта ты паразганяў іх?

Бо калі не навернемся і не зробім як каровы, не ўвойдзем у царства нябеснае. Асабліва ж бо вось чаго мы павінны ў іх навучыцца: умення жаваць.

І сапраўды, калі б чалавек здабыў нават цэлы свет і не навучыўся як след жаваць: якая карысць яму? Ён не пазбыўся б смутку,

— свайго вялікага смутку, які называецца — *агіда*. У каго з сённяшніх жывых вусны не поўныя агіды, і вочы, і сэрца? У цябе таксама! Аднак жа зірні на гэтых кароў!»

Так гаварыў горны прапаведнік і, нарэшце, перавёў позірк свой на Заратустру, — бо дагэтуль ён любоўна глядзеў на кароў; і яго быццам падмянілі. «Хто ты, з кім я гавару? — усклікнуў ён спалохана і падхапіўся.

— Гэта чалавек без агіды, гэта — Зара-

тустра, пераможца найбольшай агіды, гэта вусны, і позірк, і сэрца самога Заратустры».

Кажучы гэтыя словы, з вачыма, поўнымі слёз, ён цалаваў Заратустру ў рукі, як чалавек, якому неспадзявана з неба ўпаў скарб альбо нешта вельмі каштоўнае. А каровы глядзелі і дзіву даваліся.

«Не гавары пра мяне, ты, дзівосны! Блізкі сэрцу майму! — сказаў Заратустра, ухіляючыся ад ягонай пяшчоты. — Скажы мне спачатку пра сябе! Ці не ты той дабрахотны жабрак, які калісьці адмовіўся ад вялікага багацця,

— які пасаромеўся свайго багацця і ўсіх багатых і ўцёк да самых бедных, каб падарыць ім свой лішак і сваё сэрца? Але яны не прынялі яго».

«Але яны не прынялі мяне, — сказаў дабрахотны жабрак, — ты ведаеш гэта. І тады пайшоў я да жывёлаў і да гэтых кароў».

«І так ты здабыў разуменне таго, наколькі цяжэй даваць, чым браць, — перапыніў яго Заратустра, — навучыўся таго, што дарыць, — гэта *мастацтва*, апошняе, найхітрэйшае мастацтва дабрыні».

«Асабліва ў нашыя дні, — адказаў дабрахотны жабрак. — У нашыя дні, калі ўсе нізкія апантаныя баязлівай прагаю бунту і зрабіліся па-свойму пыхлівыя: па-свойму — гэта значыць так, як уласціва чэрні.

Бо вядома табе, што настала часіна пачварнага, пагібельнага і самага працяглага мяцяжу чэрні і рабоў: але ўсё расце і шырыцца!

Дабрачынства і невялікія саступкі ўжо абураюць ніжэйшых: хай усе багатыя будуць напагатове!

У такіх, хто, як пузатая пляшка, па кропельцы

выдае змесціва з вузенькага гарлячка, сёння ў такіх пляшак гэты гарлячок адбіваюць!

Пажадлівая прагавітасць, жоўцевая зайздрасць, затоеная помслівасць, фанабэрыстасць чэрні: як усё гэта кідаецца ў вочы! Ужо не правільна, што ўбогія — шчасныя. Царства нябеснае — у кароў».

«А чаму не ў багатых?» — выпрабавальна спытаўся Заратустра, адганяючы кароў, якія даверліва пазіралі на міралюбнага прапаведніка.

«Чаго спакушаеш мяне? — адказаў той. — Ты ведаеш сам, і нават лепей за мяне. Што надзіла мяне ў бедных? Ці ж не агіда да нашых багатых?

— да гэтых калоднікаў багацця, якія з любога смецця зыскуюць сабе карысць, да гэтай набрыдзі з халоднымі вачыма і пажадлівымі думкамі, ад якой смурод шугае пад неба,

— да гэтай раззалочанай, наскрозь салжэлай чэрні, чые бацькі былі злодзеі і карміліся падлай, збіраючы здыхліну, былі ласыя да баб, памаўзлівыя і забыўлівыя: бо ўсе яны як усё адно блудадзейка па сутнасці сваёй?

Чэрня ўнізе, чэрня ўгары! Што значыць сёння «бедны» і «багаты»! Я ўжо перастаў бачыць розніцу паміж імі, — і вось уцёк ад іх і бег далей і далей, пакуль не прыйшоў да гэтых кароў».

Так гаварыў прапаведнік, сапучы і пацеючы: а каровы ўсё дзіву даваліся. Заратустра ж з усмешкай слухаў гэтыя суровыя казані, гледзячы яму ў твар, і моўчкі ківаў галавою.

«Ты сам сябе гвалціш, горны прапаведнік, ужываючы такія суровыя словы. Да такіх сур'ёзных рэчаў не дараслі яшчэ ні вочы, ні вусны твае.

І, падобна на тое, што страўнік твой таксама супраціўляецца ўсёй тваёй нянавісці і гневу з

шумам каля рота. Яму трэба што-небудзь уеднае: мяса — яўна не стравіцца.

Хутчэй, як мне здаецца, ты корміцся раслінамі і каранямі. Можа, жуеш зерне. Але напэўна ты не схільны да радасцяў пачуццёвай, мясной ежы і аддаеш перавагі мёду».

«Ты адгадаў, — з лёгкім сэрцам адказаў дабрахотны жабрак. — Я люблю мёд і жую зерне, бо я шукаў ежы, якая прыемная на смак і ачышчае дыханне:

— на глытанне якой патрэбен час, які запаўняе цэлы дзень, даючы працу сківіцам гультаёў.

Але найдалей у гэтым пайшлі, вядома ж, каровы: гэта ім належыць адкрыццё, што можна цэлыя дні жаваць жуйку і вылежвацца на сонцы. І яшчэ яны цураюцца ўсялякіх змрочных думак, якія вярэдзяць сэрца».

«Ну што ж! — сказаў Заратустра. — Ты павінен бачыць і *маіх* звяроў — майго арла і маю змяю; такіх цяпер не знойдзеш на цэлай зямлі.

Глядзі, вунь там ідзе дарога да маёй пячоры: сёння ўначы будзь у ёй госцем. І пагутары са звярамі маімі пра шчасце звяроў,

— пакуль сам я не вярнуся. Бо цяпер я паспяшаюся ад цябе — мяне кліча крык на дапамогу. А ў мяне ты знойдзеш і мёд — сотавы мёд, халаднаваты, як лёд, і залацісты: частуйся!

Але зараз жа развітайся са сваімі каровамі, ты — дзівосны і блізкі сэрцу майму! Развітайся, нават калі табе і нялёгка гэта. Бо яны — самыя пяшчотныя твае сябры і настаўнікі!»

«За выключэннем таго, якога я люблю яшчэ больш, — адказаў дабрахотны жабрак. — Ты і сам добры, ты дабрэйшы за любую карову, о Заратустра!»

«Прэч, прэч, падступны ліслівец! — злосна

ўскліknуў Заратустра. — Навошта ты спрабуеш папсаваць мяне мёдам лёстак і пахвалою?

Прэч, прэч ад мяне!» — ускліknуў ён яшчэ раз і замахнуўся кіем на злагоджанага жабрака: але той борздзенька шуснуў убок.

## Цень

Але як толькі збег дабрахотны жабрак і Заратустра застаўся адзін, ён пачуў за сабою нечы голас, які клікаў: «Стой! Заратустра! Пачакай! Гэта ж я, о Заратустра, я, твой цень!» Але Заратустра не стаў чакаць, бо раптоўная прыкрасць агарнула яго, таму што так цесна зрабілася ў ягоных гарах. «Дзе маё адасабненне? — сказаў ён.

— Далібог, гэта ўжо занадта; гэтыя горы кішаць людзьмі, царства маё не ад *свету гэтага*, мне патрэбны новыя горы.

Мой цень кліча мяне? Што мне да ценю? Хай даганяе мяне, я ўцяку ад яго».

Так сказаў Заратустра сэрцу свайму і пабег. Але той, хто быў за ім, патрапляў след у след: так што цяпер трое беглі адзін за адным: папераздзе ўсіх бег жабрак-дабрахот, за ім Заратустра, а ззаду ўсіх — ягоны цень. Але нядоўга беглі яны так, бо неўзабаве Заратустра схамянуўся, дайшоў да памяці сваёй і адразу скінуў з сябе ўсю прыкрасць і агіду.

«Што, — сказаў ён, — хіба здавён часу не ўбарохваліся мы, старыя пустэльнікі і святыя, у розныя смешныя прыгоды?

Сапраўды, высока ўзрасло ў гэтых гарах неразумства маё! І вось — чую, як тры пары ног трох неразумных вар'ятаў тупацяць следам!

Не, нельга Заратустру баяцца свайго ценю! Аднак, здаецца мне, яго ногі даўжэйшыя за мае».

Сказаў гэта Заратустра, смеючыся вачамі і ўсёй нутробай сваёй, спыніўся і шпарка павярнуўся назад, ледзь не перакуліўшы пры гэтым цень: бо той бег за ім па пятах і да таго ж змогся. Калі Заратустра ўважліва разгледзеў яго, дык так жахнуўся, быццам знячэўку ўбачыў здань: такі худы, пачарнелы, змардаваны і лядашчы быў яго спадарожнік.

«Хто ты? — рэзка спытаўся Заратустра. — Што ты тут робіш? І з якое такое рацыі называеш сябе маім ценем? Ты не падабаешся мне».

«Даруй мне, — адказаў цень, — даруй, што гэта я; ну, а калі я не падабаюся табе, што ж! хвала табе і твайму добраму густу.

Я вандроўнік, які прайшоў шмат дарог следам за табою: я заўсёды ў дарозе, але без мэты, без радзімы, — так што, сапраўды, у многім я падобны на Вечнага Жыда, толькі што я не вечны і да таго ж не жыд.

Што? Няўжо я павінен быць увесь час у дарозе? Пацяганы, гнаны, кружляны ўсякім ветрам? О зямля, занадта круглая ты мне зрабілася!

Я пабываў ужо на ўсякай паверхні, засынаў, як стомлены пыл, асядаючы на люстэрках і шыбах: у мяне толькі забіраюць і нічога мне не даюць, а я чэзну — я амаль зраўняўся з ценем.

Але за табою, о Заратустра, я бег і бадзяўся, а калі часам і хаваўся ад цябе, дык усё-такі быў тваім ценем: дзе б ты ні сеў, садзіўся і я.

З табою абышоў я самыя далёкія і халодныя светы, падобны на прывід, які бяжыць па сваёй волі па снезе і па заснежаных дахах.

З табою імкнуся я да ўсяго забароненага, благога, далёкага: і калі ёсць у мяне якаянебудзь дабрачыннасць, дык толькі тая, што не баяўся я ніякіх забаронаў.

З табою разбураў я ўсё, што калісьці шанавала сэрца маё, усе прымежныя камяні, усіх куміраў перакульваў я, ганяўся за ўсімі небяспечнымі жаданнямі; сапраўды, быў час, калі ніводнае злачынства не магло спыніць бегу майго..

З табою я развучыўся верыць у словы, у каштоўнасці, у вялікія імёны. Калі д'ябал скідае скуру, імя ягонае ці ж не спадае разам з ёю? Імя — таксама скура. Магчыма, і сам д'ябал — не болей чым абалонка.

«Няма нічога праўдзівага, усё дазволена» — так даводзіў я сабе. У самыя халодныя воды кідаўся я галавою і сэрцам. О, як часта праз гэта стаяў я голы і чырвоны як печаны рак!

Шкада, куды падзелася ў мяне ўсё добрае, усякі сорам, вера ў добрых! Дзе тая ілжывая нявіннасць, якая была ў мяне калісьці, нявіннасць добрых і іх шляхетнай маны!

Сапраўды, часта-часта ішоў я па пятах за ісцінай: і вось яна адкінула мяне. І часта здаралася, што якраз тады, калі я наўмысна хлусіў, я дакранаўся да ісціны.

Вельмі многае зрабілася мне ясна, і таму перастала цікавіць. Памерла ўсё, што я любіў. Як жа цяпер мне любіць сябе?

«Жыць, каб жыццё было радасцю, альбо зусім не жыць» — так хачу я, так хоча і праведнік. Але шкада! Ці ёсць яшчэ *ў мяне* радасць?

Ці ёсць *у мяне* мэта? Тая гавань, да якое ляціць *мой* ветразь?

Вецер у дарогу? О, толькі той, хто ведае, *куды* плыве, ведае, які вецер — у дарогу, які нясе ў мора.

Што ж яшчэ засталося ў мяне? — Стомленае, дзёрзкае сэрца; нясталая воля; паніклыя крылы; змуляны хрыбет.

А пошукі *маёй* радзімы! О Заратустра, ты ведаеш, што пошукі гэтыя былі цяжкім выпрабаваннем, і вось растае мая сіла.

«Дзе ж *мой* дом?» — пра гэта і пытаўся я і нястомна шукаў яго, але так і не знайшоў. О вечнае «Усюды», вечнае «Нідзе», о вечнае «Марна»!

Так гаварыў цень, і выцягваўся твар у Заратустры ад яго слоў. «Так, ты — мой цень! — вымавіў ён нарэшце жалобна.

Немалая небяспека пагражае табе, ты, вольны дух і вандроўнік! Кепскі выдаўся табе дзень: глядзі, каб не дагнаў цябе яшчэ горшы вечар!

Такія валацугі, як ты, канчаюць так, што нават турма здаецца ім шчасцем. Ці бачыў ты калі, як спяць злачынцы ў вязніцы? Яны спяць спакойна, цешацца такой нязвыклай у іх бяспекаю.

Сцеражыся, каб урэшце не захапіла цябе якая-небудзь вузкая вера, прывід нерухомы і суровы! Бо вось ужо і цяпер цябе спакушае і паняверыць усё абмежаванае і непарушнае.

Ты страціў мэту: шкада, як знябыцца, як пазбыцца табе гэтай страты? Разам з мэтаю ты страціў і шлях!

Нябогі бадзяга, летуценнік, стомленая матылка! Ці не хочаш ты на гэты вечар здабыць прыстанак і спакой? Ідзі ж наверх у маю пячору!

Вось дарога, яна завядзе да пячоры. А я спяшаюся і пакіну цябе. І быццам ужо нейкі цень насоўваецца на мяне.

Каб зноў засвятлела вакол мяне, пайду далей адзін. Бадзёрасць і радасць, а няхай жа яны будуць са мною ў дарозе! А ўвечары ў мяне будуць танцы!..»

Так сказаў Заратустра.

# Аполудні

А Заратустра ўсё бег і нікога больш не сустракаў. Шмат гадзін быў ён адзін, знаходзіў сябе зноў і зноў, сёрбаў сваю адзіноту, цешыўся асалодай і думаў пра розныя добрыя рэчы. Але аполудні, калі сонца стаяла проста над галавой, ён праходзіў каля старадрэвіны, крывое, з гузаватымі сукамі, любоўна і шчодра ўвітае вінаграднай лазой і схаванае ёю ад самое сябе: сакавітыя жоўтыя гронкі звісалі з дрэва на спакусу дарожніку. Заратустра ўжо хацеў быў спатоліць лёгкую смагу і нават працягнуў быў руку па гронку, калі іншае, мацнейшае жаданне апанавала яго, захацелася яму легчы апоўдні ў зацішку дрэва і заснуць.

Так ён і зрабіў; і як толькі лёг сярод таямнічай цішыні разнатраўя, адразу забыўся пра смагу і заснуў. Бо, як кажа Заратустрава прымаўка, патрэба за патрэбу патрэбнейшая. Але вочы яго не спалі: не маглі яны наталіцца раскошаю дрэва і любоўю лазы вінаграднай і нахваліцца імі. А засынаючы, так казаў Заратустра сэрцу свайму:

«Ціха! Ціха! У гэтую хвіліну свет ці ж зрабіўся дасканалы? Што са мною?

Як пяшчотны вятрэц нябачна скача па ціхім, гладкім моры, лёгкі, быццам пёрка, так сон скача па мне.

Ён не стуляе вачэй маіх, душа мая чувае. Сапраўды, няважкі ён, быццам парушынка!

Ён угаворвае мяне, сам не ведаю — як? Аднекуль з сярэдзіны падае ён ласкавую руку і злёгку дакранаецца да мяне; ён схіляе душу маю пацягнуцца, раскінуцца:

— і пацягваецца яна, мая стомленая, дзівос-

ная душа! Ці не настаў у яе якраз у гэты полудзень вечар сёмага дня? Альбо надта доўга блукала яна, шчасная, сярод добрых і спелых рэчаў?

Яна выцягваецца і робіцца доўгая-доўгая! Ціха ляжыць яна, дзіўная, душа мая. Надта многа добрага скаштавала яна, і ёй дакучае залатая журба, і крывяцца вусны ў яе.

Быццам карабель, які ўваходзіць у ціхую бухту і прычальвае да берага, стомлены доўгімі падарожжамі і невядомымі морамі. Хіба ж зямля не надзейнейшая?

— быццам карабель, які прыстае, прынікае да зямлі, — і цяпер даволі павуку працягнуць да берага сваю павуціну — і не трэба мацнейшага прычала;

— быццам стомлены карабель у ціхай затоцы, адпачываю цяпер і я паблізу зямлі — даверлівы, верны, чакальны, прывязаны да яе найтанчэйшымі ніткамі.

О шчасце! О шчасце! Ты ляжыш на траве, душа мая; ці не хочаш ты спяваць? Але ў гэтую таямнічую, урачыстую гадзіну ніводзін пастух не грае на жалейцы.

Сцеражыся! Спякотлівы полудзень спачыў на нівах. Не спявай! Ціха! Свет удасканаліўся!

Не спявай, палявая птушка, душа мая! Не гавары нават шэптам! Зірні — навокал так ціха! Спіць стары полудзень, варушыць губамі ў сне: ці не п'е ён у гэтую хвіліну сваю кроплю шчасця,

— бурштынавую кроплю шчасця, старога залатога віна? Непрыкметна прабягае па старым полудні ягонае шчасце і смяецца. Так смяюцца багі. Ціха!

«О, як мала трэба для шчасця!» — так казаў я калісьці і думаў, што я разумны. Але цяпер зразумеў, што гэта была няпраўда. Мудрыя вар'яты гавораць лепей.

Бо ўсё самае малое, самае ціхае і найлягчэйшае: шэлест яшчаркі, подых ветрыку, імгненне — малое, вось што ёсць знак *найлепшага* шчасця. Ціха!

Што са мною: прыслухайся! Ці не адляцеў час прэч? Ці не падаю я? Ці не ўпаў я ў крыніцу вечнасці?

Што са мною? Ціха! Я паранены — на жаль — у сэрца? У сэрца? О, разбіся, разбіся, сэрца, пасля такога шчасця, ад такое раны!

Што? У гэтае імгненне свет не зрабіўся мне дасканалы? Круглы і спелы? О, куды ён імчыцца, залаты шар? Пабягу за ім!

Ціха!» (І тут Заратустра пацягнуўся і зразумеў, што спаў.)

«Уставай, лежань! — сказаў ён сабе. — Уставай, калі заснуў апоўдні! Ану, падымайцеся, старыя ногі! Пара, даўно пара, яшчэ немалы кавалак дарогі перад вамі.

Вось вы і выспаліся, а ці доўга спалі? Паўвечнасці! Ну, падымайся ж, старое сэрца! Ці многа часу табе трэба, каб прачнуцца пасля такога сну?»

(Але тут ён зноў заснуў, а душа ўсё адгаворвала яго, супраціўлялася і прылегла зноў.) «Пакінь мяне! Ціха! У гэта імгненне свет ці ж не ўдасканаліўся? О залаты шар!»

«Уставай, — казаў Заратустра, — падымайся, зладзюжка, гультаіны кавалак! Што? Табе абы толькі пацягвацца, пазяхаць, уздыхаць ды падаць у глыбокія крыніцы?

Ды хто ты ў мяне? О душа мая!» (І тут ён спалохаўся, бо сонечны прамень упаў яму на твар.)

«О неба над мною, — сказаў ён, уздыхаючы, падняўся і сеў, — гэта ты глядзіш на мяне? І слухаеш, што кажа мая дзівосная душа?

Калі ты вып'еш гэтую кроплю расы, што ўпала на ўсё зямное, калі вып'еш ты гэтую старую душу маю,

— о крыніца вечнасці! О светлая паўдзённая бездань, якая даводзіць да трымцення! Калі зноў убярэш ты ў сябе маю душу?»

Так сказаў Заратустра і падняўся з-пад дрэва, быццам ачуўшыся пасля нейкай дзіўнай п'янасці: і што ж! Сонца, як і раней, стаяла проста над галавою. І з гэтага можна было справядліва вывесці, што гэтым разам Заратустра спаў нядоўга.

## Вітанне

Толькі пад вечар пасля доўгіх і марных пошукаў і блуканняў Заратустра вярнуўся да сваёй пячоры. Але калі ён быў ад яе не больш за дваццаць крокаў, здарылася нешта такое, чаго ён зусім не чакаў: ён зноў пачуў моцны *крык на дапамогу*. І — чыстае дзіва! Гэтым разам крык ужо чуўся з пячоры. Гэта быў працяглы, дзіўны, жудасны крык, і Заратустра ясна пачуў, што крычалі адразу некалькі галасоў, хоць зводдаль яму здавалася, быццам крык быў з адных вуснаў.

Заратустра кінуўся да пячоры, і што ж! Вось што ён убачыў: у пячоры поплеч сядзелі ўсе тыя, каго ён спаткаў за цэлы дзень, — правы кароль і левы кароль, стары чарадзей, Папа, жабрак-дабрахот, цень, сумленнік духам, змрочны вяшчун і асёл: а самы брыдкі чалавек усклаў на сябе карону і аперазаўся двума пурпуровымі паясамі, бо, як усе агідныя, любіў строіцца і прыхарошвацца. І Заратустраў арол таксама быў сярод гэтай панылай кампаніі, увесь натапыраны і ўстрывожаны, бо яму даводзілася адказваць за шмат

чаго такога, на што гонар ягоны не меў адказу; а мудрая змяя абвівала яго за шыю.

З вялікім здзіўленнем глядзеў Заратустра на ўсё гэта; потым з дабрадушнай цікаўнасцю пачаў разглядаць сваіх гасцей, чытаючы ў кожнага ў душы, і зноў здзіўляўся. Тым часам усе паўставалі і багавейна чакалі, што ён ім скажа. І Заратустра сказаў так:

«Вы, паняверцы! Вы, дзівосныя! Дык гэта *ваш* крык на дапамогу я чуў? Цяпер я ведаю, дзе знайсці таго, каго я марна шукаў цэлы дзень — вышэйшага чалавека,

— у маёй пячоры сядзіць ён, гэты вышэйшы! Але з чаго я дзіву даюся! Ці ж не сам я завабіў яго мядоваю ахвяраю і хітрай прынадай свайго шчасця?

Аднак здаецца мне, што вы, якія клічаце на дапамогу, блага пасуеце адзін аднаму, седзячы тут разам, і будзіце ўзаемную варожасць у вашых сэрцах. Трэба, каб спярша прыйшоў нехта,

— нехта, здольны прымусіць вас зноў смяяцца, — добры вясёлы блазнюк, неслух, скакун і ветрагон, які-небудзь стары шалапут: а вы што на гэта скажаце?

Але даруйце мне, о паняверцы, што я кажу такімі нікчэмнымі словамі, сапраўды нявартымі вас, высокіх маіх гасцей! Аднак вы не адгадаеце, што бадзёрыць маё сэрца:

— гэта вы самыя і выгляд ваш, даруйце ж мне гэта! Бо кожны бадзёрыцца, як толькі зірне на паняверку; і кожны лічыць сябе дастаткова моцным, каб суцешыць яго.

Мне самому далі вы сілу — добры дарунак, о высокія мае госці! Добры дарунак за гасціннасць! Ну што ж, не гневайцеся, калі я прапаную вам свой.

Тут царства маё і валадарства маё: і хай усё маё ў гэты вечар і ў гэтую ноч будзе ваша. Звяры мае паслужацца вам: мая пячора хай будзе вам на адпачынак!

У мяне, у маім доме, ніхто не павінен паняверыцца, у сваіх валоданнях я абараню кожнага ад дзікіх звяроў ягоных. І першае, што прапаную я вам, — бяспека!

А другое — мой мезенец. Як толькі *мой мезенец* будзе ў вас, вы схопіце і ўсю руку, ат, воля ваша! І сэрца ў дадатак! Прашу вас, госці, дарагія госцейкі!»

Так сказаў Заратустра, смеючыся ад любові і гневу. Пасля гэтага вітання госці спачатку пакланіліся і пачціва маўчалі, а кароль справа адказваў яму ад усіх.

«Па тым, як ты склаў вітанне і падаў нам руку, мы пазнаём у табе Заратустру. Ты прынізіўся перад намі; ты мала не зганьбіў наша пашанаванне:

— але хто здолеў бы, як ты, прынізіцца так годна? І *гэта* бадзёрыць нас і дае радасць вачам і сэрцу.

Каб пабачыць такое, мы ахвотна падняліся б на больш высокія горы, чым гэтыя. Бо з прагаю да відовішчаў прыйшлі мы сюды, мы хацелі пабачыць, *што* прасвятляе журботны пагляд.

І вось — наш крык на дапамогу ўжо адгучаў, мінуўся. Ужо расхінуліся і напоўніліся захапленнем нашыя пачуцці і сэрцы. Яшчэ крыху, і мужнасць нашая стане дзёрзкасцю.

Не расце на зямлі, Заратустра, нічога больш радаснага, чым высокая моцная воля: яна — найпрыгажэйшая расліна. *Такое* дрэва ацаляе ўсю мясцовасць.

Да кедра прыпадобню таго, о Заратустра, хто

вырастае падобны да цябе: гонкі, маўклівы, суровы, самотны, велічны, гнуткі і пругкі, шляхетны,

— раскідзіста-галінасты над валоданнямі *сваімі;* адважны субяседнік вятроў, і бураў, і ўсяго, што адвеку блізкае да вышыняў,

— і яшчэ больш адважны адказчык, валадар і пераможца: хто б не падняўся на высокую гару, каб пабачыць такія дрэвы?

Тут, каля твайго дрэва, о Заратустра, ажывае нават змрочны і бязрадны: гледзячы на цябе, супакойваецца непастаянны, і гоіцца сэрца ягонае.

І сапраўды многія позіркі звяртаюцца сёння да тваёй гары і твайго дрэва; узнікла вялікая туга, і многія пытаюцца: хто такі Заратустра?

І ўсе, у чый слых ты калісьці па кропельцы ўліваў сваю песню і свой мёд, усе, што адышлі ад свету, пустэльнікі і тыя, хто самотны ўдвух, пачалі гаварыць сэрцу свайму:

«Ці жывы яшчэ Заратустра? Няварта жыць далей, усё адно ўсё марнае: альбо — мы павінны жыць з Заратустрам!»

«Чаму не прыходзіць ён, хто так даўно абвясціў пра сябе? — так пытаюцца многія. — Ці адасобленасць паглынула яго? Ці мы самі павінны прыйсці да яго?»

І вось цяпер сама адасобленасць сатлела і разбураецца, нібы магіла, якая рассыпаецца і ўжо не можа трымаць мерцвякоў сваіх. Паўсюль відны ўваскрэслыя.

Усё вышэй і вышэй уздымаюцца хвалі вакол тваёй гары, о Заратустра. І якая высокая яна ні ёсць, многія дойдуць да тваёй вышыні: нядоўга яшчэ човен твой будзе заставацца на сушы.

І што мы, спанявераныя, прыйшлі цяпер у тваю пячору і ўжо вызваліліся ад няверства — гэта ёсць

азнака, папярэдняя азнака таго, што лепшыя за нас цяпер у дарозе да цябе,

— бо ўжо ў дарозе да цябе апошняе, што засталося ад Бога сярод людзей, менавіта: усе людзі вялікай тугі, вялікай агіды, вялікай перанасычанасці,

— кожны, хто не хоча жыць іначай, як навучыўшыся зноў *спадзявацца,* навучыўшыся ад цябе, Заратустра, *вялікай* надзеі!»

Так гаварыў кароль справа, а пасля схапіў за руку Заратустру, каб пацалаваць у яе; але Заратустра ўхіліўся ад гэтага знаку павагі і спалохана адступіўся назад, раптоўна і моўчкі, быццам знік у глыбокай далечыні. Але адразу ж зноў быў з гасцямі сваімі, глядзеў на іх ясным, выпрабавальным позіркам і гаварыў:

«О госці мае, высокія людзі, я хачу прамаўляць да вас па-нямецку і шчыра. Не вас я чакаў тут, у гэтых гарах».

(«Па-нямецку і шчыра? Хай Бог крые! — сказаў убок кароль злева. — Відно, што не ведае ён нашых мілых немцаў, гэты мудрэц з Усходу!

Ён, мабыць, хацеў сказаць «па-нямецку і груба» — памагай Бог! На нашыя часы гэта яшчэ не самы горшы густ!»)

«Няхай нават усе вы, разам узятыя, — вышэйшыя людзі; але як на мяне — вы недастаткова высокія і моцныя.

У мяне — гэта азначае: як на таго няўмольнага, які маўчыць ува мне, але ж не вечна ён будзе маўчаць. А калі вы і не чужыя мне, дык не такія блізкія, як мая правая рука.

Бо ў каго, як у вас, хворыя і слабыя ногі, таму найперш хочацца, каб літавалі яго, усведамляе ён гэта або *хавае* ад сябе.

Але ні рук, ні ног сваіх не шкадую *я — я не*

*літую сваіх воінаў:* так што вы няздатныя на *маю* вайну!

З вамі я змарнаваў бы ўсе свае перамогі. Многія з вас пападаюць, як толькі пачуюць пошчак маіх барабанаў.

Вы недастаткова прыгожыя для мяне і недастаткова высакародныя. Чыстыя, гладкія люстэркі патрэбныя мне на павучанні мае; а ваша паверхня руйнуе нават мой вобраз.

Вашыя плечы нурацца пад цяжарам многіх успамінаў; многа гнюсотных карлікаў сядзіць, скурчыўшыся, у патаемных закануpках вашых. Колькі плебейскага вы хаваеце ў сабе!

І нават калі высокія вы і вышэйшага роду: многа ў вас крывога і выродлівага. Няма на цэлым свеце каваля, які паправіў бы вас і выпрастаў.

Вы толькі масты: хай вышэйшыя пяройдуць па ім на той бок! Вы — толькі прыступкі: дык жа не гневайцеся на таго, хто падымаецца па гэтых прыступках на *сваю* вышыню!

Магчыма, з вашага насення і вырасце калі-небудзь сапраўдны сын і сапраўдны спадчыннік: але да гэтага яшчэ далёка. Вы — не тыя, хто спадкуе імя і набытак мой.

Не вас я тут чакаю, у гэтых гарах, не [redacted] вамі апошні раз сыду ўніз. Вы прыйшлі як азнака таго, што вышэйшыя ўжо — ў дарозе да мяне,

— *не* людзі вялікай тугі, і агіды, і перанасычанасці, не тыя, каго вы называеце апошнім да Бога сярод людзей.

— Не! Не! Тры разы не! Іншых чакаю я тут, у гэтых гарах, і кроку не зраблю адсюль без іх,

— я чакаю вышэйшых, мацнейшых, пераможных, бадзёрых духам, у каго душа і цела — у гармоніі: павінны прыйсці *ільвы, якія смяюцца!*

О дарагія мае госці, вы дзівосныя, вы яшчэ нічога не чулі пра маіх дзяцей? І што яны ўжо ў дарозе да мяне?

Гаварыце ж мне пра сады і дабрашчасныя выспы мае, пра новае і цудоўнае патомства маё. Чаму вы пра гэта маўчыце?

Гэтага дарунку прашу я ў любові вашай, каб вы гаварылі са мною пра маіх дзяцей. Дзеля іх я багаты, дзеля іх я стаў бедны: чаго не аддаў бы я,

— чаго не аддаў бы я, каб мець адно: *гэтых* дзяцей, *гэтыя* жывыя насады, *гэтыя* дрэвы жыцця, народжаныя воляй і найвышэйшай маёй надзеяй!»

Так сказаў Заратустра і раптам перапыніў казані свае: бо туга агарнула яго, і самкнуў ён вусны і вочы ад парыванняў сэрца. І ўсе госці моўчкі стаялі, нерухомыя і збянтэжаныя: толькі стары вяшчун рухам і выразам твару зрабіў усім знак.

## Вячэра

На гэтым месцы вяшчун перапыніў вітанні Заратустры і ягоных гасцей: ён прапхнуўся наперад, быццам баяўся прапусціць час, схапіў Заратустру за руку і ўсклікнуў: «Але ж, Заратустра!

Патрэба за патрэбу патрэбнейшая, так ты сказаў: і вось *мне* цяпер адно патрэбней за ўсё астатняе.

Дарэчы, ці не запрасіў ты мяне *ў застолле?* А многія ж тут з дарогі. Ты ж не будзеш карміць нас аднымі казанямі?

Усе вы ўжо згадвалі даволі многа пра ўтапленне, замярзанне, задушэнне і іншыя цялесныя

нягоды: але ніхто не згадаў пра *маю* бяду — пра небяспеку памерці з голаду,

(так сказаў вяшчун; а калі Заратустравы звяры пачулі ягоныя словы, яны ад страху далі лататы. Бо бачылі, што ўсяго, што яны паназносілі за дзень, не хопіць, каб напхаць трыбух аднаго вешчуна),

— і пра небяспеку памерці ад смагі, — сказаў вяшчун. — І хоць даўно ўжо чую я непадалёк плёскат вады, якая, як і мудрыя казані, цячэ багата і беспарастанку: я хачу *віна!*

Не кожны, як Заратустра, п'е заўсёды адну толькі ваду. Вада смакуе стомленым і завялым: *нам* да губы віно, толькі яно дае імгненнае гаенне, моцнае здароўе!»

Скарыстаўшыся тым, што вяшчун прасіў віна, кароль злева, звычайна маўклівы, таксама загаварыў: «Пра віно патурбаваліся *мы* з братам — каралём справа, — сказаў ён, — у нас дастаткова віна, наш асёл наўючаны віном. Не хапае толькі хлеба».

«Хлеба? — адказаў Заратустра са смехам. — Якраз хлеба і няма ў пустэльнікаў. Ды не хлебам адным жыве чалавек, але і мясам добрых ягнят, а ў мяне іх два:

— *іх* няхай хутчэй заколюць і прыгатуюць з шалфеем: так люблю я. Хапае тут і карэння, і пладоў, што будуць да смаку нават ласунам і гурманам: ёсць і арэхі і розныя іншыя загадкі — іх можна палускаць.

Дык вось, скора будзе ў нас ладны банкет. Але кожны, хто сядзе за стол, павінен прыкласці руку сваю, нават каралі. Бо ў Заратустры і каралю не за ганьбу быць кухарам».

Прапанова гэтая ўсім прыйшлася па сэрцы:

толькі жабрак-дабрахот запярэчыў супроць мяса, віна і прысмакаў.

«Але ж вы толькі гляньце мне на Заратустру — на гэтага бражніка! — жартаўліва ўсклікнуў ён. — Ці ж бо на тое шукаюць прыстанку ў пячорах і падымаюцца ў горы, каб банкетаваць?

Вось цяпер я разумею, чаго вучыў ён нас калісьці, кажучы: «Хвала беднасці!», і чаму хоча ён звесці ўсіх жабракоў».

«Будзь рады і вясёлы, як я, — адказаў Заратустра. — Заставайся пры сваіх звычках, о найлепшы, жуй сваё зерне, пі ваду і хвалі сваю кухню: калі толькі яна вяселіць цябе!

Я — закон толькі сваім, не ўсім. А хто з маіх, той павінен мець моцныя косткі і лёткія ногі.

— радасна прымаць войны і фэсты, быць гатовым да самага цяжкага, быццам гэта свята, быць бадзёрым і здаровым, а не мрой-летуценнікам.

Усё лепшае належыць мне і маім; і калі нам не даюць, мы самі бяром найлепшую ежу, найяснейшае неба, наймацнейшыя думкі, найпрыгажэйшых жанчын!»

Так сказаў Заратустра; а кароль справа зазначыў: «Дзіўна! Ці чуў хто калі такія разумныя словы з вуснаў мудраца?

І сапраўды, самае рэдкае ў мудраца, калі ён разумны і не асёл аслом».

Так сказаў кароль справа і сам здзівіўся; а асёл, сам сабе наўме, дадаў: «І-А». Гэта быў пачатак таго доўгага вячэрняга пасілку, які паводле гістарычных апісанняў вядомы як «вячэра». І пад час яе гаварылі толькі *пра вышэйшага чалавека* і ні пра што іншае.

## Пра вышэйшых

### 1

Калі я першы раз прыйшоў да людзей, я зрабіў найбольшае глупства, глупства пустэльніка: я выйшаў на рыначны пляц.

І як што прамаўляў да ўсіх, дык не звяртаўся ні да кога паасобку. А ўвечары таварышамі маімі былі танцор на вяроўцы і мярцвяк, ды і сам я быў амаль труп.

А як настала другая раніца, тут мне адкрылася новая ісціна: тады я навучыўся гаварыць: «Што мне да таго рынку і чэрні, да шуму чэрні і яе доўгіх вушэй!»

Вось чаго навучыцеся ў мяне, вышэйшыя людзі: на рынку ніхто не верыць у вышэйшых людзей. Хочаце гаварыць перад імі, ну і гаварыце! натоўп толькі бельмамі варочае: «Мы ўсе роўныя!»

«Эй, вы, вышэйшыя людзі, — бязглузда маргаючы, гаворыць чэрня, — няма ніякіх вышэйшых, мы ўсе роўныя, чалавек ёсць чалавек, і перад Богам мы ўсе роўныя!»

Перад Богам! Але цяпер гэты Бог памёр. А перад натоўпам мы не раўня астатнім. О вышэйшыя, сыдзіце з рынку!

### 2

Перад Богам! Але цяпер гэты Бог памёр! О вышэйшыя, гэты Бог быў ваша найбольшая небяспека.

Толькі з таго часу, як ён лёг у магілу, вы ўваскрэслі. Толькі настае Вялікі Полудзень, толькі цяпер вышэйшы чалавек робіцца панам!

Ці разумееце вы гэта словы, о браты мае?

Вы спалохаліся, у вас сэрца замлела? Ці не зеўрае вам тут бездань? Ці не брэша на вас геенскі сабака?

Ну што ж. Мацуйцеся, вышэйшыя людцы! Сёння ўпершыню курчыцца ў родавых пакутах гара чалавечай будучыні. Бог памёр: сёння *мы* хочам, каб жыў Звышчалавек.

### 3

Самыя асуячоныя сёння пытаюцца: «Як чалавеку захавацца?» А Заратустра, самы першы і адзіны з усіх пытаецца: «Як *пераадолець* чалавека?»

Да Звышчалавека хіне мяне сэрца, ён — найпершае і адзінае маё, а не чалавек — не блізкі і не бедны, не спрагнены і не найлепшы.

О браты мае, калі што я і люблю ў чалавеку, дык гэта тое, што ён — пераход, захад і знішчэнне. І ў вас ёсць шмат чаго, што мацуе маю любоў і надзею.

Мне дае спадзявацца тое, што вы поўныя пагарды. Бо здольныя да глыбокай пагарды, здольныя і на вялікую пашану.

Варта вялікай павагі, што вы спаняверыліся. Бо не навучыліся вы скардзіцца, не навучыліся дробязнай разумнасці.

Бо сёння пануюць маленькія людзі: яны прапаведуюць пакорлівасць, сціпласць, рупнасць, абачлівасць і іншыя запаведзі малых цнотаў.

Усё, што бабскага і рабскага роду, і асабліва мешаніна натоўпу: *менавіта гэта* прагне быць валадаром чалавечага лёсу — о агіда! Агіда! Агіда!

*Гэта яно* нястомна пытаецца: «Як найлепш, найдаўжэй і найпрыемней за ўсё захавацца чалавеку?» І таму яны пануюць сёння.

Пераадолейце іх, гэтых сённяшніх паноў, гэтых маленькіх людцаў, — о браты мае! Яны — найвялікшая небяспека Звышчалавеку!

О вышэйшыя людзі! Пераадолейце нікчэмныя цноты, маленькую разумнасць, дробязную абачлівасць, мурашыную мітуслівасць, мізэрную самазадаволенасць, «шчасце большасці»!

І чым падпарадкоўвацца, лепей паняверцеся. І сапраўды, я люблю вас за тое, што не ўмееце вы жыць у цяперашнім, вы, вышэйшыя людзі! Бо так жывяце *вы* найлепей!

4

Ці ёсць у вас мужнасць, о браты мае? Ці ёсць адвага? Не тая мужнасць, у якое ёсць сведкі, а мужнасць пустэльнікаў і арлоў, якой не бачыць ніякі бог?

Тых, хто з пароды аслоў, а таксама сляпых, п'яных і тых, чые душы халодныя, я неназаву мужнымі. А тых, хто, ведаючы страх, перамагае яго; хто глядзіць у бездань, але глядзіць п *гонарам;*

— хто бачыць бездань, але паглядам арла, хто хапае яе арлінымі кіпцюрамі: вось у кім ёсць мужнасць.

5

«Чалавек злы» — так суцяшалі мяне ўсе мудрыя. О, калі б і сёння было яно так! Бо зло ёсць найлепшая сіла ў чалавеку.

«Чалавек павінен рабіцца ўсё лепшы і злейшы» — так вучу *я*. Лепшаму ў Звышчалавеку патрэбна самае злое.

Няхай таму, хто прапаведаваў маленькім людзям, было даброме тое, што пацярпеў ён за іх і

панёс на сабе іх грахі. А я радуюся вялікаму грэху, як свайму вялікаму *суцяшэнню.*

Зрэшты, гэта сказана не ў доўгія вушы. Ды і не кожнае слова пасуе да кожнае храпы. Гэта тонкія далікатныя рэчы. Іх не павінны таптаць авечыя капыты!

## 6

Вышэйшыя людзі, ужо ці не думаеце вы, што я прыйшоў лячыць вас ад дурноты?

Альбо, можа, зладзіць вам, пакутнікам, зручнае спанне? Або вам, непастаянцам, заблуджаным і звіхнёным, паказаць новыя патаемныя сцежкі?

Не! Не! Тры разы не! Трэба, каб болей загінула вас і каб гінулі самыя лепшыя, бо павінна вам рабіцца ўсё горш і горш. Толькі так,

— толькі так вырастае чалавек да той вышыні, дзе маланка б'е яго, да вышыні, дастаткова высокай для маланкі!

Да нямногага, да працяглага, да далёкага імкнецца думка і туга мая: што мне да вашай дробязнай, кароткай, разнастайнай галечы!

Вы мала пакутуеце! Бо пакутуеце за сябе; вы яшчэ не пакутавалі *за чалавека.* Вы зманіце, калі скажаце іншае! Ніхто з вас яшчэ не пакутаваў за тое, за што пакутаваў *я.*

## 7

Мне мала таго, каб маланка больш не шкодзіла: не адводзіць я хачу яе: яна павінна навучыцца працаваць *на мяне.*

Даўно ўжо, быццам хмара, згушчаецца мудрасць мая і робіцца ўсё цямнейшаю і цішэйшаю. Так робіць усякая мудрасць, якая павінна некаліс спарадзіць *маланку.*

*Не хачу быць святлом* людзям цяперашняга, не хачу называцца ў іх святлом. Асляпіць іх я прагну! Маланка мудрасці маёй, высмалі ім вочы!

8

Не жадайце нічога, што вышэй за вашую сілу: дурная хлуслівасць заўлашчана тымі, якія жадаюць вышэй за сваю сілу.

Асабліва калі яны прагнуць вялікага! Бо абуджаюць недавер да вялікага, гэтыя спрытныя фальшываманетчыкі і камедыянты:

— пакуль, нарэшце, не зробяцца самі сабе фальшам, прыхарошанай чарвівасцю, пакуль не прыкрыюцца моцнымі словамі, паказнымі цнотамі, бліскучымі падробкамі.

Будзьце ж абачлівыя, вышэйшыя людзі! Бо няма сёння ў мяне нічога каштоўнейшага і радчэйшага за праўдзівасць.

Ці ж не належыць цяперашняе натоўпу? Але натоўп не ведае, што ёсць вялікае, што — нікчэмнае, — што такое шчырасць і праўдзівасць: яна цнатліва крывіць душою і заўсёды хлусіць.

9

Дык будзьце ж сёння поўныя добрага недаверу, о вышэйшыя людзі, вы, адважныя! Вы, шчырыя сэрцам! Трымайце ў тайнасці свае перакананні! Бо цяперашняе належыць чэрні.

Тое, што чэрня прыняла калісьці напавер, без доказаў і довадаў, немагчыма абвергнуць ніякімі доказамі.

На рынку пераконваюць на мігах. А довады выклікаюць у натоўпу недавер.

І калі там перамагае праўда, споўніцеся доб-

рага недаверу і спытайцеся самі ў сябе: «Якая ж бо гэта магутная аблуда змагалася за яе?»

Сцеражыцеся і вучоных! Яны ненавідзяць вас, бо яны без плодзі! У іх — халодныя і высахлыя вочы, для іх усе птушкі — ужо аскубеныя.

Такія, як яны, ганарацца, што не маняць, але ж няздатнасць да хлусні зусім не тое самае, што любоў да праўды. Сцеражыцеся ж іх!

Збавенне ад трасцы — гэта яшчэ не пазнанне! Я не веру застылым галовам. Хто не ўмее хлусіць, не ведае, што ёсць праўда.

## 10

Калі хочаце высока падняцца, карыстайцеся сваімі нагамі! Не дазваляйце *несці* сябе ўгору, не сядайце на чужыя плечы і галовы!

Я бачу, ты сеў на каня? І борзда імчышся ўгору, да мэты? Ну і ляці, ляці, мой дружа! Ведай толькі, што кульгавасць твая ляціць разам з табой!

Калі ты будзеш каля мэты і саскочыш з каня, о вышэйшы чалавеча, — менавіта там, *на вышыні* сваёй, ты будзеш кульгаць!

## 11

О ствaральнікі, о вышэйшыя людзі! Толькі дзеля свайго дзіцяці церпяць сваю цяжарнасць.

Не слухайце нічыіх плявузгаў, не давайцеся, каб вас дурылі! Бо хто ён — той блізкі ваш? І калі намыслілі вы нешта «дзеля блізкага», дык ствараеце ўсё-такі не дзеля яго!

Забудзьцеся пра гэтае «дзеля», вы, ствaральнікі: бо цнота вашая патрабуе, каб не абыходзілі

вам аніякія «дзеля» і «для» і «бо». Хай не прыме ваш слых усіх гэтых ілжывых слоў.

«Дзеля блізкага» — гэта цнота малых людзей; у іх кажуць: «Свой свайму хоч-не-хоч, а брат» і «Рука руку трэ». У іх няма ні сілы, ні права на *вашае* сябелюбства!

О стваральнікі, у сябелюбстве вашым — асцярога і прадбачлівасць цяжарнай! Любоў ваша аберагае, корміць і асланяе той плод, якога яшчэ ніхто не бачыў.

Там, дзе ваша любоў, там і ўся цнота ваша — у дзіцяці! Ваша пакліканне, вашая воля — вось ваш «блізкі»: не давайцеся, каб вам навязвалі фальшывыя каштоўнасці!

12

Вы — стваральнікі, вышэйшыя людзі! Каму выпадае радзіць, той хворы; але хто радзіў, той нячысты.

Спытайцеся ў жанчын: нараджаюць не таму, што ім гэта дае асалоду. Боль прымушае кудахтаць і паэтаў, і курэй.

У вас многа нячыстага, стваральнікі. Дык вось, наперадзе ў вас мацярынства.

Толькі што ўроджанае дзіця: о, як многа новага бруду прыходзіць з ім у свет! Сыдзіце з дарогі! Хто нарадзіў, павінен абмыць сваю душу!

13

Не будзьце дабрадзейныя па-над сілы свае! І не патрабуйце ад сябе нічога, што сягае за межы верагоднага!

Пазбягайце ва ўсім па-рабску ісці за бацькамі

вашымі, але ідзіце пратаптанымі сцежкамі, па якіх ужо хадзіла цнота іхняя! Інакш як вам падняцца вышэй, калі воля вашых бацькоў не падымаецца разам з вамі?

Але будзь уважлівы той, хто хоча быць першым, — каб не прыйсці апошнім! І там, дзе праяўляюцца заганы бацькоў вашых, няма чаго строіць з сябе святых!

Калі бацькі вашыя правялі жыццё, палюючы на вепраў, ладзячы папойкі і ўсякія свінствы ў кампаніі жанчын, ці не будзе бязглуздасцю паўстрымлівасць ваша?

Яна будзе бязглуздасцю! Наадварот, я думаю, што той з вас, у каго ёсць *адна,* альбо дзве, альбо ўсяго толькі тры жонкі, дасягнуў нямала ў параўнанні з бацькам сваім.

А калі ты будуеш кляштары і пішаш на брамах: «Дарога да святыні», я кажу: «Да чаго? Ці не новая гэта бязглуздасць?»

Самому сабе заснаваў ты папраўчы дом і сховішча — што ж! На здароўе! Толькі не веру я ў гэта.

Бо ў адасабленні расце тое самае, што чалавек прыносіць: узрастае і быдла, якое ён носіць у сабе. Таму многім трэба пазбягаць адасаблення.

Ці было дагэтуль на зямлі што-небудзь больш бруднае, чым пустэльнікі? Не адзін толькі д'ябал апантана кружляў вакол *іх* — але і свінні.

## 14

Часта бачыў я, як нясмелыя, збянтэжаныя, нехлямяжыя, быццам тыгр, якому не ўдаўся скачок, пракрадваліся вы бачком, о вышэйшыя людзі! Бо няўдала вы *кінулі гульнёвыя косці.*

Але, гульцы, ці варта засмучацца праз гэта! Вы не навучыліся яшчэ як след гуляць і смяяцца з рызыкі! Ці не сядзім мы заўсёды, так ці інакш, за вялікім гульнёвым сталом, за якім так многа смяюцца?

І калі не ўдалося, ці азначае гэта, што вы самі не ўдаліся? А калі вы самі не ўдаліся, ці азначае гэта, што не ўдаўся Чалавек? А калі не ўдаўся Чалавек: ну, якое ж тут рады дасі!

## 15

Чым высакароднейшае, тым больш рэдкае. Вы, вышэйшыя людзі, што пазбіраліся тут, ці ж не ўсе вы не ўдаліся?

Хай так — ну і што? Не падупадайце духам! Яшчэ шмат што можна! Навучыцеся смяяцца з сябе, смяяцца як след!

Няма нічога дзіўнага, што вы не ўдаліся альбо ўдаліся толькі напалавіну, вы, напалавіну разбітыя! Хіба не б'ецца, не пульсуе ў вас чалавечая *будучыня?*

Уся глыбіня і далячынь, уся зорная высь і пачварная сіла: ці не падымаецца ўсё гэта пенаю ў катле вашым?

Якое дзіва, што многія катлы лопаюцца! Вучыцеся смяяцца з сябе, смяяцца як трэба! О, яшчэ многа можна, о вышэйшыя людзі!

І праўда, як многа ўжо ўдалося! Якая багатая зямля ад дасканаласці невялікіх, але прыгожых рэчаў, што сапраўды хораша ўдаліся!

Абстаўляйце сябе гэтай дасканаласцю, вышэйшыя людзі! Яе залатая сталасць ацаляе сэрца. Усё дасканалае вучыць спадзявацца.

## 16

Які грэх, учынены тут, на зямлі, да гэтага часу самы цяжкі? Ці не словы таго, хто сказаў: «Гора тым, што смяюцца!»

Няўжо ён не знайшоў на зямлі, з чаго пасмяяцца? Значыцца, ён блага шукаў. Прычыны знаходзіць нават дзіця.

Мала любові было ў ім, інакш ён палюбіў бы ўсіх, што смяюцца! Але ён ненавідзеў і ганіў нас, прадказваючы нам плач і скрогат зубоў.

Ці трэба адразу праклінаць, калі не любіш? У мяне гэта — дрэнны густ. Але менавіта так рабіў ён, гэты нецярпімы. Ен выйшаў з чэрні.

Мала ў ім было любові — інакш ён не гневаўся б, што не любяць яго самога. Усякая вялікая любоў жадае нелюбові, яна прагне большага.

Ухіляйцеся ад такіх нецярплівых! Гэта парода хворых і няшчасных, гэта — чэрня; кісла глядзяць яны на жыццё, ліхім вокам глядзяць на зямлю.

Ухіляйцеся ад такіх нясцерпных! У іх цяжкія ногі і прыгнечаныя сэрцы: не ўмеюць яны танцаваць. Як жа зямля можа быць ім лёгкаю!

## 17

Крывымі дарогамі ідуць усе добрыя рэчы да сваёй мэты. Яны выгінаюцца, як каты, муркаюць ад блізкасці шчасця: усе добрыя рэчы смяюцца.

Ці ідзе ўжо чалавек па сваёй дарозе, а ці не — гэта выдае паходка ягоная: зірніце, як іду я! Ну, а той, які ўжо блізкі да мэты сваёй, той танцуе!

І сапраўды я не стаў помнікам і не зрабіўся нéрухам, тупым, скамянелым слупам: я люблю шпарка бегаць.

Хоць ёсць на зямлі і багны, і гразкі смутак, усё роўна той, у каго лёгкія ногі, прабягае нават па глеі і танцуе на ім, як на падмеценым лёдзе.

Братове мае, падымайце сэрцы вашыя ўсё вышэй і вышэй! Але не забывайцеся і пра ногі! Вышэй, як спорыя танцоры, падымайце вашыя ногі, а яшчэ лепей — стойце на галаве!

## 18

Гэты вянок таго, хто смяецца, вянок з ружаў, я сам усклаў на сябе і сам асвяціў свой смех. Больш нікога не знайшоў дастаткова моцным на гэта.

Заратустра — танцор, Заратустра — лёгкі, ён махае крыламі і гатовы ў лёт, ён кліча за сабою ўсіх птушак, увішны і шчасна лёткі.

Заратустра — прарок, Заратустра, які вяшчае ісціны смехам, цярплівы, цярпімы, улюбёны ў скачкі і авантуры, сам усклаў я на сябе гэты вянок!

## 19

Братове мае, падымайце вашыя сэрцы вышэй і вышэй! Не забывайцеся і пра ногі! Вы — заўзятыя танцоры, вышэй падымайце вашыя ногі, а яшчэ лепш — станьце на галаву!

Бываюць звяры, цяжка-важкія нават у шчасці сваім; ёсць няўклюды ад нараджэння. Гэтаксама пацешна глядзець на іхнія намогі і высілкі, як на слана, які спрабуе стаяць на галаве.

Але лепей з'ехаць з глузду ад шчасця, чым ад няўдач, лепей няўклюдна танцаваць, чым хадзіць кульгаючы. Вучыцеся ж маёй мудрасці:

нават у горшай рэчы ёсць некалькі добрых другіх бакоў,

— нават у горшай рэчы дастаткова моцныя ногі на танец: навучыцеся ж, вышэйшыя людзі, стаяць на сваіх нагах!

Забудзьце спевы скрухі, забудзьце паныласць чэрні! О, якімі панылымі сёння бачацца мне гэтыя блазны, што весяляць натоўп! Але ўсё сённяшняе належыць натоўпу.

## 20

Будзьце, як вецер, што вырываецца з цяснін: пад свіст сваёй жалейкі ён гатовы скакаць, моры дрыжаць і хвалююцца пад яго нагамі.

Слава таму браваму, неўтаймавальнаму духу, які дае крылы аслам, які доіць ільвіц, духу, які ўраганам прыходзіць да ўсяго сённяшняга і да усякай чэрні,

— Духу, які варожы любамудраму чартапалоху, зусім завялым лістам і жытцам: слава дзікаму, бадзёраму, свабоднаму духу буры, які танцуе па багнах і паныласці, быццам па лугах!

Які ненавідзіць гаротных дварнякоў прасталюддзя і ўсякае выроддзе, няўдалае і змрочнае; слава гэтаму духу свабоднага розуму, гэтай рассмяянай буры, якая засыпае пылам вочы тым, хто пакрыты струпамі і бачыць усё ў чорным!

О вышэйшыя людзі, вось ваша горшае: вы не вучыліся танцаваць, як трэба, — так каб у танцы выйсці за межы свае! Што з таго, калі вы — не ўдаліся!

Як многа яшчэ можна! Дык жа *навучыцеся* ў смеху выходзіць за межы свае! Вы, заўзятыя танцоры, вышэй і вышэй падымайце сэрцы вашыя! І не забывайцеся як след пасмяяцца!

Гэты вянок рассмяянага, гэты вянок з ружаў: я кідаю яго вам, братове мае. Смех абвясціў я святым: о вышэйшыя людзі, *вучыцеся* смяяцца!

## Песня тугі

### 1

Кажучы гэтыя словы, Заратустра стаяў каля пячоры; а з апошнімі словамі ўцёк ад гасцей і ненадоўга выбег на свежае паветра.

«О чыстыя пахі вакол мяне, — усклікнуў ён, — о дабрашчасная цішыня вакол мяне! Але дзе ж мае звяры? Да мяне, мой арол і мая змяя!

Скажыце мне, звяры: можа, пагана *пахне* ад гэтых вышэйшых, калі яны збіраюцца разам? О чыстыя пахі вакол мяне! Толькі цяпер я разумею і адчуваю, як люблю вас, звяры мае!»

І зноў Заратустра паўтарыў: «Я люблю вас, звяры мае!» І калі гаварыў ён гэтыя словы, змяя і арол наблізіліся да яго, падняўшы на яго вочы. Так стаялі яны ціха ўтрох, удыхаючы чыстае паветра і напіваючыся ім. Бо тут ён быў лепшы, чым у вышэйшых людзей.

### 2

Але ледзь толькі Заратустра пакінуў пячору, як устаў стары чарадзей і сказаў, хітра азірнуўшыся: «Ён выйшаў! І вось, вышэйшыя людзі, — дазвольце і мне, як яму, паказытаць вас гэтым ліслівым назовам, — і вось, вышэйшыя людзі, мяне ўжо забірае мой злы дух і ашуканец, дух маны і чараў, дэман паныласці,

— спрадвечны супрацоўнік Заратустры: да-

руйце гэта злому духу майму! *Прагне* ён разгарнуць перад вамі свае чары, бо якраз настаў *яго час:* дарма я змагаюся з гэтым злым духам.

Усім вам, якія б ні былі ўшанаванні, якімі вы сябе самі на словах адорваеце, называючы сябе «свабодным розумам», альбо «праўдзівымі», альбо «духам пакаяння», альбо «свабоднымі ад путаў», альбо «поўнымі вялікай тугі»,

— усім вам, пакутнікам, як і мне, ад *вялікай агіды,* — бо стары Бог памёр для вас, а новы яшчэ не ляжыць спавіты ў калысцы — усім вам блізкі мой злы дух, дэман чараў.

Я ведаю вас, вышэйшыя людзі, я ведаю і яго, гэтага ка́та, якога люблю супроць волі сваёй, — Заратустру; часта ён мне нагадвае прыгожую маску святога,

— новы велягурысты маскарад, якім бавіцца мой злы дух, дэман маркоты: часта здаецца мне, што я люблю Заратустру дзеля майго злога духа.

Але ён ужо авалодвае мною і падпарадкоўвае сабе, гэты дух тугі і маркоты, дэман вячэрніх прыцемкаў, шары мой дух; і сапраўды ён прагне:

— расплюшчыце ж вочы! Ён прагне явіцца голым — я не ведаю яшчэ, як мужчына ці як жанчына, — але ён набліжаецца і падпарадкоўвае мяне, о няшчасны я! Разбудзіце ж пачуцці свае!

Дзень аціхае, на ўсё ападае вечар, нават на ўсё найлепшае; цяпер слухайце і глядзіце, вышэйшыя людзі, які гэты дух, — хай ён мужчына, хай жанчына — гэты дэман вячэрняй тугі!»

Так казаў стары чарадзей, хітра азіраючыся, а потым узяў сваю арфу.

3

Калі прасвятлее паветра,
І раса суцяшэння
Ападзе на зямлю,
Нябачна, нячутна —
Бо ходзіць у лёгкім абутку,
Як усе пяшчотныя суцешнікі —
Ці згадваеш ты, ці згадваеш, сэрца гарачае,
Як ты прагнула колісь
Нябеснай расы,
Ты, спрагненае і сасмяглае;
А сонца коса на цябе пазірала
Праз чорнае плеціва дрэў,
І позіркі гэтыя — прамяні,
Сляпуча пакеплівыя,
Усчыналі вакол цябе злую гульню,
Мільгалі па сцежках, парослых травою,
Залітых золатам распаленага вока?

«Ты Жаніх *ісціны?* — кпілі яны, —
Не! Ты — Паэт!
Ты хітры звер, драпежны, падступны,
Які хлусіць павінен,
Умела і па добрай волі
Прагны да ловаў,
Замаскаваны краскамі свету,
Сам — маска
І сам сабе — здабыча,
*І гэта* — Жаніх Ісціны?
Не! Толькі блазен! Толькі паэт!
Стракатамоўны,
Стракатамаскамоўны,
Вялікі майстар будаваць масты
Слоў каляровых
І прывідных вясёлкавых дарог,

Якімі ты блукаеш марна і бязмэтна
Паміж уяўным небам
І прыдуманай цвердзю зямною,—

*Толькі* блазен! *Толькі* Паэт!

І гэта — Ісціны Жаніх?
Не халодны, не ціхі, не гладкі,
Не храмавы ідал,
Не! А нецярпімы да выяваў Ісціны,
Да безжыццёвых яе падабенстваў,
Тваё жытло — пустыня, а не храм.
Ты поўны спрыту кашэчага,
Праз кожнае акенца скачаш,
Каб ухапіць Выпадковасць,
Табе казыча ноздры спрадвечны лес
Зазыўным і прывабным пахам,
Калі б ты апынуўся ў гэтым лесе
Сярод звяроў пярэстаскурых,
Калі б ты сам быў зверам,
Магутным, здарова-грэшным
І шчасна-крыважэрным,
Па-боску і па-д'ябальску прыгожым,
Падступным,
Калі б ты фыркаў ад пажады палкай,
Не ведаў грэху ў пагоні за здабычай!

Калі б арлом ты быў,
Які празірае *свае* глыбіні,
Лунаючы над прорвамі,
Пасля раптоўна,
Раз'ятраны ад голаду,
Пажадліва лапочучы крыламі,
Спадае на разбляяных *ягнят*,
Бо жорстка ненавідзіць ён душу авечкі

І тых, чый пагляд, бы ў ягняці, цнатлівы, —
Пушыстых, шэрых і рахманых.

Як у арла, як у пантэры —
Такая прага у паэта,
І палкія *тваe* жаданні,
Схаваныя пад тысячаю масак,
Ты — блазен! Ты — Паэт!

Глядзіш згары на чалавека, як на Бога,
І гэтаксама нібы на авечку;
І *раздзіраеш* Бога ў чалавеку,
Нібы авечку ў чалавеку,
І, раздзіраючы, *смяешся*...

*І гэта, гэта* ёсць твая ўзнагарода!
У гэтым радасць і арла, і пантэры,
У гэтым шчасце блазна і паэта!..»

Калі прасвятлее паветра,
У зарыве вячэрняе зары прагляне
Зайздросліва таемны
Зеленаваты серп маладзічка,
Варожы дню, ён крадзецца пад ружамі,
І з кожным крокам месячнай жнясі
Ўсё болей блякнуць, нікнуць кветкі
І апускаюцца глыбей, глыбей у цемру...

Калісьці і я так,
Паніклы, стомлены ад будзёншчыны,
Сам хворы ад святла,
Адкінуў дурноту мудрасці
І намыслы, жаданні дня
І апусціўся ў морак,
Апалены адкрытай мне *адной* праўдай:
Ці памятаеш ты, гарачае сэрца маё,

Як некалі цябе грызла прага?
*Прага быць адкінутым,*
*Ад праўды ўсякай!*
*Ты — блазен толькі,*
*Ты — толькі Паэт!*

## Пра навуку

Так спяваў чарадзей; і ўсе пячорнікі непрыкметна трапілі, як птушкі, у сеткі яго змрочнага, падступнага запалу. Толькі сумленнага духам выяму не ўдалося запаланіць: ён борздзенька выхапіў з рук чарадзея арфу і ўсклікнуў: «Паветра! Дайце чыстага паветра! Клікніце Заратустру! Ты атручваеш паветра ў гэтай пячоры і робіш яго задушлівым, старым, ліхі чарадзею!

Ты, фальшывец, змушчаеш нас невядомымі жаданнямі, ты спакушаеш нас прагай няведамых пустэльняў. Гора, калі такія, як ты, пачынаюць славіць *ісціну* і балбатаць пра яе!

Гора ўсім, хто ў свабодным розуме, хто не асцерагаецца *такіх*, як ты чарадзеяў! Прапала свабода іхняя, бо сваім вучэннем ты вабіш назад, у цямніцы;

— стары, змрочны дэман панылсці, панадныя гукі жалейкі чутны ў тваіх скаргах; ты падобны да таго, хто сваёй апалогіяй цноты тайна схіляе да вычудаў страснасці!»

Так казаў сумленны духам, а стары чарадзей азіраўся навокал, цешыўся з перамогі і таму праглынуў прыкрасць, якую адчуў ад слоў сумленнага духам. «Ціха! — коратка адказаў ён. — Каб добрыя песні адгукнуліся ў душы, пасля іх трэба памаўчаць.

Так трымаюцца ўсе вышэйшыя людзі, якія

сабраліся тут. Ты, мабыць, мала што зразумеў з маёй песні? Мала ў табе духу чараў!»

«Ты ўжо хваліш мяне тым, што адлучаеш ад сябе, — запярэчыў сумленны духам, — што ж, довад! Але вы, пячорнічкі мае, я ўсё яшчэ бачу пахацінства ў вашых вачах:

Вы свабодныя душы, дзе ж ваша свабода, вы свабодныя? Вы рыхтык мне тыя, што доўга тапыраліся на голых танцорак: так і вашыя душы — самыя ў скокі пайшлі!

Мабыць, дужа шмат у вас таго, што чарадзей называе сваім злым духам чараў і падману: і гэтым я адрозніваюся ад вас.

І сапраўды, мы шмат перагаварылі і перадумалі тут, у пячоры, пакуль не вярнуўся Заратустра, і мне гэтага больш чым досыць, каб зразумець: мы з вамі *розныя*.

Рознага мы *шукаем* тут, угары, — вы і я. Бо я шукаю *большай надзейнасці*, таму і прыйшоў да Заратустры. Ён — самая трывалая вежа і самая моцная воля

— сёння, калі ўсё расхісталася, калі трасецца зямля. Але гледзячы вам у вочы, думаю сабе, што вы, наадварот, шукаеце большай няўстойлівасці,

— вы хочаце болей жахаў, небяспекі, землятрусаў. Даруйце мне маю самаўпэўненасць, але часам мне здаецца, што вы, вышэйшыя людзі,

— прагнеце якраз такога жыцця, якое *мяне* больш за ўсё жахае, жыцця брыдкага, поўнага небяспекі, жыцця дзікіх жывёл; вас вабяць лясы і пячоры, горныя ўрвішчы і лабірынты.

І больш за ўсё вам падабаецца не той, хто можа выбавіць *ад* усякай небяспекі, а змусціцель, які зводзіць з любое дарогі. Але калі вашая прага

да ўсяго гэтага ёсць нешта *сапраўднае*, дык у мяне яна — *немагчымае*.

Бо страх — гэта пачатковае і прыроднае пачуццё чалавека; страхам тлумачыцца ўсё — і першародны грэх, і ўспрычыненая цнота. З страху ўзрасла і *мая* дабрачынная цнота, якая называецца навукай.

Бо спрадвеку ў чалавеку гадаваўся страх перад дзікімі жывёламі, уключаючы сюды і таго звера, якога ён тоіць у самім сабе і якога сам баіцца: Заратустра называе гэтага звера «ўнутраным быдлам».

Гэты страх, старадаўні і пачатковы, які стаў нарэшце вытанчаным і адухоўленым, цяпер, як мне здаецца, называецца *навукай*.

Так казаў сумленны духам; а Заратустра, які якраз заходзіў у пячору, — а ён чуў апошнюю казань і разгадаў яе сэнс, — кінуў яму жменю ружаў, пасмяяўся з ягоных «ісцін». «Што? — усклікнуў ён. — Што я чую? Сапраўды, здаецца мне, адзін з вас — дурань, а тваю «ісціну» я момантам пастаўлю дагары нагамі.

— Бо ў нас *страх* — гэта выключэнне. А мужнасць і дух прыгодаў, прага да нязведанага і на што яшчэ не адважыўся, — *мужнасць*, вось што на мой клёк ёсць чалавечая перадгісторыя.

У самых дзікіх і бясстрашных звяроў чалавек адабраў, з зайздрасці, усе іхнія цноты: і толькі так ён зрабіўся чалавекам.

*Гэта* мужнасць, зрабіўшыся, нарэшце, вытанчанай і адухоўленай, гэта чалавечая мужнасць з арлінымі крыламі і змяінай мудрасцю, я думаю, сёння называецца...»

«Заратустра!» — у адзін голас крыкнулі ўсе пячорнікі і зарагаталі ўголас; але нешта падобнае на цяжкую хмару аддзялілася ад іх і падня-

лося ўгору. Засмяяўся і чарадзей і сказаў хітравата: «Вось і майце! Сышоў мой злы дух!

Ці ж сам я не асцерагаў вас ад яго, кажучы, што ён шэльма і хлус, гэты дух ілжы?

І асабліва тады, калі паказваецца голы. Але *я* не вінаваты, што ён такі падступны! Хіба ж бо *я* стварыў гэты свет і яго разам з светам?

Вось і майце! Будзем зноў радыя і вясёлыя! І хоць гнеўны позірк у Заратустры — зірніце на яго! Ён злуецца на мяне,

— але яшчэ да ночы ён зноў палюбіць мяне і пачне хваліць, бо не можа доўга абыходзіцца без такога глупства.

*Ён* любіць сваіх ворагаў: з усіх, каго толькі я бачыў, ён найлепей авалодаў гэтай штукай. Але за гэтую любоў да ворагаў помсціцца ён — на сваіх сябрах!»

Так сказаў стары чарадзей, і вышэйшыя людзі ўхвалілі яго казань: і тады Заратустра пачаў пахаджаць сярод іх, з любоўю і нянавісцю паціскаючы рукі сваім сябрам, быццам хочучы памірыцца з усімі і выпрасіць даравання. Але калі ён дайшоў да выхаду з пячоры, яго зноў павяло на свежае паветра і да звяроў, і ён сабраўся непрыкметна ўцячы.

## Сярод дочак пустыні

### 1

«Не адыходзь! — сказаў тады дарожнік, які называў сябе Заратустравым ценем. — Застанься з намі, а то ранейшая туга зноў нападзе на нас.

Стары чарадзей шчыра падзяліўся з намі тым найгоршым, што ў яго было, і вось, зірні, — у



22. Зак. 530.

нашага добрага пабожнага Папы на вачах слёзы, і ён зноў гатовы плысці па моры панылаcці.

Падобна на тое, што гэта каралі спрабуюць стрымлівацца перад намі: бо за сённяшні дзень яны лепш за ўсіх нас навучыліся гэтаму! Але я гатовы пайсці ў заклад, што калі б не сведкі, яны б таксама закалацілі благую гульню,

— благую гульню марудлівых воблакаў, вільготнай маркоты, сырой нуды, хмарнага неба, украдзеных сонцаў, восеньскіх віскатлівых вятроў!

— благую гульню нашых галашэнняў і крыкаў на дапамогу: застанься ж з намі, о Заратустра! Тут шмат схаваных гаротаў, якія хочуць выказацца, шмат воблачнага і вечаровага, шмат душнага паветра!

Ты накарміў нас моцай, мужчынскай ежай і бадзёрымі прыпавесцямі: дык жа не дапусці, каб дух жаноцкасці і песты авалодаў намі за дэсертам!

Ты адзін робіш паветра вакол сябе моцным, бадзёрым і чыстым! Нідзе на зямлі не знаходзіў я паветра чысцейшага, чым у тваёй пячоры!

Хоць і пабачыў я шмат краёў, а нос мой адвык пазнаваць і ацэньваць розныя пахі; а ў цябе, у тваёй пячоры, цешыцца нюх мой як ніколі раней!

Хіба што аднаго разу, — о, даруй мне адзін успамін! Не крыўдуй за старую застольную песню, якую я склаў, жывучы сярод дочак пустыні:

— бо там таксама было добрае, здаровае, светлае паветра Усходу: там адышоў я далей за ўсё ад захмаранай, ад сырой, панурай, струхлелай Еўропы!

Тады я любіў дзяўчат Усходу і іншых паднябесных краін, чые блакітныя нябёсы не азмрочвалі ніводнае воблачка, ніводная думка.

Вы не паверыце, як жа манерна сядзелі яны, калі не скакалі — глыбокія, але пры гэтым бяздумныя, быццам маленькія таямніцы, быццам упрыгожаныя стужкамі загадкі, быццам дэсертныя арэшкі,

— стракатыя, яркія і чужыя, сапраўды так! Але не азмрочвала іх ніводная аблачынка — гэтыя загадкі даваліся адгадваць сябе: і вось — у гонар гэтых дзяўчат склаў я тады застольную псальму — псальму за дэсертам».

Так казаў дарожнік, які называў сябе Заратустравым ценем; і перш чым хто паспеў адказаць яму, ён схапіў арфу старога чарадзея і, скрыжаваўшы ногі, азірнуўся вакол, спакойны і мудры: павольна і выпрабавальна ўцягнуў у сябе паветра, быццам спрабуючы на смак новае, незнаёмае паветра чужой краіны. А пасля заспяваў у нейкай адмысловай манеры, з лямантам і завываннем.

2

Пустыня расце:
гора таму,
хто пустыні хавае

— О! Урачыста!
Сапраўды ўрачыста!
Годны пачатак!
Па-афрыканску ўрачыста!
Годна ільва,
Альбо высокамаральнае малпы —
— але не вас,
Любасныя дзяўчаты,
Каля чыіх ног мне,
Еўрапейцу, пад пальмамі
Дазволена сядзець. Сэля.

Проста дзівосна!
Там і сяджу цяпер,
Паблізу пустыні, і ўжо
Зноў ад пустыні далёка,
Але яшчэ не спустошаны:
Бо ўжо паглынуты
Гэтым маленькім аазісам...
— ён якраз бо разявіў
Сваю любасную пашчу,
Самую духмяную пашчу:
І я ўпаў туды,
У салодкую пашчу — і вось
Я сярод вас, любасныя дзяўчаты! Сэля.

Слава, слава таму кіту,
Які даў прытулак госцю! —
Ці зразумелі вы
Мой вучоны намёк!
Слава таму жывату
За тое, што ён
Стаў утульным аазісам,
Як вось гэты цяпер мне:
Але што паняверыць мяне —
Гэта, што я сын Еўропы; яна
Самая недаверлівая
З усіх старых жанок.
Няхай гэта Гасподзь паправіць!
Амін!

І вось я тут,
У гэтым маленькім аазісе,
Як фінік,
Салодкі, руды, паспелы, духмяны,
Прагны вуснаў дзявочых,
Яшчэ болей прагны ўкусу
Беласнежных, халодных,

Вострых дзявочых зубоў,
Якога прагна жадаюць
Сэрцы ўсіх фінікаў палкіх. Сэля.

Да названых паўднёвых пладоў
Падобны, нават дужа падобны,
Я ляжу тут сярод рою
Гуллівых назолаў-жукоў,
Сярод марнасці прахлай
Нясціплых, маленькіх, пошлых жаданняў,
І намыслаў грэшных, —
Сярод вас,
О маўклівыя і прадчувальныя
Коткі-дзяўчаты,
Дуду і Зулейка —
А *сфінксаваны,* хоць *адным* словам
Выславіць мог бы пачуцці свае:
(Даруй мне, Божа,
Гэты грэх супраць мовы!) —
Сяджу тут, удыхаючы водар паветра,
Празрыстага, райскага, свежага,
У залацістых палосках,
Такога паветра
Месяц яшчэ не пасылаў —
Ані выпадкова,
Ані з капрызу,
Як расказваюць старажытныя паэты.
Але я скептык,
Я сумняваюся ў гэтым,
Я паходжу з Еўропы, а яна —
Самая недаверлівая баба на свеце.
Хай выправіць гэта Гасподзь!
Амін!

П'ючы духмянасць паветра,
Уцягваючы ноздрамі прагнымі,

Без будучыні, без успамінаў,
Сяджу я тут,
О любасныя сяброўкі мае,
І пазіраю на пальму,

Як яна, нібы танцорка,
Гнуткім станам чаруе,
Сцёгнамі пругкімі вабіць, —
Пераймаеш яе, загледзеўшыся!
Яна падобная на танцорку, якая
Доўга — о, як небяспечна доўга! —
Стаіць на адной назе —
Можа, яна пра другую забыла?
Прынамсі, дарма я шукаў
Каштоўную другую палавіну,
У святой блізкасці я шукаў
Лёгкай тканіны бліскучых адзежын,
Тонкіх павеўных спадніц.
На жаль, мае чароўныя сяброўкі,
Верце — не верце — няма:
Яна згубіла другую ножку!
Ах, як шкада!
Магчыма, яна недзе блукае,
Няўцешніца адзінокая?
Магчыма, страшэннай пачвары баіцца —
Ільва жаўтагрывага?
Можа, абгрызена ўжо,
Парваная на кавалкі?
О гора! О гора!
Напэўна, ужо з'едзена яна. Сэля.

О, не плачце,
Пяшчотныя сэрцы!
Не плачце,
Сэрцы фінікаў!
Малочныя грудзі!

Салодкія сэрцы!
Не плач болей,
Бледная Дуду!
Будзь мужчынам, Зулейка!
Мужная, мужная будзь! —
А можа, дарэчы тут будзе
Сябе ўмацаваць
Сродкам сардэчным?
Намашчанай прыпавесцю?
Урачыстаю прытчаю?

О! Уздыміся, годнасць,
Годнасць дабрачынства! Годнасць еўрапейца!
Дыхайце, дыхайце,
Мяхі дабрачынства!
О!
Яшчэ раз завыць,
Маральна завыць!
Маральным ільвом
Перад дочкамі пустыні завыць!
— Бо выццё — дабрачынства,
О, найлюбаснейшыя дзяўчаты —
Палкасць еўрапейца, еўрапейцава страснасць
За ўсё даражэйшая!
І вось я тут ужо,
Я, еўрапеец,
Я не магу інакш, памажы мне, Божа!
Амін!

*Пустыня расце: гора таму, хто пустыню хавае!*

# Абуджэнне

## 1

Пасля песні вандроўніка пячора раптам напоўнілася шумам і смехам: і як што госці гаварылі ўсе разам, і нават асёл пры такім захапленні не маўчаў, у Заратустры з'явілася лёгкая агіда да сваіх гасцей і гарэзлівы настрой, хоць ён і радаваўся іх весялосці. Бо яна здавалася яму знакам выздараўлення. І вось паціхеньку ён вымкнуўся на свежае паветра і загаварыў са сваімі звярамі.

«Куды падзелася цяпер іхняя гарота? — спытаўся ён, уздыхнуўшы з лёгкай прыкрасцю. — Падобна на тое, што, пабыўшы ў мяне, яны развучыліся клікаць на дапамогу!

— хоць, на жаль, не развучыліся яшчэ наогул крычаць». І Заратустра заткнуў сабе вушы, бо да радаснага шуму вышэйшых людзей неяк дзіўна дамешвалася аслінае «І-А».

«Ім весела, — сказаў ён далей, — і хто ведае, можа, весяляцца яны за кошт гаспадара? І хоць яны вучыліся смяяцца ў мяне, ды *не майго* смеху навучыліся.

Але што з таго! Яны ўжо немаладыя і смяюцца, і здаравеюць кожны па-свойму; і не такое чулі мае вушы і не абураліся.

Гэты дзень — перамога: ужо адступае, бяжыць мой стары закляты вораг — *Дух Цяжару!* Як добра канчаецца дзень, што пачаўся так цяжка і блага!

І ён хоча закончыцца. Вечарэе: ён імчыцца па моры, шалёны верхавец! Як раскачваецца ён, шчасны, летучы дамоў, на пурпуровых сёдлах сваіх!

Неба глядзіць так ясна, свет такі глыбокі: О

вы ўсе, дзівосныя людзі, што прыйшлі да мяне, яшчэ варта жыць побач са мною!

Так сказаў Заратустра. І зноў з пячоры пачуліся крыкі і смех вышэйшых: яны зноў загаварылі.

«Торгае гэтая рыба, добрая ёй прынада мая, і вось — адступае іх вораг, Дух Цяжару. Калі я добра пачуў, яны вучацца смяяцца з сябе.

Разбірае іх мужчынская ежа, цвеляць сакавітыя і мацавітыя прыпавесці мае: і сапраўды, я не частую гнілой гароднінай! У мяне ежа воінаў, ежа заваёўнікаў; я абуджаю новыя жаданні.

Новыя надзеі ў іхніх руках і нагах, сэрцы іх расшыраюцца. Новыя словы знаходзяць яны, і скора іх дух будзе дыхаць адвагаю.

Зразумела, такая ежа непрыдатная дзецям і жанчынам, якія пакутуюць ад маркоты — як старым, так і маладым. Інакш нeяк трэба перуконваць іхнюю нутробу: не лекар ім я і не настаўнік.

*Агіда* адступае ад гэтых вышэйшых людзей: што ж! гэта мая перамога. У маім царстве ім небяспекі няма, любы дурны сорам уцякае ад іх, сэрцы іх адкрываюцца.

Яны размыкаюць сэрцы свае, вяртаюцца шчаслівыя гадзіны, яны святкуюць і жуюць — яны робяцца *ўдзячнымі*.

*І тое,* што яны робяцца ўдзячнымі, я лічу найлепшым знакам. Яшчэ пройдзе крыху часу, і яны прыдумаюць сабе святы і паставяць помнікі сваім ранейшым радасцям.

Яны *ацаляюцца!*» — так сказаў радасна Заратустра сэрцу свайму, гледзячы ўдалечыню; а звяры падышлі бліжэй і ўшанавалі яго спакой і шчасце.

23. Зак. 530.

Але тут Заратустра спалохаўся, бо слых ягоны, ужо абвыклы з шумам і смехам у пячоры, быў раптам уражаны мёртвай цішынёй; а нос яго пачуў дым пахошчаў, быццам палілі сасновыя шышкі.

«Што такое? Што яны там робяць?» — спытаўся ён сам у сябе і падкраўся да пячоры, так, каб убачыць сваіх гасцей, а самому застацца няўбачаным. О вялікае дзіва! Што ж угледзелі вочы ягоныя!»

«Усе яны зноў сталі *пабожныя*, яны *моляцца*, яны павар'яцелі!» — сказаў ён, без меры здзіўлены. І сапраўды! Усе вышэйшыя людзі — абодва каралі, адстаўны Папа, ліхі чарадзей, жабракдабрахот, вандроўнік і цень, стары вяшчун, сумленны духам і самы брыдкі чалавек — усе яны кленчылі, быццам дзеці альбо старыя пабожныя бабулі, і маліліся аслу. А самы брыдкі чалавек якраз пачаў хрыпець і сіпець, нібыта нешта неверагоднае хацела вырвацца з яго; калі ж, нарэшце, ён апрануў гэта ў словы, дык гэта было не што іншае, як своеасаблівая дабрамысная літанія ў гонар асла, якому маліліся і курылі пахошчы. І такія былі словы яе:

Амін! Чта і хвала, і мудрасць, і падзякаванне, і сіла, і слава Госпаду нашаму на векі вечныя!

А асёл крыкнуў: «І-А».

Ен узяў на сябе цяжар наш, і прыняў вобраз слугі, сэрца яго цярплівае, і ён ніколі не скажа «Не»; і той, хто любіць Госпада свайго, той карае яго.

А асёл крыкнуў: «І-А».

Ен не кажа: хіба што ўвесь час вымаўляе

«Так» таму свету, які стварыў: так ён хваліць яго. I ў гэтым спанатранасць ягоная, што яна не гаворыць: так што мала калі ён не мае рацыі.

А асёл крыкнуў: «І-А».

Непрыкметна ідзе ён па свеце. Ён любіць шэры колер, ім ахінае сваю цноту. Калі і ёсць у яго дух, дык ён схаваны: аднак кожны верыць у яго доўгія вушы.

А асёл крыкнуў: «І-А».

Якая таемная мудрасць — мець доўгія вушы, заўсёды казаць «Так» і ніколі «Не»! Ці не паводле свайго вобраза і падабенства стварыў ён гэты свет — гэта значыць як мага дурнейшы?

А асёл крыкнуў: «І-А».

І простымі, і крывымі дарогамі ходзіш ты; і мала турбуе цябе, што людзям здаецца крывым, а што — простым. Па той бок дабра і зла ляжыць тваё царства. У тым цнота твая, што не ведаеш ты, *што такое* нянавісць.

А асёл крыкнуў: «І-А».

Ты нічога не адкідаеш, ні каралёў, ні жабракоў. І дзецям не забараняеш прыходзіць да цябе, а калі нядобрыя хлапчукі дражняць цябе, ты прастадушна кажаш: «І-А».

А асёл крыкнуў: «І-А».

Ты любіш аслiх, і самыя свежыя смоквы падабаюцца табе, і аддаеш ты належнае ўсякай ежы. Пах бадзякоў мацуе тваё сэрца, калі выпадае табе галадаць. І ў гэтым — божая мудрасць.

А асёл крыкнуў: «І-А».

# Аслінае свята

## 1

Але на гэтым месцы літаніі Заратустра ўжо не мог болей трываць і сам крыкнуў «І-А» яшчэ галасней за асла і кінуўся на ашалелых гасцей. «Што гэта вы тут вырабляеце, прыяцелі? — крыкнуў ён, рыўкамі падымаючы з зямлі мольбітаў. — Ваша шчасце, што ніхто, акрамя Заратустры, вас не бачыў.

Кожны падумаў бы, што вы з гэтай вашай новай верай, — зацятыя блюзнеры альбо старыя бабы, што ўжо зусім з'ехалі з глузду!

А ты, апошні Папа, як ты мірышся з самім сабой, калі так нягожа молішся аслу, быццам ён бог?»

«Даруй мне, о Заратустра, але ва ўсім, што датычыцца Бога, я больш абазнаны за цябе. Тут нікуды не папрэш.

Лепей бо ўзносіць малітвы Госпаду ў такім вось вобразе, чым наогул не мець божага вобраза! Падумай над гэтымі словамі, узнёслы мой дружа, і ты неўзабаве спасцігнеш, у якім выслоўі ісціна.

Той, хто сказаў: «Бог ёсць Дух», зрабіў найвялікшы крок і скачок, які наблізіў да няверства, крок, якога ніхто на зямлі да яго яшчэ не рабіў: нялёгка паправіць тое, што сказана ім!

Маё старое сэрца хвалюецца і трымціць, калі падумаю, што ёсць яшчэ на зямлі нешта вартае малітвы. Даруй жа, о Заратустра, старому пабожнаму сэрцу апошняга Папы!»

«А ты, — звярнуўся Заратустра да вандроўніка, які называў сябе ягоным ценем, — ты называеш сябе свабодным духам і ўяўляеш сябе

ім? А сам грэшыш балвахвалствам, удзельнічаеш у розных папоўскіх вычудах?

Сапраўды, што ты ладзіш тут, яшчэ горш за тое, што ты нарабіў з гэтымі нехарошымі чарнамазымі дзяўчатамі! Эх ты, нікчэмны няевернік!»

«Так, усё гэта даволі паскудна, — адказваў вандроўнік, які называў сябе Заратустравым ценем, — і твая праўда: але я нічога не магу з гэтым зрабіць! Стары Бог зноў жывы, о Заратустра, што б ты там ні казаў.

Ва ўсім вінаваты самы брыдкі чалавек — гэта ён уваскрэсіў яго. Хоць ён і кажа, быццам калісьці забіў яго, але *смерць* багоў — заўсёды забабон».

«А ты, — спытаўся Заратустра, — ты, стары ліхі чарадзей, што ты зрабіў? Хто ў гэты свабодны век паверыць у цябе, калі *сам ты* вызнаеш гэты боскі аслізм?

Глупства было тое, што рабіў ты; як ты, такі разумны, мог учыніць такое глупства?»

«О Заратустра, — адказваў вяшчун-чарадзей, — твая праўда, гэта было глупства, і я ўжо паплаціўся за яго».

«А ты, — звярнуўся Заратустра да сумленнага духам, — раскінь мазгамі і шырэй расплюшчы вочы! Ці не паўстае супроць гэтага тваё сумленне? Ці не надта чысты твой дух для малітвы і чаднага фіміяму гэтых святошаў?»

«У гэтым нешта ёсць, — адказваў той, вылупіўшы вочы, — ёсць нешта такое ва ўсім гэтым спектаклі, што ўлешчвае нават маё сумленне.

Магчыма, я проста не адважваюся верыць у Бога, аднак мне несумненна тое, што ў гэтым вобразе Бог найбольш верагодны.

Паводле сведчання пабожных, Бог вечны: у каго столькі часу, той можа дазволіць сабе не

спяшацца. Як мага дурней і павальней — такім чынам можна зайсці даволі далёка.

Той, у каго столькі духу, можа цалкам захапіцца глупствам і шаленствам. Згадай сам сябе, Заратустра!

Сапраўды! Нават сам ты цалкам мог бы зрабіцца аслом ад лішніцы сваёй і ад мудрасці сваёй.

Хіба не любіць сапраўды мудры хадзіць крывымі дарогамі? Гэтаму вучыць сама відавочнасць, гэтаму вучышся, *гледзячы на цябе*, Заратустра!»

«Ну і, нарэшце, ты, — сказаў Заратустра, павярнуўшыся да самага брыдкага чалавека, які ўсё яшчэ ляжаў на зямлі, працягнуўшы руку да асла (бо ён даваў яму выпіць віна). — Ты, каму няма назову, скажы, што зрабіў ты?

Ты здаваўся мне пераўтвораным, блішчалі вочы твае, брыдкасць твая была ахутана ўзвышаным: што ж зрабіў ты?

Значыць, гэта праўда, што кажуць, быццам ты ўваскрэсіў яго? А навошта? Хіба ж без ніякай прычыны забілі яго і аддзяліліся ад яго?

Ты сам здаваўся мне ўваскрэшаным: што ж ты зрабіў? Чаму *ты* павярнуўся назад? Чаму здрадзіў сабе? Кажы, невыказны!

«О Заратустра, — адказваў самы брыдкі чалавек, — ты шэльма!

Ці жывы ён яшчэ, ці ўваскрэс, ці памёр канчаткова, хто з нас двух лепей ведае гэта? Я пытаюся ў цябе.

Аднак я ведаю адно: у цябе я навучыўся гэтага калісьці, о Заратустра: хто хоча забіць канчаткова, той *смяецца*.

«Забіваюць не гневам, а смехам» — так ты калісьці казаў. О Заратустра, ты, схаваны, бязгнеўны разбуральнік, самы небяспечны з усіх святых, ты — шэльма!»

## 2

І тады адбылося наступнае: Заратустра, здзіўлены такімі дзёрзкімі адказамі, кінуўся да выхаду з пячоры і, павярнуўшыся да гасцей, усклікнуў грамавым голасам:

«Ах вы, дурні і блазны, усе вы, тут сабраныя! Няма чаго хавацца і прыкідвацца перад мною!

Як трымцелі вашыя сэрцы ад шалу і захаплення, што вось нарэшце-такі вы зноў зрабіліся, як малыя дзеці, — гэтакія самыя пабожныя,

— што, нарэшце, вы зноў, як дзеці, пачалі маліцца, складваць ручкі і казаць: «Добры Божухна!»

Аднак пакіньце цяпер *гэты* дзіцячы пакой — пячору маю, дзе сёння ўсё няцямнае адчувае сябе, як дома. Суйміце там, на паветры, ваш дзіцячы запал і хваляванне сэрца!

Вядома, калі не ўпадобніцеся дзецям, дык не ўвайсці вам у *гэтае* царства нябеснае. (І Заратустра паказаў рукою ўгору.)

Але мы не імкнёмся ў тое нябеснае царства: мы зрабіліся мужныя, мы зрабіліся мужамі, *і таму хочам царства зямнога»*.

## 3

І зноў Заратустра пачаў гаварыць. «О новыя сяброве мае, — сказаў ён, — вы, дзівосныя, вы, вышэйшыя людзі, якія вы любасныя мне цяпер.

— з таго часу, як зноў павесялелі! Сапраўды, усе вы зацвілі: і я думаю, што такім кветкам патрэбен *новы святы*,

— якая-небудзь дзёрзкая бяссэнсіца, нешта накшталт літургіі і аслінага свята, ды яшчэ стары

дурань і шаленец Заратустра, вецер і ветрагон, які праветрыць і прасветліць вам душы.

Не забывайцеся гэтай ночы і гэтага аслінага свята, о вышэйшыя людзі! Гасцюючы ў мяне, вы прыдумалі гэта, і я лічу гэта добраю азнакаю, бо такое могуць выдумаць толькі тыя, хто выздароўлівае!

І калі вы будзеце адзначаць свята асла яшчэ калі-небудзь, рабіце гэта з любові да сябе і з любові да мяне! І ў памяць *пра мяне!*»

Так сказаў Заратустра.

## П'яная песня

### 1

Тым часам усе выйшлі на свежае паветра, у халаднаватую задуменнасць ночы; Заратустра вёў за руку самага брыдкага чалавека, каб паказаць яму свой начны свет, вялікі круглы месяц і серабрыстыя вадаспады каля пячоры. І вось нарэшце ўсе гэтыя людзі — ужо немаладыя, але з суцешанымі і бадзёрымі сэрцамі — усталі поплеч і дзівавалі самыя сябе, што ім так добра на зямлі; і таямніца ночы ўсё глыбей і глыбей пранікала ў іх сэрцы. І зноў падумаў Заратустра: «О, якія любасныя мне цяпер гэтыя вышэйшыя людзі!» — але не сказаў гэтага ўголас, бо ўшанаваў іх шчасце і маўчанне.

Але тут здарылася самае дзівоснае з усяго, што сталася за гэты доўгі і дзівосны дзень: самы брыдкі чалавек зноў, цяпер ужо апошні раз пачаў хрыпець і клекатаць, а калі, нарэшце, дайшло да слоў, — вусны ў яго ясна і выразна выдалі пытанне, пытанне такое частае, глыбокае і зразу-

мелае, што ва ўсіх, хто пачуў яго, замлела ў грудзях сэрца.

«О вы, сябры мае, — спытаўся самы брыдкі чалавек, — што робіцца ў вашых душах? Дзякуючы гэтаму дню, упершыню ў жыцці сваім я задаволены, што пражыў яго,

— і не стамляюся я сведчыць пра тое, што варта жыць на зямлі: *адзін* дзень, *адно* свята з Заратустрам навучылі мяне любіць яго.

«Дык *гэта* было жыццё? — скажу я смерці. — Што ж! Яшчэ раз!»

Сябры мае, што робіцца ў душах у вас? Ці гатовыя вы, як і я, сказаць смерці: «Дык *гэта* было жыццё? Што ж! Яшчэ раз!»

Так сказаў самы брыдкі чалавек, а ўжо было пад поўнач. І як вы думаеце, што сталася тады? Як толькі вышэйшыя людзі выслухалі яго, яны ўсвядомілі пераўтварэнне і выздараўленне сваё і зразумелі, хто прынёс ім усё гэта. І тады кінуліся яны да Заратустры, поўныя шацунку, любові і ўзнання, цалавалі яму ў рукі і, як каму адпавядала ў лад душы, адны смяяліся, другія плакалі. А стары вяшчун скакаў ад замілаванасці; і калі, як думаюць многія апавядальнікі, ён быў упіты салодкім віном, дык, несумненна, намнога больш ап'янела ягоная радасць жыцця, бо ён зрокся ўсякае стомы. Некаторыя нават кажуць, што скакаў і асёл: відаць, невыпадкова самы брыдкі чалавек напаіў яго віном. Ці было яно так, няважна, але калі нават асёл і не скакаў у той вечар, дык адбыліся дзеі больш дзіўныя і дзівосныя. Адным словам, як кажа Заратустрава прыказка: «Што з таго!»

## 2

А Заратустра, пакуль адбывалася ўсё, што тут апісана, стаяў, як п'яны: згасаў яго позірк, язык заплятаўся, ногі падкошваліся. І хто б мог адгадаць, якія думкі праносіліся тады ў душы ў яго? Аднак было відавочна, што дух ягоны адступіўся і пайшоў назад, і памкнуўся наперад, і быў недзе ў далёкай будучыні, і быццам трываў, як напісана, «над горнымі пераваламі, паміж двух мораў,

— блукаючы, быццам цяжкая хмара, паміж мінулым і будучым».

Але вышэйшыя людзі падтрымлівалі яго з усіх бакоў, і памалу ён ачуўся і адхіліў рукою натоўп заклапочаных шанавальнікаў. Раптам ён хутка павярнуў галаву, быццам пачуў нешта, і, прыклаўшы палец да вуснаў, сказаў: *«Ідзе!»*

І адразу атачылі яго цішыня і таемнасць, а з глыбокай далечыні пачуўся доўгі, працяглы гуд звона. Заратустра, як і ўсе вышэйшыя людзі, прыслухаўся, а потым зноў прыклаў палец да вуснаў і сказаў: *«Ідзе! Ідзе! Набліжаецца поўнач!»* — і перамяніўся голас ягоны. Але ён усё яшчэ не кранаўся з месца; і тады яшчэ больш загусці вакол яго цішыня і таемнасць, і ўсё вакол прыслухоўвалася — нават асёл, і сама Заратустрава пячора, і вялікі халодны месяц, і сама ноч. І вось, Заратустра трэці раз прыклаў палец да вуснаў і сказаў:

*«Ідзе! Ідзе! Хадземце ж! Гадзіна прабіла! Пойдзем вандраваць у ноч!»*

## 3

«Набліжаецца поўнач, о вышэйшыя людзі: і вось — хачу я сказаць вам нешта на вуха, як і той старадаўні звон, які звяртаецца да слыху майго,

— з тою самаю таямніцаю і жахам, гэтаксама пранікнёна, як той старадаўні звон, які пераджыў на сваім вяку больш, чым хто-небудзь смяротны;

— які палічыў усе да апошняга пакутлівыя ўдары сэрцаў, што біліся ў грудзях у нашых бацькоў. О, як уздыхае яна! Як смяецца ў сне даўняя глыбокая поўнач!

Ціха! Ціха! Чуецца многае, што ўдзень не адважваецца гаварыць на поўны голас; толькі цяпер, у холадзе ночы, калі суняўся шум сэрцаў,

— толькі цяпер яно чутно слыху і вяшчае, пранікаючы ў начныя чуйныя душы: о, як уздыхае яно! О, як смяецца ў сне!

— хіба не чуеце вы, як таямніча, страшна і пранікнёна вяшчае яна, глыбокая-глыбокая старадаўняя ноч?

*О чалавеча, уважай!*

4

О, гора мне! Куды падзеўся час? Ці апусціўся ў найглыбейшыя крыніцы? Свет дрэмле...

О! брэша сабака. Я хутчэй памру, чым раскажу пра думкі, якія сёння перапаўняюць паўночнае сэрца маё.

Я памёр. Спраўдзілася. Павук, навошта аплятаеш мяне павуцінай? Прагнеш маёй крыві? О! Выпадае раса, блізіцца гадзіна,

— гадзіна ледзяное сцюжы, гадзіна, калі я калею і стыну, гадзіна, якая нястомна пытаецца: Чыё сэрца здольнае ўвабраць гэта?

— хто павінен быць валадаром зямлі? Хто скажа: Ад сёння так вы будзеце цячы, вялікія і малыя рэкі!»

— набліжаецца гадзіна: о чалавеча, о вышэйшы чалавеча, уважай! Гэтая казань — тонкаму слыху, твайму слыху — *што вяшчае глыбокая поўнач?*

## 5

Мяне нясе, скача мая душа. Кожны дзень — праца! Кожны дзень — праца! Хто павінен быць валадаром зямлі?

Халодны месяц, вецер маўчыць. О! Ці дастаткова высока лёталі вы? Вы скакалі: але ногі — усё-такі не крылы.

Вы, заўзятыя танцоры, усякая радасць ужо мінула, скісла віно, сатлелі кубкі, чуцен няясны голас магіл.

Невысока лёталі вы: і вось — чуцен няясны голас магіл: «Вызвальце мёртвых! Чаму так доўжыцца ноч? Ці не ап'яняе вас месяц?»

О вышэйшыя людзі, вызвальце мёртвых, разбудзіце памерлых! Шкада! Чаму чарвяк усё яшчэ точыць? Набліжаецца час,

— стогне звон, і ў грудзях яшчэ сэрца скрыгоча, а чарвяк усё точыць і точыць дрэва сэрца! О! *Свет глыбокі!*

## 6

Салодкая ліра! Салодкая ліра! Як люблю я твае гукі, гэта меладычнае п'янкое кваканне! Здалёк, [illegible] сажалак любові, чуюцца мне пералівы тваёй песні!

О старадаўні звон, салодкая ліра! Чыя толькі скруха не кроіла сэрца тваё — скруха бацькоў, дзядоў і прадзедаў;

— спелая стала мова твая, спелая і сталая, быццам залатая восень і полудзень, быццам сэрца пустэльніка. І цяпер кажаш ты: «Свет выспеў, вінаградная лаза пацямнела»,

— сёння ён хоча памерці, гэты свет, памерці ад шчасця. О вышэйшыя людзі, ці чуеце вы духмянасць? Неадчувальна шырыцца яна,

— духмянасць і водар вечнасці, водар залатога віна, які падымаецца ад старадаўняга і паспелага шчасця,

— ад п'янкога шчасця поўначы, шчасця смерці, якое спявае: *свет глыбокі, і глыбейшы, чым думае дзень!*

7

Пусці мяне! Пусці мяне! Я занадта чысты для цябе. Не чапай мяне! Не руш! Ці ж мой свет не стаў дасканалы?

Мая скура занадта чыстая для тваіх рук. Пусці мяне, бесталковы мой, задушлівы дзень! Ці ж поўнач не святлейшая за цябе?

Самыя чыстыя павінны валадарыць над зямлёй, невядомыя, самыя моцныя, душы поўначы, якія святлейшыя і глыбейшыя за дзень.

О дзень, як цяжка ступаеш ты па следзе маім! Ты цягнеш руку па шчасце маё? Я, самотны, залішне багаты для цябе, я для цябе — калодзеж скарбаў, залатая палата?

О свет, ты хочаш *мяне?* Ці ж я належу свету? Ці ж я пабожны? Ці боскі? Але, дзень і свет, вы занадта няўклюдныя...

— у вас спрытнейшыя рукі, запускайце іх па глыбокае шчасце і па глыбокае няшчасце, хапайце якога-небудзь бога, хапайце мяне:

Маё няшчасце, маё шчасце — глыбокія, о цудоўны дзень, але ж не Бог я і не божае пекла: *глыбокі боль свету.*

8

Боль Бога глыбейшы, о ты, дзівосны свет! Вазьмі ж цярпенні Бога, а не мяне! Што я! П'яная салодкая ліра,

— паўночная ліра, нікому не вядомыя вяшчанні звона, але ўсё роўна ён *павінен* гаварыць, звяртацца да глухіх, о вышэйшыя людзі! Бо вы не разумееце мяне!

Мінула! Збылося! О маладосць! О полудзень! О гадзіна папалуднёвая! Вось настаў вечар, і ноч, і поўнач — сабака вые, вецер:

— хіба вецер не сабака? Ён скуголіць, брэша, вые. О поўнач! Як уздыхае яна і смяецца, як хрыпіць і задыхаецца!

Як цвяроза яна прамаўляе цяпер, гэта п'яная стваральніца вершаў! Ці не перапіла яна само ап'яненне сваё? Ці чувала яна? Ці жуе зноў і зноў сваю жуйку?

— у сне жуе яна журботу сваю, гэтая старадаўняя глыбокая поўнач, а яшчэ больш — радасць сваю. Менавіта радасць, калі ўжо глыбокі ў яе боль: *але радасць глыбейшая, нават за скруху сэрца.*

9

Ты, лаза вінаградная! За што ты хваліш мяне? Я ж цябе зрэзаў! Я жорсткі, і вось — сплываеш крывёю: за што ты хваліш маю п'янкую жорсткасць?

«Усё, што ўдасканалілася, усё сталае — прагне смерці!» — так кажаш ты. Хай будзе дабраславёны нож вінаградара! А ўсё нясталае, на жаль, хоча жыць!

Боль кажа: «Прайдзі! Міліся, боль!» Але ўсё, што пакутуе, хоча жыць, каб стаць спелым, радасным, поўным жаданняў,

— ад жаданняў далёкага, найвышэйшага і светлага: «Я хачу нашчадкаў, — так кажа ўсё пакутнае, — я хачу дзяцей, я не хачу *сябе*».

А радасць не хоча ні спадчыннікаў, ні дзяцей: радасць хоча толькі самое сябе, яна прагне вечнасці, вяртання; хоча, каб усё было вечна роўным самому сабе.

Боль кажа: «Парвіся, сплыві, сэрца, крывёю!» Што ж! Наперад! О маё старое сэрца! *Боль кажа: «Мініся!»*

## 10

О вышэйшыя людзі, што вы думаеце пра мяне? Хто я? Вяшчун? Летуценнік? П'яны? Адгадчык сноў? Поўначны звон?

Кропля расы? Выпарэнне і духмянасць вечнасці? Хіба вы не чуеце? Не чуеце? Свет мой удасканаліўся, поўнач — гэта і поўдзень,

— боль — гэта і радасць, праклён — гэта таксама і дабраславенне, ноч — гэта і сонца; ідзіце прэч, а не, дык будзеце ведаць: мудрэц — гэта таксама і дурань.

Ці казалі вы калі-небудзь радасці «Так»? О сябры мае, тады вы казалі «Так» таксама і *ўсякаму* болю. Усе рэчы звязаныя ўзаемна, злучаны, прасякнуты ўзаемнай любоўю,

— ці хацелі вы калі-небудзь два разы таго самага, ці казалі вы калі-небудзь: «Ты падабаешся мне, шчасце! Імгненне! Міг!»? Тым самым вы хацелі, каб *усё* вярнулася!

— усё зноў, усё навечна, усё звязана, злучана, прасякнута ўзаемнай любоўю, о, так *любілі* вы свет,

— вы, вечныя, любіце яго вечна і заўсёды: і нават болю кажыце: «Мініся, але вярніся! *Бо ўсякая радасць прагне вечнасці!»*

## 11

Усякая радасць прагне вечнасці ўсіх рэчаў, хоча мёду, закваскі, хоча п'янкой поўначы, магіл і слёз суцяшэння, хоча пазалоты вячэрняй зары,

— *чаго* толькі не прагне радасць! Яна больш пранікнёная, жахлівая, таямнічая, яна больш прагне, больш жадае, чым усякі боль, яна хоча *сябе*, яна упіваецца ў *сябе*, воля кола змагаецца ў ёй,

— яна хоча любові, яна хоча нянавісці, яна без меры багатая, яна дорыць, яна раскідае, яна просіць, як міласціны, каб нехта ўзяў яе, яна дзякуе таму, хто бярэ яе, яна хацела б, каб яе ненавідзелі,

— радасць такая багатая, што прагне болю, пекла нянавісці, ганьбы, калецтва, *свету*, — о, гэты свет, ці ж вы не ведаеце яго!

О вышэйшыя людзі, па вас маркоціцца гэтая радасць — неўтаймоўная, шчасная, — па вашым болю, вы, няўдахі! Па тым, што не ўдалося, маркоціцца ўсякая вечная радасць.

Бо ўсякая радасць хоча самой сябе, а толькі хоча і скрухі! О шчасце! О скруха! О скруха! О, рвіся, сэрца! О вышэйшыя людзі, навучыцеся і таго, што радасць прагне вечнасці,

— радасць прагне вечнасці і ўсіх рэчаў, *прагне глыбокай, глыбокай вечнасці!*

## 12

А цяпер, ці навучыліся вы песні маёй? Ці адгадалі, чаго прагне яна? Што ж! Цудоўна! О вышэйшыя людзі, паспявайце мне цяпер Заратустраву кругавую песню!

Самыя цяпер паспявайце тую песню, якая завецца «Яшчэ раз!», сэнс яе — «На векі вечныя!». Паспявайце, о вышэйшыя людзі, кругавую Заратустраву песню!

*О чалавеча!*
*Прароцтва пайночы ўсачы:*
*«Я спала, кажа, я спала,*
*Прачнулася сярод начы:*
*Які глыбокі свет, глыбейшы, чым*
*Яўляе дзень яго.*
*Глыбокі боль, і не глыбейшы, чым*
*Любая радасць, звыш таго;*
*«Мінісл!» — кажа боль.*
*Не прагне радасць вечнай ночы,*
*— і вечнасці глыбокай хоча».*

## Азнака

А раніцай пасля той ночы падхапіўся Заратустра з ложка, падперазаўся і выйшаў з пячоры, прасветлены і дужы, быццам ранішняе сонца, што выйшла з-за цёмных гор.

«О вялікае свяціла, — сказаў ён, як ужо казаў аднаго разу, — ты глыбокае вока шчасця, у чым было б тваё шчасце, калі б не было ў цябе тых, каму ты свеціш!

І калі б яны заставаліся ў жытлішчах сваіх, калі ты ўжо чуваеш, і ўзыходзіш, і дорыш, і надзяляеш, як бы абурылася гэтым твая гордая сарамяжлівасць!

Што ж! Яшчэ спяць яны, гэтыя вышэйшыя людзі, тым часам як я ўжо чуваю: *не яны* мае сапраўдныя паслядоўцы! *Не іх* я чакаю тут у маіх гарах.

За працу я хачу ўзяцца і пачаць свой дзень:

але не разумеюць яны азнакаў маёй раніцы, і не кліч да абуджэння для іх мае крокі.

Яны яшчэ спяць у маёй пячоры, іх сонныя адлетуценні апіваюцца маімі песнямі ап'янення. Аднак вушэй, якія слухаюць *мяне* — слыху, які *слухаўся* б маіх слоў, — гэтага ім бракуе».

Так сказаў Заратустра свайму сэрцу пры ўзыходзе сонца; і тут жа ён запытальна паглядзеў угору, бо ўжо чуў над галавою пранозлівы крык свайго арла. «Што ж! — усклікнуў ён. — Гэта мне падабаецца, так і павінна быць. Звяры мае прачнуліся, бо прачнуўся я.

Арол мой чувае і, як і я, славіць сонца. Арлінымі кіпцюрамі хапае ён новае святло. Вы мае, сапраўды мае звяры. Я люблю вас.

Але яшчэ не хапае мне сапраўды маіх людзей!»

Так сказаў Заратустра; але раптам пачуў вакол сябе трапятанне і шлопанне крылаў, быццам ад безлічы птушак, і гэты шум, і мітусня над галавою былі такія вялікія, што ён заплюшчыў вочы. І сапраўды, здавалася яму, быццам цэлая хмара апусцілася на яго, быццам хмара стрэл пасыпалася на толькі што прыдбанага ворага. Але гэта была хмара любові над галавой толькі што прыдбанага сябра.

«Што гэта са мною?» — падумаў Заратустра, здзіўляючыся ў сэрцы сваім, і павольна апусціўся на вялізны камень каля ўвахода ў пячору. Але калі ён, махаючы рукамі, адхіляў ад сябе птушак, якія пяшчотліва акружалі яго з усіх бакоў, сталася яшчэ больш дзівоснае: бо нечакана для сябе ён запусціў рукі ў касмылі густой, цёплай поўсці; і адразу пачуўся рык — працяглы, але рахманы ільвіны рык.

«Азнака праўдзіцца», — сказаў Заратустра,

і сэрца ў яго перамянілася. І сапраўды, калі прасвятлела, ён убачыў, што каля ягоных ног ляжыць магутны звер [illegible] жаўтлявай поўсцю, які прынік галавою да ягоных каленяў і, поўны любові, не хацеў адыходзіць ад яго, быццам сабака, які знайшоў свайго гаспадара. Аднак і галубы выказвалі не менш гарачую любоў, чым леў; і кожны раз, як які-небудзь голуб пралятаў над носам ільва, той трос галавой і смяяўся, даючыся дзіву.

На ўсё гэта Заратустра сказаў толькі адно: *«Дзеці мае блізка, дзеці мае»,* — і пасля гэтага замоўк зусім. Аднак развязаліся повязі сэрца яго, з вачэй пабеглі слёзы і пачалі падаць на далоні. І больш ужо ён нічога не заўважаў і сядзеў нерухома, не адмахваўся ад птушак, якія яго акружалі. Галубы адляталі і прыляталі, садзіліся яму на плечы, лашчылі яго сівізну і не стамляліся ў пяшчоце сваёй і радасці. А магутны леў няспынна злізваў слёзы, якія падалі на рукі Заратустры, рахмана пры гэтым рыкаючы. Так паводзілі сябе звяры.

Усё гэта доўжылася даволі працягла, а можа, наадварот, нядоўга: бо на самай справе ў такіх рэчаў наогул *не бывае* часу на зямлі. Тым часам у Заратустравай пячоры прачнуліся вышэйшыя людзі і сабраліся былі наладзіць своеасаблівае шэсце — выйсці насустрач Заратустру і сказаць ранішняе вітанне: бо, прачнуўшыся, яны ўбачылі, што яго сярод іх няма. Але калі яны падышлі да выхаду з пячоры і пачуліся іхнія крокі, леў насцярожыўся, і выгляд ягоны зрабіўся грозны; ён адразу адхіснуўся ад Заратустры і з дзікім рыкам скокнуў да пячоры; а вышэйшыя людзі, пачуўшы ягоны рык, закрычалі ў адзін голас, кінуліся назад і імгненна зніклі.

А сам Заратустра, уражаны і рассеяны, не

разумеў, што сталася, устаў з каменя, здзіўлена азірнуўся, пытаючыся ў свайго сэрца, і, схамянуўшыся, убачыў, што ён адзін. «Што ж гэта чуў я? — нарэшце прамовіў ён павольна. — Што гэта толькі што здарылася са мною?»

І вось — памяць зноў вярнулася да яго, і ён імгненна спасціг усё, што адбылося паміж учарашнім і сённяшнім днём. «Вось той камень, на якім я сядзеў учора раніцай, — сказаў ён, пагладжваючы бараду, — сюды падышоў вяшчун, тут жа я пачуў і першы раз той крык, які чуў толькі што, вялікі крык на дапамогу.

О вышэйшыя людзі, гэта *вашую* бяду прадказаў мне ўчора стары вяшчун,

— вашай патрэбай хацеў ён спакусіць і спанявэрыць мяне: «О Заратустра, — сказаў ён мне, — я прыйшоў, каб увесці цябе ў твой апошні грэх».

«У мой апошні грэх? — гнеўна ўсклікнуў Заратустра, засмяяўшыся з сваіх слоў, — *што* было наканавана мне як апошні грэх?»

І зноў Заратустра адышоў у сябе, і зноў задуменна апусціўся на камень і задумаўся. Раптам ён ускочыў.

*«Спагада! Спагада вышэйшаму чалавеку!* — ускліакнуў ён, і твар яго спахмурнеў і пасуровеў. — Што ж! *На гэта* — быў свой час!

Мае цярпенні і спагада мая — што мне да гэтага! Хіба *да шчасця* імкнуўся я? Я імкнуўся *да справы* сваёй!

Наперад! Явіўся леў, блізка дзеці мае, выспеў Заратустра, настала мая гадзіна:

Гэта *мая* раніца, *мой* дзень загараецца: *уставай, падымайся, Вялікі Полудзень!»*

Так сказаў Заратустра, пакідаючы сваю пячору, прасветлены і дужы, быццам ранішняе сонца, што выходзіла з-за цёмных гор.

# ЗМЕСТ

## ПЕРШАЯ ЧАСТКА



## ДРУГАЯ ЧАСТКА

## ТРЭЦЯЯ ЧАСТКА



## ЧАСТКА ЧАЦВЕРТАЯ І АПОШНЯЯ

**Ніцшэ Ф.**

Н70 Так сказаў Заратустра: Кн. ўсім і нікому: Пер. з ням. В. Сёмухі: — Мн.: Маст. літ., 1994. — 367 с.

ISBN 5-340-01197-6 (беларус.).

Нямецкі філосаф і пісьменнік Ф. Ніцшэ (1844—1900) сваёй творчасцю зрабіў вялікі ўплыў на развіццё літаратуры і культуры многіх народаў. Ён стварыў новы жанр, які аб'яднаў у сабе філасофскія і мастацкія задачы. «Так сказаў Заратустра» — філасофская паэма, твор гэтага жанру, які прынёс Ніцшэ сусветную вядомасць і славу.

Н $\frac{8300000000-059}{М\ 302(03)-94}$ 129—93

ББК 84(4Г)+87.3(4Г)

*Літаратурна-мастацкае выданне*

НІЦШЭ ФРЫДРЫХ

**ТАК СКАЗАЎ ЗАРАТУСТРА**

Кніга ўсім і нікому

Рэдактар Л. І. Каўрус. Мастак С. В. Чарановіч. Мастацкі рэдактар А. І. Цароў. Тэхнічны рэдактар Г. П. Тарасевіч. Карэктар Г. Т. Глушчанка.

Здадзена ў набор 02.02.93. Падп. да друку 25.02.94. Фармат 70×100[1]/32. Папера афс. Гарнітура школьная. Афсетны друк. Ум. друк. арк. 14,95. Ум. фарб.-адб. 14,95. Ул.-выд. арк. 17,69. [redacted]
Тыраж 2200 экз. Зак. 530.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Ліцэнзія ЛВ № 3. 220600, Мінск, праспект Машэрава, 11.

Друкарня «Перамога». 222310, г. Маладзечна, вул. В. Таўлая, 11.